# ЗМЕСТ

ГАТЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСІ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 5

СКАЗАННЕ ПРА ЗАПРАШЭННЕ ВАРАГАЎ . . . . . . . . . . . . . . . . . 10

ЗАНАТОЎКІ ПРА РАГНЕДУ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 13

ЗАПІС ПРА РЭЙД БРАЧЫСЛАВА НА НОЎГАРАД . . . . . . . . . . . 18

СЛОВА ПРА СЛАВЯНСКІЯ ПЛЯМЁНЫ, ІХ ЗВЫЧАІ
І ПІСЬМЕНСТВА . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 20

НАВЕЛА ПРА ПАМОРАК У ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ . . . . . . . . . . . . 34

АПОВЕДЫ ПРА УСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ . . . . . . . . . . . . . . . . . 36

ПОЛАЦКІ ЛЕТАПІС . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 46

АПОВЕСЦЬ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ . . . 62

ДАНІІЛ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 84
- Хаджэнне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 85

СЛОВА ПРА КНЯЗЁЎ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 108

КІРЫЛА ТУРАЎСКІ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 112
- Слова аб тым, каб не забывалі настаўнікаў сваіх. . . . . . . . . . . 123
- Слова на сабор 318 святых айцоў... . . . . . . . . . . . . . . . . 124
- Прыпавесць пра чалавечую душу і цела, або пра Сляпога і Бязногага . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 130
- Слова ў першую нядзелю пасля Пасхі (урывак) . . . . . . . . . . 143
- Малітвы на ўвесь тыдзень . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 146

НАПАМІН АБ ЖЫЦЦІ КІРЫЛЫ, ЕПІСКАПА ТУРАЎСКАГА. . 174

СЛОВА ПРА МАНАХА МАРТЫНА . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 177

ПАХВАЛА КНЯЗЮ РАСЦІСЛАВУ МСЦІСЛАВІЧУ . . . . . . . . . . 179

КЛІМ СМАЛЯЦІЧ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 181
- Пасланне да прасвітара Фамы . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 183
- Павучанне аб любові . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 187

АЎРАМІЙ СМАЛЕНСКІ .......... 190
Слова аднаго Хрысталюбца і запавет Духоўнага Айца .......... 190

ЯФРЭМ ЧАРНАРЫЗЕЦ .......... 197
Жыціе і цярпенне Аўрамія Смаленскага .......... 198

АПОВЕСЦЬ ПРА СМАЛЕНСКАГА ПАКУТНІКА МЕРКУРЫЯ .......... 220

АПОВЕСЦЬ ПРА МІНДОЎГА .......... 229

СКАЗАННЕ ПРА ВОЙШАЛКА .......... 234

АПОВЕСЦЬ ПРА ВОЙШАЛКА .......... 236

СКАЗАННЕ ПРА ДАЎМОНТА .......... 243

АПОВЕСЦЬ ПРА ТРАЙДЗЕНЯ І ЯГО СЫНА ЛАЎРЭНЦІЯ .......... 246

ЗАПІСЫ ПРА КНЯЖАННЕ ВІЦЕНЯ .......... 250

АПОВЕСЦЬ ПРА ГЕДЗІМІНА .......... 253

ЗАПІСЫ ПРА КНЯЖАННЕ АЛЬГЕРДА .......... 265

АПОВЕСЦЬ ПРА ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ АЛЬГЕРДА .......... 268

НАПАМІН ПРА СВЯТЫХ ПАКУТНІКАЎ АНТОНІЯ, ІААНА, ЯЎСТАФІЯ .......... 273

АПОВЕСЦЬ ПРА ЯГАЙЛУ .......... 277

ГРЫГОРЫЙ ЦАМБЛАК .......... 283
Ухвальнае слова айцам Канстанцкага сабору .......... 283

ЛЕТАПІС КНЯЖАННЯ ВІТАЎТА .......... 289

СКАЗАННЕ ПРА БІТВУ НА ВОРСКЛЕ .......... 297

АПОВЕСЦЬ ПРА РЫЦАРСКІЯ СПРАВЫ І ЎЧЫНКІ ВІТАЎТА ВЯЛІКАГА .......... 300

ПАХВАЛА ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ .......... 336

ЦУДЫ СВЯТОГА МІКОЛЫ Ў ЛУКОМЛІ .......... 340

ХРОНІКА ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ .......... 343

АПОВЕСЦЬ ПРА ПАЎСТАННЕ Ў СМАЛЕНСКУ .......... 352

ЛЕТАПІС КНЯЖАННЯ КАЗІМІРА ЯГАЙЛАВІЧА .......... 356

ХРОНІКА ПАДЗЕЙ І ЗДАРЭННЯЎ ЗА ЧАСАМІ КНЯЖАННЯ КАЗІМІРА ЯГАЙЛАВІЧА .......... 360

ПАКУТЫ ХРЫСТА .......... 382

# ГАТЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСІ

Беларускае прыгожае пісьменства зарадзілася ў X ст. неўзабаве пасля з'яўлення на ўсходнеславянскіх землях кірылічнага пісьма. Ужо на першых этапах развіцця мастацкае слова пачало выконваць важныя функцыі – духоўную, пазнавальную, выхаваўчую і эстэтычную.

Літаратура імкліва асвойвала розныя сферы жыцця – палітыку, канфесійныя дачыненні, пранікала ва ўнутраны свет сярэднявечнага чалавека, фіксавала надзвычайныя прыродныя з'явы і стыхіі. Старажытныя пісьменнікі пастунова выкарыстоўвалі ўсё больш шырокі дыяпазон мастацкіх прыёмаў і літаратурных сродкаў, распрацоўвалі новыя жанры і ўжывалі адметныя мастацкія формы.

Найбольш пашыранымі жанрамі старажытнай беларускай літаратуры X–XV стст. з'яўляліся *сказанні, словы, прамовы, павучанні, пасланні, малітвы, прыпавесці, жыціі, пахвалы, напаміны, аповесці, летапісы і хронікі*, якія адлюстроўвалі падзеі свецкага і рэлігійнага жыцця.

Да твораў *свецкай* літаратуры належаць каля трох дзесяткаў яркіх помнікаў нацыянальнага прыгожага пісьменства, сярод якіх: "Сказанне пра запрашэнне варагаў", "Занатоўкі пра Рагнеду", "Запіс пра рэйд Брачыслава на Ноўгарад", "Слова пра славянскія плямёны, іх звычаі і пісьменства", "Навела пра паморак у Полацкай зямлі", "Аповеды пра Усяслава Чарадзея", "Полацкі летапіс", "Слова пра князёў", "Пахвала князю Расціславу Мсціславічу", "Аповесць пра Міндоўга", "Сказанне пра Войшалка", "Аповесць пра Войшалка", "Сказанне пра Даўмонта", "Аповесць пра Трайдзеня і яго сына Лаўрэнція", "Запісы пра княжанне Віценя", "Аповесць пра Гедзіміна", "Запісы пра княжанне Альгерда", "Аповесць пра вялікага князя Альгерда", "Запісы пра княжанне Ягайлы", "Аповесць пра Ягайлу", "Летапіс княжання Вітаўта", "Сказанне пра бітву на Ворскле", "Аповесць пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага", "Аповесць пра Падольскую зямлю", "Пахвала вялікаму князю Вітаўту", "Хроніка грамадзянскай вайны", "Аповесць пра паўстанне ў Смаленску", "Летапіс княжання Казіміра Ягайлавіча", "Хроніка падзей і здарэнняў

за часамі княжання Казіміра Ягайлавіча". У іх паказваліся пераважна падзеі палітычнай гісторыі, дзейнасць князёў і валадароў, адлюстроўваліся вайсковыя кампаніі, міжнародныя адносіны і дыпламатычныя стасункі, дынастычныя шлюбы.

Пераважная большасць свецкіх празаічных твораў захавалася ў складзе летапісаў і хронік, якія вяліся ў манастырскіх скрыпторыях, а затым пры канцылярыях вялікіх князёў. Доказам на карысць таго, што ў канцылярыях ажыццяўляліся храналагічныя запісы найважнейшых дзяржаўных падзей, з'яўляецца адказ Ягайлы аднаму літвіну, змешчаны пад 1401 г. у "Аповесці пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага", дзе, у прыватнасці, адзначалася: "Усё, што робіцца на тваёй памяці, будзе занатавана. А твае дзеці, унукі, праўнукі і ўсе нашчадкі будуць чытаць пра нас. Той літвін сціішыўся і больш не крычаў".

Значнае распаўсюджанне ў беларускай літаратуры X–XV стст. атрымаў жанр *біясаў, або мартырыяў.* Найбольш буйнымі помнікамі старабеларускай жыційнай літаратуры з'яўляюцца: "Аповесць жыцця і смерці Еўфрасінні Полацкай", "Напамін аб жыцці Кірылы, епіскапа Тураўскага", твор Яфрэма Чарнарызца "Жыціе і цярпенне Аўрамія Смаленскага" (XIII) і "Напамін пра святых пакутнікаў Антонія, Іаана і Яўстафія" (XIV).

Даволі рана ў беларускай літаратуры з'явілася ўласная *гімнаграфія*, духоўная паэзія, найважнейшае дасягненне якой – корпус фенаменальных малітваў Кірылы Тураўскага.

У беларускай літаратуры X–XV стст. атрымаў развіццё жанр *урачыстых казанняў і павучальных словаў.* Шэраг выдатных у мастацкім плане твораў маральна-дыдактычнага зместу належыць Кірылу Тураўскаму, Кліму Смаляцічу, Аўрамію Смаленскаму і Грыгорыю Цамблаку.

Адметным жанрам, які сфарміраваўся ў старадаўняй літаратуры, з'яўляецца *містычная аповесць*. Найбольш каштоўныя помнікі гэтага жанру – "Слова пра манаха Мартына" "Аповесць пра смаленскага пакутніка Меркурыя" і "Цуды святога Міколы ў Лукомлі".

У старажытнай беларускай літаратуры з'явіўся *жанр хаджэнняў, або перэгрынацыяў.* Найбольш значнымі помнікамі агіяграфічнага жанру з'яўляюцца: "Хаджэнне" ігумена Даніїла і "Хаджэнне ў Царград і Іерусалім" Ігната Смаляніна.

*Ідэйныя і тэматычныя* абсягі беларускай літаратуры перыяду Готыкі надзвычай шырокія. Яна асвятляла найважнейшыя аспекты жыцця тагачаснага грамадства, уздымала ключавыя сацыяльныя і палітычныя праблемы. На старонках белетрызаваных твораў аб'ек-

тыўна і поўна паказвалася жорсткая і бескампрамісная барацьба за найвышэйшую ўладу ў тагачасных гарадах-княствах, а затым у ВКЛ. Летапісцы праўдзіва адлюстроўвалі логіку паводзінаў розных палітычных груповак і валадароў, іх імкненне любым коштам перамагчы і ўтрымаць уладу.

Пісьменнікі, як правіла, асуджалі братазабойчыя войны і празмернае ўладалюбства, абураліся крывавымі разборкамі паміж князямі і фактамі фізічнага знішчэння палітычных апанентаў.

Вельмі значную ўвагу старадаўняя беларуская літаратура праяўляла да сферы *міжнародных і міждзяржаўных* адносінаў. Увагу пісьменнікаў прыцягвалі пераважна дыпламатычныя місіі і перагаворы, дынастычныя шлюбы, персанальныя стасункі паміж гаспадарамі дзяржаў.

Беларуская літаратура X–XV стст. адлюстравала шматлікія памежныя канфлікты, войны паміж дзяржавамі і княствамі. Творы перапоўнены мноствам батальных сцэнаў: страшэннымі бітвамі, штурмамі замкаў, разбурэннямі гарадоў, расправамі з палоннымі, рабаваннямі варожых тэрыторый. Беларускія пісьменнікі асабліва абураліся грамадзянскімі войнамі. Яны, як правіла, не прымалі ўнутранай варажнечы і забурэнняў, што прыводзілі да паслаблення краіны, стымулявалі агрэсіўныя памкненні знешніх ворагаў.

У старажытнай беларускай літаратуры знайшлі адлюстраванне сацыяльныя канфлікты, паўстанні гараджан супраць княскіх намеснікаў і ваяводаў. Пісьменнікі аб'ектыўна паказвалі змаганне месцічаў за гарадское самакіраванне і вольнасці для рамесніцкіх цэхаў.

На старонках мастацкіх твораў старажытныя пісьменнікі імкнуліся зафіксаваць неардынарныя здарэнні, сонечныя зацьменні, набліжэнне камет, прыродныя катаклізмы і стыхіі, землятрусы і пажары. Яны распавядалі пра дзівосныя мясціны, маляўнічыя пейзажы і рэдкіх жывёл. Майстроў мастацкага слова вабіла ўсё незвычайнае, экзатычнае, непаўторнае.

Мастацкі час і прастора ў тагачаснай літаратуры ахоплівалі пераважна рэаліі Беларусі. Падзеі на старонках літаратурных твораў разгортваліся ў тагачасных беларускіх гарадах і мястэчках – Полацку, Менску, Гародні, Тураве, Оршы, Берасці, Наваградку, Заслаўі. Аднак пісьменнікі не замыкаліся толькі ў межах Беларусі. Новыя часавыя і прасторавыя гарызонты адкрывала паломніцкая літаратура, у якой майстры слова распавядалі пра далёкія краіны і дзяржавы – Святую зямлю, Ерусалім, Канстанцінопаль, Егіпет.

Беларускія пісьменнікі даволі рана ўсвядомілі велізарную выхаваўчую ролю прыгожага пісьменства. Не выпадкова на старонках

твораў яны ўздымалі асноватворныя маральныя і этычныя пытанні. У помніках павучальнага і маральна-дыдактычнага зместу – урачыстых казаннях, прыпавесцях і словах – прадстаўлены амаль поўны кодэкс прыватных і публічных паводзінаў чалавека X–XV стст. Пісьменнікі-прапаведнікі, як правіла, заклікалі да кніжнага навучання, абгрунтоўвалі неабходнасць стрыманасці, паслухмянасці, чысціні ў паводзінах і думках. На старонках твораў рэзка асуджаліся грахі і выкрываліся злыя ўчынкі – забойствы, крадзяжы, падман, клятваадступніцтва, здрадлівасць, хабарніцтва.

Старажытныя майстры слова стварылі мноства яркіх мастацкіх *вобразаў, персанажаў і характараў*. Пісьменнікі перадусім абмалёўвалі рэальных гістарычных асобаў, якія пакінулі значны след у гісторыі беларускага народа. На старонках летапісаў, хронік, аповесцяў і навел першае месца адводзілася валадарам, князям, буйным магнатам. Ключавыя персанажы мастацкіх твораў старажытнага часу – Рагвалод, Усяслаў Чарадзей, Глеб Менскі, Міндоўг, Войшалк, Віцень, Трайдзень, Гедзімін, Альгерд, Ягайла, Вітаўт і Казімір.

Летапісцы ў цэлым аб'ектыўна раскрывалі дзяржаўную і вайскова-палітычную дзейнасць князёў і валадароў. Яны не імкнуліся ідэалізаваць герояў сваіх твораў, хоць вельмі часта акцэнтавалі ўвагу на станоўчых рысах і заслугах манархаў, падкрэслівалі іх дзяржаўную мудрасць і прагу да справядлівасці, адзначалі вайсковы талент і асабістую мужнасць.

Значнае мастацкае дасягненне беларускай літаратуры перыяду Готыкі – галерэя *жаночых* вобразаў, гэтаксама рэальных гістарычных асобаў. Лёс жанчыны, яе ўнутраны свет, маральныя прынцыпы сталіся прадметам глыбокага мастацкага аналізу. Беларускія жанчыны паўстаюць на старонках твораў поўныя хараства, дасканаласці, самаахвярнасці і бязмежнай цярплівасці.

Вобразы жанчын на старонках літаратурных твораў нярэдка набывалі сімвалічнае значэнне. Так, князёўна Рагнеда паўстае як жанчына-змагарка, абаронца жаноцкага гонару. Яна – сімвал клапатлівай маці, якая нясе адказнасць за працяг дынастыі полацкага княжацкага роду. Вельмі яркі вобраз Прадславы-Еўфрасінні – асветніцы, духоўнай настаўніцы. Еўфрасіння сімвалізуе велічную стрыманасць, непахісную веру, адданасць высакародным ідэалам. Ганна – жонка князя Вітаўта – сімвал жаноцкай адданасці і вернасці. Рызыкуючы ўласным жыццём, яна выратоўвае князя з Крэўскай вязніцы, а затым цярпліва пераадольвае разам з ім усе жыццёвыя нягоды. Соф'я Вітаўтаўна – дачка магутнага князя Вітаўта – прынесла свае асабістыя пачуцці і сімпатыі ў ахвяру дзяржаўным інтарэсам.

Выконваючы рашэнне палітычных колаў ВКЛ, яна выйшла замуж за маскоўскага князя Васіля. Гэты дынастычны шлюб адкрыў новыя магчымасці для краіны, паспрыяў захаванню міру паміж суседнімі дзяржавамі і народамі.

Просты люд паказваўся ў літаратуры як ахвяра бясконцай чарады войнаў, канфліктаў і забурэнняў. Пісьменнікі намалявалі жахлівыя сцэны незлічоных пакутаў і людскіх трагедый падчас галадамораў і стыхійных бедстваў.

Такім чынам, ужо ў X–XV стст. галоўнае месца на старонках празаічных тэкстаў належала чалавеку. Герой, персанаж, станавіўся прадметам пільнай увагі майстроў слова, галоўнай дамінантай літаратурных твораў.

Для беларускай літаратуры перыяду Готыкі ўласціва ананімнасць, што цалкам адпавядала эстэтычным уяўленням таго часу. Большасць летапісных навел, хронік, разнастайных аповесцяў не захавалі імёнаў іх аўтараў, хаця створаныя імі тэксты надзвычай дасканалыя ў мастацкім плане.

На працягу X–XV стст. шліфавалася мастацкая тэхніка, удасканальвалася ўласнае літаратурнае майстэрства. У эпоху Готыкі пісьменнікі авалодалі майстэрствам партрэтных характарыстык, праніклі ў псіхалогію і ўнутраны свет персанажаў.

З мэтай больш поўнага і глыбокага адлюстравання рэчаіснасці, стварэння каларытных і запамінальных вобразаў старажытныя аўтары шырока выкарыстоўвалі дыялогі і маналогі, малітвы, плачы і звароты, яркія метафары, параўнанні, сімвалы, народныя прымаўкі і выслоўі.

*Іван САВЕРЧАНКА,*
*доктар філалагічных навук*

## СКАЗАННЕ ПРА ЗАПРАШЭННЕ ВАРАГАЎ

“Сказанне пра запрашэнне варагаў” – умоўная назва надзвычай цікавага і, бадай, найбольш загадкавага летапіснага твора. Старажытны арыгінал “Сказання...” не захаваўся, яно чытаецца паводле Лаўрэнцьеўскага і Радзівілаўскага летапісаў.

“Сказанне пра запрашэнне варагаў”, верагодней за ўсё, было напісана ў Полацку ў другой палове X ст. у часы княжання Рагвалода, якога палачане запрасілі “з-за мора”, праўдападобна – з паморскіх славянаў. Пра Рагвалода вядома, што ён стаў полацкім князем прыкладна ў сярэдзіне X ст. Істотны той факт, што Рагвалод імкнуўся да дынастычнага саюза з кіеўскімі князямі, нават рыхтавалася вяселле яго дачкі Рагнеды з кіеўскім князем Яраполкам.

Аповедам пра першых князёў, запрошаных з-за мора, аўтар “Сказання...”, хутчэй за ўсё, якраз і імкнуўся абгрунтаваць гістарычнае права варажскага князя Рагвалода на ўладу ў Полацку, а таксама пацвердзіць яго магчымасці параднення з кіеўскімі князямі. Вядома, што пазней Рагвалод і яго сыны былі забіты наўгародскім князем Уладзімірам, які хацеў узяць шлюб з Рагнедай – дачкой Рагвалода, напэўна, каб здабыць права на Полацкую зямлю (вотчыну).

Семантыка “Сказання...” надзвычай насычаная. Аўтар распавядае пра запрашэнне ў 862 г. князёў-варагаў: Рурыка і яго братоў Сінявуса і Трувора на княжанне ва ўсходнеславянскія землі. З тэксту яскрава вынікае, што запрошаныя князі і іх атачэнне паходзілі з паморскіх славянаў, ці, як піша аўтар, – “з варагаў, русі”. Прынамсі, палачане і запрошаныя князі не мелі праблем камунікавання, што адназначна сведчыць пра іх славянскае, а не скандынаўскае паходжанне, як часам лічыцца.

У творы дэталёва і з відавочнай сімпатыяй гаворыцца пра прыезд і канструктыўную дзейнасць запрошаных валадароў, а таксама пра іх ваяводаў – Аскольда і Дзіра, якія нейкі час трымалі ўладу нават у Кіеве.

Паводле “Сказання...”, валадары з паморскіх земляў разам з дружынамі менавіта запрашаліся ўсходнімі славянамі дзеля выканання адказнай місіі – спынення няспынных братазабойчых сутычак, уста-

лявання міру, а затым і сталага кіравання. Як вынікае з тэксту твора, запрошаныя князі з варагаў-русі былі найбольш спрактыкаваныя і падрыхтаваныя, мелі значны вайсковы досвед і навыкі. Дарэчы, "Славянская хроніка" Гельмальда таксама пацвярджае, што заходнія славяне валодалі высокім узроўнем вайсковага майстэрства, бо яны на працягу стагоддзяў змагаліся з германскімі плямёнамі за сферы ўплыву.

Аўтар "Сказання ..." паслядоўна ўказваў на кроўнае адзінства княжацкай дынастыі заходніх і ўсходніх славянаў. Ён такім чынам імкнуўся давесці гістарычную неабходнасць вайскова-палітычнага саюза заходніх і ўсходніх славянаў, выключную геапалітычную мэтазгоднасць славянскага адзінства, каб эфектыўна бараніць жыццёвую прастору, адстойваць супольныя інтарэсы.

Такім чынам, ёсць падставы сцвярджаць, што акурат у часы княжання Рагвалода ў Полацку пачалі ўзнікаць першыя сэжэтныя мікранавелы, якія сталіся перадумовай полацкага летапісання. У Радзівілаўскім летапісе "Сказанне..." праілюстравана трыма надзвычай каларытнымі малюнкамі.

Узнаўленне і пераклад "Сказання пра запрашэнне варагаў" выкананы паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу, яго найбольш карэктнай публікацыі: Памятники литературы Древней Руси. М., 1978. С. 36. Асобныя мясціны ўдакладнены паводле Радзівілаўскага летапісу. Гл.: Радзивиловская летопись: текст, исследование, описание миниатюр. СПб.; М., 1994. С. 23–24.

## Сказанне пра запрашэнне варагаў

У 862 годзе крывічы, паляне і севяране прагналі варагаў за мора. Не далі варагам даніны, пачалі самі гаспадарыць. Але зніклі між імі згода і паразуменне, паўстаў род супраць роду. Міжусобіцы зводзілі іх, ваявалі ўсе супраць усіх.

І тады сказалі яны самі сабе:

– Знойдзем для сябе князя, які будзе кіраваць намі і судзіць нас справядліва.

Пайшлі за мора да варагаў-русі.

Тыя варагі мелі найменне – *русь*. Як тамашнія народы: адны называюцца *шведы*, іншыя – *нарманы (урманы), англяне, гатландцы*, гэтак і яны называліся *русь*.

Сказалі русі паслы ад чудзі, славянаў, крывічоў і весі:

– Зямля наша вялікая і багатая, але няма ў ёй парадку. Прыйдзіце да нас княжыць і валадарыць.

І адклікнуліся на іх просьбу трое братоў-варагаў. Узялі з сабой свае роды і ўсю русь і прыйшлі.

Старэйшы, Рурык, сеў у Ноўгарадзе. Другі, Сінявус, – на Белвозеры. Трэці, Трувор, – у Ізборску. Ад гэтых трох братоў, варагаў-русі, і пайшло найменне Руская зямля.

Наўгародцы цяпер сталі пераважна з варажскага роду, а раней тут былі болей славяне.

Праз два гады памерлі Сінявус і яго брат Трувор.

Рурык узяў уладу ва ўсіх землях. Ён прызначыў сваіх намеснікаў у Полацк, Растоў і Белвозера.

Ва ўсе гарады прыйшлі варагі. А карэннае насельніцтва ў Ноўгарадзе – славяне, у Полацку – крывічы, у Растове – мера, у Белвозеры – весь, у Мураме – мурама. Над усімі імі цяпер валадарыў Рурык.

Былі ў Рурыка два мужы – Аскольд і Дзір, не родзічы, а баярыны. І адпрасіліся яны ў Рурыка са сваімі родамі ў Царград. І накіраваліся Дняпром. І калі плылі ўніз, убачылі невялікі горад.

Яны запыталіся ў людзей:

– Чый гэта горад?

Жыхары распавялі ім:

– Былі тут тры браты – Кій, Шчэк і Харыў. Яны ўзвялі гэты горад, але загінулі. А мы – іх род – засталіся тут і плоцім даніну хазарам.

Аскольд і Дзір пасяліліся ў тым горадзе, сабралі шмат варагаў і пачалі валадарыць на землях палянаў.

Рурык жа княжыў у Ноўгарадзе.

# ЗАНАТОЎКІ ПРА РАГНЕДУ

Першыя праявы фемінізму на Беларусі лучацца з імем легендарнай полацкай князёўны Рагнеды, галоўнай гераіні аднаго з найбольш старажытных твораў – "Занатовак пра Рагнеду". Твор складаецца з трох летапісных паведамленняў, якія былі напісаны прыкладна ў канцы X ст. невядомым аўтарам, магчыма, жанчынай. Аўтограф "Занатовак..." не захаваўся.

"Занатоўкі пра Рагнеду" чытаюцца ў "Аповесці мінулых гадоў" – найбольш раннім летапісным зводзе XII ст. Затым яны паўтараюцца ў летапісах XIV–XV стст.: Лаўрэнцьеўскім, Іпацьеўскім, Радзівілаўскім і інш.

Стваральнік "Занатовак пра Рагнеду" быў прадаўжальнікам справы першых славянскіх асветнікаў, салунскіх братоў Кірылы і Мяфодзія, якія ў IX ст. вынайшлі славянскую азбуку, заснавалі пісьменства, адкрылі школы кніжнікаў і перакладчыкаў на землях паўднёвых і заходніх славян. Але "Занатоўкі пра Рагнеду" – якасна новы твор, які зафіксаваў з'яўленне на Беларусі новага кірунку пісьменства – мастацкай свецкай літаратуры, галоўнай гераіняй якой з'ўлялася жанчына.

"Занатоўкі пра Рагнеду", праўда, яшчэ, не маюць строгай сюжэтнай лініі і выразнага мастацка-эстэтычнага адзінства. Яны да таго ж з'яўляюцца праявай сінтэзу нацыянальнай гістарыяграфіі і літаратуры, што цалкам натуральна для пачатковага этапу развіцця пісьменства ўсходнеславянскіх народаў.

Першае паведамленне пра Рагнеду змяшчаецца ў летапісе пад 980 г. Яно уключае наступныя семантычныя лініі: сватанне наўгародскага князя Уладзіміра да полацкай князёўны, дыялог Рагнеды з бацькам, князем Рагвалодам, адмову князёўны выйсці замуж "за рабыніча", яе жаданне стаць жонкай кіеўскага князя Яраполка, паведамленне пра паходжанне Рагвалода, жорсткае пакаранне Уладзімірам князя Рагвалода і яго двух сыноў у знак помсты за абразу.

Аўтар асуджае жорсткасць князя Уладзіміра, яго агрэсіўнасць, тыранічную самаўладнасць і непавагу да валадара суседняга Полацкага княства.

Звесткі пра запрашэнне “з-за мора” Рагвалода ў Полацк, а князя Тура – ў Тураў за 980 г. летапісец падае з выразна суб’ектыўнай станоўчай ацэнкай. Аўтар відавочна вітаў палітычны альянс заходніх і ўсходніх славянаў, якія супрацьстаялі нямецкай агрэсіі з Захаду і набегам качэўнікаў з Усходу. Гэтае сціслае паведамленне таксама пралівае дадатковае святло на пытанне пра аўтарства “Занатовак...”. Ім быў, верагодна, адзін з адукаваных людзей, набліжаных да князя Рагвалода, які непасрэдна ведаў пра прыезд князя ў Полацк на сталае жыхарства ў сярэдзіне X ст. па запрашэнні палачанаў.

Другая частка “Занатовак пра Рагнеду” ўключае звесткі пра моцную прагу Уладзіміра да жанчын, уладанні Рагнеды на Лыбедзі, пра іх супольных дзяцей: чатырох сыноў Ізяслава, Мсціслава, Яраслава і Усевалада ды дзвюх дачок.

Аўтар “Занатовак...” тут асуджае палігамію, выступае за хрысціянскі шлюб, культывуе стрыманасць і сямейную вернасць.

Трэцяе і заключнае паведамленне ўтрымлівае звесткі пра спробу Рагнеды забіць князя Уладзіміра, мужны ўчынак княжыча Ізяслава, скліканне Уладзімірам баяраў і нараду з імі, супольную пастанову аб высылцы Рагнеды ў Ізяслаўль.

Летапісныя “Занатоўкі пра Рагнеду” не падаюць аніякіх звестак пра пераезд і жыццё князёўны ў Ізяслаўі. Гэты факт якраз пацвярджае гіпотэзу, што “Занатоўкі...” былі напісаны яшчэ ў канцы X ст.

У “Занатоўках...” створаны яркі характар полацкай князёўны Рагнеды. Летапісец паказвае яе як асобу з абвостраным пачуццём уласнай годнасці. Яна ганарыцца княжацкім паходжаннем, аберагае ўласны сацыяльны статус і саслоўны этыкет. Рагнеда не жадае звязваць свой лёс і ствараць сям’ю з чалавекам, паходжанне якога выклікала сумненні: Уладзімір, паводле легенды, быў сынам князя Святаслава ад Малушы, ключніцы княгіні Вольгі.

Рагнеда смела заяўляе пратэст сватам ад наўгародскага князя Уладзіміра, аб’яўляе аб сваім жаданні выйсці замуж за кіеўскага князя Яраполка. Нягледзячы на прымус і гвалт, учынены над Рагнедай, забойства яе бацькі і братоў, полацкая князёўна не змірылася з паняволеным становішчам і з кінжалам у руках гатова бараніць уласны гонар, жаноцкую абранасць. Адстойваць сябе і ўласныя правы яна вучыць сына Ізяслава, які ў крытычнай сітуацыі бароніць маці ад немінучай расправы.

Сімпатыі аўтара на баку Рагнеды. Ён ухваляе ўчынкі гераіні, занепакоены яе пакручастым лёсам. Пісьменнік са спагадай і спачуваннем піша пра цяжкія жыццёвыя выпрабаванні, якія выпалі на долю князёўны. Ён захапляецца мужнасцю і рашучасцю гераіні, яе здольнасцю знаходзіць выйсце з безвыходнага становішча. Так, калі

Уладзімір, рыхтуючыся да рытуальнага забойства Рагнеды, загадаў ёй апрануцца ў царскія шаты і сесці ў святліцы, яна сказала сыну Ізяславу выступіць супраць бацькі. У выніку князь мусіў адступіць і адмовіцца ад запланаванай фізічнай расправы над жонкай.

Летапісныя "Занатоўкі пра Рагнеду" яшчэ не з'яўляюцца цэльным і арганічным літаратурна-мастацкім творам, але яны красамоўна сведчаць пра актыўнае назапашванне беларускім пісьменствам мастацкіх і вобразных сродкаў – спробы пабудовы сюжэту, мастацкае афармленне завязкі, кульмінацыі і эпілога, стварэнне насычаных дыялогаў і характараў, ужыванне яркіх метафараў і параўнанняў, – каб неўзабаве перайсці да стварэння ўласна літаратурных шэдэўраў.

Радзівілаўскі летапіс змяшчае шэсць красамоўных малюнкаў (арк. 42, 163 і 163 адв.), што выдатным чынам ілюстравалі падзеі, пра якія распавядалася ў "Занатоўках пра Рагнеду", падкрэслівалі неардынарнасць і значнасць твора.

Узнаўленне і пераклад летапісных "Занатовак пра Рагнеду" выкананы паводле найноўшага факсімільнага выдання і тэксталагічнай рэканструкцыі Радзівілаўскага летапісу. Гл.: Радзивиловская летопись: текст, исследование, описание миниатюр. СПб.; М., 1994. С. 59, 62, 181. Асобныя мясціны ўдакладнены паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу, яго найбольш карэктнай публікацыі: Памятники литературы Древней Руси. М., 1978. С. 90, 94. Пры перакладзе ўлічаны таксама тэкст "Занатовак...", які змешчаны ў Іпацьеўскім летапісе: Полное собрание русских летописей (далей – ПСРЛ). Т. 2: Ипатьевская летопись. М., 1962. Слп. 63–64.

## Занатоўкі пра Рагнеду

### I

Князь Рагвалод, што прыйшоў з-за мора, трымаў уладу ў Полацку. А князь Туры, ад якога тураўцы атрымалі ўласнае найменне, валадарыў у Тураве.

А наўгародскі князь Уладзімір быў на той час малады і яшчэ не ахрышчаны. Паслаў Уладзімір свата – мужнага і статнага ваяводу Дабрыню – да Рагвалода са словамі-прапановай:

– Хачу ўзяць шлюб з дачкой тваёй Рагнедай.

Рагвалод спытаў у Рагнеды:

– Ці хочаш за Уладзіміра?

Князёўна грэбліва адказала:

– Не жадаю разуць сына рабыні. Яраполка хачу.

Вярнуўся Дабрыня назад да Уладзіміра і перадаў яму ўсе словы Рагнеды – дачкі Рагвалода, полацкага князя.

Абураны Уладзімір сабраў велічэзнае войска з варагаў, славянаў, чудзі, крывічоў і пайшоў вайной на Рагвалода.

А ў гэты час полацкі князь Рагвалод збіраўся выдаваць Рагнеду за кіеўскага князя Яраполка.

Уладзімір прыйшоў да Полацка і захапіў горад. Ён забіў Рагвалода і двух яго сыноў, а дачку Рагнеду гвалтам узяў сабе за жонку.

А потым Уладзімір пайшоў на Яраполка.

II

Жыў Уладзімір у палоне цялесных асалодаў. Слугі прыводзілі яму шмат жанчын.

Рагнеда, якую князь пасяліў на Лыбедзі, дзе цяпер Прадславіна сяльцо, нарадзіла ад Уладзіміра чатырох сыноў – Ізяслава, Мсціслава, Яраслава і Усевалада, а таксама дзвюх дачок.

III

Рагнеда дазналася пра здраду Уладзіміра і яго распуснае жыццё. І распалілася яна нянавісцю да князя.

Аднойчы, калі Уладзімір заснуў, Рагнеда занесла над ім кінжал, каб забіць яго. Але князь усхапіўся і стрымаў яе руку.

Рагнеда ў адчаі заплакала і залямантавала:

– Навошта забіў бацьку майго! Навошта паланіў яго зямлю! Дзеля чаго зганьбіў мяне тады, а цяпер не шануеш ні мяне, ні майго дзіцяці!

Раззлаваны князь загадаў Рагнедзе апрануць царскія шаты, як у дзень вяселля, і сесці ў светлым пакоі. Ён хацеў прыйсці і забіць яе там.

Рагнеда апранулася так, як загадаў Уладзімір. Але яна дала меч у рукі сыну Ізяславу і навучыла яго:

– Калі ўвойдзе бацька, выступі наперад і скажы: "Бацька, ты тут не адзін".

Ізяслаў гэтак і зрабіў.

Здзіўлены Уладзімір зніякавеў і спытаў:

– А як ты тут апынуўся?

Пасля Уладзімір апусціў свой меч.

Затым князь паклікаў баяраў і паведаміў ім пра замах Рагнеды на яго жыццё.

Баяры параілі Уладзіміру:

– Не забівай Рагнеды дзеля вашага сына Ізяслава. Дай ёй бацькаўшчыну і няхай жыве яна там разам з ім.

Уладзімір так і зрабіў. Ён збудаваў горад і даў яму найменне – Ізяслаўль.

# ЗАПІС ПРА РЭЙД БРАЧЫСЛАВА НА НОЎГАРАД

"Запіс пра рэйд Брачыслава на Ноўгарад" – умоўная назва надзвычай каштоўнага летапіснага паведамлення, змешчанага пад 1021 г. Ён чытаецца паводле Радзівілаўскага летапісу. Верагодна, "Запіс..." быў зроблены неўзабаве пасля занатованых падзей. Ён уваходзіў у склад нейкага мясцовага летапісу, хоць і з'яўляўся сціслым гістарычным паведамленнем.

У "Запісы..." паведамляецца пра паход полацкага князя *Брачыслава Ізяславіча*, унука Уладзіміра, на Ноўгарад Вялікі. Летапісец падаў унікальныя гістарычныя звесткі пра захоп Брачыславам горада, яго рабаванне і вяртанне дружыны ў Полацк з вялікай колькасцю палонных.

Летапісец паведамляў пра выступленне войска кіеўскага князя Яраслава, які праз сем дзён перастрэў дружыну Брачыслава на рацэ Судаміры і атрымаў перамогу над палачанамі. У выніку палонныя наўгародцы былі вернуты на радзіму, а Брачыслаў Ізяславіч з рэшткамі дружыны ўцёк у Полацк.

У Радзівілаўскім летапісе паведамляецца літаральна наступнае: «В лето 6529 (1021). И прииде Бречислав, сын Изяславль, внук Володимирь, на Новъгород, и зая Новгород, и поим новгородци и имение их, прииде к Полоцку опять. И пришедшю ему ко Судомири реце, Ярослав же ис Киева въ 7 день постиже и, и ту победи Ярослав Брячислава, и новгородци вороти к Новугороду, а Брячислав бежа к Полоцку».

Звесткі, пададзеныя ў мініяцюры, – вельмі скупыя, стылёва нейтральныя. Але яны выразна адлюстроўваюць напружанасць часу, складанасць дачыненняў паміж тагачаснымі ўсходнеславянскімі валадарамі і гарадамі-княствамі.

Пераклад "Запісу пра рэйд Брачыслава на Ноўгарад" выкананы паводле Радзівілаўскага летапісу. Гл.: Радзивиловская летопись: текст, исследование, описание миниатюр. СПб.; М., 1994. С. 103.

## Запіс пра рэйд Брачыслава на Ноўгарад

У 1021 годзе Брачыслаў – сын Ізяслава, унук Уладзіміраў – пайшоў на Ноўгарад і захапіў горад. Ён паланіў наўгародцаў, нарабаваў шмат маёмасці і рушыў назад у Полацк.

Яраслаў з Кіева накіраваў дружыну наперарэз і праз сем дзён перастрэў Брачыслава на рацэ Судаміры. Там Яраслаў перамог Брачыслава, вызваліў палонных і вярнуў іх назад у Ноўгарад.

Брачыслаў збег у Полацк.

# СЛОВА ПРА СЛАВЯНСКІЯ ПЛЯМЁНЫ, ІХ ЗВЫЧАІ І ПІСЬМЕНСТВА

"Слова пра славянскія плямёны, іх звычаі і пісьменства" – умоўная назва аднаго з ранніх твораў, напісанага на ўсходнеславянскіх землях прыкладна ў другой палове XI ст.

Аўтограф "Слова..." не захаваўся. Твор увайшоў у склад "Аповесці мінулых гадоў" – аднаго з першых усходнеславянскіх летапісных зводаў XII ст. "Слова..." найбольш поўна чытаецца паводле Лаўрэнцьеўскага і Радзівілаўскага летапісаў.

Месца напісання "Слова пра славянскія плямёны, іх звычаі і пісьменства" дакладна не вядома. Яно магло быць створана ў адным з пяці тагачасных цэнтраў усходнеславянскай цывілізацыі – Полацку, Тураве, Смаленску, Ноўгарадзе ці Кіеве. Найбольш верагодна яно было напісана ў Полацку, магчыма, у перыяд найвышэйшага росквіту Полацкага княства падчас княжання Усяслава Чарадзея, калі ён адначасова на працягу сямі месяцаў, з верасня 1066 да сакавіка 1067 г., займаў і пасаду кіеўскага князя.

Твор мае шматпланавую і даволі складаную архітэктоніку. Ён уключае, прынамсі, дзевяць асноўных структурна-кампазіцыйных элементаў – мікранавелаў, летапісных звестак і аповедаў, семантычна надзвычай насычаных.

*Першая* мікранавела падае відавочна легендарныя біблейскія звесткі пра паходжанне славян паводле Божай волі: Бог пасля разбурэння Вавілонскай вежы стварыў 72 народы і рассеяў іх па зямлі. Сярод першых народаў былі і славяне, якія падпарадкоўваліся валадарам з роду Яфета. Паводле аўтара, славяне мелі тады назоў "нарцы".

Паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу, у гэтай мікранавеле "Слова..." літаральна пішацца:

«И съмеси Бог языки, и раздели на 70 и 2 языка и расъсея по всей земли. По размешеньи же язык Бог ветром великим разраши столп, и есть останок его промежю Асюра и вавилона, и есть въ высоту и въ ширину локот 5433, и в лета многа храним останок. По размешеньи же столпа и по разделеньи язык прияша сынове Симови въсточныя страны, а Хамови сынове полуденьныя страны. Афетови же

прияша запад и полунощныя страны. От сих же 70 и 2 языку бысть язык словенеск, от племени Афетова, нарци, еже суть словене".

Як бачна, аўтар напачатку "Слова..." імкнецца старанна абгрунтаваць богавыбранасць славянскіх плямёнаў, давесці іх гістарычную роўнасць з іншымі старажытнымі народамі, усебакова пацвердзіць неад'емнае права славян займаць адметнае месца ў цывілізацыйнай супольнасці.

У *другой* мікранавеле "Слова..." апавядаецца пра прыход славян спачатку на Дунай і Балканы і наступную каланізацыю імі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Пісьменнік дэталёва пералічвае геаграфію рассялення асноўных славянскіх плямёнаў – чэхаў, мараваў, харватаў, сербаў, палякаў, люцічаў, мазаўшанаў, памаранаў, палянаў, драўлянаў, дрыгавічоў, палачанаў у басейнах буйнейшых еўрапейскіх рэк – Дуная, Дзвіны, Дняпра, Віслы, Прыпяці, Дзясны, Сулы, а таксама возера Ільмень. Пры гэтым аўтар раскрывае этымалогію і паходжанне назваў славянскіх плямёнаў і народаў.

У творы, паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу, пішацца: «По мнозех же временех сели суть словени на Дунаеви, где есть ныне Угорьска земля и Болгарьска. От тех словен разидошася по земле и прозвашася имены своими, где седше на котором месте. Яко пришедшее седоша на реце имянем Марава, и прозвашася Морава, а друзии чеси нарекошася. А си ти же словени: хровате белии и серебь и хорутане. Волхом бо нашедшем на словени на дунайския, и седшем в них и насилящем им, словени же ови пришедшее седоша на Висле, и прозвашася Ляхове, а от тех ляхов прозвашася поляне, Ляхове друзии лутичи, ини мазовшане, ини поморяне. Тако же и ти словене пришедшее и седоша по Днепру и нарекошася поляне, а друзии древляне, зане седоша в лесех. А друзии седоша межю Припетью и Двиною и нарекошася дреговичи. Инии седоша на Двине и нарекошася полочане, речьки ради, яже втечеть въ Двину, имянем Полота, от сея прозвашася полочане. Словени же седоша около езера Илмеря, и прозвашася своим имянем, и сделаша град и нарекоша и Новъгород. А друзии седоша по Десне, и по Семи, по Суле, и нарекошася север. И тако розидеся словеньский язык, темже и грамота прозвася словеньская".

Прыведзеная мікранавела даказвала агульныя этнічныя карані славянскіх народаў, што павінна было, паводле меркавання аўтара "Слова...", спрыяць кансалідацыі славян у змаганні са знешнімі ворагамі. Аўтар сцвярджае вельмі важнае палажэнне аб спрадвечнай прыналежнасці аграмадных тэрыторый у басейнах Дуная, Дзвіны, Дняпра, Віслы, а таксама вакол возера Ільмен менавіта славянам. Такім парадкам, у "Слове..." абгрунтоўвалася справядлівасць змагання славян за свае тэрыторыі супраць агрэсіўных германскіх плямёнаў і ўсходніх качэўнікаў.

У *трэцяй* мікранавеле аўтар "Слова..." апавядае пра надзвычай выгоднае геаграфічнае становішча славянскіх народаў, наяўнасць разгалінаванай сістэмы водных артэрый, якія дазвалялі весці вельмі шырокі міжнародны гандаль. Асабліваае значэнне, на думку аўтара, меў старадаўні гандлёвы шлях "з варагаў у грэкі", які праходзіў па Дняпры: "Бе путь изъ Варяг въ греки и из Грек по Днепру. И верх Днепра волок до Ловати. И по Ловоти в Ылмерь озеро великое, из него же озера потечеть Волхов и втечеть в озеро великое Нево. И того озера внидеть устье в море Варяжское. И по тому морю ити до Рима, а от Рима прити по тому же морю ко Царюгороду, а от Царягорода прити в Понт море, в не же втечет Днепр-река. Днепр бо потече из Оковьскаго леса, и потечеть на польдне, а Двина ис того же леса потечет, а идеть на полунощье и внидеть в море Варяжьское. Ис того же леса потече Волга на въсток, и вътечеть семьюдесят жерел в море Хвалиськое. Темже и из Руси можеть ити по Волзе в Болгары и въ Хвалисы, и на въсток доити въ жребий Симов. А по Двине въ Варяги, изъ Варяг до Рима, от Рима же до племени Хамова. А Днепр втечеть в Понетьское море жерелом, еже море словеть Руское, по нему же учил святый Оньдрей, брат Петров, якоже реша».

Галоўная ідэя гэтага аповеду палягала ў тым, каб паказаць, што славяне займалі вельмі прыдатныя для жыцця тэрыторыі, мелі надзвычай спрыяльнае асяроддзе.

*Чацвёртая* мікранавела "Слова...", бадай, найбольш канцэптуальная ва ўсім творы. Яна ўключае звесткі пра першыя ўсходнеславянскія княжацкія дынастыі. Найперш паведамляецца, што палянамі пасля смерці братоў Шчэка і Харыва кіравалі іх прамыя нашчадкі, а іншыя плямёны – крывічы і дрыгавічы – мелі сваіх валадароў. Затым аўтар падае надзвычай істотныя звесткі аб тым, што частка полацкіх крывічоў накіраваліся на ўсход і каланізавалі вярхоўі Волгі, Дзвіны і Дняпра. Яны заснавалі на ўсходзе буйны крывіцкі цэнтр – Смаленск. Паводле аўтара "Слова...", менавіта ад крывічоў паходзіць і славянскае племя – севяране. У гэтай мікранавеле "Слова..." зноў пералічваюцца народы, якія размаўляюць на славянскіх мовах, а таксама згадваюцца плямёны, якія плацілі даніну славянам.

Паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу, чацвёртая навела "Слова..." чытаецца наступным чынам: «И по сих братьи [Щек у и Хориву] держати почаша род их княженье в полях, а вдеревлях свое, а дреговичи свое, а словени свое в Новегороде, а другое на Полоте, иже полочане. От них же кривичи, иже седять на верх Волги, и на верх Двины и на верх Днепра, их же град есть Смоленск. Туда бо седять кривичи. Таже север от них. На Белеозере седять весь, а на Ростовьском озере меря, а на Клещине озере меря же. А по Оце реце, где вте-

четь в Волгу, мурома язык свой, и черемиси свой язык, моръдва свой язык. Се бо токмо словенеск язык в Руси: поляне, деревляне, ноугородьци, полочане, дреговичи, север, бужане, зане седоша по Бугу, после же велыняне. А се суть инии языци, иже дань дають Руси: чюдь, меря, весь, мурома, черемись, моръдва, пермь, печера, ямь, литва, зимигола, корсь, нерома, либь».

У чацвёртай навеле аўтар праводзіць надзвычай важную думку пра мясцовае паходжанне княжацкай дынастыі крывічоў, найперш палачанаў. Выключную каштоўнасць маюць паведамленні летапісца пра заснаванне менавіта полацкімі крывічамі новага ўсходнеславянскага цэнтра – Смаленска, а таксама ўказанне на паходжанне севяранаў ад полацкіх крывічоў. Гэтыя літаратурныя пасажы з'яўляліся ідэалагічнай асновай і яркім гістарычным абгрунтаваннем актыўнай знешняй палітыкі князя Усяслава Чарадзея, які імкнуўся рэалізаваць геапалітычную стратэгію аб'яднання крывіцкіх і ўсіх славянскіх тэрыторый вакол Полацка. Яны таксама ў найбольшай ступені пацвярджаюць гіпотэзу аб крывіцкай прыналежнасці аўтара "Слова...", яго набліжанасці да легендарнага полацкага князя.

*Пятая* мікранавела "Слова..." распавядае пра напады на землі славянаў качавых плямёнаў – балгараў, ўграў і обраў, прыцясненні і здзекі, якія чынілі захопнікі над славянскім насельніцтвам.

*Шостая* мікранавела – адна з ключавых у "Слове...". У ёй робіцца акцэнт на кроўныя сувязі славянскіх народаў, іх мірнае суіснаванне: «Поляном же живущим особе, якоже рекохом, сущим от рода словеньска, и нарекошася поляне, а деревляне от словень же, и нарекошася древляне. Радимичи бо и вятичи от ляхов. Бяста бо 2 брата в лясех, – Радим, а другий Вятко. И пришедъша седоста Радим на Съжю, и прозвашася радимичи. А Вятко седе съ родом своим по Оце, от него же прозвашася вятичи. И живяху в мире поляне, и деревляне, и север, и радимичи, вятичи и хрвате. Дулеби живяху по Бугу, где ныне велыняне. А уличи и тиверьци седяху бо по Днестру Оли до моря. Суть гради их и до сего дне, да то ся зваху от Грек Великая скуфь».

Аўтар распавядае пра паходжанне радзімічаў і вяцічаў ад племя ляхаў, каб падкрэсліць глыбокія кроўныя сувязі заходніх і ўсходніх славян. Ідэйная квінтэсэнцыя аповеду – выказванне пра мір і згоду паміж славянскімі народамі.

У цэнтры *сёмай* мікранавелы "Слова..." – вельмі каларытныя апісанні звычаяў, традыцый і рытуалаў славянскіх народаў дахрысціянскага перыяду. Аўтар "Слова..." асуджае паганскія традыцыі славянскіх плямёнаў, імкнецца давесці перавагу хрысціянскай этыкі над варварскімі звычаямі. Такім чынам, ён апраўдвае і падтрымлівае працэс хрысціянізацыі славян, паказвае ўніверсальнае значэнне

і жыццёвую неабходнасць усталявання хрысціянскай маралі, хрысціянскага ладу жыцця сярод усіх славянскіх народаў.

*Восьмая* мікранавела – гэта ўрывак з элементамі адвольнага пераказу з візантыйскай "Хронікі" Георгія Амартола (IX), якая створана паводле легендарных паданняў і іншых гісторыка-літаратурных твораў Антычнасці і ранняга Сярэднявечча. У агульнай паэтыцы "Слова..." яна выступае як разгорнутая цытата, паходжанне якой аўтар указвае адразу, напачатку, канкрэтна спасылаючыся на крыніцу: "Глаголеть Георгий в летописаньи...".

Восьмая мікранавела ў адрозненне ад папярэдняй раскрывае законы і запаветы – пісаныя і звычаёвыя, – паводле якіх жылі іншыя, неславянскія народы – сірыйцы, бактрыяне, індзійцы, халдэі, вавіланяне, гіліі, племя амазонак. Праз апісанні жыцця іншых народаў, плямёнаў і краінаў аўтар "Слова..." сфармуляваў уласную сістэму этычных каштоўнасцяў. Ён рэзка асуджае палігамію, палавую распуснасць, беспадстаўныя забойствы людзей, ненатуральныя і нялюдскія звычаі. Такім чынам, старажытны пісьменнік імкнуўся выпрацаваць і канкрэтна сфармуляваць стратэгію для славян, акрэсліць сістэму іх маральных арыенціраў, культурныя прыярытэты і цывілізацыйны выбар.

*Дзявятая* заключная мікранавела – гэта разгорнуты аповед пра ўзнікненне славянскага пісьменства, асветніцкую і перакладчыцкую дзейнасць салунскіх братоў Кірылы (Канстанціна) і Мяфодзія. Яна напісана паводле матываў, прынамсі, трох паўднёваславянскіх твораў: Чарнарызца Храбра "Пра азбуку", ананімных "Жыціе Канстанціна Філосафа – першага настаўніка славянскага народа" і "Жыціе айца і настаўніка Мяфодзія, архіепіскапа мараўскага".

Навела пра ўзнікненне славянскага пісьменства, на думку аўтара "Слова...", павінна была выразна засведчыць агульныя культурныя вытокі славянскіх народаў, іх духоўную лучнасць, пацвердзіць даўнюю прыналежнасць славян да цывілізаваных народаў свету, якія мелі ўласнае пісьменства і кнігі.

Такім чынам, галоўная ідэя "Слова..." палягала на тым, каб давесці гістарычнае права славянскіх народаў на занятыя тэрыторыі, справядлівасць іх змагання з качэўнікамі. Аўтар, як чалавек хрысціянскага светапогляду, імкнуўся сцвердзіць неабходнасць хрысціянізацыі славянскіх народаў, паказваючы перавагі хрысціянскай маралі над паганскімі звычаямі, традыцыямі і законамі. Старажытны пісьменнік нязменна праводзіць думку пра неабходнасць скардынаванасці знешнепалітычных дзеянняў славянскіх князёў.

Аналіз асноўных сюжэтных ліній і семантыка твора дазваляюць прасвятліць пытанне пра аўтарства, час і месца напісання "Слова..." –

выдатнага помніка ўсходнеславянскага прыгожага пісьменства і гістарыяграфіі. Верагодней за ўсё, стваральнікам шэдэўра ранняга пісьменства з'яўляўся нехта з адукаваных людзей мясцовага паходжання, набліжаных да полацкага князя, які добра ведаў вусныя паданні, легенды і міфы пра славянскія плямёны, меў багатыя ўласныя назіранні.

Аўтар "Слова..." быў вельмі адукаваным чалавекам для свайго часу, начытаным і эрудзіраваным. Ён, напэўна, быў знаёмы з творамі візантыйскіх пісьменнікаў ранняга Сярэднявечча: Пракопія Кесарыйскага, Псеўда-Кесарыя, якія шмат пісалі пра славянскія плямёны. Магчыма, ён меў нейкія сувязі з хрысціянскімі місіянерамі, што наведваліся з асветніцкімі мэтамі на ўсходнеславянскія абшары з Візантыі.

"Слова пра славянскія плямёны, іх звычаі і пісьменства" – сапраўдны шэдэўр гістарыяграфіі і прыгожага пісьменства, які належыць да агульнай культурнай спадчыны ўсходніх славян. На працягу стагоддзяў "Слова..." надзвычай шанавалася адукаванымі продкамі сучасных беларусаў, украінцаў і рускіх, неаднаразова старанна перапісвалася, друкавалася і цытавалася ўсходнеславянскімі кніжнікамі, летапісцамі, пісьменнікамі і гісторыкамі.

У Радзівілаўскім летапісе важнейшыя эпізоды "Слова пра славянскія плямёны, іх звычаі і пісьменства" шыкоўна праілюстраваны красамоўнымі малюнкамі, якіх больш за дзесяць.

Пераклад "Слова пра славянскія плямёны, іх звычаі і пісьменства" выкананы паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу, яго найбольш карэктнай публікацыі: Памятники литературы Древней Руси. М., 1978. Асобныя мясціны ўдакладнены паводле Радзівілаўскага летапісу. Гл.: Радзивиловская летопись: текст, исследование, описание миниатюр. СПб.; М., 1994.

## Слова пра славянскія плямёны, іх звычаі і пісьменства

### I

І змяшаў Бог людзей, і падзяліў на семдзесят два народы, і рассеяў па ўсёй зямлі. Потым моцным ветрам пабурыў Госпад Вавілонскі слуп, рэшткі якога засталіся паміж Асірыяй і Вавілонам. Гэтыя руіны маюць у вышыню і ў шырыню 5433 локці і захоўваюцца ўжо шмат гадоў.

Пасля разбурэння слупа і раздзялення народаў нашчадкі Сіма атрымалі ўсходнія краіны, а нашчадкі Хама – паўднёвыя тэрыторыі. Яфетавы спадкаемцы атрымалі Захад і паўночныя абшары.

Ад сямідзесяці двух народаў паходзяць і славяне, з племя Яфетава. *Нарцы* – гэта акурат і ёсць славяне.

## II

У старадаўнія часы славяне аселі на Дунаі, дзе цяпер Вугорская і Балгарская землі. Ад іх пайшлі ўсе астатнія славяне на зямлі.

Кожнае славянскае племя атрымлівала найменне ў залежнасці ад месца аселасці.

*Маравы* атрымалі свой назоў ад рэчкі Маравы, дзе яны пасяліліся.

Іншыя славяне сталі называцца *чэхамі.*

Да славян належаць *белыя харваты, сербы і харутане.*

Калі на дунайскіх славян пачалі нападаць волхі, захопліваць славянскія землі і ўсяляк прыцясняць іх, многія славяне накіраваліся да Віслы і аселі там. Яны сталі называцца *ляхамі.* Ад тых ляхаў пайшлі *палякі, люцічы, мазаўшане і памаране.*

Частка славян асела на Дняпры. Адны з іх атрымалі найменне *паляне*, іншыя – *драўляне*, бо жылі ў лясах.

Славяне, якія пасяліліся між Прыпяццю і Дзвіной, называліся *дрыгавічы.*

Славяне, што жылі ўздоўж Дзвіны, мелі назоў *палачане* – ад наймення рэчкі Палаты, якая ўпадае ў Дзвіну.

Славяне, якія пасяліліся ля возера Ільмень, захавалі свой старадаўні назоў – *славяне.* Яны ўзвялі горад і назвалі яго Ноўгарад.

Іншыя славяне, што аселі ўздоўж Дзясны, Сейма, Сулы, назваліся *северане.*

Гэтак рассяліўся славянскі народ. У адпаведнасці з найменнем славян іх пісьменства называлася славянскім.

## III

Шлях з варагаў у грэкі і з грэкаў у варагі праходзіць па Дняпры. У вярхоўі Дняпра ёсць волак да Ловаці. А па Ловаці можна даплысці да Ільмень-возера.

З Ільмень-возера цячэ Волхаў, які ўпадае ў вялізнае возера Нява (Ладажскае возера. – *І. С.*). Сутока Неўскага возера злучана з Варажскім морам (Балтыйскім морам. – *І. С.*). Праз тое мора можна плысці ажно да Рыма. А ад Рыма можна ісці морам да Царграда. А ад Царграда можна даплысці ў Понт мора (Чорнае мора. – *І. С.*), у якое ўпадае Дняпро.

Дняпро выцякае з Акоўскага лесу і цячэ на поўдзень.

Дзвіна гэтаксама мае вытокі ў тым жа лесе. Яна цячэ на поўнач і ўпадае ў Варажскае мора.

З Акоўскага лесу пачынаецца і Волга. Яна цячэ на ўсход і ўпадае ў Хвалынскае мора (Каспійскае. – *І. С.*) сямідзесяццю сутокамі.

Як бачна, з Русі льга ісці Волгай да булгараў (волжскіх. – *І. С.*) і ў Хвалісы, а затым далей на ўсход, у землі Сіма.

Дзвіной можна плысці ў землі варагаў, а ад варагаў – да Рыма, а з Рыма – да племя Хамава.

Сутока Дняпра ўпадае ў Панційскае мора, якое інакш называецца Рускім. На яго ўзбярэжжы, як кажуць, некалі прапаведваў святы Андрэй, брат апостала Пятра.

## IV

Па смерці братоў Шчэка і Харыва іх спадчыннікі княжылі ў палянаў. Драўляне мелі ўласных валадароў, дрыгавічы мелі сваіх князёў. Славяне, якія ў Ноўгарадзе, мелі ўласных князёў. І палачане, якія на Палаце, мелі сваіх князёў.

Ад палачанаў паходзяць крывічы, якія аселі ў вярхоўях Волгі, Дзвіны і Дняпра. Іх галоўны горад – Смаленск, дзе жывуць крывічы.

Ад крывічоў паходзяць севяране.

На Белвозеры пасялілася племя *весь*. На Растоўскім возеры і Клешчыне – *мера*.

На рацэ Ака, там, дзе яна ўпадае ў Волгу, жыве *мурама*. Яны гавораць на ўласнай мове. Сваю мову маюць таксама *чарамісы і мардва*.

Славянскімі мовамі на Русі карыстаюцца наступныя народы: паляне, драўляне, наўгародцы, палачане, дрыгавічы, севяране, бужане, названыя так паводле месца аселасці – ракі Буг.

Вось народы, якія плацяць Русі даніну: чудзь, мера, весь, мурама, чарамісы, мардва, перм, пячора, ям, літва, зімігола, корсь, нерома, ліб.

V

Калі славяне жылі на Дунаі, на іх землі ад скіфаў, або ад хазараў, прыйшлі *балгары*. Яны пасяліліся ўздоўж Дуная і пачалі выцясняць славян.

Пасля балгараў прыйшлі *белыя угры* і аселі на славянскіх землях. Гэтыя угры з'явіліся аднекуль пры цары Іраклііі, які хадзіў на персідскага цара Хаздроя.

У тыя часы жылі і *обры*. Яны ваявалі з царом Іракліем і ледзьве не паланілі яго. Обры нападалі на славян, асабліва назалялі дулебам. Обры гвалцілі і здзекваліся з дулебскіх жанчын. Калі обрын хацеў некуды паехаць, дык не дазваляў запрагаць каня ці вала, а загадваў запрэгчы тры, чатыры або пяць дулебскіх жанчын і везці яго, обрына. Гэтак нялюдскі змываліся з дулебаў!

Обры былі велізарнага росту, надта ганарлівыя. Але Бог прыбраў іх, знішчыў пад корань, не засталося аніводнага обрына. І пайшла на Русі з тых часоў прымаўка: "Згінулі, як обры". Цяпер няма ні іх племя, ні іх нашчадкаў.

VI

Такім чынам, паляне і драўляне наўпрост паходзяць ад славянскага кораня. Адметныя найменні яны атрымалі пазней.

*Радзімічы і вяцічы* пайшлі ад ляхаў. Жылі два браты-ляхі ў лясах: першы – Радзім, а другі – Вятка.

Радзім са сваім родам пайшоў на Сож і асеў там. Яго нашчадкі атрымалі найменне радзімічы.

Вятка са сваім родам пайшоў на Аку. Паводле яго імя народ назваўся вяцічы.

Усе славянскія народы – паляне, драўляне, севяране, радзімічы, вяцічы і харваты – жывуць у міры і згодзе.

*Дулебы* жылі ўздоўж Буга, дзе цяпер сядзяць валыняне.

*Улічы і ціверцы* жылі па Днястры, суседзілі з Дунаем. Іх налічвалася велізарная колькасць. Яны займалі абшары ўздоўж Днястра ажно да мора. Гарады ўлічаў і ціверцаў стаяць па сённяшні дзень. Нездарма грэкі называлі іх "Вялікая Скіф".

## VII

Славянскія плямёны маюць уласныя звычаі і традыцыі, шануюць запаветы і законы сваіх продкаў, захоўваюць адметныя норавы і рытуалы.

Паляне – стрыманыя і разважлівыя, сарамлівыя перад нявесткамі, сёстрамі, маткамі і бацькамі. Яны таксама вельмі сарамлівыя перад свякроўкамі і свёкрамі. Паляне маюць адмысловы шлюбны рытуал: жаніх не ходзіць за нявестай, яе прыводзяць яму ўвечары, а назаўтра прыносяць пасаг у яго дом.

Драўляне жывуць, нібы звяры, жывёльным статкам. Яны забіваюць адзін аднаго, ядуць усякія нечыстоты. Шлюбу ў іх няма, дзевак ловяць і клочаць (умыкаюць) каля рэчак.

Радзімічы, вяцічы і севяране маюць аднолькавыя звычаі. Жывуць у лясах, нібы дзікія звяры. Ядуць усё, што трапляецца. Брыдкасловяць перад бацькамі і свякроўкамі. Шлюбаў не маюць. Збіраюцца з навакольных паселішчаў на гульбішчы, дзе скачуць і спяваюць паганскія песні. Пасля кожны валодае дзеўкай паводле яе згоды. Маюць адразу па дзве ці тры дзеўкі.

Калі хто памірае, учыняюць над ім трызну. Збіраюць вялікую скірду дроў, зверху кладуць памерлага і спальва-

юць цела. Затым, попел і рэшткі касцей кладуць у жбан і ставяць на слупы каля дарог.

Гэтакія ж рытуалы маюць і крывічы, а таксама тыя славяне, што не ведаюць Божага закону, але самі сабе чыняць законы.

## VIII

Піша Георгій у сваім летапісе: "Кожны народ мае ўласны закон. У адных – законы выкладзены на пісьме. Іншыя народы жывуць паводле звычаёвага (агульнага) права, што існуе ў форме вусных запаветаў продкаў.

Звычаёвым правам карыстаюцца *сірыйцы*, якія жывуць на краі свету. Яны строга выконваюць запаветы продкаў: не чыніць оргіяў, не займацца пралюбадзействам, не красці, не паклёпнічаць, не забіваць, не рабіць аніякай шкоды.

Падобны закон існуе і ў *бактрыянаў*, якія яшчэ называюцца рахманы, або востраўцы. Дзеля добрапрыстойнасці і дзеля выканання запаветаў продкаў бактрыяны не ядуць мяса, не п'юць віна, не ўчыняюць оргіяў, не дазваляюць злых учынкаў, але жывуць з верай і Божым страхам у сэрцы.

Зусім іншыя звычаі ў суседніх з імі *індзійцаў*. Яны – забойцы, брыдкасловы, сярдзітыя звыш усякай меры. У аддаленых закутках іх зямлі ядуць людзей, забіваюць падарожнікаў, харчуюцца, не раўнуючы, як сабакі.

Жахлівыя законы ў *халдэяў і вавіланянаў*. Яны спяць з уласнымі маткамі, уступаюць у сувязь з пляменніцамі, забіваюць адзін аднаго.

Адметны закон у *гілій*. У іх жанчыны аруць, узводзяць жытло, выконваюць мужчынскія працы. Але жанчыны маюць права кахацца столькі, колькі захочуць. Мужчыны ім не пярэчаць і не забараняць, калі выпадкова ўбачаць гэта. Сярод іх ёсць вельмі адважныя жанчыны, якія ўмела палююць на дзікіх звяроў.

У *Брытаніі* некалькі мужчын могуць спаць з адной жанчынай, і, наадварот, некалькі жанчын могуць задаваль-

няць патрэбы цела з адным мужчынам. Чыняць беззаконні без дакораў і бесперастанку, нібы гэта і ёсць запаветы продкаў.

*Амазонкі* наогул жывуць без мужчын. Нібы бясслоўныя жывёліны, яны адзін раз на год, бліжэй да восеньскіх святаў, пакідаюць сваю зямлю і ўступаюць у сувязь з навакольнымі мужчынамі. Амазонкі лічаць гэты час вялікімі святамі, урачыстымі днямі. Пасля таго, як зацяжараць, яны уцякаюць з тых месцаў. Калі наступае час родаў і на свет з'яўляецца хлопчык, амазонкі забіваюць яго. Калі нараджаецца дзяўчынка – старанна даглядаюць і выхоўваюць яе".

## IX

Усе славянскія народы мелі агульную мову: славяне, што жылі на Дунаі, землі якіх захапілі венгры і маравы, і чэхі, і ляхі, і паляне.

Спачатку кнігі былі перакладзены для маравау. Гэтае пісьменства было названа славянскім.

Пасля таго, як славяне прынялі хрышчэнне, іх князі Расціслаў, Святаполк і Коцэл накіравалі паслоў да цара Міхаіла са словамі:

– Зямля наша ахрышчаная, але няма ў нас Настаўніка. Трэба, каб ён прапаведваў у нас, навучаў нас і тлумачыў нам святыя кнігі. Бо мы не разумеем ні грэцкай, ні лацінскай моваў. Адны навучаюць нас так, іншыя – гэтак, а мы не ведаем кніг, не разумеем значэння і сэнсу напісанага. Дашліце нам настаўнікаў, якія разумеюць кніжныя словы і іх сутнасць.

Калі візантыйскі цар пачуў гэтую просьбу, ён паклікаў філосафаў і перадаў ім словы славянскіх князёў.

Філосафы адказалі:

– У Салуні ёсць гаспадар, імя якога Леў. Ён мае двух сыноў, а яны добра разумеюць славянскую мову і ўжо вельмі знаныя філосафы.

Цар выслухаў параду мудрацоў і накіраваў ганцоў у Салунь да Льва, якія перадалі яму царскі загад:

– Як найхутчэй прышлі да нас тваіх сыноў – Мяфодзія і Канстанціна.

Леў неадкладна выканаў распараджэнне цара і адправіў да яго сваіх сыноў.

Мяфодзій і Канстанцін прыйшлі да цара.

Цар звярнуўся да іх:

– Вось Славянская зямля просіць, каб я прыслаў ім настаўнікаў. Трэба перакласці і растлумачыць ім святыя кнігі. Яны надта прагнуць ведаць Божае Слова.

Угаварыў цар Мяфодзія і Канстанціна і накіраваў у Славянскую зямлю да Расціслава, Святаполка і Коцэла.

Прыйшлі браты ў Славянскую зямлю і прыступілі да працы. Яны склалі славянскую азбуку, а неўзабаве пераклалі Апостал і Евангелле.

Славяне былі надзвычай усцешаныя, калі пачулі велічнае Божае Слова на ўласнай мове.

Пасля Мяфодзій і Канстанцін пераклалі Псалтыр, Актоіх і іншыя кнігі.

Але знайшліся і такія, што пачалі ганіць славянскія кнігі, кажучы:

– Аніякі народ не варты мець уласнага пісьменства, апрача яўрэяў, грэкаў і лацінянаў. Бо надпіс Пілата на крыжы Госпада зроблены толькі на трох мовах – яўрэйскай, грэцкай і лацінскай.

Калі Папа Рымскі дачуўся пра нападкі на славянскія кнігі, ён гнеўна асудзіў невукаў і зазначыў:

– Няхай споўняцца словы Святога Пісання, дзе сказана: "Няхай усе народы шануюць Бога!". І ў іншым месцы: "Няхай усе народы ўсхваляюць веліч Госпада, бо Святы Дух даў ім здольнасць маўлення!"

Потым папа рымскі яшчэ дадаў:

– Калі нехта будзе зневажаць славянскія кнігі, ён будзе адлучаны ад Царквы да таго часу, пакуль не выправіцца. Зневажальнікі славянскага пісьменства – гэта ваўкі, а не авечкі. Іх належыць распазнаваць паводле злых учынкаў і асцерагацца іх. Вы, дзеці, прыслухайцеся да Божай навукі

і не адкідвайце царкоўныя загады, якія даў вам настаўнік ваш Мяфодзій.

Потым Канстанцін вярнуўся назад і накіраваўся вучыць балгарскі народ.

Мяфодзій застаўся ў Маравіі. Праз нейкі час князь Коцэл паставіў Мяфодзія епіскапам у Пановіі, на кафедры святога апостала Андроніка – аднаго з 70 вучняў святога апостала Паўла.

Мяфодзій пасадзіў двух святароў – добрых пісараў – і пераклаў усе кнігі цалкам з грэцкай на славянскую мову. Ён ажыццявіў тытанічную працу за шэсць месяцаў, пачаў у сакавіку, а закончыў 26 кастрычніка.

Гэтак Мяфодзій справай сваёй годна ўшанаваў Госпада.

2 Зак. 2682

# НАВЕЛА ПРА ПАМОРАК У ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ

“Навела пра паморак у Полацкай зямлі” – умоўная назва рарытэтнага помніка беларускай мастацкай літаратуры XI ст. Твор быў напісаны ў Полацку невядомым аўтарам, які, верагодна, перажыў трагедыю горада, на ўласныя вочы бачыў усе жахлівыя наступствы бедства.

Першакрыніцы летапіснай “Навелы пра паморак у Полацкай зямлі” не захавалася. Яна чытаецца паводле “Аповесці мінулых гадоў” – найбольш старажытнага ўсходнеславянскага летапіснага зводу XII ст., што ўвайшоў у склад шэрагу летапісаў XIV–XV стст., у прыватнасці, у Лаўрэнцьеўскі і Радзівілаўскі.

У цэнтры адлюстравання “Навелы пра паморак у Полацкай зямлі” – бедства, якое спасцігла Полацкае княства ў 1092 г. і ў выніку якога памерла мноства людзей. Пісьменнік паведамляе, што насланне на Полацкую зямлю пачалося з Друцку. Аўтар вобразна апісвае сполах і адчай, якія выклікала сярод гараджан невядомая заразная хвароба.

Узрушанасць летапісца выявілася ў стварэнні каларытнай містычнай сцэны авалодання Полацкам і яго ваколіцамі наўем (нячыстай сілай) – інфернальнымі істотамі, што былі надзелены звышнатуральнымі ўласцівасцямі.

На вуліцах горада ўначы з’яўляліся д’яблы, паўсюль стаяў неверагодны тупат, штосьці пранізліва стагнала і енчыла. Нарэшце д’яблы пачалі з’яўляцца і ўдзень. Яны гойсалі верхам на конях, але ні іх саміх, ні коняў не было відаць, былі выразна бачныя толькі конскія капыты. Д’яблы нялітасціва нішчылі людзей. У горадзе пайшла пагалоска, што гэта мерцвякі прыйшлі па жывых.

Д’ябальскае нашэсце на Полацк і вынішчэнне жыхароў – кульмінацыйны момант усёй навелы, адна з найбольш яркіх сцэнаў старадаўняй беларускай мастацкай прозы.

Містыцызм “Навелы...” ўзмацняўся іншымі сюжэтамі пра надзвычайныя здарэнні: з’яўленне пасярод неба велізарнага вогненнага кола, неверагодную засуху і выгаранне зямлі, самаўспаленні лясоў і балот.

“Навела...” мае выразную стылёвую афарбоўку. Скупыя радкі летапіснага твора перапоўнены пачуццямі, эмоцыямі і перажываннямі аўтара з-за пакутаў людзей.

У Радзівілаўскім летапісе “Навела пра паморак у Полацкай зямлі” адмыслова праілюстравана каларытнымі мастацкімі малюнкамі, якія ўзмацнялі агульную містычную скіраванасць твора.

Узнаўленне і пераклад летапіснай “Навелы пра паморак у Полацкай зямлі” ажыццёўлены паводле Радзівілаўскага летапісу, яго найноўшага факсімільнага выдання і тэксталагічнай апрацоўкі. Гл.: Радзивиловская летопись: текст, исследование, описание миниатюр. СПб.; М., 1994. С. 144.

## Навела пра паморак у Полацкай зямлі

У 1092 год незвычайныя дзівосы здарыліся ў Полацку.

Уначы на вуліцах стаяў страшэнны тупат, адусюль даносіліся пранізлівыя стогны і жаласлівыя енкі.

Калі хтосьці з жыхароў выходзіў з дому, каб дазнацца, што дзеецца, яго імгненна спасцігалі д’яблы і нябачным чынам смяротна ранілі. У выніку чалавек хутка паміраў. Таму ўсе людзі неверагодна баяліся пакідаць жытло.

Праз нейкі час д’яблы пачалі з’яўляцца і ў дзённы час. Яны насіліся верхам на конях. Але ні іх саміх, ні коняў не было відаць. Адно толькі конскія капыты выразна праглядаліся на бруку.

Д’яблы шалёна нішчылі безліч людзей у Полацку і яго ваколіцах. Сярод палачанаў пайшла пагалоска, што гэта мерцвякі забіваюць людзей.

Пачалося нечуванае насланнё з Друцку.

Тым часам і ў нябёсах назіраліся неверагодныя цуды. Пасярод неба з’явілася агромністае вогненнае кола.

У той жа год надарылася нябачная засуха, зямля павыгарала, шмат дзе ўспыхвалі і доўга гарэлі лясы і балоты.

Мноства розных дзівосаў адбылося тады паўсюль у гарадах і мястэчках.

# АПОВЕДЫ ПРА УСЯСЛАВА ЧАРАДЗЕЯ

"Аповеды пра Усяслава Чарадзея" – умоўная назва корпуса летапісных паведамленняў пра жыццё і дзейнасць легендарнага полацкага князя Усяслава Чарадзея.

"Аповеды..." ствараліся невядомым летапісцам у другой палове XI – пачатку XII ст. Аўтар быў сучаснікам Усяслава, асабіста ведаў яго, аб чым сведчыць выказванне, дзе гаворыцца пра сімвалічную стужку князя: «Еже носи Всеслав и *до сего дни* на собе». Як вынікае з тэксту, аўтар "Аповедаў..." прысутнічаў у войску падчас бітвы на Нямізе 3 сакавіка 1067 г., бо толькі непасрэдны сведка мог ведаць, што ў той год на Нямізе ляжаў вялікі снег – "бяше снег велик".

Аўтограф "Аповедаў пра Усяслава Чарадзея" не захаваўся. Яны змешчаны ў "Аповесці мінулых гадоў" – найстарэйшым летапісным зводзе ўсходніх славян і найбольш поўна чытаюцца паводле Лаўрэнцьеўскага і Радзівілаўскага летапісаў.

"Аповеды..." не з'яўляюцца структурна цэльным літаратурным помнікам. У кампазіцыйным плане гэта даволі стракатая сукупнасць каштоўных гістарычных звестак, занатовак, мікранавел і апісанняў тагачасных падзей і здарэнняў, звязаных з асобай полацкага князя Усяслава. На жаль, арганічнага літаратурнага твора як мастацкай адзінкі – аповесці, ці апавядання – пра князя Усяслава, відаць, не існавала, хоць такія дапушчэнні выказваюцца даследчыкамі.

На падставе аналізу летапісных крыніц можна вылучыць дванаццаць асноўных мікранавелаў пра Усяслава Чарадзея. Кожная з іх мае адметную сюжэтна-кампазіцыйную структуру.

*Першая* мікранавела датуецца 1044 г. У ёй гаворыцца пра ўзыходжанне Усяслава ў 1044 г. на пасаду полацкага князя пасля смерці бацькі, князя Брачыслава, які быў сынам Ізяслава і ўнукам Уладзіміра. Робіцца акцэнт на нараджэнне Усяслава ад чарадзейства. Звяртаецца ўвага на тое, што калі ён нарадзіўся, на яго галаве была заўважана нейкая стужка, або плёнка, названая ў тэксце "язвено". Чарадзеі заклікалі маці навязаць яе на Усяслава, каб ён не здымаў стужку ўсё жыццё. Менавіта гэтая стужка, якая сцверджае летапіс, нібы амулет, засцерагала князя праз увесь яго доўгі век ад непатрэбных кровапраліццяў.

У Радзівілаўскім летапісе літаральна пішацца: «В то же лето [6552] (1044) умре Бречислав, сын Изяславль, внук Володимирь, отец Всеславов. И Всеслав, сын его, седе на столе его. Его же роди мати от волхования. Матери бо родившю его, и бысть ему язвено на главе его. Рекоша бо волхвы матери его: «Се язвено навяжи на нь, да носит е до жывота своего». Еже носи Всеслав и до сего дни на собе. Сего ради и не милостив на кровопролитье».

*Другая* навела распавядае пра супольны паход Усяслава з кіеўскімі князямі Ізяславам і Святаславам на торкаў у 1060 г. Летапісец з выразным задавальненнем піша пра тое, як аб'яднаныя войскі славян прымусілі торкаў пакінуць паселішчы, разбегчыся і назаўсёды спыніць набегі на славянскія тэрыторыі.

У Радзівілаўскім летапісе адзначаецца: «В лето 6568 (1060). В сем же лете Изяслав и Святославль, и Всеслав совокупиша вои бесчислены и поидоша на конех и в лодиях, бесчисленное множество, на торки. Се слышавше торци и убоявшеся, и пробегоша и до сего дни, и помроша бегающе. Божьим гневом гонимы, ови от зимы, а друзии гладом, инии же мором и судом Божьим. И тако избави Бог христьян от поганых».

Лаўрэнцьеўскі летапіс сярод удзельнікаў гэтага гістарычнага паходу называе і імя князя Усевалада.

*Трэцяе* летапіснае паведамленне кароткае – пра паход Усяслава ў 1063 г. на Ноўгарад, пра авалоданне горадам і спаленне яго. У Радзівілаўскім летапісе пішацца: «На 4-е бо лето пожъже Всеслав град [Новегород]».

*Чацвёртае* летапіснае сведчанне – пра распачынанне Усяславам маштабнай вайсковай кампаніі ў 1065 г., накіраванай на збіранне вакол Полацка новых земляў і княстваў. У гэты час, паводле словаў летапісца, адбылося сонечнае зацьменне, а затым на захадзе з'явілася крывавая планета і знаходзілася там сем дзён. Дзівосныя з'явы прыроды, падсумоўваў летапісец, знаменавалі наступленне цяжкіх часоў на славянскіх землях. «В лето 6573 (1065). Всеслав же в се лето рать почал. В си же времена бысть знаменье на западе; звезда превелика, луча имущи, аки кровавы, воъсходяще с вечера по западе солнечном, и пребысть за 7 дни. Се же проавляше не на добро…Пред сим бо временем и солнце пременися и не бысть светло, но аки месяц бысть, его же невеигласи глаголють снедаему сущу. Се же бывают сице знаменьа не на добро».

*Пятая,* інфармацыйна надзвычай насычаная навела пра Усяслава Чарадзея, падаецца ў летапісе пад 1067 г. Сярод галоўных топікаў – паведамленне пра паход на Полацкія землі ўзімку 1067 г. кіеўскіх князёў Яраславічаў – Ізяслава, Святаслава і Усевалада, якія

помсцілі Усяславу за спаленне Ноўгарада. Летапіс распавядае пра захоп кіеўскімі князямі Менска, жорсткую расправу над абаронцамі горада і іх наступнае паланенне. Кульмінацыя гэтай навелы – аповед пра бітву на Нямізе 3 сакавіка 1067 г., якая скончылася поўным паражэннем Усяслава, у выніку чаго ён мусіў ганебна ўцякаць.

У Радзівілаўскім летапісе пішацца: «В лето 6574 (1067). Варатися Всеслав, сын Брячиславль, Полоцкий, зая Новгород. Ярославичи же 3-е – Изяславль, Святослав, Всеволод, – совокупивше воя, идоше на Всеслава, зиме сущи велице. И приидоша к Меньску, и меняне затворишася въ граде. Сии же братья взяша Менескъ и иссекоша мужи, а жены и дети взяша на щит, и поидоша к Немизе. И Всеславъ поиде противу, и совокупишася обои на Немизе месяца марта 10 день. И бяше снег велик. И поидоша противу собе. И бысть сеча зла, и мнози падоша, от Изяслава, и Святослава, и Всеволода. Всеслав побеже».

Амаль ідэнтычна бітву на Нямізе падае Лаўрэнцьеўскі летапіс, але называе іншую дату – 3 сакавіка 1067 г., што звязана з адметнасцямі летазлічэння.

*Шостая* навела распавядае пра каварства і клятваадступніцтва кіеўскіх князёў, якія запрасілі Усяслава і яго сыноў у Оршу 10 ліпеня 1067 г. нібыта дзеля замірэння; цалавалі крыж, кляліся ў шчырасці сваіх намераў. Але, калі Усяслаў пераплыў у лодцы Днязпро і прыбыў у лагер да Яраславічаў, яны напалі на полацкага князя і яго сыноў, схапілі іх сілай і паланілі, а затым пад вартай, у суправаджэнні Ізяслава, накіравалі у Кіеў, дзе пасадзілі ў вязніцу. У Радзівілаўскім летапісе аб гэтых падзеях сказана наступнае: "Посеем же июля 10 день Изяславъ, Святославъ и Всевоволод, целоваше крест честны ко Всеславу, рекше ему: "Приди к нам, яко не сотворим ти зла". Он же, надеяся на целование крестно, приехал в лодии черес Днепр. Изяславу же в шатер преидущу, и тако яша Всеслава на Рши у Смоленъска, преступивше крест. Изяслав же приведе Всеслава къ Киеву, всади в поруб со двема сыны".

*Сёмая* мікранавела летапісу распавядае пра паўстанне восенню 1068 г. патрыятычна настроеных гараджан Кіева, якія былі надзвычай незадаволены дзеяннямі Яраславічаў, іх унутранай і знешняй палітыкай, асабліва нежаданнем князёў змагацца з полаўцамі – усходнімі качэўнікамі, якія агрэсіўна захоплівалі ўрадлівыя землі славян. На Вечы, скліканым на гарадскім рынку, кіяўляне пастанавілі вызваліць "дружыну" Усяслава з вязніцы. 15 верасня 1068 г. яны здзейснілі свой намер, вызвалілі князя з палону, уганаравалі яго на княжацкім двары, абралі сваім уладаром. Княжацкія палацы Яраслвічаў былі захоплены раз'юшанымі паўстанцамі і дашчэнту разрабаваны.

Кіеўскі князь Ізяслаў, баючыся справядлівага пакарання і расправы, збег у Польшчу.

Радзівілаўскі летапіс піша: «Изяславу же со Всеволодом к Киеву пришедшю, а Святославу к Чернигову пришедшю, и людие киевъстии прибегоша Киеву, и сотвориша Вече на торговище, и реша, пославшееся ко князьм, глаголюще: "Се половци расулися по земли. Вдай, княже, оружия и кони, еще бьемся с ними". Изяслав же сего не послуша. И начаша людие говорити на воеводу на Кисняча. И идоша с Вечьа на гору, и приидоша на двор Коснячков, и не обретшее его, и сташа у двора Брячиславля, и реша: "Поидем, высадим дружыну ис погреба". И разделишася надвое: половина их идет к погребу, а половина их идеть по мосту. Сии же придоша на княжь двор. Изяславу сущу на сенех, со дружиною своею, и начаша претися со князем, стояще доле. Князю из окна зрящу, и дружине стоящи у князя, рече Тукы, брат Чюдин, Изяславу: "Видиши, княже, людие възвыли. Посли ять Всеслава блюдуть". И се ему глаголющю, другая половина людий приидеть от погреба, отворившее погреб. И реша дружина князю: "Се зло есть, посли ко Всеславу, ати призвавши лестию ко оконьцю, проньзут и мечем". И не послуша сего князь. Людие же кликнуша и идоша ко порубу Всеславлю. Изяслав же, се видев, со Всеволодом побегосте со двора. Людие же высекоша Всеслава ис поруба, въ 15 сентября, и прославиша и среде двора княжя. И двор княж разграбиша, бесчисленное множество злата и сребра, кунами и белью. Изяслав же бежа в Ляхы».

*Восьмае* паведамленне ўтрымлівае звесткі пра княжанне Усяслава ў Кіеве, дзе ён знаходзіўся на працягу сямі месяцаў, з верасня 1068 да сакавіка 1069 г. Летапіс падае разважанне князя пра моц крыжа і меркаванне летапісца пра пакаранне за грэх клятваадступніцтва. «Всеслав же седе в Киеве. Се же Бог яви силу крестную: понеже Изяслав целова крест и ша и; тем же и наведе Бог поганыя, сего же Яве избави Бог и крест чесны. Въ день бо Въздвижения Всеслав же въздохнув рече: "О кресте честный! Понеже к тобе веровах, избави мя от ръва сего!" Бог же показа силу крестную на показание земли Руской, да не преступають честнаго креста, целовавшее его. Аще ли преступить кто, зде приметь казнь, а на будущом казнь вечную. Понеже велика есть сила крестная: крестом бо побежени бывають силы бесовскыа, крестом бо князем и верным людем в бранех победа, и ограждаеми крестом побежають супостати противныя, крестом бо въскоре избавляеть от напастей призывающим его с верою. Ничего бо ся боять беси, токмо креста. Аще бо бывають от бесов мечтания, знаменавше лице крестом, прогоними бывають. Всеслав же седе в Киеве месяць 7».

*Дзявятая* навела датуецца 1068 г. У ёй распавядаецца пра паход супраць князя Усяслава, улада якога ў гэты час распаўсюджвалася і на Кіеўскае княства, князя Ізяслава з дружынамі польскага князя Баляслава. Усяслаў выступіў з войскам супраць канкурэнтаў, але нечакана адмовіўся ад змагання за кіеўскі прастол і з Белгарада, забраўшы полацкія дружыны, вярнуўся ў родны Полацк. У Радзівілаўскім летапісе адзначаецца: «В лето 6576 (1068). Поиде Изяслав с Болеславом на Всеслава, Всеслав же поиде противу. И прииде к Белугороду Всеслав, и бывше нощи, утаився киян, и бежа из Белагорода к Полотьску. Заутра же слышавше людие бежавша князя, и възратишася къ Кыеву и сотвориша Вече».

*Дзясятае* паведамленне летапісу – выгнанне Усяслава з Полацка князем Ізяславам, які пасадзіў там свайго сына – Мсціслава. Але, як піша летапіс, Мсціслаў неўзабаве памёр і Ізяслаў прызначыў князем у Полацк свайго брата Святаполка. «Изяслав же възъгна торг на гору, и прогна Всеслава ис Полоцка, посади сына своего Мстислава в Полоцку, иже вскоре умре ту. И посади въ его место брата его Святополка, Всеславу же бежавшю».

*Адзінаццатае* сціслае паведамленне пра Усяслава падаецца пад 1071 г. У ім гаворыцца пра дзве значныя перамогі Усяслава Чарадзея – выгнанне Святаполка з Полацка і разгром дружыны Яраполка. "В лето 6579 (1071). В се же лето выгна Всеслав Святополка ис Полоцка. В се же лето победи Всеслав Ярополка у Голотичска".

*Дванаццатае* летапіснае паведамленне – кароткая згадка пра смерць у 1101 г. полацкага князя Усяслава. "В лето 6670 (1101) преставися Всеслав, полоцкий князь".

Такім чынам, у летапісных "Аповедах пра Усяслава Чарадзея" вельмі поўна асвятляюцца палітычныя працэсы XI ст. на усходнеславянскіх абшарах – вайсковыя паходы, бітвы, паўстанне жыхароў Кіева, вечавы сход, раскрываецца логіка і характар тагачасных стасункаў паміж славянскімі князямі, барацьба паміж Полацкам і Кіевам за палітычнае лідэрства.

"Аповеды пра Усяслава Чарадзея" вельмі адметныя як уласна літаратурная з'ява. Найперш у іх створаны яркі вобраз полацкага князя Усяслава Чарадзея, аўтарытэтнага палітыка і патрыёта Полацкай зямлі. Князь паўстае як мужны і сумленны гаспадар дзяржавы, сапраўдны абаронца інтарэсаў славянскіх народаў, паслядоўны змагар з ордамі качэўнікаў.

У "Аповедах..." шмат насычаных дыялогаў, шырока ўжываюцца разнастайныя метафары, параўнанні і сімвалы, што з'яўляецца выразнай праявай мастацкай літаратуры. Умела і арганічна выкарыстоўваюцца пейзажныя замалёўкі, містычныя сюжэты. Мастацкія

сцэны і дэталі ў мікранавелах абмаляваны надзвычай ярка і каларытна.

У Радзівілаўскім летапісе найбольш значныя навелы і эпізоды "Аповедаў пра Усяслава Чарадзея" суправаджаюцца трынаццаццю надзвычай каларытнымі мініяцюрамі, што дазвалялі чытачу яшчэ больш яскрава і жыва ўявіць занатаваныя падзеі. Маляўнічыя мініяцюры, выкананыя на вельмі высокім мастацкім узроўні, сведчылі таксама пра выключнае месца "Аповедаў пра Усяслава Чарадзея" ў агульным летапісным кантэксце.

Такім чынам, "Аповеды пра Усяслава Чарадзея" з'яўляюцца сінтэтычным помнікам старадаўняга беларускага пісьменства, у якім адначасна спалучаюцца элементы нацыянальнай гістарыяграфіі і ўласна мастацкай літаратуры.

Пераклад "Аповедаў пра Усяслава Чарадзея" выкананы паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу, яго найбольш карэктнай публікацыі: Памятники литературы Древней Руси. М., 1978. Асобныя мясціны ўдакладнены паводле Радзівілаўскага летапісу. Гл.: Радзивиловская летопись: текст, исследование, описание миниатюр. СПб.; М., 1994.

## Аповеды пра Усяслава Чарадзея

### I

У 1044 годзе памёр Брачыслаў – сын Ізяслава, унук Уладзіміра, бацька Усяслава. І Усяслаў – сын яго – узышоў на княжацкі пасад.

Маці нарадзіла Усяслава ў выніку чарадзейства. Калі Усяслаў з'явіўся на свет, у яго на галаве была стужка. Чарадзеі пабачылі яе і параілі маці:

– Навяжы гэтую стужку на дзіця і няхай ён не здымае яе да скону сваіх дзён.

І носіць Усяслаў завязаную на ім стужку да сённяшняга дня. Таму і не любіць ён кровапраліццяў.

### II

У 1060 годзе Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад і Усяслаў супольна згуртавалі мноства воінаў і рушылі на канях і ў лодках на торкаў.

Як толькі торкі дазналіся пра выступ славянскіх дружын, яны вельмі напалохаліся і разбегліся. І бегаюць па сённяшні дзень. Шмат іх памёрла, калі разбягаліся. Бог разгневаўся на торкаў. Амаль усе яны ўрэшце загінулі: хто ад сцюжы, хто ад голаду, іншыя – ад хваробаў. Гэтак Бог выбавіў хрысціянаў ад паганых.

## III

На чацвёрты год пасля таго, як Волхаў цягам пяці дзён (у 1063 годзе. – *І. С.*) уцякаў у адваротным напрамку, Усяслаў спаліў Ноўгарад.

## IV

У 1065 годзе Усяслаў распачаў шырокую вайсковую кампанію.

У гэты час назіралася дзіва-дзіўнае. На захадзе з'явілася велізарная зорка з прамянямі, нібы крывёю налітымі. Яна ўзыходзіла на захадзе надвячоркам цягам ажно сямі дзён. Гэтая праява была не на дабро. Пасля яе з'яўлення разгарэліся міжусобіцы і пачалося нашэсце паганых. Бо зорка была нібы крывёю налітая, што прадказвала моцнае праліццё крыві.

У той час і Сонца змянілася. Яно было не яркім, як звычайна, а нібы Месяц. Простыя людзі гаварылі, што яго хтосьці з'ядаў.

Гэтакія знаменні – не да дабра.

## V

У 1067 годзе Усяслаў, сын Брачыслава, выступіў з Полацка і ўзяў Ноўгарад.

Тры браты Яраславічы – Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад – аб'ядналіся і супольна, не зважаючы на сцюдзёную зіму, рушылі на Усяслава.

І прыйшлі яны да Менска.

А меняне закрыліся ў горадзе.

Браты Яраславічы захапілі горад, пасеклі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей узялі ў палон. І пайшлі да Нямігі.

Усяслаў з дружынай выступіў насустрач.

Войскі сышліся на Нямізе 3 сакавіка. Яшчэ ляжаў глыбокі снег. І пайшлі адзін на аднаго. І была злая сеча, і шмат вояў загінула. Перамогу здабылі князі Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад.

Усяслаў збег.

## VI

Праз нейкі час, 10 ліпеня 1067 года, Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад цалавалі святы крыж, звяртаючыся да Усяслава:

– Прыходзь да нас, не ўчынім табе аніякай шкоды.

Усяслаў паверыў іх клятве. Ён пераправіўся да іх цераз Дняпро ў лодцы.

Ізяслаў, які сустрэў Усяслава і меўся праводзіць яго ў шацёр, напаў на полацкага князя і паланіў яго. Так быў схоплены Усяслаў на Ршы каля Смаленска! Так Яраславічы пераступілі крыжацалаванне!

Затым Ізяслаў прывёў палоннага Усяслава ў Кіеў і пасадзіў яго разам з двума сынамі ў вязніцу.

## VII

Калі Ізяслаў з Усеваладам прабылі да Кіева, а Святаслаў – да Чарнігава, кіеўскія людзі прыбеглі ў Кіеў і склікалі веча на гандлёвай плошчы. Яны звярнуліся да князя Ізяслава:

– Вось, княжа, полаўцы гаспадараць на нашай зямлі. Дай нам зброю і коняў. Пачнем змагацца з імі.

Ізяслаў не паслухаўся іх.

Затым людзі вырашылі папрасіць ваяводу Каснячка. З веча яны пайшлі на гару, дзе знаходзіўся двор Каснячка. Але ваявода схаваўся.

Тады людзі, стоячы каля двара Брачыслава, пастанавілі:

– Пайдзем і вызвалім сваю дружыну, князя Усяслава, з вязніцы.

Частка людзей накіравалася да вязніцы. Іншыя рушылі праз мост да княжацкага палаца.

Ізяслаў у гэты час радзіўся са сваёй дружынай.

Людзі, што стаялі ўнізе, абурана крычалі.

Ізяслаў выглянуў з акна і ўбачыў мноства народу. Тукі, брат Чудзіна, сказаў князю:

– Бачыш, княжа, людзі абураныя. Трэба ўзмацніць варту каля Усяслава.

Але было позна. Людзі, якія перад тым пайшлі да вязніцы, ужо захапілі яе.

Тады дружыннікі Ізяслава прапанавалі князю:

– Паколькі здарылася найгоршае, трэба падманам выклікаць да нас Усяслава і забіць яго мячом.

Але Ізяслаў не паслухаўся парады.

Раптам людзі закрычалі і пабеглі ў бок вязніцы, дзе знаходзіўся Усяслаў.

Князі Ізяслаў і Усевалад збеглі са сваіх двароў.

Людзі вызвалілі князя Усяслава з вязніцы 15 верасня. І ўславілі яго пасярод княжацкага двара.

Двор кіеўскага князя людзі разрабавалі, забралі мноства золата і серабра – манетамі і зліткамі.

Ізяслаў жа збег да ляхаў.

## VIII

Усяслаў княжыў у Кіеве. Гэтак Бог выявіў моц крыжа. Бо князь Ізяслаў цалаваў крыж, але потым парушыў крыжацалаванне і паланіў Усяслава. Каб пакараць Ізяслава, Бог і наслаў паганых.

На свята Уздзвіжання Усяслаў уздыхнуў і вымавіў:

О, велічны крыжу! Выбаві мяне ад гневу Божага.

Бог паказаў моц крыжа дзеля навукі ўсёй Рускай зямлі, каб не пераступалі крыжацалаванне. Той, хто пераступіць, будзе жорстка пакараны ў гэтым жыцці, а таксама на тым свеце будзе цярпець вечныя пакуты.

Моц крыжа невымерная! Крыж перамагае нашэсце д’яблаў! Крыж спрыяе князям у бітвах! Крыж аберагае воінаў!

З дапамогай крыжа веруючыя перамагаюць ворагаў. Крыж выратоўвае ад розных напасцяў. Д'яблы баяцца толькі крыжа. Каб аслабаніцца ад мрояў, насланых д'ябламі, належыць перахрысціць твар.

Усяслаў княжыў у Кіеве сем месяцаў.

## IX

У 1069 годзе на Усяслава пайшлі вайной Ізяслаў з Баляславам.

Усяслаў выступіў насустрач.

І дайшоў Усяслаў да Белгарада. Але ўначы, употай ад кіеўскай дружыны, князь Усяслаў збег раптоўна ў Полацк.

Апынуўшыся без князя, войска вярнулася ў Кіеў.

## X

У маі 1069 года Ізяслаў прагнаў Усяслава з Полацка. На княжацкі пасад у Полацку ён узвёў свайго сына Мсціслава. Але Мсціслаў неўзабаве памёр. Тады на полацкі княжацкі пасад узышоў Святаполк, брат Ізяслава.

Князь Усяслаў збег.

## XI

У 1071 годзе Усяслаў выгнаў Святаполка з Полацка.

У гэтым жа годзе Усяслаў перамог Яраполка каля Галіча.

## XII

У 1101 годзе полацкі князь Усяслаў памёр.

# ПОЛАЦКІ ЛЕТАПІС

"Полацкі летапіс" – умоўная назва гісторыка-літаратурных навел, сціслых паведамленняў і замалёвак пра грамадска-палітычныя працэсы, што адбываліся ў Полацкай дзяржаве пераважна на працягу XII ст.

Арыгінал "Полацкага летапісу" не захаваўся. Сёння ён чытаецца ў асноўным паводле Іпацьеўскага летапісу. Яго сляды засталіся таксама ў Лаўрэнцьеўскім, Васкрасенскім і Радзівілаўскім летапісах.

Ствараўся "Полацкі летапіс", верагодна, непасрэдна ў сталіцы княства – Полацку. Тэкст напісаны кніжнікамі-летапісцамі, набліжанымі да князёў, аб чым сведчыць іх глыбокая абазнанасць у тагачасных падзеях і выразны полацкі патрыятызм.

"Полацкі летапіс" – энцыклапедычны помнік пісьменства. Ён утрымлівае надзвычай аб'ёмную і ўнікальную гістарычную інфармацыю. У ім зафіксаваны падзеі, што адбываліся ў Полацкім княстве і ў суседніх землях – Тураўскім, Смаленскім і Кіеўскім княствах. У творы знайшлі адлюстраванне пераважна ключавыя моманты палітычнай гісторыі XII ст.: супрацьстаянне двух палітычных цэнтраў таго часу – Кіева і Полацка, змаганне князёў за полацкі пасад, вайсковыя паходы, міжусобныя канфлікты, шматлікія вайсковыя баталіі і дынастычныя шлюбы.

У структурна-кампазіцыйным плане "Полацкі летапіс" уключае блізу трох дзесяткаў мікранавел і занатовак, семантычна вельмі насычаных.

Можна меркаваць, што "Полацкі летапіс" пачынаўся з апісання падзей супольнага пахода ўсходнеславянскіх князёў на полаўцаў у 1103 г. Актыўны ўдзел у вайсковай кампаніі браў полацкі князь *Давыд Усяславіч*, да якога па дапамогу звярнуўся кіеўскі князь Уладзімір. Летапісец падае надзвычай каштоўную інфармацыю пра гэты буйны палітычны альянс. У адпаведным урыўку Радзівілаўскага летапісу наўпрост указваецца на ўдзел Давыда Усяславіча Полацкага ў сумесным паходзе славянскіх князёў супраць полаўцаў*.

---

* Радзивиловская летопись: текст, исследование, описание миниатюр. СПб.; М., 1994. Арк. 149 адв. – 150.

*Другая* значная навела, у якой зафіксаваны важныя гістарычныя падзеі, датуецца 1104 г. У ёй летапісец пачынае расповед пра менскага князя *Глеба Усяславіча*, пра паход на яго ў канцы 1104 г. кіеўскіх князёў – Пуцяты, Святаполка, Яраполка і Алега. З тэксту навелы не зусім зразумелая роля Давыда Усяславіча падчас гэтага паходу паўднёвых князёў на Менск. Словы "поемше Давыда Всеславича", хутчэй за ўсё, сведчаць аб тым, што ён быў змушаны нейкім чынам браць удзел у вайсковай кампаніі супраць брата Глеба.

Важная *трэцяя* летапісная навела. У ёй паведамляецца пра ўзыход на Полацкую епархію ў 1105 г. епіскапа Міны. Напэўна, летапісец такім чынам імкнуўся падкрэсліць рост палітычнай вагі Полацкага княства. Таксама ў навеле адзначана з'яўленне 13 снежня таго ж года каметы, якая, на думку аўтара, сімвалізавала пачатак радыкальных пераменаў.

*Чацвёртая* занатоўка фіксуе выхад на шырокую арэну вайскова-палітычнай барацьбы менскага князя Глеба Усяславіча. "Полацкі летапіс" распавядае пра бітву ў 1106 г. менскага князя Глеба Усяславіча з земголай.

*Пятае* летапіснае паведамленне – пра заснаванне Глебам Усяславічам трапезніцы Пячорскага манастыра ў 1108 г., а таксама пра незвычайную паводку на Дняпры, Дзясне і Прыпяце.

*Шостая* навела датуецца 1116 г. У ёй пададзены панарамны малюнак супрацьстаяння паміж Глебам Усяславічам і кіеўскімі князямі, найперш Уладзімірам Манамахам. Аўтар спачатку робіць акцэнт на завяванне Глебам земляў дрыгавічоў, захоп і спаленне Слуцка. Затым дэталёва распавядае пра паход Уладзіміра і яго сыноў, а таксама саюзнікаў на Менскае княства. Аўтар піша пра бітву пад Смаленскам, у якім Глеб зачыніўся са сваёй дружынай. Пісьменнік паведамляе пра вынікі кампаніі: захоп войскамі Уладзіміра трох гарадоў – Оршы, Копыся і Друцка. Паводле словаў летапісца, Глеб скарыўся і папрасіў аб замірэнні, на што Уладзімір ласкава пагадзіўся.

*Сёмая* навела датуецца 1119 г. Летапісец у ёй працягвае тэму змагання менскага князя Глеба Усяславіча з Уладзімірам Манамахам. Пісьменнік тут вельмі каларытна адлюстраваў трагедыю Менска, захоп горада Уладзімірам. У навеле паведамляецца пра паланенне Глеба Усяславіча, яго высылку ў Кіеў і раптоўную смерць. Прычыны смерці пісьменнік не называе.

*Восьмая* навела "Полацкага летапісу" датуецца 1128 г. У навеле гаворыцца пра новы этап змагання Полацка і Кіева за лідэрства ўжо пасля смерці Уладзімір Манамаха (1125), пераемнікам якога стаў кіеўскі князь Мсціслаў. Аўтар апісвае беспрыцэдэнтную кампанію

кіеўскіх князёў супраць гарадоў Полацкага княства. Як вынікае з "Полацкага летапісу", пасля працяглага змагання полацкім князем стаў Рагвалод-Барыс.

*Дзявятая* занатоўка датуецца 1130 г. У ёй апавядаецца пра пакаранне кіеўскім князем Мсціславам полацкіх князёў – высылку іх з жонкамі і дзецьмі ў Грэцыю. У "Полацкім летапісе" не паведамляецца пра палітычныя падзеі ў Полацку пасля высылкі князёў. Лаўрэнцьеўскі летапіс піша пра заступленне ў 1132 г. на пасад полацкага князя – *Васількі Святаславіча*, сына сасланага Святаслава*. Гэты князь кіраваў Полацкім княствам ад 1132 да 1144 г.

*Дзясятая* навела апавядае пра сумесны паход у 1135 г. Ізяслава Мсціславіча Тураўскага разам з саюзнікамі супраць Яраполка Уладзіміравіча Кіеўскага.

*Уадзінаццатай* – пра падзеі 1140 г. У ёй гаворыцца пра вяртанне з Грэцыі двух сасланых туды полацкіх князёў Рагвалодавічаў – Васіля і Івана. Тут жа летапісец тлумачыць прычыну высылкі іх у Грэцыю – спрыянне "шалудзіваму Баняку" – палавецкаму хану.

*Дванаццатая* значная занатоўка паведамляе пра дынастычны шлюб, парадненне паміж кіеўскімі і полацкімі князямі ў 1143 г.

Затым у "Полацкім летапісе" змешчана значная група навел пра эпоху княжання полацкага князя *Рагвалода Барысавіча*.

*Трынаццатая* навела паведамляе пра жаніцьбу полацкага князя Рагвалода Барысавіча з дачкой Ізяслава Мсціслававіча ў 1143 годзе. Тут жа змешчаны звесткі пра з'яўленне ў Полацку новага епіскапа – Кузьмы. Такім чынам, "Полацкі летапіс" яскрава засведчыў, што ў 1143 г. на ўсходнеславянскай палітычнай сцэне з'явілася новая буйная фігура – Рагвалод Барысавіч, унук Усяслава, які неўзабаве парадніўся з кіеўскімі князямі. Апошнія на чале з Усеваладам і ў атачэнні шматлікіх баяраў нават прыязджалі ў Полацк на вяселле.

*Чатырнаццатая* надзвычай каштоўная мікранавела "Полацкага летапісу" адлюстроўвае падзеі 1151 г. У навеле паведамляецца пра паўстанне ў Полацку, у выніку якога Рагвалод Барысавіч быў пазбаўлены пасады і высланы ў Менск. На яго месца, паводле "Полацкага летапісу", быў абраны Расціслаў Глебавіч.

*Пятнаццатая* навела пад 1158 г. адлюстроўвае падзеі змагання за Тураў і Пінск.

*Шаснаццатая* навела змешчана ў "Полацкім летапісе" пад 1159 г. У ёй паведамляецца пра ўцёкі Рагвалода Барысавіча, унука Усяслава, з палону з Менска, яго прыезд у Слуцк, перапіску з дручанамі, дзе ён

* ПСРЛ. М., 1962. Т. 1. Слп. 302.

быў прыняты як князь. А затым – вяртанне 8 ліпеня 1159 г. пасады полацкага князя.

*Сямнаццатая* навела распавядае пра паход Рагвалода Глебавіча на Менск у 1160 г.

*Васямнаццатая* навела – пра другі паход Рагвалода Глебавіча на Менск у 1161 г.

*Дзевятнаццатая* навела прысвечана падзеям паходу Рагвалода на Валадара ў 1162 г. пад Гарадзец. Як вынікае з "Полацкага летапісу", няўдалы паход Рагвалода на Валадара Глебавіча прывёў да страты ім пасады полацкага князя. На яго месца палачане абралі Усяслава Васількавіча. Такім чынам, на палітычную авансцэну выходзіць новы персанаж – полацкі князь *Усяслаў Васількавіч.*

У *дваццатым* летапісным паведамленні пад 1165 г. змяшчаюцца звесткі пра тое, што Віцебскам валодаў князь Давыд Расціславіч, а Красны быў аддадзены Раману, унуку Вячаслава. Як вынікае з прыведзенага летапіснага тэксту, Віцебск у другой палове XII ст. трапіў у сілавое поле Смаленскага княства.

*Дваццаць першая* навела падаецца пад 1167 г. У ёй адзначаны рост палітычнага ўплыву *Валадара Глебавіча,* які пачаў праводзіць актыўную знешнюю палітыку, атакаваў Полацк і вёў змаганне з Усяславам Васількавічам. Валадар, ужыўшы адмысловую вайсковую тактыку, перамог у бітве і захапіў Полацк.

*Дваццаць другая* навела – пра паход на Кіеў у 1174 г. кааліцыі ўсходнеславянскіх князёў пад эгідай Андрэя Багалюбскага. Паводле яго загаду ўсе полацкія, тураўскія, пінскія і гарадзенскія князі з дружынамі ўдзельнічалі ў адказнай вайсковай аперацыі.

*Дваццаць трэцяя* навела адлюстроўвае падзеі вайсковага паходу наўгародскіх князёў супраць Полацка ў 1178 г. На дапамогу Полацку тады прыйшоў смаленскі князь Раман Расціславіч.

*Дваццаць чацвёртая* навела распавядае пра падзеі 1180 г., калі быў здзейснены паход кіеўскіх князёў на Друцк і друцкага князя Святаслава. У ёй таксама гаворыцца пра прыход полацкіх князёў на дапамогу Друцку. Апавядаецца пра заганны ўчынак смаленскага князя Давыда, які ў крытычны момант адмовіўся ад бітвы.

*Дваццаць пятая* навела пра паход Давыда Расціславіча са Смаленска і іншых князёў на Полацк. У "Полацкім летапісе" яна змешчана пад 1186 г. Як вынікае з тэксту, праліцця крыві не адбылося, усё пашанцавала ўладзіць мірным шляхам.

*Дваццаць шостая* навела "Полацкага летапісу" адлюстроўвае падзеі 1197 г., падчас якіх менскі князь Васілька Уладзіміравіч перамог смаленскіх князёў.

Такім чынам, на старонках "Полацкага летапісу" створаны яркія вобразы тагачасных князёў і валадароў. У творы фігуруюць найперш сыны Усяслава Чарадзея – Давыд, Барыс, Глеб, Раман, Святаслаў і Расціслаў.

Найбольш значны вобраз полацкага князя Давыда Усяславіча. У "Полацкім летапісе" гаворыцца, што ён заняў княжацкі пасад пасля бацькі. Князь Давыд з'яўляўся прыхільнікам палітычнага альянсу славянскіх народаў, у выніку чаго ў 1103 г. ён актыўна ўдзельнічаў у сумесным паходзе ўсходнеславянскіх князёў супраць полаўцаў.

Вельмі каларытна ў "Полацкім летапісе" намаляваны вобраз Глеба Усяславіча, які валодаў Менскім княствам. Як сведчыць летапіс, Глеб праводзіў незалежную ад Кіева палітыку і не баяўся адкрыта канфліктаваць з Уладзімірам Манамахам. У 1106 г. ён здзейсніў паход на земголу. Пазней Глеб Усяславіч заваяваў землі дрыгавічоў, захапіў Слуцк. У 1116 г, а затым і ў 1117 г. Глеб мусіў ваяваць з кіеўскімі князямі, войскі якіх прыйшлі пад Менск, каб скарыць князя, падпарадкаваць яго сваёй уладзе. У выніку складанага супрацьстаяння князь Глеб Усяславіч адстаяў незалежнасць Менскага княства. Ворагі мусілі адступіць ні з чым. Аўтар "Полацкага летапісу" распавядае пра трагічны лёс героя, яго паланенне ў 1119 г., высылку ў Кіеў і раптоўную смерць. Такім чынам, на старонках твора Глеб Усяславіч паўстае як гераічная асоба, велічны эпічны герой. Ён сапраўды з'яўляўся значнай гістарычнай асобай, меў свой княжацкі знак, сімвал улады – двухзубец з крыжом наверсе.

Адна з цэнтральных фігур "Полацкага летапісу" – князь Рагвалод Барысавіч, унук Усяслава Чарадзея. У творы ён пададзены як адна з ключавых палітычных фігур сярэдзіны XII ст. Летапісец паведамляе пра яго жаніцьбу ў 1143 г. з дачкой Ізяслава. Праз гэты дынастычны шлюб Рагвалод Барысавіч стварыў альянс Полацка з Кіевам. Але ў 1151 г. палачане пазбаўляюць яго княжацкай пасады і высылаюць у Менск, дзе ён жыў у нястачы. Толькі ў 1159 г. дручане запрасілі яго на княжанне ў свой горад. У той жа год прыхільнікі Рагвалода ў Полацку перамаглі і таксама запрасілі яго вярнуцца назад у Полацк на пасаду князя, што ён і зрабіў. Затым, у 1160 і 1161 гг. Рагвалод здзяйсняе вайсковыя паходы на Менск. Велізарныя людскія страты падчас паходу 1162 г. на Валадара пад Гарадзец абурылі дружыну. Полацкае веча зноў, і на гэты раз канчаткова, пазбавіла Рагвалода Барысавіча княжацкай пасады. Палачане запрасілі да сябе князем Усяслава Васількавіча.

Верагодна, стыль і асобныя ацэнкі падзей полацкіх летапісцаў былі з часам у нейкай ступені зменены іншымі аўтарамі, але інфар-

мацыйнае ядро, гістарычныя факты і логіка аповедаў у “Полацкім летапісе” ў цэлым захаваныя.

Такім чынам, “Полацкі летапіс” – надзвычай каштоўны помнік беларускай гістарыяграфіі і прыгожага пісьменства XII ст. У ім найбольш поўна адлюстраваны тагачасныя падзеі барацьбы за палітычнае лідэрства на ўсходнеславянскіх абшарах паміж Полацкам, Кіевам, Смаленскам, Менскам і Друцкам. Твор яскрава асвятляе вострае палітычнае і вайсковае змаганне найбольш уплывовых княжацкіх дынастый за валоданне Полацкай зямлёй і полацкім княжацкім пасадам.

“Полацкі летапіс” у асноўным рэканструяваны паводле Іпацьеўскага летапісу (ПСРЛ. М., 1962. Т. 2. Слп. 253; 256; 257; 259; 282–283; 285; 292–293; 293; 303–304; 313; 314; 445–446; 491–492; 493–496; 505; 512; 519; 525; 526–527; 574–575; 608–609; 620–621). Заключны запіс шаснаццатай навелы за 1159 г. рэканструяваны паводле Васкрасенскага летапісу (Летопись по Воскресенскому списку // ПСРЛ. М., 2001. Т. 7. С. 71).

Чацвёрты, пяты і дваццаць пяты запісы рэканструяваны паводле Лаўрэнцьеўскага летапісу (ПСРЛ. М., 1962. Т.1. Слп. 281; 283; 403).

Дзесяты і дваццаць шосты запісы рэканструяваны паводле Радзівілаўскага летапісу (Радзивиловская летопись: текст, исследование, описание миниатюр. СПб.; М., 1994. Арк. 195 адв.; 241 адв.)

## Полацкі летапіс

### I

И посласта [Володимер] к Давидови и к Олгови глаголища:

– Поидита на половци. А любо будем живи, любо мертви.

*Давид* же послуша ею.

### II

Сего же 6612 (1104) лета исходяща, посла Святополк Путяту на Менеск. А Володимер посла сына своего Ярополка. А Олег сам иде на Глеба, поемъше Давыда Всеславича. И не вспеша ничто же, и възратишася опять.

III

Том же 6613 (1105) лете постави Мину Полотьске. Месяца декабря в 13 день том же лете явися звезда с хвостом на западе и стоя.

IV

В том же 6614 (1106) лете победиша зимегола Всеславич. Всю братию и дружины убиша 9 тысящь.

V

Иже ю [трапезницю Печерьскага манастыря] и заложи повеленьем *Глебовым*. Иже ю и стяжа. В сем лете вода бысть велика въ Днепре, и в Десне, и въ Припете.

VI

В лето 6624 (1116). Приходи Володимер на Глеба.

Глеб бо бяше воевал дреговичи и Случеск пожег, и не каяшеться о сем, ни покоряшеться но боле противу Володимеру глаголяше, укаряе и.

Володимер же надеяся на Бога и на правду поиде къ Смоленьску съ сынами своими и с Давыдом Святославичем и Олговичи. И взя Вячеслав Ръшю и Копысу. А Давыд съ Ярополком узя Дрьютеск на щит. А Володимер сам поиде къ Смоленьску.

И затворися Глеб въ граде.

Володимер же нача ставити истьбу у товара своего противу граду.

Глебови же узрившю, ужасеся сердцем. И нача ся молити Глеб Володимеру, шля от тебе послы.

Володимер же съжалиси теж оже проливашеться кровь въ дни постъныя великого поста и вдасть ему мир.

Глеб же вышед из города съ детми и съ дружиною поклонися Володимеру и молвиша речи о мире.

И обещася Глеб по всему послушати Володимера. Володимер же омирев Глеба и наказав его о всем вдасть ему Менеск, а сам възратися Киеву.

Ярополк же сруби город Желъди дрьючаном, их же бе полонил.

## VII

В лето 6627 (1119) Володимер взя Менеск у Глеба у Всеславича. Самого приведе Кыеву. Том же лете преставися Глеб в Киеве Всеславич, семтября в 13 день.

## VIII

Того же лета 6636 (1128) посла князь Мьстислав съ братьею своею многы Кривичи четырьми путьми, – Вячьслава ис Турова, Андрея из Володимеря, Всеволодка из Городка и Вячьслава Ярославича ис Клечьска. Тем повеле ити къ Изяславлю. А Всеволоду Ольговичю повеле ити съ своею братьею на Стрежев къ Борису. Ивана Воитишича посла с Торкы. И сына своего Ростислава посла Съмолоньяны къ Дреутьску. Рек им:

– Въ динъ день всим пустити на вороп, месяца августа въ первыи на десять день.

Изяслав же ускори днем перед братьею, зая люди от града, они же устрашившееся передашася. А изяславци почаша битися с Вячьславом и съ Андреем. Изяслав же перестряп два дни у Логожска и идее къ Изяславлю къ строеви своему, водя съ собою Брячислава зятя своего, иже бяше пошел къ отцю своему и быв посреде пути и острашився не мога поити ни семо ни онамо, и идее шюрину своему в руце и логожаны приведе, же бе вывел изъ Логожьства.

И видивше изяславчи князя своего и логожаны оже бе пакости суть переяли и дашася рекше Вячьславу:

– Призови ны Бога яко нас не даси на щит.

И бы вечер. Воротислав, Андреев тысячькыи, и Иванко Вячьслав власта отрокы своя в город и свитающю увидивше

вси вои тако взяша, и в ночи и одва Мьстиславны товар ублюдоша, и то с нужею бьючеся. И тако узворотишася съ многым полоном. Потом же и новгородчи придоша съ Мьстиславичем съ Всеволодом къ Неклочу.

И тако полочане сътъснувшеси выгнаша Давыда и съ сынми. Поемъше *Рогъволода* идоша и ко Полотьску.

IX

Се же лето 6638 (1130) поточи Мьстислав полотьскии князе съ женами и с детми въ Грекы, же преступиша хрестьное целование.

X

В лето 6643 (1135) ис Турова идее Изяслав в Менеск. Оттоле же иде ко братии своей к Новугороду. И сложишася со Олговичи и со Давыдовичи, и въсташа вси на рать.

XI

В то же время [6648] (1140) взидоста княжича два ис Царягорода. Заточении били Мьстиславом великым, князем киевьскым, зане не бяхоть его воли и не слышахуть его, коли е зовяшеть в Русскую землю в помощь, но паче молвяху Бонякови шелудивому во здоровье. И про се ся и Мьстислав разъгневася на не и хотяше на ня ити, но нелзе бо бяшеть ити, зане бяху бо тогда налегли половци на Русь... И упорозьняся Мьстислав от рати и помяну первеи посла по Кривитьстеи князе по Давыда по Ростислава и Святослава и Рогволодича два. И усажа у три лодьи и поточи и Царюграду за неслушание их. А мужи свои посажа по городом их.

XII

В то же лето (6651) приведе Всеволод за сына своего Святослава Васильковну, полотьского князя.

## XIII

Того лета 6651 (1143) Изяслав отда дчерь свою Полотьску за *Борисовича за Рогъволода.* И Всеволод князь киевьскии прииде и съ женою и съ всими бояры на свадбу. В то же лето поставиша епископа Полотьску Козму.

## XIV

Том же лете 6659 (1151) яша полотчане *Рогъволода Борисовича* князя своего и послаша Меньску и ту и держаша у велице нужи. А Глебовича к собе уведоша. И прислашася полотьчане къ Святославу Олговичю с любовью яко имети отцем собе, и ходити в послушаньи его. И на том целоваша хрест.

## XV

Том же лете 6666 (1158) иде Изяслав на Ярославича к Турову. И с ним иде Ярослав из Лучьска, и Андреевич Ярополк, и Галичьская помочь, и Ростиславич Рюрик с смоляны, и Володимир Мьстиславич. Тому бо искаху Турова и *полочане* пришедше к Турову. Пожегоша села около его. И воеваша Берендичи около Пиньска. И за Припятью. И бьяхуть крепко выходячи из города и много бывавше язвенных. И многу молбу створиваше Гоурги Ярославич, высылая из города к Изяславу, река:

– Брате, прими мя в любовь к собе.

Изяслав же того не въсхоте, но всяко хотяще под ним взятии Туров и Пинеск. И стояша около города недель 10 и бысь мор в коних. И тако не успевше ему ничтоже, възвратишася въ свояси, не створше с ним мира. И мнози пеши придоша с тое войны.

## XVI

Том же лете 6667 (1159) иде Рогъволод Борисовичь от Святослава от Олговича искать собе волости. Поем полк

Святославль, зане не створиша ему милости ему братя его. Вземше под ним волость его и жизнь его всю.

И приехав къ Случьску, и нача слатися ко Дрьючаном.

Дрьючане же ради быша ему и приездяче к нему вябяхут и собе рекуче:

– Поеди княже, не стряпаи ради есме тобе. Аче ны ся и детьми бити зя тя. А рады ся бьем за тя.

И выехаша противу ему боле 300 лодии дрьючан и полчан. И вниде в город с честью великою. И ради быша ему людие. А Глеба Ростиславича выгнаша, и двор его разграбиша горожане, и дружину его.

И приде же Глеб къ отцю.

И мятежь бысть велик в городе въ Полчах. Мнози бо хотяху Рогъволода. Одва же останови людье Ростиславль. И одарив многыми дарми и води я къ Хрысту.

А сам иде съ Всеволодом и с Володарем и съ всею братею на Рогволода къ Дрьютьску.

Рогъволод же затворися в городе. И бъяхуся крепко и много от обоих падаху.

Дрьючане же укаривахуть много. И створи мир Ростислав с Рогволодом и целоваша хрест межи собою.

И прида волости Рогъволоду, и воротися Ростислав съ братею своею въ свояси.

Том же лете свет зол свещаша на князя своего полочане на Ростислава на Глебовича. И тако приступиша хрестное целование, на том бо целовали бяше хрест к нему, яко:

– Ты нам князь еси и дай ны Бог с тобою пожити. Извета никакого же до тебе доложити, и до хрестного целованиа.

И тако съступиша еже рекше. И послашася в таине к Рогволоду Борисовичю Дрьютьску, рекучи ему:

– Княже наш, съгрешили есмь к Богу и к тобе. Оже въстахом на тя без вины. И жизнь твою всю разазграбихом, и твоея дружины. А самого емше выдахом тя Глебовичем на великую муку. Да аще ныне помянеши всего, иже створихом своим безумием, и хрест нам целуеши, то мы людие

Шмат увагі ў "Хаджэнні" надаецца апісанням месцаў пахавання святых айцоў Царквы. Пісьменнік падкрэсліваў цудадзейныя ўласцівасці іх астанкаў, з дапамогай якіх людзі вылечвалі розныя хваробы.

Пісьменніка вабіла ўсё незвычайнае, экстраардынарнае. Так, ён засяроджвае сваю ўвагу на крыжы, усталяваным на Кіпры святой Алёнай, які неверагодным чынам вісіць у паветры, нічым не падмацаваны на зямлі.

Данііл распавядае пра выбітныя гарады і паселішчы на Святой зямлі, асобныя знакамітыя пабудовы, цэрквы, лаўры і манастыры.

Асабліва дэталёва Данііл распавёў пра царкву Уваскрэшання ў Ерусаліме, дзе знаходзіцца Труна Гасподняя. Аўтар узнаўляе літаральна ўсе яе дэталі, кожную рэч і прадмет, іх размяшчэнне і памеры. Асабліва ўзрушана пісьменнік намаляваў сцэну зыходжання святога агню, ад якога запальваюць свечкі хрысціяне па ўсім свеце.

Вельмі маляўніча ў творы апісана рака Іардан. Пісьменнік паведамляе пра лекавыя ўласцівасці яе вады.

Стыль "Хаджэння" надзвычай дасканалы. Мова выкладу вельмі дакладная і каларытная. Заключная частка "Хаджэння", якая пачынаецца словамі: "*І калі наступіла сёмая гадзіна дня суботняга...*" напісана прозай з высокай ступенню рытмізаванасці, што надае твору велічнасць і ўрачыстасць, узнёсласць і святочнасць.

Пераклад "Хаджэння" Данііла выкананы паводле выдання: Памятники литературы Древней Руси: XII в. М., 1980. С. 24–114.

## Хаджэнне

Я, сціплы ігумен Данііл, з рускай зямлі – найгоршы з усіх манахаў, абцяжараны шматлікімі грахамі і няздатны да карысных спраў. Мною авалодала думка і нясцерпнае жаданне ўбачыць святы горад Ерусалім і абяцаную зямлю.

З Божай дапамогай я дайшоў да святога горада Ерусаліма і ўбачыў Святую зямлю. Я прайшоў па ўсёй Галілейскай зямлі, быў у горадзе Ерусаліме, агледзеў усе святыя мясціны, дзе Хрыстос – наш Бог – хадзіў уласнымі нагамі і тварыў вялікія цуды.

Усё бачыў я сваімі грэшнымі вачыма. Незлаклівы Бог дазволіў мне сузіраць тое, да чаго імкнуўся я ў думках шмат дзён.

Браты і бацькі, гаспадары мае, – даруйце мне грэшнаму! Не дакарайце мяне за недахоп ведаў і грубасць майго розуму, калі пішу я пра святы горад Ерусалім, тыя выдатныя мясціны і мае вандроўкі па Святой зямлі.

Той, хто ходзіць святымі шляхамі са страхам у сэрцы і пакорліва, – той не грашыць супраць Божай ласкі. Але я не належна паводзіў сябе на Святой зямлі – ленаваўся і стамляўся, напіваўся і чыніў усялякія брыдкія справы. Але спадзяюся на ласку Божую і вашы малітвы. Няхай даруе Хрыстос Бог мае незлічоныя грахі.

Апісаў я ўласны шлях і тыя святыя мясціны без самаўсхвалення, бо не ўчыніў нічога добрага падчас тае вандроўкі. Але дзеля вялікага ўшанавання тых месцаў я занатаваў усё, што бачыў на ўласныя вочы, а таксама, каб не забыцца пра тое, што Бог дазволіў мне сузіраць, хаця я таго і не варты.

Я баяўся асуджэння, як той лянівы раб, што схаваў свой талент ад гаспадара і не атрымаў ад яго прыбытку. Таму напісаў усё для верных людзей. Магчыма, пасля нехта з іх, пачуўшы пра святыя месцы, памкнецца туды душой і думкай, атрымае ад Бога ўзнагароду разам з усімі, хто дойдзе да Святой зямлі.

Шмат добрых людзей, што знаходзяцца дома ў сваіх краях, сваімі думкамі, міластыняй да ўбогіх і ўласнымі добрымі ўчынкамі дасягаюць гэтых святых месцаў, атрымліваюць вялікую ўзнагароду ад Бога і нашага Выратавальніка Ісуса Хрыста. Але шмат ёсць і тых, хто даходзіць да гэтых святых месцаў, да святога горада Ерусаліма, узносяцца сваім розумам, быццам бы ўчынілі штосьці добрае, – губляюць узнагароды за свае працы. Першы з іх – я.

Ёсць шмат і такіх, якія наведваюць святы горад Ерусалім, але не бачаць многіх добрых рэчаў. Яны зноў ідуць туды, але імкнуцца хутка адолець шлях. Калі праходзіць Святую зямлю імкліва, дык не здолееш агледзець усе святыя месцы ў тым горадзе Ерусаліме і за горадам.

### *Пра Ерусалім, пра лаўру*

Я, няварты ігумен Даніїл, прыйшоў у Ерусалім і прабыў там 16 месяцаў у лаўры святога Савы. За гэты час я здолеў абысці і агледзець усе святыя месцы. Без добрага праваднiка і без ведання мовы складана дазнацца і даведацца пра ўсе святыя мясціны. Таму я аддаваў усё, што меў, з майго сціплага скарбу, тым, хто добра ведаў святыя месцы ў горадзе і за горадам, каб яны паказвалі і распавядалі мне пра ўсё грунтоўна. І дапамог мне Госпад сустрэць у лаўры святога чалавека сталага веку і вельмі начытанага. Таму святому чалавеку Бог паклаў на сэрца ўшанаваць мяне гаротнага. Акурат ён і паказаў мне добра ўсе святыя мясціны, павадзіў па Ерусаліму і завёў да ўсіх святых месцаў – да Тыверыядскага мора, да Фавора, у Назарэт, да Хеўрона і Іардана. Вельмі шмат аддаваў мне ўвагі дзеля ўшанавання мяне. І шмат іншых святых рэчаў я бачыў, пра якія ніжэй распавяду.

### *Пра шлях да Ерусаліма*

Вось які шлях да Ерусаліма. Ад Царграда трэба ісці ўздоўж марскога берага трыста вёрст да Вялікага мора (Міжземнага). Да Петалы-вострава – сто вёрст. Гэта першы востраў на вузкім моры. Там добры заліў і там знаходзіцца горад Іраклія Вялікага. Насупраць таго горада святое міра зыходзіць з марскіх глыбіняў, бо там шмат святых пакутнікаў было знішчана душагубамі.

Ад Піталы-вострава да Каліполя – сто вёрст. А ад Каліполя да горада Авіда – восемдзесят вёрст. Насупраць таго горада ляжыць святы Яўфімій Новы. А адтуль да Крыта – дваццаць вёрст. Там знаходзіцца выхад у Вялікае мора: налева – да Ерусаліма, а направа – да Святой гары, да Салуні і да Рыма.

Ад Крыта да вострава Тэнеда – вёрст трыццаць. Гэта першы востраў у Вялікім моры і там ляжыць святы Наўгудзімас-пакутнік. Насупраць таго вострава, на беразе, знаходзіцца вялікі горад, які мае назоў Траада. Тут апостал Павел праходзіў і навучыў усю краіну, і хрысціў людзей.

Ад Тэнеда-вострава да Метаніі-вострава – сто вёрст. Там ляжыць святы мітрапаліт Мелецінскі. А ад Мелеценіі да вострава Ахія – сто вёрст. Там ляжыць святы пакутнік Ісідор. На тым востраве расце масцічная смала, усялякія плады і выпрабляецца добрае віно.

### *Пра горад Эфес*

Ад Ахія-вострава да горада Эфеса – 60 вёрст. Там знаходзіцца труна Яна Багаслова. З яе выходзіць святы елей у дзень памяці яго. Вернікі збіраюць той цудадзейны елей для лекавання розных хваробаў. Світка святога Яна, у якой ён хадзіў, гэтаксама ляжыць там.

Непадалёк знаходзіцца пячора, дзе ляжаць астанкі сямі дзетак, якія спалі 360 год. Яны заснулі пры цары Дэкіі, а прачнуліся пры цары Феадосіі. У той пячоры ляжаць трыста святых айцоў. Тут ляжыць святы Аляксандр, труна Магдаліны Марыі і яе галава. У спарахнелай труне ляжыць святы апостал Цімафей – вучань святога апостала Паўла. Там, у старой царкве, ёсць абраз Святой Багародзіцы, з дапамогай якога святыя айцы перамаглі Несторыя-ерэтыка. Ёсць там Дыяскарыдава лазня, дзе працавалі Ян Багаслоў з Прохарам у Раманы. Бачыў тую прыстань, на якую мора выкінула Яна Багаслова. Там я стаяў тры дні. Тая прыстань мае найменне Мурмуровай.

Горад Эфес стаіць на сухім месцы, на гарах, за чатыры вярсты ад мора. Там поўна ўсялякага дабра.

Мы пакланіліся той святой труне, а затым пайшлі пад аховай Божай ласкі і малітваў святога Яна Багаслова.

Ад Эфеса-горада да Сама-вострава – сорак вёрст. На тым востраве безліч усялякай рыбы і ўсяго іншага ў вялікім дастатку.

Ад Сама да Карыя-вострава – 20 вёрст.

### *Пра востраў Патм*

Ад Карыя да вострава Патма – 60 вёрст. Востраў Патм знаходзіца далёка ў моры. На тым востраве Ян Багаслоў напісаў Святое Евангелле, калі быў сасланы туды разам з Прохарам.

Далей знаходзіцца востраў Лерос, затым востраў Калімнас, а таксама востраў Нісера. Потым, вельмі вялікі паводле памераў, – востраў Кос. Востраў Кос шчыльна заселены людзьмі, там шмат рознай жыўнасці.

Непадалёк востраў Тылас. На тым востраве Ірадава мука кіпіць і выдзяляе гарачую серу. Гэтую звараную серу затым прадаюць. Мы ж з яе дапамогай высякаем агонь.

Ёсць тамака і востраў Харкія.

Усе тыя астравы размешчаны ў адзін рад. Адлегласць паміж імі прыкладна дзесяць вёрст. Яны заселеныя людзьмі і на іх шмат усялякай скаціны.

### *Пра востраў Род*

Далей – востраў Род. Ён даволі вялікі і надзвычай багаты. На ім калісьці дзве зімы і два леты быў Алег – рускі князь. Ад Сама да вострава Рода – 200 вёрст.

Ад Рода да Макрыі – шэсцьдзесят вёрст. У тым горадзе і ва ўсёй той зямлі, да самых Мір, – расце чорны фіміям гамфіт.

Вось як здабываюць чорны фіміям гамфіт. З дрэва сачыцца рэчыва, як быццам бы смала. Яго здымаюць вострым жалезам. Дрэва тое называецца зігія і ў нечым падобнае да вольхі. Другое невялічкае дрэўца, падобнае да асіны, называецца рака. У ім, пад карою, жыве вялікі чарвяк, значных памераў. Ён точыць тое дрэўца і з яго сыплецца труха, нібы памолатая пшаніца. Яна вісіць на дрэўцы накшталт вішнёвага клея. Людзі збіраюць гэтае рэчыва, а затым змешваюць яго з выдзяленнямі з вышэйназванага дрэва, кіпяцяць у катле і так атрымліваюць фіміям гамфіт. Затым кладуць яго ў мяшкі і прадаюць купцам.

Ад Макарыі да горада Пацера – 40 вёрст. Тут нарадзіўся святы Мікола. Горад Патэра – яго радзіма. А ад Патэра да Мір, дзе стаіць труна Міколы, – 40 вёрст.

Ад Мір да Хілідонія – 60 вёрст. А ад Хілідонія да Кіпра, вялікага вострава, – дзвесце вёрст.

### *Пра востаў Кіпр*

Кіпр – вельмі вялікі востраў. На ім жыве шмат людзей і ён вельмі багаты ўсялякім дабром. Там ўсталяваныя

24 епіскопіі і адна мітраполія. На востраве ляжыць безліч святых – святы Епіфаній, апостал Варнава, святы Зянон, святы епіскап Трыфолій, святы епіскап Філагрыяс, якога хрысціў апостал Павел.

### *Пра гару, дзе святая Алёна ўсталявала крыж*

На Кіпры ёсць вялікая гара. На ёй святая Алёна паставіла вялізны кіпарысавы крыж, каб адганяць д'яблаў і лекаваць ад усялякіх хваробаў. І паклала яна ў той крыж сапраўдны цвік Хрыстовы. Каля таго крыжа здараюцца незвычайныя цуды і да цяперашняга часу. Крыж вісіць у паветры, нічым не прымацаваны да зямлі. Перад тым святым крыжам я, няварты, схіліў калені і на свае вочы ўбачыў Божую ласку. Потым я як след агледзеў увесь востраў.

### *Пра фіміям*

Там, на Кіпрскім востраве, нараджаецца фіміям. Ён спадае з нябёсаў і яго збіраюць з дрэўцаў. У гарах шмат нізкарослых дрэўцаў, роўных траве, на якія акурат і асядае той фіміям. Збіраюць яго ў ліпені і ў жніўні. У іншыя месяцы ён не з'яўляецца.

Ак Кіпра да горада Яфы – чатырыста вёрст морам. Ад Царграда да Рода – 800 вёрст і ад Рода да Яфы – 800 вёрст. Увесь шлях да Яфы морам – 1600 вёрст.

Яфа стаіць на беразе мора, ад яе недалёка да Ерусаліма. Ад Яфы да Ерусаліма шлях па сушы каля 30 вёрст. Полем ісці 10 вёрст да святога Георгія. Там узведзена агромністая царква ў гонар святога Георгія, у алтары якой знаходзілася яго труна. На тым месцы святы Георгій быў закатаваны. Каля царквы, блізу крыніцы, адпачываюць пілігрымы, праўда, з вялікім страхам, бо месца там надта пустыннае. Непадалёк знаходзіцца горад Аскалон, адкуль налятаюць сарацыны і збіваюць пілігрымаў. Хадзіць у горы ў тым месцы наогул небяспечна. Ад святога Георгія да Ерусаліма – 20 вялікіх вёрст. Шлях пралягае па камяністых гарах – вельмі цяжкі і небяспечны.

### *Пра гару Армафем*

Непадалёк ад Ерусаліма ёсць высокая гара, з правага боку, калі ісці ад Яфы. Найменне той гары – Армафем. На ёй знаходзіцца труна святога прарока Самуіла, а таксама труна айца Элкана і Марыі Егіпецкай. Тут была вёска і жытло святых. Абнесена тое месца агароджай. І тая агароджаная тэрыторыя гэтаксама называецца Армафем.

### *Пра Ерусалім*

Святы горад Ерусалім размешчаны ў цясніне. Ён заціснуты паміж высокіх камяністых гор. Калі набліжаешся да горада, здалёк бачыш высачэзны слуп Давыда, а потым, калі пройдзеш далей, відаць Елеонскую гару, Святая Святых, царкву Уваскрэшання, дзе знаходзіцца Труна Гасподняя, а потым – адкрываецца ўвесь горад.

На адлегласці вярсты ад горада ёсць пакатая гара. На ёй усе людзі спускаюцца з коней. Гледзячы на горад, яны хрысцяцца і кланяюцца царкве святога Уваскрэшання. Вялікая радасць ахоплівае кожнага хрысціяніна, калі ён сузірае Ерусалім. Тут на вачах вернікаў часта з'яўляюцца слёзы. Ніхто не можа не праслязіцца, калі бачыць тую жаданую і Святую зямлю, дзе наш Бог – Хрыстос – трываў пакуты дзеля нас грэшных! Адтуль усе пешкі ідуць да Ерусаліма з невымоўнай радасцю на сэрцы.

З левага боку дарогі стаіць царква святога Стафана Першапакутніка. На тым месцы Стафан быў забіты іудзеямі, там знаходзіцца і труна яго.

Тут ёсць каменная плоская гара, якая прасела падчас укрыжавання Хрыста. Тое месца называецца *Ад*. Яно знаходзіцца непадалёк ад гарадской сцяны, як кінуць.

Затым усе людзі з вялікім узрушэннем уваходзяць у святы горад Ерусалім праз браму, каля слупа Давыда. Тая брама знаходзіцца з боку Віфліема. Там ёсць і брама Веніяміна.

Калі ўваходзіш у горад, бачыш з правага боку шлях у горад Святая Святых. А з левага боку – шлях да царквы Святога Уваскрэшання, дзе знаходзіцца труна Госпада.

### *Пра царкву Уваскрэшання Госпада*

Царква Уваскрэшання Госпада мае адмысловае аблічча. Яна круглая паводле формы, мае дванаццаць суцэльных круглых слупоў і шэсць квадратных складзеных слупоў. Замошчана яна вельмі прыгожа – чырвонымі мармуровымі плітамі. У царкве ёсць шэсць дзвярэй. На яе хорах размешчаны шаснаццаць слупоў. А над хорамі, на столі, мазаікай выкладзены выявы святых пракокаў – нібы жывыя стаяць. Над алтаром размешчана мазаічная выява Хрыста. На алтары вялікая мазаіка з выявай Адамавага ўзвышэння. Далей, уверсе – мазаічнае ўзнясенне Госпада. З двух бакоў алтара, на слупах – выявы дабравешчання. Верх царквы не да канца выкладзены каменем, яна завяршаецца каркасам з цясанага дрэва. Яна, такім чынам, не мае даху і нічым не пакрытая. Якраз пад тым непакрытым верхам і знаходзіцца Труна Госпада.

Труна Госпада мае такі выгляд. Яна нагадвае маленькую пячорку, высечаную з каменя, з маленькімі дзверцамі, праз якія можа прайсці чалавек, калі апусціцца на калені. Яна не надта высокая, а ў шырыню і ў даўжыню мае чатыры локці. Калі ўшчэмішся ў тую маленькую пячорку праз маленькія дзверцы, дык з правага боку ўбачыш лавачку, высечаную з таго ж каменя. На той лаўцы ляжала цела нашага Ісуса Хрыста. Цяпер тая лавачка накрыта мармуровымі пліткамі. Збоку зроблены тры акруглыя акенцы. Дзякуючы ім бачны святы камень, які цалуюць усе хрысціяне.

У Труне Госпада вісяць пяць вялікіх кандзіл з маслам і бесперапынна гараць удзень і ўначы. Тая святая лаўка, на якой ляжала цела Хрыстова, мае ў даўжыню чатыры локці, а ў шырыню – два локці, а паводле вышыні – паўлокця.

Перад дзвярыма пячоры ляжыць камень, на адлегласці трох ступнёў ад пячорных дзверцаў. На тым камені з'явіўся анёл жанчынам і паведаміў добрую вестку пра ўваскрэшанне Хрыстова.

Тая святая пячорка звонку накрыта чырвоным мармурам, нібы амбон. Вакол яе стаяць 12 слупкоў з чырвонага

мармура. Над пячоркай узведзены прыгожы палац, на якім зверху стаіць Хрыстос, выраблены з серабра. Ён вышэй за чалавечы рост. Яго ўстанавілі фрагі і дагэтуль ён стаіць там, пад самым тым непрыкрытым верхам. Палац мае трое дзвярэй, зробленых адмыслова, нібы рашотка з крыжоў. Праз тыя дзверы людзі ідуць да Труны Госпада.

Аб тым, што Труной Госпада з'яўлялася тая пячорка, я даведаўся ад людзей, што здаўна жылі там і якія добра ведалі ўсе святыя месцы.

Царква Святога Уваскрэшання круглая паводле формы. Яна мае ў даўжыню і шырыню 30 сажняў. У ёй ёсць прасторныя памяшканні, там, наверсе, жыве патрыярх. Адлегласць ад дзвярэй Труны да сцяны вялікага алтара – дванаццаць сажняў.

Тут, за сцяной, непадалёк ад алтара, знаходзіцца Пуп зямлі. Над ім зроблена арка, а зверху – выява Хрыста. На арцы ёсць надпіс: "Вось ступнёю маёй я вымераў неба і зямлю".

***Пра месца пасярод зямлі, дзе быў укрыжаваны Хрыстос***

Ад Пупа зямлі да Укрыжавання Госпада і да Края – 12 сажняў. Укрыжаванне Гасподняе знаходзіцца з усходняга боку на камені. Яно размешчана на вышыні, вышэй дзіды. Камень той быў круглы, нібы малая горка. А пасярод таго каменя, на самым версе, высечана адтуліна локці два глыбінёй, круглая. У шырыню яна менш за пядзь. Тут быў усталяваны крыж для Госпада. А ў зямлі пад гэтым каменем ляжыць галава першачалавека – Адама.

Падчас укрыжавання Госпада, калі наш Ісус Хрыстос спускаў свой дух на крыжы, тады разарвалася царкоўная катапетазма (заслона) і камень распалавініўся. І разышоўся той камень над Адамавай галавой. І праз тую расколіну кроў і вада з рэбраў Уладара праліласяна галаву Адама. Тая расколіна бачна на тым камені і па сённяшні дзень. З правага боку Укрыжавання Гасподняга – праведнае знаменне.

### *Пра лобнае месца*

Укрыжаванне Гасподняе і той святы камень абнесены сцяной. Уверсе над Укрыжаваннем створаны адмысловы дах, аздоблены дзівоснай мазаікай. З усходняга боку на сцяне – мазаічная выява ўкрыжаванага Хрыста, выкананая надзвычай умела. На ёй Хрыстос, нібы жывы, паводле велічыні і росту, такі, якім ён быў. З паўднёвага боку напісана гэтак жа ўмела і дзіўна зняцце Хрыста з крыжа. Сцяна мае двое дзвярэй. Уваходзіць трэба наверх па ступеньках. Да дзвярэй – сем ступенек і пасля дзвярэй – сем. Падлога зроблена з чырвонага мурмуру.

Унізе пад Укрыжаваннем, дзе ляжыць галава Адама, прыбудавана маленькая цэркаўка. Яна прыгожа аздоблена мазаікай і мае падлогу з чырвонага мармуру. Гэта акурат і ёсць Крайніева, або Лобнае месца. А вышэй, над Укрыжаваннем, – Галгофа. Ад Укрыжавання Гасподняга да Зняцця Гасподняга адлегласць пяць сажняў. А непадалёк, з паўднёвага боку, – месца, дзе раздзялілі адзенне яго. Там знаходзіцца і месца, дзе ўсклалі на галаву Хрыста цярновы вянок і плашчаніцу здзеку накінулі на яго.

### *Пра Аўрамаў ахвярнік*

І там непадалёк знаходзіцца ахвярнік Аўрама, дзе ён усклаў ахвяру Богу – барана – замест Ісака. Бо менавіта Ісак быў узведзены на тое месца, куды ўзвялі Хрыста на закланне, дзеля нас, грэшных.

А непадалёк адтуль, прыкладна два сажні далей – месца, дзе быў замучаны Хрыстос, наш Бог.

А далей, праз дзесяць сажняў, – святая турма, куды пасадзілі Хрыста і дзе ён сядзеў непрацяглы час, пакуль іудзеі ставілі крыж для яго ўкрыжавання.

Усе гэтыя святыя месцы знаходзяцца пад адзіным дахам. Усе яны стаяць у шэраг, у кірунку поўначы.

А ад турмы Хрыстовай да месца, дзе святая Алена знайшла ганаровы крыж, цвікі, вянок, кап'ё, губку і кій, – дваццаць пяць сажняў.

Господняя Труна, Укрыжаванне і ўсе гэтыя святыя мейсцы размешчаны на роўнай зямлі. Пагорак узвышаецца з заходнягя боку Труны і Укрыжавання.

І ёсць там схіл, на які прыбегла Багародзіца, калі даганяла Хрыста. Там яна прамаўляла збалелым сэрцам праз слёзы:

– Куды ідзеш, дзіця маё? Дзеля чаго гэтак спяшаешся? Ці другі шлюб у Кане Галілейскай, і туды імкнешся, Сын і Бог мой? Не адыходзь моўчкі ад мяне, якая нарадзіла цябе. Вымаві да мяне хоць адно слоўца, рабыні сваёй.

І прыйшоўшы на тое месца, святая Багародзіца ўбачыла з гары той святой Сына свайго. З Яго здзекаваліся на крыжы. Як убачыла, жахнулася і скурчылася, і села, забітая горам і плачам. Тут збылося прароцтва Сімяона, якое ён раней сказаў Багародзіцы:

– Гэта ляжыць той, з-за якога шмат хто паўстане і ўпадзе ў Ізраіле. І праз цябе самую зброя пройдзе, калі ўбачыш Сына свайго, якога прыносяць у ахвяру.

Тут жа стаялі і глядзелі іншыя людзі – сябры і тыя, хто ведаў Ісуса. Марыя Магдаліна, Марыя Іакаўлева і Саламія стаялі побач з тымі, хто прыйшоў з Галілеі з Іаанам і Ісусавай Маці. Стаялі ўсе знаёмыя і сябры Ісуса, назіралі здалёк, як і прадказваў прарок: "Сябры мае і блізкія мае воддаль ад мяне стаялі".

Знаходзіцца тое месца крыху воддаль ад Укрыжавання Хрыстовага, прыкладна ў 150 сажнях ад яго. Завецца яно Спудый, што ў перакладзе азначае "Прыспешанасць Багародзіцы". Цяпер там узведзены манастыр і царква Святой Багародзіцы з высокім клетчатым верхам.

### *Пра вежу Давыда*

Адтуль да вежы Давыда і да яго палаца дзвесце сажняў. Вежа тая належыць святому прароку Давыду. Тут жа знаходзіцца і яго палац. У той вежы прарок Давыд склаў і напісаў Псалтыр. Вежа мае надта дзівосны выгляд. Яна складзена з велізарных камянёў і вельмі высокая. Вежа чатырохкутная, вельмі трывалая і надзейная, бо зроблена з адабраных камянёў.

Унутры вежы – шмат вады. Яна мае пяць дзвярэй, 200 прыступак, па якіх падымаюцца ўверх. І збожжа ў ёй захоўваецца безліч.

Вежай не проста авалодаць. Яна ўзвышаецца над горадам. Яе моцна ахоўваюць, не дазваляюць уваходзіць абыкаму. Мне ж, беднаму і непрыгляднаму, Бог даў магчымасць наведаць тую святую вежу. З сабой я змог правесці толькі Ізяслава.

### *Пра дом Урыі*

Непадалёк ад таго слупа знаходзіўся дом Урыі, якога забіў Давыд. Ён узяў жонку Урыі, якую ўбачыў, калі яна мылася ў лазні. На месцы дома Урыі зараз метахія святога Савы. Яна знаходзіцца паблізу слупа, да яе можна дакінуць. Зараз таксама вядома, дзе стаяла тая лазня: там, дзе святая Алена знайшла святы крыж – блізу Укрыжавання Гасподняга – дванаццаць сажняў на ўсход. На гэтым месцы была ўзведзена клецкая царква вялікіх памераў, а цяпер – маленькая цэркаўка.

Тамака стаяць вялізныя дзверы, скіраваныя на ўсход. Да іх калісьці прыйшла святая Марыя Магдаліна і хацела ўвайсці ў царкву, і хацела цалаваць крыж, але яе не ўпусціла моц Святога Духа. І тады яна памалілась святой Багародзіцы, бо там, у прытворы, якраз стаяў абраз святой Багародзіцы, пасля чаго змагла ўвайсці і цалаваць святы крыж. Праз тыя дзверы яна потым выйшла ў Іарданскую пустыню.

Непадалёк ад дзвярэй, там, дзе Алена правярала святы крыж, з'явілася мёртвая вада.

Калі прайсці крыху на ўсход, то там знаходзіцца прэторыя, куды воіны прывялі Хрыста да Пілата. Там Пілат абмыў свае рукі і прамовіў: "Чысты я ад крыві гэтага праведніка". Ён збіў там Хрыста і перадаў яго іудзеям.

Там знаходзіцца іудзейская вязніца. З яе анёл вывеў сярод ночы святога апостала Паўла.

Тутака месціўся двор Іуды, здрадніка Хрыстовага. Тое праклятае падворышча стаіць і цяпер, ніхто не можа пасяліцца на тым месцы з-за пракляцця.

Калі адтуль далей ісці на ўсход, то там знаходзіцца месца, дзе Хрыстос вылечыў крываточную. Непадалёк – роў, куды быў скінуты Іерамія-прарок; там і дом яго быў. Там раней стаяў і дом Паўла-апостала, калі ён яшчэ знаходзіўся ў іудзействе.

Калі прайсці далей на ўсход і крыху збочыць, то там быў дом святога Акіма і Ганны.

Там ёсць пячора, крыху ніжэй алтара, у камені. У той пячоры нарадзілася Святая Багародзіца. У той пячоры знаходзіцца труна святых Акіма і Ганны.

### *Пра Оўчую купель*

Паблізу адтуль – прытвор Саламонаў, дзе Оўчая купель. Там Хрыстос вылечыў паралізаванага. Месца тое – на захад ад Акіма і Ганны, на адлегласці, як чалавек можа кінуць.

Крыху на ўсход ад Оўчай купелі – гарадская брама. Праз яе ўваходзяць, калі накіроўваюцца да Гефсіманіі.

### *Пра царкву Святая Святых*

Ад Уваскрэшання Хрыстова да Святая Святых адлегласць болей, чымся за два выстралы.

Царква Святая Святых дзіўна і адмыслова пабудавана, знутры аздоблена мазаікай. Прыгажосць яе – невымоўная. Паводле формы яна – круглая, звонку – дзівосныя, незвычайнай прыгажосці выявы. Сцены пакрыты мармуровымі плітамі. Замошчана яна таксама вельмі прыгожымі мармуровымі плітамі. У ёй дванаццаць круглых цэльных слупоў пад верхам, а квадратных, складзеных – восем. У ёй чацвёра дзвярэй. Яны абкаваныя пазалочанай меддзю. Купал накрыты знутры вытанчанай мазаікай, надзвычай прыгожай, а звонку, зверху, ён аббіты пазалочанай меддзю. [...]

### *Пра калодзеж, дзе анёл першы раз дабравесціў*

Ад горада Назарэта да таго святога калодзежа адлегласць прыкладна з добры выстрал.

Ля таго калодзежа было першае дабравешчанне святой Багародзіцы ад арханёла. Калі яна прыйшла па ваду і ўжо зачарпнула свой ваданос, да яе звярнуўся нябачна анёл і прамовіў: "Радуйся, усцешаная, Госпад з табой!" Марыя

агледзелася, але нікога не ўбачыла. Толькі голас чула. Яна ўзяла свой ваданос і пайшла здзіўленая, пытаючыся сама ў сябе: “Што гэта за голас, які я чула, але нікога не бачыла?”

І ўвайшла Марыя ў Назарэт, і ўвайшла ў дом свой, і села на вышэйназваным месцы, і пачала сучыць какніт. І тады з'явіўся перад ёй арханёл Гаўрыіл у абліччы, стоячы на вышэйназваным месцы. Тады і сказаў ён добрую вестку пра нараджэнне Хрыстова.

Ад Назарэта да вёскі Ісавава – пяць вёрст.

### *Аб Кане Галілейскай*

Ад той вёскі да Каны Галілейскай – паўтары вярсты. Кана Галілейская стаіць на людным шляху. Там Хрыстос ваду ў віно ператварыў. І там спаткалі мы дружыну вялікую, якая накіроўвалася ў Акру. І далучыліся да яе з радасцю вялікай, і пайшлі з імі ў Акру.

Акра – колішні горад сарацынскі. Цяпер ім валодаюць фрагі. Размешчаны гэты горад над Вялікім морам і заліў перад ім вельмі добры. У горадзе ўсяго ў дастатку.

А ад Назарэта да Акры – дваццаць восем вёрст. Акра знаходзіцца на поўдзень ад Назарэта. Мы прабылі ў Акры чатыры дні і добра адпачылі там. Затым знайшлі вялікі атрад, што накіроўваўся ў Іерусалім. Далучыліся да яго і рушылі з радасцю.

Усцешаныя, мы прыйшлі ў Кафу. А адтуль пайшлі да гары Кармільскай, – і пайшлі туды. І ёсць там, у той гары, пячора святога Іллі-прарока. І мы там пакланіліся.

Адтуль пайшлі ў Капернаум. А ад Капернаума пайшлі ў Кесарыю Філіпаву. І шлях туды пралягае над Вялікім морам, полем, а затым – пяскамі да самай Кесарыі. У тым горадзе Кесарыйскім мы прабылі тры дні. Там калісьці жыў Карнілій, якога хрысціў апостал Павел.

А ад Кесарыі пайшлі ў Самарыю. Налева ад Кесарыі – шлях на Самарыю, праз горы. Каля дваццаці вёрст ад Кесарыі да Самарыі. І былі на наступны дзень у поўдзень у Самарыі. Але з-за спякоты марудна ішлі. З-за спёкі лю-

дзям цяжка хадзіць. Тую ноч праляжалі перад тым горадам Самарыяй каля калодзежа Іякава, дзе Хрыстос гутарыў з жанчынай самаранскай.

### *Пра Ерусалім*

І адтуль пайшлі мы сваім шляхам, якім раней прыйшлі з Ерусаліма. І дайшлі да святога горада Ерусаліма з вялікай радасцю і добрым здароўем.

Аніякага зла не бачылі мы на гэтым шляху. Усё цудоўна адкрыў нам Бог. На свае вочы мы ўбачылі ўсе святыя месцы, дзе Хрыстос хадзіў дзеля нашага выратавання. Туды і нас, грэшных, звабіў хадзіць і аглядаць святыя мясціны. І дзівосную Галілейскую зямлю ўбачылі мы на свае вочы. Усю зямлю Палесціну дазволіў мне Бог абысці. Пад аховай Божага дабраславення прайшлі паўсюдна без перашкодаў. Пад аховай малітваў святой Багародзіцы абыйшлі ўсю Палесцінскую зямлю. Уся зямля вакол Ерусаліма акурат і называецца Палесціна.

Умацаваны Божай дапамогай, я абыйшоў усе тыя святыя месцы. Нідзе не сустрэў ані паганых, ані лютых звяроў. Не даводзілася мне бачыць аніякага іншага зла. Не адчуваў я аніякай слабасці ў целе маім. Заўжды быў лёгкі, нібы арол. Знаходзіўся пад Божым даглядам і мацаваўся сілай Усявышняга.

Хоць і належала б мне пахваліца, але толькі сілай Хрыста майго пахвалюся. Адно што пра немач маю згадаю. Апостал Павел кажа так: “Моц мая выяўляецца ў слабасці”.

Але як змагу аддзячыць Госпаду за ўсё, чым узнагародзіў мяне – бядака і грэшнага, і нікчэмнага! Ён даў мне асалоду бачыць святыя месцы і хадзіць там. Ён дазволіў здзейсніцца жаданням майго сэрца. Усё, што я змог убачыць, – няварты раб і бядак, – паказаў мне Бог.

Даруйце мне браты, айцы і гаспадары мае! Не дакарайце за невуцтва маё. Напісаў пра ўсе святыя месцы – пра Ерусалім і пра зямлю абяцаную – без вычурнасці, а зусім проста. Хоць і не мудрагеліста напісаў, але без хлусні. Што бачыў сваімі вачыма, тое і занатаваў.

### *Пра святло нябеснае, якое зыходзіць да Труны Гасподняй*

А цяпер пра святло нябеснае, як яно зыходзіць да Труны Гасподняй. Гэта мне Госпад дазволіў бачыць – мізэрнаму і нягоднаму рабу. Сапраўды, бачыў на свае грэшныя вочы, як святое святло зыходзіць да Труны жыватворнага Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Многія з пілігрымаў казалі няпраўду пра зыходжанне святога святла. Адны сцвярджаюць, што гэта Святы Дух у выглядзе голуба спускаецца да Труны Гасподняй. Іншыя даводзяць, што гэта маланка прарываецца з нябёсаў і запальвае кандзілы (лампады) над Труной Гасподняй. Тое хлусня і няпраўда. Насамрэч, нічога не бачна ў той момант – ні голуба, ні маланкі. Але нябачна зыходзіць з нябёсаў святло дабраславеннем Божым і запальвае кандзілы ў Труне Гасподняй.

Цяпер распавяду пра тое, што бачыў на ўласныя вочы.

У Вялікую Пятніцу, пасля вячэрні, праціраюць Труну Гасподнюю і прамываюць усе тыя кандзілы. Затым у іх наліваюць чыстага алею, без вады – аднаго толькі алею. Пасля ў той алей устаўляюць свечкі, але не запальваюць іх. І гэтак пакідаюць тыя кандзілы незапаленымі. Труну апячатваюць а другой гадзіне ночы. Потым гасяць кандзілы і свечы ва ўсіх цэрквах Ерусаліма.

У тую ж пятніцу я, бядак і нікчэмны чалавек, пайшоў да князя Балдвіна і пакланіўся яму да зямлі. Ён жа, калі ўбачыў мяне, бедака, паклікаў да сябе і ласкава спытаў:

– Чаго хочаш, рускі ігумен?

Затым ён усё распытаў пра мяне і выказаў мне сваю павагу, бо быў не ганарлівы, а вельмі добразычлівы і разважлівы.

Я ж папрасіў яго:

– Княжа мой, гаспадару мой! Малю цябе дзеля Бога і дзеля рускіх князёў. Дазволь, мне паставіць маё кандзіла на Труне Гасподняй ад усёй Рускай зямлі.

Балдвін з прыхільнасцю і сімпатыяй сустрэў маю просьбу і дазволіў мне паставіць кандзіла на Труну Гасподнюю.

Да таго ж ён накіраваў са мной свайго лепшага слугу – важную асобу – да эканома царквы святога Уваскрэшання, які трымаў ключы ад Труны.

Той эканом і ключнік святой Труны распарадзіўся, каб я прыносіў сваё кандзіла з алеем.

Я пакланіўся ім, пайшоў з вялікай радасцю і купіў шкляное кандзіла вельмі значных памераў. Наліў у яго даверху алею і прынёс да Труны Гасподняй, пад вечар. Я ўпрасіў таго ключніка, які знаходзіўся ўнутры, паабяцаўшы яму сёе-тое, каб ён адамкнуў мне Святую Браму. Ён паслухаўся мяне і адамкнуў. Папрасіў мяне зняць абутак і гэтак басанож правёў мяне да святой Труны Гасподняй з кандзілам, якое я прынёс з сабой. Затым загадаў паставіць кандзіла на Труну Гасподнюю. І я паставіў яго сваімі грэшнымі рукамі ў нагах, дзе ляжалі найчысцейшыя ногі Госпада нашага Ісуса Хрыста. Каля галавы стаяла грэчаскае кандзіла, на грудзях было пастаўлена кандзіла святога Савы і ўсіх манастыроў. Гэткі тут звычай – штогод ставіць грэчаскае кандзіла і святога Савы.

Божай міласцю ўсе тыя тры кандзілы загарэліся. А фражскае кандзіла вісела зверху. З іх аніводнае не загарэлася.

Пасля ўсталявання кандзіла на Труне Гасподняй я пакланіўся і са слязьмі абцалаваў тое мейсца, дзе ляжала цела Госпада нашага. Затым з невымоўнай радасцю пайшоў ад святой Труны і пашыбаваў у сваю келлю.

Назаўтра, у Вялікую суботу, а 6 гадзіне вечара, збіраюцца ўсе людзі перад царквой святога Уваскрэшання, безліч людзей. Тамтэйшыя жыхары і паломнікі з іншых краін – з Вавілоніі, з Егіпту, ад усіх канцоў зямлі. Сыходзіцца незлічонае мноства люду. І займаюць яны ўсю плошчу вакол царквы і вакол Укрыжавання Хрыстовага. Ад вялікай цеснаты шмат хто губляе прытомнасць. Шмат людзей душацца ў натоўпе.

Усе тыя людзі стаяць з незапаленымі свечкамі і чакаюць, калі будзе адчынена царкоўная брама. Унутры царквы на той момант знаходзяцца адны толькі папы. Разам з астатнімі яны чакаюць з'яўлення князя з дружынай.

Затым царкоўныя дзверы адчыняюцца і людзі імкнуцца ў храм вялікім натоўпам, штурхаючы адзін аднаго. Уся царква і хоры запаўняюцца наведнікамі да краёў.

Але ўсе не могуць змесціцца ў царкве. Шмат людзей застаецца каля Галгофы і каля Краніева места, ажно датуль, дзе былі знойдзены крыжы.

Паўсюль тоўпіцца безліч людзей. І ўсе вернікі, што ў царкве і па-за яе сценамі, адно прамаўляюць: "Госпадзі, памілуй!" Моляцца бесперастанку і гучна ўсклікваюць. Тое месца неаслабна гудзіць і патынае ў людскіх галасах. Слёзы цякуць ручаямі з вачэй вернікаў. Нават калі чалавек мае акамянелае сэрца, дык і той праслязіцца. Бо кожны ў той момант зазірае ў самога сябе, успамінае ўласныя грахі і прамаўляе да сябе: "Няўжо з-за маіх грахоў не зыдзе святое святло?"

Усе вернікі стаяць у слязах і са скрушлівымі сэрцамі. Сам Балдвін стаіць з вялікім страхам і пакорлівасцю. З яго вачэй дзівосным чынам струменяць слёзы. Насупраць Балдвіна, каля вялікага алтара, стаіць яго дружына. Усе сцішаныя і пакорлівыя.

І калі наступіла сёмая гадзіна дня суботняга, тады князь Балдвін рушыў з дому свайго да Труны Гасподняй, разам з дружынай яго.

І паслаў князь у метах святога Савы. І паклікаў ігумена таго манастыра з яго манахамі.

І пайшоў ігумен з братамі да Труны Гасподняй. І я, бядак, туды скіраваўся з ігуменам тым і з братамі.

І прыйшлі да князя таго, і пакланіліся яму ўсе. Тады і ён пакланіўся ігумену і ўсім братам.

І загадаў ігумену святога Савы і мне ісці поруч з ім. А іншым ігуменам і манахам загадаў ісці папераддзе. А дружыне сваёй загадаў рушыць ззаду.

І прыйшлі да царквы Уваскрэшання Хрыстова да заходняй брамы. І мноства людзей заступілі дзверы царкоўныя. І не маглі мы ўвайсці ў царкву.

Тады князь Балдвін загадаў ваярам і яны адцяснілі людзей сілаю.

І зрабілі нібы вуліцу да Труны. І гэтакім чынам змаглі мы прайсці скрозь натоўп да Труны.

І прыйшлі да ўсходняй брамы святое Труны Господняй. І князь пасля нас прыйшоў і стаў на месцы сваім – на правым баку, каля агароджы вялікага алтара, насупраць усходняй брамы і брамы Труны. Бо тут – месца княжацкае, усталяванае на вышыні.

І загадаў князь ігумену святога Савы стаць над труной са сваімі манахамі і прававерными папамі. Мяне, небараку, загадаў паставіць высока над самай брамай Труны, насупраць вялікага алтара, каб я зазіраць мог у браму Труны.

Усе тры брамы Труны былі апячатаны і апячатаны царскай пячаткай. Лацінскія святары стаялі ў вялікім алтары.

І калі надыйшла восьмая гадзіна дня, пачалі вячэрню спяваць наверсе Труны папы праваслаўныя.

Лаціна ў вялікім алтары пачала верашчаць па-свойму.

Гэтак пелі яны ўсе, а я тут стаяў і старанна глядзеў на браму Труны.

І калі пачалі чытаць парэміі тае суботы вялікай, падчас першай парэміі выйшаў епіскап з дыяканам з вялікага алтара. І наблізіўся да брамы Труны, і зазірнуў у Труну скрозь скрыжаванне брамаў тых, і не ўбачыў святла ў Труне, і вярнуўся назад.

І калі пачалі чытаць шостую парэмію, той жа епіскап падыйшоў да брамы Труны і зноўку нічога не ўбачыў.

І затым усе людзі ўзмаліліся са слязамі: “Кірые, елеісон”, што азначае “Госпадзі, памілуй!”

І калі прамінула дзевятая гадзіна, і пачалі спяваць песню праходную “Госпаду пяем”, тады раптам нахапілася хмара малая з усходу і стала над верхам той ненакрытай царквы. І пайшоў дождж невялікі над Труною святой, і добра нас намачыў, тых, хто стаяў на Труне.

І тады знянацку ўспылала святло святое ў Труне святой. Выйшла святло страшнае і яркае ад Труны Господняй святой.

І прыйшоў епіскап з чатырма дыяканамі, адчыніў браму Труны і ўзяў свечку ў князя таго ў Балдвіна, і гэтак увайшоў у Труну. І запаліў найперш свечку княжую ад святла таго святога. Вынес яе з Труны і аддаў князю ў рукі яго.

І стаў князь на месцы сваім, трымаючы свечку з радасцю невымоўнай. І ад яго ўсе свае свечкі запалілі. А ад нашых свечак усе людзі запалілі свае свечкі. Па ўсёй царкве адзін ад другога запальвалі свечкі.

Святло тое святое не гэтак, як звычайны агонь зямны, свяціла. Але дзівосна, незвычайна свяціла. І полымя яго чырвонае, нібы кінавар. І зусім невымоўна свеціцца.

І гэтак усе людзі стаяць са свечкамі запаленымі і прамаўляюць гучна "Госпадзі, памілуй!" з вялікай радасцю і весялосцю.

Аніякая радасць чалавека не можа параўняцца з той радасцю, якую адчувае хрысціянін, калі сузірае святое Божае святло.

Хто не адчуў радасці ў той дзень, – той не верыць усім, хто распавядае пра сыходжанне святога святла.

Аднак мудрыя і верныя людзі поўнасцю вераць у тое і з асалодай слухаюць пра сапраўдную падзею ў тых месцах святых. Верны ў малым – і ў вялікім верны, а злы і няверны чалавек – праўду ў хлусню ператварае.

У мяне ж, небаракі, ёсць сведка – Бог, і святая Труна Гасподняя, і ўсе спадарожнікі – рускія сыны, што знаходзіліся ў Ерусаліме ў той дзень. Наўгародцы і кіяўляне: Ізяслаў Іванавіч, Гарадзіслаў Міхайлавіч Кашкіча і шмат хто іншы. Яны добра ведаюць пра мяне, бядака, і пра гэтае сказанне.

Але вернемся да ранейшага аповеду.

Калі святло запылала ў Труне святой, тады і спевы спыніліся. І ўсе ўсклікнулі: "Кірые, елейсон!" І рушылі з царквы з запаленымі свечкамі і з вялікім узрушаннем, хаваючы свечкі свае, каб іх не загасіла ветрам. Кожны пайшоў сваім шляхам.

І ад таго святога святла запальваюць кандзілы ў сваіх цэрквах і заканчваюць спевы вячэрнія дома.

А ў вялікай царкве, ля Гасподняй Труны, адныя папы, без людзей, заканчваюць спевы вячэрнія.

Тады і мы з ігуменам і з братамі сваімі пайшлі ў манастыр, несучы запаленыя свечкі. І там скончылі спевы вячэрнія, і пайшлі ў келлі свае, хвалячы Бога, які дазволіў нам, нявартым, Божую даброць сузіраць.

І па ютрані ў святую нядзелю, пасля спеваў і цалавання з ігуменам і братамі, пасля адпушчэння а першай гадзіне дня, мы ўсе супольна – ігумен з братамі – скіраваліся да Труны Гасподняй. Па дарозе спявалі кандак: "Хоць сышоў у труну, але несмяротны!"

І ўвайшлі ў святую Труну жыватворную, і абцалавалі святую Труну Гасподнюю з шанаваннем і слязамі цёплымі.

І атрымалі асалоду вялікую ад чароўнага водару прышэсця Святога Духа і тых кандзілаў, што гарэлі ярка і дзіўна.

Тыя тры кандзілі загарэліся ў час сыходжання Духа Святога. Так нам сказалі эканом і ключар Труны Гасподняй. Ігумену пацвярджалі абодва:

– Тыя тры кандзілі, што ўнізе стаялі на Труне Гасподняй, тады загарэліся.

Іншыя пяць кандзілаў віселі над Труной, але цяпер і яны гарэлі. Святло іх надта адрознівалася ад тых трох кандзілаў, што незвычайна і дзіўна свяціліся.

А потым мы выйшлі з Труны праз усходнюю браму і ўвайшлі ў вялікі алтар, і тут учынілі цалаванне з праваслаўнымі. Пасля адпушчэння ігумен з братамі і ўсе мы пакінулі царкву святога Уваскрэшання і пайшлі ў свой манастыр, і там спачывалі да літургіі.

І праз тры дні пасля Уваскрэшання Гасподняга, па літургіі, пайшоў я да ключара Труны Гасподняй і сказаў яму:

– Хацеў бы забраць кандзіла сваё.

Ён ласкава прыняў мяне, дапусціў да Труны толькі аднаго. Я ўвайшоў у Труну і ўбачыў кандзіла сваё, што стаяла на святой Труне і свяцілася святлом тым святым.

І пакланіўся Труне той святой і абцалаваў з шанаваннем і слязамі месца тое святое, дзе ляжала найчысцейшае цела Госпада нашага Ісуса Хрыста.

І затым я зрабіў замеры Труны ўшырыню, у даўжыню і ў вышыню. Пры людзях немагчыма выканаць замеры яго.

І ўшанаваў я Труну Гасподнюю, як мог, і таму ключару падаў штосьці з маіх сціплых зберажэнняў і дабраславіў яго.

Ключар бачыў маё вялікае шанаванне Труны Гасподняй, таму адсунуў дашчэчку каля галавы святой Труны Гасподняй і аддзяліў мне ад таго святога каменя невялічкае дабраславенне. І забараніў мне пад клятвай каму-небудзь распавядаць аб гэтым у Ерусаліме.

Я ж пакланіўся Труне Гасподняй і ключару, узяў кандзіла сваё з алеем святым і пайшоў са святой Труны Гасподняй з радасцю невымоўнай. Узнагароджаны даброцяй Божай нёс у руцэ дарунак святога мейсца і знаменне святой Труны Гасподняй.

І крочыў з радасцю, нібы нёс багацце і скарб. Накіраваўся ў сваю келлю, бясконца ўсцешаны і ўзрадаваны.

Бог і святая Труна Гасподняя сведкі таму, што падчас знаходжання ў тых святых мясцінах я не забываў імёнаў рускіх князёў і княгінь і дзетак іх, епіскапаў, ігуменаў і баяраў, і дзяцей маіх духоўных; і ўсіх хрысціянаў не забываў, але ва ўсіх святых месцах памінаў.

Найперш, я кланяўся за ўсіх князёў, а потым за свае грахі маліўся.

І за тое прыношу хвалу добраму Богу, што дазволіў мне, небараку, запісаць імёны рускіх князёў у лаўры святога Савы. І цяпер прыгадваюцца іх імёны ў экценіі, з жонкамі і з дзецьмі іх. Вось імёны іх: Міхаіл Святаполк, Васіль-Уладзімір, Давыд Святаславіч, Міхаіл-Алег, Панкрат Святаславіч, *Глеб Менскі*. Толькі іх імёны я памятаў, іх і ўпісаў.

Апрача ўсіх князёў рускіх маліўся я таксама за баяраў перад Труной Гасподняй і ва ўсіх святых месцах.

І адспявалі мы літургіі за князёў рускіх і за ўсіх хрысціянаў. Усяго 50 літургій. А за памерлых адспявалі 40 літургій.

Няхай будзе дабраславенне ад Бога, ад святой Труны Гасподняй і ад усіх святых месцаў усім, хто чытае гэтае

пісанне з верай і шанаваннем. Прымуць яны ўзнагароду ад Бога нараўне з тымі, хто хадзіў па святых месцах. Тройчы дабраславёныя тыя, хто верыць, хоць і не бачыў. Бо праз веру Аўрам прыйшоў у зямлю абяцаную. Сапраўды, вера роўная добрым справам.

Дзеля Бога, браты і гаспадары мае, не дакарайце мяне за беднасць майго розуму і грубасць маю!

Няхай не абражана будзе гэтае пісанне дзеля мяне, Труны Госпадняй і святых месцаў!

Той, хто прачытае паважліва, здабудзе ўзнагароду ад Бога, Выратавальніка нашага Ісуса Хрыста.

І Бог свету з усімі вамі на вякі!

Амінь.

# СЛОВА ПРА КНЯЗЁЎ

"Слова пра князёў" – яркі помнік старабеларускай і ўсходнеславянскай літаратуры другой паловы XII ст. Твор узнік, верагодней за ўсё, на тэрыторыі Ноўгарад-Северскага княства, колішніх землях радзімічаў і севяранаў, – протабеларускіх плямёнаў.

"Слова..." напісана невядомым аўтарам, хрысціянінам паводле веравызнання, які добра ведаў падзеі, што адбываліся ў Чарнігаве. Як сведчыць змест "Слова...", яно было падрыхтавана і прамоўлена з нагоды свята князёў-пакутнікаў Барыса і Глеба.

Асноўная ідэя "Слова..." – яднанне славянскіх князёў дзеля стваральнай працы і змагання са знешнімі ворагамі. Пісьменнік заклікае да цярплівасці, мірнага вырашэння спрэчных пытанняў і ўзаемных прэтэнзій.

Характэрнай сюжэтна-кампазіцыйнай асаблівасцю "Слова..." з'яўляецца інтэртэкстуальнасць. Пісьменнік уключыў у склад твора прыпавесць пра мудрага чарнігаўскага князя Давыда Святаславіча (памёр у 1123 г.)

На старонках "Слова..." намаляваны вобраз ідэальнага князя-валадара – Давыда Святаславіча, які ўмеў ладзіць з суседнімі князямі, жыць з імі ў міры і сяброўстве. На думку аўтара "Слова...", ён павінен быў служыць добрым прыкладам для ўсіх усходнеславянскіх князёў.

Вельмі яркія і адметныя ў мастацкім плане *містычныя* сцэны "Слова...". У творы падаецца дзівоснае разлучэнне душы князя Давыда з целам з дапамогай голуба – Божага анёла. У момант знаходжання цела князя ў царкве Святога Спаса над храмам раптам з'явілася зорка. Калі яго перанеслі ў царкву Барыса і Глеба, зорка перамясцілася ўслед за ім. Гэтаксама і Сонца не заходзіла за гарызонт, пакуль князя Давыда не пахавалі.

Пераклад "Слова пра князёў" выкананы паводле выдання: Памятники литературы Древней Руси: XII век. М., 1980. С. 338–342.

## Слова пра князёў

Паслухайце, князі! Вы выступаеце супраць старэйшага брата, ваюеце з ім і паганых прыводзіце на брата свайго. Спыніцеся, пакуль не пакараў вас Бог на страшным Судзе!

Вось святыя Барыс і Глеб пацярпелі ад брата свайго: не толькі страцілі ўладу, але і пазбавіліся жыцця*. Вы ж нават слова ад брата стрываць не можаце, з-за малой крыўды смертаносную варажнечу ўзводзіце, прымаеце дапамогу ад паганых супраць брата свайго.

Некалі ізраільцяне, чакаючы войскі халдэйскія пад Ерусалімам, паслалі да егіпецкага фараона па дапамогу, каб выратаваць Іерусалім ад палону. Тады Бог паслаў прарока да ізраільцянаў са словамі: “Паколькі вы не пакладіся на Бога, які стварыў вас, а ўсю надзею ўсклалі на егіпцянаў, – дык халдэяў Я ад вас адвяду, але будзеце палоненыя егіпцянамі. На іх пакладаецеся, ад іх загадаю і загінуць вам”. Гэтак і сталася.

Павел-апостал пытае: “Ці няма сярод вас, браты, ніводнага вернага, хто мог бы рассудзіць вас, што вы ідзеце на суд да няверпага?”

А евангеліст Іаан кажа: “Хто скажа, што Бога любіць, а брата свайго ненавідзець, – той хлус”.

Сам Госпад кажа: “Пра тое, што вы мае вучні, даведаюцца ўсе, калі ўзаемнае шанаванне будзе паміж вамі”.

Усвядомце, князі, вашу вялікасць і ваш гонар!

Вы маеце дзеда – святога князя Уладзіміра, які прывёў да Бога тысячы тысяч, безліч душаў праведных!

Успомніце, якіх братоў маеце – вялікіх цудатворцаў Барыса і Глеба! Будзьце іх паслядоўнікамі, на іх прыкладзе навучайцеся! Калі Сатана ўкіне варажнечу паміж братамі, прыгадайце гэтых святых, якія аддалі перавагу смерці, чымся пачынаць вайну з братам.

---

* Тут пісьменнік прыгадвае жорсткае забойства князем Святаполкам Акаянным сваіх малодшых братоў – Барыса і Глеба.

Той з вас, хто вытрывае крыўду і першы пачне шукаць згоды, той атрымае ад Бога роўную з імі ўзнагароду.

Распавяду вам прыпавесць пра падзеі, якія не ў чужой зямлі здарыліся.

Давыд Святаславіч, сын Святаслава Яраславіча, брат святых Барыса і Глеба, ні з кім не варагаваў. Калі хтосьці пасылаў на яго войска, ён спыняў яго сваёй пакорлівасцю. Княжыў Давыд у Чарнігаве на вялікім княжанні і быў старэйшы сярод братоў сваіх. Калі нехта з братоў чыніў яму крыўды, дык ён усю віну на сябе перакладаў. Калі Давыд крыж каму цалаваў, дык затым ніколі, нават пад пагрозай смерці, не адступаў ад свайго слова. Калі ж хто іншы адракаўся ад крыжацалавання, князь не парушаў уласнай клятвы, нікога не крыўдзіў і зла нікому не чыніў.

Браты бачылі незлаблівасць Давыда і таму слухаліся яго, нібы роднага бацькі, падпарадкоўваліся яму, не раўнуючы як гаспадару. У незвычайнай цішы праходзіла яго княжанне.

Калі Бог вырашыў забраць душу Давыда ад цела, дык князь хварэў непрацяглы час. Епіскап Феакціст даведаўся, што князь памірае, і загадаў спяваць канон крыжу. Раптам верх палаца раскрыўся і ўсе замёрлі. У палац уляцеў белы голуб і сеў князю на грудзі. Душа князя пакінула яго цела і голуб знік. А палац напоўніўся прыемным водарам.

Пасля вячэрні цела князя Давыда панеслі да святога Спаса. Там з'явілася зорка і стала над крыжам. Калі цела князя перанеслі ў царкву Барыса і Глеба, пабудаваную ім, зорка гэтаксама перамясцілася да царквы святых пакутнікаў.

Адпеў епіскап князя, але труна яшчэ не была падрыхтавана. Епіскап сказаў: "Ужо сонца заходзіць, заўтра пахаваем яго". Усе людзі, што сядзелі над князем, выйшлі. Але затым яны вярнуліся ў царкву і паведамілі епіскапу: "Сонца не садзіцца, увесь час стаіць на адным месцы". Епіскап здзівіўся і ўхваліў Бога. Толькі тады, калі камень выраўнялі і князя паклалі ў труну, сонца зайшло.

Усвядомце, дзецi, як Бог услаўляе сваiх угоднiкаў, што выканалi волю яго. Менавiта Ён учынiў тыя дзiвосы: анёл з'явiўся ў выглядзе голуба; палац напоўнiўся чароўным пахам ад цела; зорка з нябёсаў прыйшла i стаяла над целам; сонца не заходзiла па волi Божай, пакуль святое цела не паклалi ў труну. Якую ж славу Давыд здабудзе на нябёсах!

Магчыма, нехта скажа, што князь Давыд не меў жонкi. Але ён дзяцей меў. Найпадобны Мiкола Святоша быў яго сынам i яшчэ два сыны былi ў Давыда. Або хто-небудзь скажа, што ён не меў гаспадаркi, таму i здолеў выканаць запаведзь Госпада. Шмат разоў даводзiлася мне чуць, як невукi сцвярджалi: "З жонкай i з дзецьмi сваiмi выратавацца немагчыма". Гэты ж князь меў не адну гаспадарку, а шмат, – быў князем усяе Чарнiгаўскай зямлi. Але запаведзь Гасподнюю выканаў, пры жыццi ён нiколi нi з кiм не варагаваў.

Прысаромцеся, вы, што варагуеце з братамi сваiмi i адзiнаверцамi сваiмi! Задрыжыце i заплачце перад Госпадам, бо ад услаўлення адпадзеце за адну толькi злапомслiвасць!

Няхай дапамагае вам Бог! Не адпадзiце ад вялiкай славы ўсе вы, што чуеце мае словы! Ад тае славы, якая ўгатавана святым братам-пакутнiкам, дзень забойства якiх мы святкуем i цуды якiх мы бачым на ўласныя вочы.

Услaвiм жа iх, узвялiчым i праспяваем хвалу iм!

Прыйдзi, Давыд-песняспевец, i праспявай: "Радуйцеся, праведнiкi, аб Госпаду!"

Заспявай, Саламон: "Праведнiкi жывуць вечна, i ад Госпада ўзнагарода iх".

А вось i сам Бог праслаўляе гэтых святых, кажучы: "Праведнiкi прасвятляцца, нiбы сонца, у славе Айца свайго. Дзе Я буду, там i яны будуць са мной".

Дзе Хрыстос з Айцом сваiм на прастоле, там i гэтыя святыя ля прастола з арханёламi спяваюць песню анёльскую: "Святы айцец, святы Сын i найсвяцейшы Дух у адзiным Бостве, заўжды i на вякi бясконцыя!"

# КІРЫЛА ТУРАЎСКІ

Кірыла Тураўскі (каля 1130–1182 г.) – найбуйнейшы майстар слова старажытнай Беларусі, асветнік і царкоўны дзеяч. Нарадзіўся ён каля 1130 г. у Тураве – тагачасным цэнтры Тураўскага княства, у заможнай сям'і. Юнак атрымаў выдатную на той час адукацыю, верагодна, у школцы, заснаванай грэцкімі місіянерамі. У маладым веку пастрыгся ў манахі.

Шчырае служэнне Богу, аскетызм, адукаванасць і высокі аўтарытэт сярод насельніцтва паспрыялі таму, што Кірыла Тураўскі ў хуткім часе ўзышоў на пасаду епіскапа.

Як інтэлектуальны лідэр і найвышэйшая духоўная асоба, ён развіваў асветніцкія традыцыі Кірылы і Мяфодзія, аказваў дзейсны ўплыў на царкоўнае і грамадскае жыццё, дыскутаваў з арыянамі, прыхільнікамі Паганства і Іудаізму, спрыяў усталяванню мірных палітычных дачыненняў паміж ўсходнеславянскімі княствамі.

Творчая спадчына Кірылы Тураўскага, сінкрэтычная паводле зместу, – на рэдкасць багатая. Яна ўключае каля 70 твораў у сотнях спісах і шматлікіх выданнях розных стагоддзяў. У *жанравых* адносінах тэксты Кірылы Тураўскага вельмі разнастайныя.

Першую значную групу твораў Кірылы Тураўскага складаюць малітвы, агульная колькасць якіх набліжаецца да 30. Да жанру малітваў варта адносіць высокапаэтычныя "Дабрэйшыя вершы для тых, хто прагне безупынна і слёзна маліцца за свае грахоўныя ўчынкі", што напісаны паводле малітоўных узораў. Малітвы Кірылы Тураўскага паводле формы з'яўляюцца зваротамі да Бога і да Маці Божай, але паводле зместу – гэта выключна шчырыя і адначасова па-філасофску заглыбленыя аўтарскія споведзі.

Асобныя творы Кірылы Тураўскага – выразна белетрызаваныя эпічныя тэксты: "Слова на сабор 318 святых айцоў" і "Слова ў памяць усіх святых".

Адметнае месца ў спадчыне Кірылы Тураўскага займае "Прыпавесць пра чалавечую душу і цела, або Пра Сляпога і Бязногага". Твор сінкрэтычны ў жанравым плане і мае надзвычай складаную архітэктоніку. Як паказвае аналіз, яго структура, прынамсі, уключае:

уважліва прыгледзьцеся да напісанага і што пачуеце – добра абдумайце!

Загадаў Бог адрынуць Адама з раю, бо той дакрануўся да забароненага, раней дазволу ўвайшоў у святое месца. Пасяліў яго Госпад побач з райскімі пладамі. "Толькі, – кажа, – працягне руку і возьме ад пароднага дрэва і жыць будзе вечна". Калі апамятаецца, скарыцца і пакаіцца ў грахах.

Бог вельмі шануе чалавека! І карае нас, і мілуе, і папікае за грахі, але прымае нашае пакаянне. Ён не жадае смерці грэшніку, а толькі загадвае выправіцца і далей жыць.

Што ёсць "дрэва жыцця"? Гэта мудрая пакорлівасць. "Корань" таго дрэва – споведзь. "Спавядаюся, – кажа, – у беззаконні маім. І ты дараваў мне няшчырасць майго сэрца".

"Ствол" ад таго кораня – гэта правільная вера. "Вера твая, – сказаў, – выратуе цябе". Толькі веруючым даецца ўсё.

"Галінкі" на тым ствале – гэта розныя віды пакаяння: слёзы, пост, чыстая малітва, міласціна, пакорлівасць ды іншае.

Дабрадзейны "плод" на тых галінках – міласць, паслухмянасць, пакорлівасць.

Шмат існуе шляхоў да выратавання!

Бачыш, не ў раю знаходзілася дрэва жыцця, не ў Эдэме, а ў выгнанні, у адлучэнні ад сану.

Адкінуў Ён і Каіна, калі ўведаў пра забойства ім брата. Выкрыў яго, паказаў дрэва жыцця і сказаў: "Лямантуй і дрыжы!" Гэта азначае, – кайся за злобу, зайздрасць, хлусню, забойства, падман! Зміryся, пасціся, будзь пільным і ляжы на зямлі!

Але ты нічога гэтага не зрабіў, дык значыцца – адыйшоў ад сузірання Госпада: не аддаленасцю да зямлі, але з-за адсутнасці ў тваёй душы страху перад Богам. Калі мы не чынім добрых спраў і не прыносім пакаяння за грахі, дык які б высокі сан мы не мелі – далёка ад Бога мы знаходзімся. Госпад бліжэй да тых, хто мае неабыякавае сэрца. Ён выратоўвае

трывалых духам, дбае пра тых, хто дрыжыць перад ім, выконвае яго волю. Госпад бачыць злачынцаў, вынішчае нават памяць пра іх на зямлі.

Гэтак і Павел адагнаў ад святога алтара Іменея і Філіта, а таксама святароў, што заблудзіліся ў Карынфе. Паставіў іх сярод клірыкаў і сказаў: “Прысаромце іх, але палюбіце, каб не паглыбілі ў злой роспачы. Няхай пакаяцца, але застануцца жывымі”.

Не захацеў паспытаць дрэва жыцця і каваль Аляксандр. Пра яго Павел кажа: “Няхай Госпад як след пакарае яго падчас Суднага дня за грахі яго!”

Не паспытаў ад таго дрэва Трэфіс-эфісянін і Мікалай – адзін з сямі епіскапаў, што выракліся Хрыста. Той Мікалай стаў жрацом у Селуні і здаваў хрысціянаў іх ганіцелям. Пра яго Ян кажа: “Ад нас выйшлі і паўсталі супраць нас”.

Таго райскага дрэва не прынялі ерэтыкі. Усе яны праклятыя і памерлі духоўнай смерцю. Не ўсвядомілі словы прарока, які сказаў: “Паспытайце і пераканайцеся, што Госпад – дабро!” Няма граху, які б адужыў Божыя міласці. Але не будзем адчайвацца на ўзор Іуды! Не адрачэмся ад веры ў цялеснае ўваскрасенне, як тыя седукеі! Пакаяннем будзем стукацца ў Божую браму, пакуль не адчыніць Ён нам уваход да раю. Не хлусіў Госпад, калі прамовіў: “Стукайце – і адкрыецца вам! Прасіце – і дасца вам!”

Але не буду далей павялічваць колькасць слоў, бо гэта зацягне маю гутарку. Лепей вернемся да ранейшага аповеду.

## IV

Убачыў той чалавек, што абкрадзены яго вінаграднік, і пажадаў разлучыць Сляпога і Бязногага. Спачатку ён загадаў прывесці да яго Сляпога і спытаў аб тым, хто парушыў яго загад і ўвайшоў у вінаграднік без яго дазволу.

Нічога не зможа схавацца ад Божага вока! Ніхто з нас не ведае сябе так, як ведае нас Бог!

*Тлумачэнне.* Загадаў Бог разлучыць душу і цела. Паводле слова Божага душа зыходзіць ад цела. “ І адымеш дух іх, –

сказаў, – і знікнуць яны, і ў прах вернуцца". Калі бачыш цела, пахаванае ў зямлі, не думай, што там знаходзіцца і душа чалавека. Душа – не ад зямлі і ў зямлю не сыходзіць. Калі нават бачыш цудатворныя астанкі святых, няма там іх душы. Там дзейнічае Божая даброць, праслаўляючы сваіх выключных служыцеляў. "Тых, хто ўслаўляе мяне, – сказаў, – праслаўлю".

Словы "загадаў прывесці Сляпога" азначаюць, што пасля адлучэння ад цела душа кожнага чалавека прыходзіць да Бога з прыстаўленым да яе анёлам. Душа кожнага – веруючага і няверуючага, існага ў законе і беззаконніка. "Госпад, – сказана, – спытае праведнага і грэшніка". Бо ўсе народы былі народжаныя ад адзінай крыві, а затым рассеяліся па ўсёй зямлі. Ім Бог стварыў розныя даброці – даў дождж з нябёсаў і ўрадлівую пару. Бо сказана: "Скіроўвае Сонца сваё на добрых і на злых".

Няхай ніхто не асуджае мяне за гэтыя словы. Чытайце Святое Пісанне і пераканаецеся, што пішу паводле Божых кніг.

Майсей, прыкладам, піша: "Паставіў межы народаў паводле колькасці анёлаў".

Ерамія кажа: "Адзін Госпад ва ўсіх паднябесных народаў". Хоць і пакінуў іх у іхных памылках, але душы іх перад ім паўстануць і будзе судзіць іх паводле справаў іх.

Павел кажа: "Навошта мне знешніх судзіць. Вы судзіце ўнутраных, а Бог судзіць знешніх". Унутранымі ён называе тых, хто веруе, а знешнімі – язычніцкія народы.

Божае імя належыць слухаць душам, што развітваюцца з целамі, каб у Судны дзень уваскрэснуць і пакланіцца Богу. І не пачуюць яго душы тых, якія працуюць цяпер на Д'ябла. Паводле апостала, які кажа: "І тады ўбачыць кожнае вока, і кожны народ пакланіцца, прызнаючы, што Госпад Ісус Хрыстос адзіны ў славе Бога Айца".

Гэта ведае кожны, хто навучаўся. Я ж пра Сляпога пачатую гутарку коратка вытлумачу, гэтак, як дазваляе мой розум. Але і пярэчанні супраць мяне прыму. Бо ведаю,

мой аповед не ад прамудрасці, а ад недасканаласці маёй. Але грунтуемся тут на вучэнні пракокаў і апосталаў. Трымаемся цвёрдага каменя – самога Хрыста!

## V

Калі Сляпога прывялі, яго дапыталі.

Гаспадар спытаў:

– Ці не паставіў я цябе як добрага стоража майго вінаграду? Навошта ж ты скраў яго?

Сляпы адказаў яму:

– Гаспадар, ты ж ведаеш, што я не маю зроку і без павадыра не вызначу, куды ісці. Я не ведаю аніякага месца, нават, калі б хацеў некуды пайсці. Не чуў я таксама, каб нехта прайшоў паўз брамы да вінаградніку, інакш я б гучна закрычаў яму ўслед. Мяркую, гаспадару, што вінаград скраў Бязногі.

Сузірай хлуслівыя адгаворкі душы перад Богам і паклёп на цела!

*Тлумачэнне.* Гэткае ж ёсць духоўнае слова: "Госпадзе, я ёсць дух. Я не жадаў ані піць, ані есці. Я не шукаў гонару і славы зямной. Я не прагнуў цялесных асалодаў, не выконваў волі Д'ябла. Усё гэта рабіла цела".

## VI

Затым загадаў Гаспадар трымаць Сляпога ў таемным месцы, якое ведаў толькі ён сам, да таго часу, пакуль ён не пакліча Бязногага. І тады будзе разам судзіць іх.

*Тлумачэнне.* Гэтыя словы азначаюць, што да праходу Хрыста не будзе суда і пакутаў душам аніякіх людзей – ні верных, ні няверных.

Праўдзіва веруйце ва ўваскрэшанне чалавечага цела!

Сказана ў Пісанні: "Пашлеш дух свой – і злучацца, і абновіш аблічча зямлі".

На прыкладзе Іезекііля даў нам надзею на ўваскрэшанне. "Прадкажы, – сказаў, – сын чалавечы, мёртвым гэтым кас-

цям, каб з'явілася на іх цела і каб абцягнула іх скура. Няхай прыйдзе дух ад чатырох вятроў і ўвойдзе ў гэтых мерцвякоў. Няхай яны ажывуць!"

Гэта ўсё дзейнічае сам Госпад – не змяняе парадку, але абнаўляе сваё першапачатковае стварэнне. Так, ён спачатку стварыў цела Адама, а затым удыхнуў у яго душу. Таксама і ў чэраве жанчыны – спачатку ад семя ўтвараецца цела, а праз пяць месяцаў Госпад стварае душу. Зноў жа пры хрышчэнні Госпад спачатку адраджае вадою, а затым адраджае духам ад грахоўнага заняпаду. Гэтак і ў Судны дзень: спачатку абновіць зямлю – збярэ чалавечыя астанкі і створыць усе нашы целы ў імгненне вока, а потым і душы нашыя ўваскрэснуць і кожная ўвойдзе ў свой храм. Паводле Паўла, які кажа, што сам Госпад у суправаджэнні арханёлаў, пад Божыя трубы прыйдзе з нябёсаў, і спачатку мёртвыя ўваскрэснуць, а затым мы – жывыя.

Хто гэтыя мёртвыя? Усе народы, што не былі пад Божым законам, якія не прынялі хрышчэння. "Той, – гаворыцца, – хто беззаконна грашыў, беззаконна загіне". Жывымі апостал называе хрысціянаў.

Бачыш, усе людзі ўваскрэснуць целамі. Мы ўсе верым павучанням Паўла, які словамі Госпада прамовіў: "Хто не зразумее ад пачатку чалавека, створанага Богам, той не зразумее і адраджэнне праз хрышчэнне. Таму і не верыць ён ва ўваскрэшанне цела і вечнае жыццё людзей: адных – у гонары і славе, іншых – у сораме і пакутах".

Але вернемся і пагаворым пра апошняе.

## VII

Калі прыйшоў Гаспадар, каб узяць пладоў ад вінаградніка, дык убачыў яго абкрадзеным. Паклікаў ён Сляпога і Бязногага і пачалі яны выкрываць адзін аднаго.

Бязногі кажа Сляпому:

– Калі б ты мяне не занёс да вінаградніка, дык ці змог бы я туды сам дабрацца?

Сляпы адказваў:

– Калі б ты не падказваў мне шляху, я не змог бы туды дайсці.

Тады Гаспадар сеў за судзейскі стол і пачаў іх судзіць. І сказаў ён:

– Зрабіце цяпер гэтак, як вы раней кралі: няхай Бязногі сядзе на Сляпога.

І калі сеў Бязногі на Сляпога, загадаў Гаспадар, перад усімі сваімі рабамі, пакараць іх вечнымі пакутамі ў цёмнай вязніцы.

* * *

Зразумейце, браты, сэнс гэтай прыпавесці. Дамавіты чалавек, або Гаспадар, – гэта Бог-Айцец. Яго сын са знакамітага роду – Ісус Хрыстос. Вінаграднік сімвалізуе зямлю і свет. Плот азначае Закон Божы і запаведзі. Слугі і тыя, хто з імі побач, – гэта анёлы. Бязногі – ёсць цела чалавека. Сляпы – душа чалавека. Тое, што іх пасадзілі каля брамы, азначае, што Бог перадаў ва ўладу чалавека ўсю зямлю, даў яму закон і запаведзі.

Калі чалавек парушае Божыя запаведзі, ён за гэта асуджаецца на вечную смерць. Спачатку яго душа прыводзіцца да Бога, дзе яна спрачаецца, прамаўляючы: “Гэта не я саграшыла, а цела”. Таму няма пакутаў для душаў да другога прыходу Хрыста. Дзе яны захоўваюцца, – ведае толькі Бог.

Калі Бог прыйдзе абнавіць зямлю і ўваскрэсіць усіх мёртвых, як пра гэта сам гаварыў, тады “Усе тыя, што знаходзяцца ў магілах, пачуюць голас Сына Бога і ажывуць. Тыя, хто тварыў дабро, – уваскрэснуць для вечнага жыцця; а тыя, хто тварыў зло, – будуць асуджаны на вечныя пакуты”.

У Судны дзень нашыя душы ўвойдуць у целы і кожны атрымае ўзнагароды паводле ўчынкаў сваіх: праведнікі – вечнае жыццё, а грэшнікі – бясконцую і невыносную пакуту. Як сказана: “Хто ў чым саграшыць, той ад таго і пакутваць будзе”.

Усё тут я вытлумачыў не паводле ўласных разважанняў, а ў адпаведнасці са святымі кнігамі. І гэта не павучальнае маё слова, а толькі гутарка. Бо я не настаўнік, як тыя царкоўныя і святыя айцы.

## Слова ў першую нядзелю пасля Пасхі
(урывак)

Вялікі настаўнік і мудры наратар патрэбны Царкве дзеля ўпрыгожання свята!

Мы, бедныя на словы, з памутнелым розумам, не маем агню Святога Духа, каб складаць карысныя для душы словы. Аднак, дзеля любові да братоў сваіх, крыху распавяду пра ўзнаўленне ўваскрэшання Хрыстова.

У мінулую нядзелю Святой Пасхі адбылося здзіўленне нябёсам, запалохванне падысподняй, абнаўленне істотаў, выратаванне свету, разбурэнне пекла, пераадоленне смерці!

У мінулую нядзелю – усё абнавілася! Небам створана зямля і ачышчана Богам ад усялякай нечысці. Анёлы з жанчынамі безадказна ўваскрэшанню служаць. Абнавіліся істоты. Ужо не называюцца багамі стыхіі: ані Сонца, ані агонь, ані крыніцы, ані дрэвы. З гэтай хвілі не патрэбна, каб бацькі рэзалі сваіх дзетак на ахвяру, у гонар смерці. Знікла ідалапаклонства. Д'ябальскія гвалты прыпыненыя таямніцай хрышчэння. Чалавечы род не толькі выратаваны, але і асвечаны Хрыстовай верай. З гэтага часу Стары Запавет – збяднеў, адкінутыя цялячая кроў і казліныя ахвяры. Хрыстос стаўся адзінай ахвярай для Айца за ўсіх. Таму прызначана ў суботу свята, а ў нядзелю прыйшла Божая ласка праз уваскрэшанне. Нядзеля сталася царыцай сярод дзён, бо на яе ўваскрос з мёртвых.

Браты! Вітайма царыцу дзён! Прынясём ёй з верай нашай сумленныя падарункі! Дадзім ёй, наколькі зможам, міласціну, шанаванне і дабрыню! Хтосьці прынясе чыстую цнатлівасць, праўдзівую веру і адкрытую пакорлівасць!

Хтосьці – псаломскія спевы, апостальскае навучанне, малітвы з уздыханнямі да Бога! Сам Госпад вуснамі Майсея кажа: "Не з'яўляйся перада мной ні з чым у дзень свята". Прынясём яму названыя дабрачыннасці і ўспрымем Божую міласць, бо не пазбавіць дабра тых, хто прыйдзе да яго з верай. Бо кажа: "Тых, хто славіць мяне, – праслаўлю".

Ухвалім упрыгожаную новую нядзелю, бо святкуем абнаўленне ўваскрэшання. [...]

Сёння старое скончылася. Усё абнавілася – бачнае і нябачнае.

Сёння нябёсы прасвятліліся, пазбавіліся цёмных аблокаў і светлым паветрам спяваюць славу Госпаду! Не пра бачныя зрокам нябёсы кажу, а пра духоўныя. Апосталы на Сіёне на іх узышлі і спазналі Госпада. З таго часу забыліся на самотнасць, іудзейскі страх адкінулі, узмоцненыя Святым Духам ясна прапаведуюць уваскрэшанне Хрыстова.

Зараз прыгожае Сонца на вышыню ўзыходзіць, радасна зямлю саграе. Так уздымецца з труны праведнае сонца – Хрыстос – і ўсіх вернікаў выратуе.

Зараз Месяц апускаецца з верхніх ступеняў, аддае гонар большаму свяцілу. Так Стары Запавет, паводле Пісання, з яго суботамі – зыходзіць, а прарокі Хрыстоваму закону – гонар аддаюць.

Зараз грахоўная зіма, праз пакаянне, скончылася і лёд бязвер'я, праз разуменне Бога, растаў. Зіма язычніцкага куміраслужэння, праз апостальскае вучэнне і веру Хрыстову, скончылася. Лёд бязвер'я Фамы, праз бачанне рэбраў Хрыстовых, растаў.

Сёння вясна красуе, ажыўляе зямную натуру. Бурныя калісь вятры пяшчотна дзьмуць, плады лашчаць. Зямля сямяны поіць, зялёную траву нараджае. Дзівосная вясна – гэта вера Хрыстова. Яна, праз хрышчэнне, нараджае чалавечую натуру. Бурныя вятры – грэхатворныя думкі, якія, праз пакаянне, пераўтвараюцца ў дабрачынныя, карысныя для душы плады. Зямля – нашая натура. Прыняўшы Слова Божае, нібы семя, яна жыве ў страху і нараджае дух выратавання.

Зараз нованароджаныя ягняткі і цяляткі борздка шлях адольваюць, скачуць, хутка вяртаюцца да маткі, весяляцца. А пастухі граюць на свірэлях, радасна Хрыста хваляць. Авечкі – гэта негаваркія людзі. Цяляткі – куміраслужыцелі з іншых краін, што вярнуліся да святой царквы дзякуючы ўвасабленню Хрыста, апостальскаму навучанню і цудам. Яны цмокчуць малако царкоўнага вучэння. Пастухі – гэта настаўнікі Хрыстовага статку, яны за ўсіх моляцца і ўслаўляюць Хрыста-Бога, які згуртаваў да аднаго статку ўсіх ваўкоў і авечак.

Зараз дрэвы парасткі выпускаюць. Кветкі духмяныя зацвілі. З садоў зыходзіць водар салодкі. Земляробы з надзеяй Хрыста-плададаўцу клікаюць. Вось, раней мы былі, нібы дуброўныя дрэвы, без пладоў. Цяпер узрасла вера Хрыстова на нашым бязвер'і. Ужо трымаемся кораня Ісаева. Як водар ад кветак духмяных, зыходзяць ад нас дабрачыннасці! Маем спадзеў на райскае жыццё. Святары, што працуюць ва ўлонні Царквы, дарунку ад Хрыста чакаюць.

Зараз аратыя словаў вядуць пад духоўную ўладу цялятак славесных. І хросную саху ў разумовыя барозны апускаюць. І баразну пакаяння прачэрчваюць. Семяны духоўныя сеюць! Надзеяй на новы ўраджай цешацца!

Сёння старое скончылася, усё абнавілася дзеля ўваскрэшання!

Зараз рэкі навадняюца і рыбы ікру пускаюць. А рыбакі, што́ спазналі ўсю глыбіню Божага ўвасаблення, здабываюць поўную царкоўную мярэжу малітваў. "Рэкамі, – кажа прарок, – будзе разрэзана зямля. Убачаць іх і расхварэюцца няправедныя людзі".

Зараз манаскага вобразу працалюбівая пчала сваю мудрасць паказвае, усіх здзіўляючы. Жывуць у пустэльнях самакармленнем, уражваюць анёлаў і людзей. Ад кветкі да кветкі лётаюць – медвяны сот ствараюць. Прыносяць людзям асалоду, а царкве – карысць.

Зараз усе дабраспеўныя птушкі ў царкоўным абліччы гняздзяцца і весяляцца!

## Малітвы на ўвесь тыдзень

### Малітва ў нядзелю па ютрані

Дзякуй Табе, Госпадзе, Божа мой,
Што дазволіў мне бачыць дзень
Дзіўнага ўваскрэшання Твайго.
Тады вызваліў з аду
Душы ўсіх праведнікаў.

Тае свабоды, Уладыка, і я жадаю!
Аслабані мяне,
Скаванага мноствам грахоў!
Няхай разгарыцца святло Тваёй даброці
Ў змрочнай душы маёй!

Ведаю незлічоныя шчадроты Твае
І невымоўнае чалавекалюбства Тваё.
З небыцця да быцця прывёў мяне,
Упрыгожыў абліччам сваім,
Словамі і розумам узнёс вышэй за жывёлаў
І зрабіў мяне гаспадаром над усімі істотамі!

Знаўца часу і года жыцця майго,
Ад юнацтва і дагэтуль, апякуне мой!
Каб быў я выратаваны
І з анёламі Тваімі, абліччам прыгожымі,
Мог размаўляць,
Запаветы даў мне!
І духоўную справу ў чысціні здзяйсняць
Загадаў мне.

Я ж, акаянны,
Розум пакінуў дзеля жаданняў,
Уцехамі плоці звёў сябе
У смуродную ціну грахоўную
І далёка блудзіў ад ласкі Тваёй.

Твой Сын – народжаны ў купелі духоўнай –
Цяпер – раб грахоўны!
Крычу з глыбіні сардэчнай!
І рыдаю хворай маёй душой!

Судны час усведамляю і моцна пакутую!
Як я там апынуся?
Якое слова скажу за грахі мае?
Якім будзе мне адказ ад суддзі?

Дзе схаваю мноства маіх беззаконняў,
Бо няма памочніка і збаўцы.
І што ўчыню, Госпадзе, мой Госпадзе!
Не ведаю, да каго набліжуся.
Няхай выратуецца душа мая!

Час жыцця майго непрацяглы.
Моцай сваёй – забі плоць маю!
Каб не бег неапранутым ад добрых справаў,
Дзеля радасці дэманаў!

Нібы падлетак, палонены ворагам маім,
Трапіў у апошнюю пагібель.
Няма чалавека болей грэшнага за мяне.
Каб рабіць злыя справы,
Прагнаў анёла – абаронцу душы маёй.
А прыняў згубцу,
Агіднае запусціў у маё сэрца.

Але не пакінь мяне!
Не дай дарэшты згінуць, Ісусе – добрае імя!
З зямлі стварыў мяне,
Жыццё даравў мне.
Зважай на пакорлівасць маю!

Хоць шмат разоў саграшыў,
Але ніколі не вітаў рукой маёй чужога Бога.
Не адчайваўся, але помніў пра Твой,
Чалавекалюбча, вобраз.
Пакажу на тых,
Што раней саграшылі.

Успамінаю Давыда,
Які, пасля дару прароцкага,
Уваліўся ў роў пералюбства.
Але пасля – павініўся ва ўсім
Перад Табой, Богам і творцам.
І стаў вартым тваёй ласкі.

А за Ахава сам слова прароку сказаў:
"Не ўчыні зла, калі бачыш яго,
Як ён, наракаючы, ходзіць".

О, уладару мой!
І яшчэ дадам,
Плачучы перад Табой,
Вялікіх і невылечных язваў маіх!

Як Манасія беззаконняў шмат учыніў,
Увесь Ізраіль зняславіў,
Цябе, Бога Айца, угнявіў!
Перададзены быў іншапляменніку
На пакаранне.
Яго ў медны збан пасадзілі,
Нібы скаціну, травою кармілі.
А як адчуў сваю пагібель,
Тройчы пакаяўся ў сваіх грахах,
Узмаліўся ў палоне да Цябе, Бога Айца,
І з надзеяй быў выратаваны з няволі.

Гэтак і я,
Усё злое за жыццё маё ўчыніў.
І зрабіў сябе
Не вартым Тваёй міласці.

Як змагу на вышыню Тваю
Зазірнуць брыдкімі маімі вачыма?
Як паўстану перад абліччам Тваім?
Бо падраў Богам вытканую адзежу маю,
І абразіў целам маім – сподняе.

Але ачысці мяне, як Спас,
І даруй мне, як Бог!
Спагадай на маю пакорлівасць
І не ўспамінай зласлівасці грахоў,
Якія ўчыніў на шкоду душы маёй.

Спадзяюся на Тваю ласку
І лямантую да Цябе голасам гучным!
Успомні, Госпадзе,
Найчысцейшых вуснаў Тваіх словы,
Калі прамаўляў:
"Шукайце – і знойдзеце! Прасіце – і дасца вам!"

Але ж не прыйшоў
Клікаць праведных.
Але грэшных – дзеля пакаяння.
Сярод іх,
Я – першы.

І цяпер, спавядаюся
Ва ўсіх беззаконнях маіх.
Нічога не замоўчваю.
А Ты, Госпадзе, зваж на гэта.

Звышлітасцівы, прымі мяне,
Як разбойніка і мытара, і блудніцу,
І блуднага сына!
Тыя былі ўсімі адрынуты,
Ты ж – прыняў іх
І зрабіў жыхарамі раю.

Прымі маё раскаянне,
Нікчэмнага раба Твайго,
Госпадзе Ісусе Хрысце!
Словам ачысціў пракажоных –
Ачысці заразу з душы маёй!

Будзь мне памочнікам!
Моцай крыжа Твайго – абарані мяне!
Духам тваім – умацуй мяне!
І вярні прысаромленых,
Што ваююць са мной.

Няхай гавораць вусны мае
Пра мноства міласцяў Тваіх.
Як быў памочнікам мне
Ва ўсялякіх бедах.
І суцяшальнік у дні смутку майго.

І цяпер – не адкінь малітваў раба Твайго,
Але выратуй залішне страсную душу маю.
І ўсіх хрысціянаў памілуй,
Малітвамі Прачыстай Тваёй Маці,
Уладычыцы нашай, Пані Багародзіцы!

Ты – ёсць наш Бог.
І мы мілыя табе дзеемся.
Ойча і Сыне і Святы Душа,
Памілуй нас на вякі!
Амінь!

## Малітва ў нядзелю па абедні

Божа Усемагутны! Бясконцы Госпадзе!
Высокі і слаўны Цару.
Валадарыш над усім жывым –
Бачным і нябачным.
Сядзіш на херувімах,
А Цябе апяваюць серафімы.

Табе ўслугуюць тысячы нябесных чыноў,
Моляцца да Цябе анёлы.
Усе сілы прад Табою схіляюцца.
Бо Ты ёсць адзіны Бог бязгрэшны.

Не адкінь мяне,
Малюся а шостай гадзіне гэтага дня,
Калі Ты паўстаў перад апосталамі
Пасля ўваскрэшання.
Змяніў іх маркоту на радасць,
Паказам прачыстай рукі Тваёй і рэбраў.

Забяры і маю маркоту,
Што авалодала мною.
Пазбаві ад суму грахоўнага,
І не пагрэбуй мною, Уладару.
Малюся ў момант,
Пра які Закхей прамовіў:
“Цяпер выратаванне дому твайму!”

Ты – найчысцейшы!
Дай выратаванне храму маёй душы.
Запэцкаў я цялесную абалонку храма,
Не варты прыняць
Найчысцейшае цела Тваё.

Але, добры і чалавекалюбівы,
Прымі словы малітвы маёй цяпер.
Як гутарыў з жонкай Самараніна
І спасціг таямніцу яе сэрца,
Загадаў прасіць жывой вады.

О, Госпадзе мой!
Спасцігні таямніцу і майго сэрца,
Дай мне кроплю міласці тваёй!
У Цябе ёсць крыніца жыцця,
Суцеш душу маю,
Што гарыць грахоўным полымем.
Спаталі прагу сэрца майго!

Дазволь мне ўсцешна
Дзень той сустрэць,
У які Аўрам замест Ісака
Возьме ягнятка дзеля ахвяры.
Забойства ягняці –
Правобраз ахвяры Тваёй
За ўвесь свет.

Ісусе дабрадзейны!
Ягняці Божае!
Зірні на пакорлівасць маю,
Прымі маю слоўную ахвяру,
Быццам авелевы дарункі.

Хоць апаганены і забруджаны я,
Але спадзяюся на Тваю міласэрнасць.
Не адкінуў медзяка ўдавіцы,
А ўхваліў яе больш за астатніх.
І мытара апраўдаў,
Бо шчыра маліўся.

І мяне не знішчай,
Як разбойніка і аблуднага,
Што пакаяліся за свае праграшэнні.
Ты – дабраславёны
З Айцом і Святым Духам
Цяпер і заўжды і на вякі!
Амінь.

**Малітва ў нядзелю
па вячэрні**

Дабраслаўляю Цябе, Госпадзі, Божа мой!
І сціплую песню Табе прыношу
З вуснаў маіх апаганеных,
Ад азяблага і нячыстага сэрца.

Услаўляю імя Тваё святое!
Клапоцішся і трывожышся заўжды
За мяне грэшнага.
Чакаеш, калі ж я пакаюся.
А я гняўлю Цябе,
Пераступаю праз Твае запаветы.

Што ж скажу перад славай Тваёй, Госпадзі!
Ты ведаеш неразумнасць маю,
І грахі мае ад Цябе не схаваныя.
І цяпер не адрынь мяне
Ад сузірання аблічча Твайго!

Хоць нячыстыя вусны маю,
Але прагну ўславіць Боскасць Тваю,
І вячэрнюю малітву да Цябе ўзнесці.
Цябе з пострахам ухваляе кожная душа
І ўсякая жывая істота.

О, Госпадзі, Божа мой!
Прыняў Ты грахі ўсяго свету
І мае незлічоныя і несправядальныя беззаконні прымі.
Прыйшоў да Цябе ў апошнюю гадзіну гэтага дня,
Ад мітусні збег,
Па дапамогу тваю звяртаюся.

Тваё чалавекалюбства бясконцае!
Прыняў усіх, хто прыйшоў
Да Цябе а адзінаццатай гадзіне.
Роўнымі ўсіх зрабіў з тымі,
Хто працаваў увесь дзень.

І мяне гэтаксама прымі,
Хаця мноства дзён бавіўся ў ляноце,
Жыў увесь час у забавах
І справы духоўнай
Ніколі не ўчыніў.

Не асудзі мяне, Уладару!
Як і тых, каго зваў на вячэру Тваю,
Хто вылучаўся жорсткім сэрцам,
Але ўзнагародзі мяне.
Блукаў па бездарожжы жыцця,
Шукаючы спажывы Тваёй духоўнай.

Гэты дзень схіліўся да скону,
І Сонца гадзіну вячэрнію варыць,
І гатуе мудрыя святільнікі свае.
Апоўначы прыйшоў да Цябе,
Увядзі мяне ў палац Царства Нябеснага,
Зрабі мяне яго жыхаром.
Не ўспамінай мноства грахоў маіх,
Але сваёй звычайнай міласцю –
Даруй мне.

І не дай мне ў смерці навечна заснуць,
Умацуй памкненні цела майго,
Якія цягнуць да грахоў.
Умацуй душу маю,
Што ўзрушана ад неспадзеву.
Спыні гнюсныя парыванні сэрца майго.

Прасвятлі мой розум,
Засмучаны злою маркотаю.
Начныя малітвы ўзнясу Табе –
Госпадзе Ісусе Хрысце.

Схілі вуха Тваё
Да малітваў маіх,
Адпусці ўсе грахі мае,
Узнагародзі мяне ціхім сконам
І адпусці душу маю ад цела.
І мірнага анёла прышлі да мяне,
Каб ратаваў ад д'яблаў нябесных.

Малітвамі і маленнямі Прасвятой Багародзіцы
І святых нябесных сілаў
І ўсіх святых, што адвеку служылі Табе, –
Дабраслаўёны ёсць заўжды
З Айцом і Святым Духам
На бясконцыя вякі.
Амінь.

### Малітва ў панядзелак па ютрані

Да вас, заступнікаў і абаронцаў
Жыцця нашага, звяртаюся я.
Занядбаны і грэшны,
Прыкланяюся і малюся.

Прашу вашае міласці,
Сузіральнікі Божай вялікасці –
*Святыя анёлы*,
Велічна аблеглыя,
Невымоўным святлом
Божае славы іскрыцеся!
Маліце міласцівага і ўсім шчодрага
Чалавекалюбца – Бога
Выратаваць мяне ад усякага зла.

Святы *Міхаіле*, вялікі архістраціжа,
Першы прадстаўнік Святой Тройцы,
Заступнік і абаронца чалавечага роду.
Ты праслявіўся цудамі ва ўсім свеце.
І мне дай дзённае святло,
Каб змог чыніць прыемнае Богу,
Пакінуць злыя задумы і брыдкія справы.
Адчыні слых для вушэй маіх,
Каб пачуў і спасціг Божыя словы –
Добрыя і карысныя для маёй душы.

Каб змог бачыць нутранымі вачыма
Сярод той цемры грахоўнай,
Якая трымае мяне.
У ёй праходзяць усе дні жыцця майго.
Бо ўгнявіў Творцу майго і Валадара –
Незлаблівага і бязмежна цярплівага.
Перад Ім стаяць з бояззю
Усе нябесныя сілы,
Духоўнымі вуснамі
Узносяць Яму трысвятую песню.

Маліцеся за мяне,
Які грашыць праз увесь час.
Няхай абміне мяне меч Гаподняга гневу.
Шмат беззаконняў абрынулася

На маю галаву,
Цяжкое ярмо душыць мяне.

Згадваю на хуткаплыннасць часу
Жыцця майго.
Пачуваюся, нібы апошні злачынца,
Горай усякага злога нягодніка,
Бо чыню агідныя Богу ўчынкі.

Баюся, як нізыдзе агонь з нябёсаў
І спаліць мяне.
Ці падзямельная бездань
Праглыне мяне.

Але ж ведаю глыбіні
Чалавекалюбства Божага,
Таму й не адчайваюся.
Ён не знішчыць вартага пакарання,
Але чакае на маё пакаянне.

Святы арханёле *Гаўрыіле*, –
Хадайнік радасці,
Дабравеснік выратавання,
Суцяшальнік у роспачы,
Выкараняльнік усякага зла.

Будзь мне памочнікам у той год,
Калі апануюць мной жарсці цялесныя.
Насыці мяне святым прычашчэннем!
Прасвятлі мне душу,
Згаслую ў грахах незлічоных!
Умацуй мяне на добрыя справы!

Крычу да цябе немым голасам –
Не адрынь мяне!
Але паклапаціся пра мой лёс.

Няхай не надыдзе мой канец,
Няхай смерць абыходзіць мяне
І не зловіць грэшную душу
У брыдкіх, нікчэмных занятках.

Не гатовы развітвацца з гэтым жыццём,
Не магу без адказу паўстаць
Перад страшным Судом,
Дзе кожнаму будзе ўзнагарода
Паводле ўчынкаў яго.

Ты маеш гонар звяртацца да Бога
З малітвай за ўсіх на зямлі.
Вымалі і для мяне
Адпушчэнне грахоў!

Святы Урыле![*]
Зважай на бяду маю і
Варожае войска,
Якое адужыла мяне.
У помач цябе заклікаю,
Прыйдзі дзеля абароны маёй.
Няхай прачнецца мой розум
Ад трызнення грахоўнага.

Здзіўляюся з сябе –
У грахоўных похацях
Патануў дарэшты,
Хоць іх ненавіджу.
З-за брыдкіх думак
Пазбаўляюся даброцяў ад Бога,
А Ён чакае на выратаванне маё.

---

* Урыл – анёл, пасланы да Ездры дзеля яго навучання і вытлумачэння промыслу Божага. Дзень Урыла святкуецца 8 лістапада.

Гора мне!
Не маю трывалага грунту
Дзеля пакаяння!
Хто дасць вачам маім слёзы!

Плачу да міласцівага Госпада,
Няхай пашле міласць сваю,
Выдзерыць мяне з мора грахоўнага.
Яно хвалюецца жыццейскімі хвалямі,
У якіх мы патынаем.

Не прымаю выбаўлення ад беззаконняў
Праз простае пакаянне.
Ведаю цела маё
І не хачу выракацца яго,
Пазбягаць асалодаў чароўных.

Святы *Рафаіле*!
Згуртуй мноства анёлаў тваіх,
Няхай моляцца Ўладку-Хрысту
За нікчэмную і мізэрную маю душу,
Што шчыра пакутуе
За колішнія ўчынкі агідныя.

Ведаю натуру ўласную,
Што падуладна гніенню
І хутка загіне,
Яшчэ не надыдзе і вечар.

І ўсцешацца ворагі мае
І ў радасці скажуць:
"Той чалавек мітусні ўслугоўваў,
Таму дні яго зніклі, як цень".

Але, Госпадзі мой, Госпадзі!
Ісусе Хрысце, Сыне Божы!

Схіляюся прад Табою і малюся:
Не пакінь мяне і памілуй мяне.
Выдзеры з цемры беззаконняў душу маю,
Да таго, як адыду адсюль
І паўстану на Страшным Судзе.

Дапусці святых анёлаў і арханёлаў,
Херувімаў і серафімаў,
Анёлаў улады, прастолаў і панавання,
Анёлаў пачатку,
Якія без спыну моляцца за мяне.

Яны гуртуюцца каля прастола Твайго
І прыносяць малітвы за ўвесь свет.
Няхай іх малітвы пачуе
І найсвяцейшая Маці Твая,
Уладычыца наша Багародзіца.

Выратуй мяне ад Страшнага Суда,
Ад цемры пякельнай,
Аж прагавітых і гідкіх чарвей,
Ад полымя ненасытнага.

Ты – ягнятка Божае,
Узяў на сябе ўсе зямныя грахі,
Закатаваны на крыжы,
Дзеля нашага ўратавання.

Прымі малітву маю
І дашлі анёла святога –
Ахоўніка маёй душы і цела,
Каб яго навучаннямі
Пазбавіўся ўсіх ворагаў маіх –
Бачных і нябачных.

Каб стаўся я вартым
Атрымліваць міласць Тваю
Поруч са святымі ўгоднікамі,
Што дагаджалі Табе праз вякі.

Ты – наш Бог,
Да цябе прыхінаюся
І на цябе спадзяюся.
Хоць і грэшны празмерна,
Але ж Табе ніколі не здрадзіў,
Не ўзнёс рукі маёй
Да іншага Бога.

Да Цябе малюся,
Госпадзе Ісусе Хрысце!
Цябе дабраслаўляю і Табе пакланяюся –
Адзінаму ў Тройцы
Богу Айцу, Сыну і Святому Духу
Цяпер і заўжды і на вякі!
Амінь.

**Малітва ў панядзелак па часах**

Да Цябе, Усётрымальнік
І найсвяцейшы Цару, звяртаюся,
Малюся спакутанай душой
І аб міласці прашу.

Рукой сваёй стварыў мяне,
Дараваў жыццё і душу.
Але вораг злачынны
Бессаромна напаў на мяне,
Заскрыгатаў зубамі зайздрасці,
Стралой беззаконня застрэліў мяне,
Грахоўным мячом знічтожыў.

Зваліўся я ў сетку злачынстваў.
Нібы звера дзеля забойства,
Злавілі мяне.
Адчуў язву невылечную.
Шукаў лекара на зямлі,
Але не знайшоў.

Да Цябе звяртаю словы малітвы:
Уладыка Госпадзі, Творца ўсіх!
Божа Ойча, Спраўнік душаў нашых.
Зграшыў прад небам і перад Табою,
Але не пашлі на мяне гневу,
Хоць заслужыў яго ўчынкамі многімі.

Няхай не буду, нібы рыза,
Моллю з'едзеная.
Ці, як жалеза, іржою пабітае.
Беззаконні напалі на мяне
І грахі накрылі маю галаву.

Паперадзе ежы няхай прыйдзе ўздыханне,
Усё жыццё маё апанаванае сумам.
Пострах у сэрцы маім пасяліўся,
Калі знайшоў усе беззаконні мае,
Убачыў іх даастатку.

Узведзена на мяне спакуса
І гнеў вялікі ўскладзены.
Не магу дзеля Цябе адрадзіцца,
Узнесці рукі ў неба.
Малюся бесперастанку,
Дзень за днём выбаўлення прашу.

Слухач мой адданы нябёсам –
Адзінародны Твой Сын,
Госпад наш Ісус Хрыстос,
Якога паслаў грэшнікаў ратаваць.

І Той сказаў нам:
"Прасіце і дасца вам!"

О, Госпадзі, Божа мой!
Кроў Твая – кошт душы маёй.
Няхай дойдзе да Цябе малітва мая,
Паводле слова Твайго –
Выратуй мяне.

Згадай, бо перстам галоўным з'яўляешся.
Адмераны век жыцця майго,
Акрэслены час
І падлічаны месяцы.

Па заканчэнні дзён маіх,
Не знішчы мяне даастатку.
Каб не вярнуўся ў зямлю
Цемры вечнае,
Дзе няма ні святла,
Ні жыцця для людзей.

Няхай не высмакча
Гіена крыві ўсёй маёй!
Але дай мне час
Дзеля раскаяння,
Бо не жадаеш смерці і грэшніку.

Ты, міласэрны і чалавекалюбівы,
Маеш бяздонне шчадротаў.
Дбаеш аб кожным пакутніку,
Даеш поўнае дараванне
Рабам сваім!

Ісусе Хрысце і дабрадзею,
Зара Айцу, Свеце недатыкальны!
Прасвятлі замутнёныя вочы мае,

Даруй мне грахі незлічоныя
Малітвамі слугаў Тваіх на нябёсах –
Анёлаў і арханёлаў,
Пачаткаў і ўлады,
Моцы, прастола і валадарства,
Херувімаў і серафімаў.

Малітвамі святой і прачыстай Багародзіцы
І ўсіх святых Тваіх
Памілуй мяне.
Ойча і Сыне і Святы Душа,
Ты – ёсць мой Бог.
Цябе аб даражанні прашу
Цяпер і заўжды і ў вяках.
Амінь.

**Малітва ў панядзелак па вячэрні**

Валадару Госпадзі!
Стваральнік усіх істотаў –
Жывых і нежывых.
Бог моцы, Творца вякоў,
Вынаходнік часоў і гадоў,
Вымяральнік дзён і начэй.

Ты аддзяліў святло ад цемры
І ўбачыў, што гэта дабро ёсць.
Ты сатварыў дзень і вечар,
Якога я здолеў дастаць,
Дажыць да гэтае хвілі.
І зараз вячэрнюю службу
Табе дасылаю.

Выправі малітву маю,
Нібы кадзіла перад Табою.

Умацуй ногі мае ў запаветах Тваіх
І рукой маёй падаянне асвяці.
Ачысці вусны мае
Чысцінёю словаў Тваіх
Пакладзі страх у сэрца маё,
Каб не прагнула злога.
Не пакінь мяне без Тваёй абароны!

Госпадзі Ісусе Хрысце, Сыне Божы,
Дабрадзейны Госпадзі!
Памажы мне адолець цяжар і спакусы!
Скажы вуснамі Сваімі:
"Пакліч Мяне і выратую цябе!"
І клікаю Цябе гучна і безупынна.

Не аддай мяне Сатане на пакуты,
Каб не згінуў я даастатку.
Не абмяжую вуснаў маіх
Ад хваласпеваў Табе.
Не разлучуся з Табой,
Каб вораг не цешыўся
І не спытаўся здзекліва:
"Дзе падзеўся твой Бог?"

Ты – мой Бог назаўжды,
Валадар і чалавекалюбца бязмежны.
Ніколі не адкідваеш рабоў Тваіх,
Але даруеш грахі ўсім,
Хто аддана любіць Цябе.

Прымі малітву маю
У час вячэрні.
Кожны дзень і гадзіну
Узношу малітвы і спевы Табе.
Каюся за грахі штодзённыя.

Праз іх стаўся падобны
Да неразумных жывёлаў –
Бясконцым ядзеннем, пітвом
І жаданнямі брыдкімі.
Яны аддалілі мяне ад Цябе.

Вораг Твой
Дасюль чыніць козні.
Ён выкрадае мяне,
Прагне патапіць
У глыбінях грахоўных.
Але выступі ў маю абарону,
Скажы душы маёй:
"Выратаванне тваё – ёсць Я!"

Няхай вусны мае
Агучаць даброці Тваё,
Калі памілуеш і выратуеш
Мяне грэшнага.
І ўхвалю імя Тваё на вякі!

Адарві мяне ад цела майго,
Анёльскай аховай
Абарані душу маю.
Правядзі праз выпрабаванні
Каля брамы нябеснай.

Хачу апынуцца ў правай краіне
Побач са святымі ўгоднікамі,
Якія прыносяць малітвы Табе
І найсвяцейшай Багародзіцы,
І святому прароку, папярэдніку
І Хрысціцелю Іаану,
І ўсім святым.

Ты – дабраслаўлёны
І ўслаўлены з Айцом

І са Святым Духам
Цяпер і заўжды і на вякі.
Амінь.

**Малітва ў аўторак па ютрані
ў гонар Іаана Прадцечы**

Хрысціцель Хрыста,
Прапаведнік пакаяння!
Не грэбуй мною,
Бо шчыра каюся.

Супольна з ваярамі нябеснымі
Маліся да Ўладара за мяне –
Нікчэмнага раба,
Сцішанага, бездапаможнага і сумнага,
Які трапіў у безвыходную бяду,
Змучыўся ад бурлівых памкненняў
Майго розуму.

Стаю прад Табою,
Прысаромлены ад чорных справаў маіх,
Абкладзены ўчынкамі
І цяжарам грахоўным.
Разрываюся ад жарсцяў жыццёвых,
Хаваюся ў таямніцах справаў маіх,
Апанаваны прагай
Нясцерпных жаданняў.

Не схіліў каленяў у скрусе і пакаянні,
Не спыніў злых падзенняў
Душы маёй.
Праз халодную браму грахоўную
Збіўся з праведнага шляху,
Што вёў да нябеснага царства.

Стаў на сцяжыну беззаконняў,
Кідаюся ва ўладзе эмоцый,
Як коліць мяне шып грахоўны.
Сумленне мяне трывожыць,
Людзі паўсюль мяне ганяць.

У самоце сканчаю дні жыцця майго,
Сардэчныя вочы мае аслеплі.
Спаліў адзенне маёй душы,
Усё цела нянавісцю знявечыў.

Вялікай аблудзе дзверы пачуццяў адчыніў,
Усе злыя справы, што ёсць,
Праз свой век – учыніў.
Баюся быць ссечаным,
Як няплодная смакоўніца.

Набліжаецца смяротная сякера.
Якая адправіць мяне ў нязгаснае вогнішча.
Ад яго сам Сатана дрыжыць,
І з яго назад не вярнуцца.

Цяжка мне!
Душа, разумей і сузірай
Доўгую Божую цярплівасць.
Ён не прагне смерці грэшніка,
Але чакае праўдзівага пакаяння.

Гора мне!
Што набыў я ў часе жыцця майго?
Ад пачатку свету і дагэтуль
Няма грэшніка большага за мяне.
Стаўся вертэпам злых справаў.
Грахоўным учынкам маім не бачна сканчэння,
Розум мой да рэчаў зямных прыкаваны.

Не ведаю, што ўчыню і да каго звярнуся.
Няхай будзе выратавана душа мая.
Да Цябе, святы прарочa
Іаане Прадцеча, звяртаюся.
Цябе лічу вышэй за ўсіх,
Бо ты прыняў вяршэнства Цара-Хрыста.
Маліся яму за мізэрную маю душу.
Ад гэтага часу і назаўжды
Панясу ярмо ад рукі Гасподняй.

Няхай не зойдзе для мяне Сонца,
Няхай не абдыме мяне
Страшная, вусцішная ноч
І глыбокая цемра,
Але не пакіну святой бажніцы Хрыстовай.
І толькі тады, калі згасне мая свечка
Ад маркоты і ляноты,
Знікне і мізэрная мая надзея.

Усё існае паўстане для Страшнага Суда.
Там выявіцца кожная справа
Без выпрабавання.
Анёлы паўстануць з бояззю,
Зямля захістаецца,
Агонь ненажэрны пацячы,
Паглынаючы беззаконнікаў,
Сярод якіх я – першы.

Пасля Суда ўсе праведнікі – заўсміхаюцца,
Найпадобныя – развесяляцца,
Бясшлюбныя – абвянчаюцца,
Чарнарызцы – суцешацца.
Апосталы на нябёсах будуць захапляцца,
Прарокі – праслáвяцца,
А ўсе святыя адпачнуць ад працаў,
Бо нацярпеліся ў гэтым свеце.

Што рабіць мне грэшнаму?
У вычварэннях правёў дні жыцця майго,
У брудзе прайшлі гады мае.
Смерці чакаю.
Аб праграшэннях ніколі не шкадаваў
І пра Вечнае Царства не дбаў.

Але не адрынь мяне –
Хрысціцель Ісуса Хрыста,
Сумленны Прадцеча,
Апошні прароча,
Першы пакутнік і цярплівец,
Настаўнік поснікаў і пустэльнікаў,
Настаўнік чысціні
І сапраўдны сябра Хрыстовы.

Да цябе малюся і да Цябе прыбягаю
Не пазбаў мяне Твайго заступніцтва,
Падтрымай мяне, нендзнага,
Пагразлага ў мностве грахоў.

Абнаві душу маю пакаяннем,
Бо яно ж ёсць другое хрышчэнне.
Над двума ты начальнік:
Хрышчэннем змываеш першародны грэх,
Пакаяннем абмываеш заразу душэўную.

Ачысці мяне грэшнага!
Брудныя вусны крычаць да Цябе.
І душа хворая моліцца,
Апаганенае сэрца з глыбіняў уздыхае.

Уздымі найчысцейшую Тваю руку,
Адцягні мяне ад ворагаў маіх.
Пасля растання душы з целам
Няхай не зловяць мяне д'яблы і не скажуць:
"У гэты дзень яго чакаем".

Ой, Госпадзі мой, Ісусе Хрысце!
Малітвамі святога Іаана,
Хрысціцеля Твайго,
Не аддай мяне д’яблам на здзекі,
Каб не выхваляліся валоданнем мною,
І з’едліва не прамаўлялі:
“У рукі нашыя трапіў нарэшце!”

Чалавекалюбча і Цару магутны!
Пагасі прагнасць іхнюю.
Нісклaдзі іх ганарыстасць бязмежную.

Ведаеш, Госпадзі, пра мноства грахоў маіх!
Напраўду, іх не злічыць.
Але пакладаюся на глыбіню шчадротаў Тваіх.
Вяртаюся, нібы блудны сын,
Зрабі мяне парабкам Тваім.
Малю Цябе, як ханаане:
Каб, як той пёс,
Насыціцца крупіцамі Тваёй трапезы –
Госпада нашага Бога.

Лямантую да Цябе!
Нібы той, што заразай зніштожаны.
Калі хочаш, ачысці мяне!
Не кажу, як той саслабелы:
“Госпадзі, няма чалавека!”

Ты, Сын Дзевы Марыі!
Дзеля мяне ўвасобіўся
І немачы натуры маёй панёс.
Сына ўдаўца, якога неслі хаваць, – уваскрэсіў.
І Лазара праз чатыры дні з труны ўзняў,
І сляпым вочы расплюшчыў словам сваім.
Раны крывацёчныя дотыкам рызаў ачысціў.
Прыняў разбойніка, што аднойчы пакаяўся,
Надзеяй на рай яго ўзнагародзіў.

Цяпер, Ты, Госпадзі Божа,
Прымі споведзь маю.
Дазволь мне ў апошні дзень
Пакорліва стаць перад Табою.

Няма ўва мне чысціні,
Ані ў якой частцы цела.
Трапіў, нібы ў рукі разбойнікаў,
З-за грахоў натуры маёй.

Аднак ахутай мяне
Тваімі святымі запаведзямі,
Быццам раны ўзвядзі на мяне.
Усведамляю сарамлівыя ўчынкі мае
І пачуваюся напаўмёртвым,
Пазбаўленым надзеі.

Госпадзі мой, Ісусе Хрысце,
Ты сам, нібы самаранін,
Які сцеражэ ўласны статак,
Прынёс мяне ў гасцініцу –
Святую Тваю Царкву.
У ёй здабываецца душэўнае здароўе
Тымі, хто хворы грахамі.

Ты – гаспадар і лекар!
Паклапаціся пра мяне.
Атулі мяне Тваёй міласцю,
Знішчы бруд многіх маіх грахоў!
Дай паратунак душы маёй і целу!
Няхай і на мне з'явіцца
Твая міласэрнасць.

І прымі сапраўднага Прадцечу
Іаана Хрысціцеля
І Прачыстую тваю Маці,

Уладычыцу нашу – Багародзіцу,
Якія моляцца за нас.

І выратуй мяне,
Грэшнага раба Твайго!
Бо каюся за грахі мае.

На Цябе, Выратавальніка, ускладаю надзею.
Услаўляю святое імя Тваё –
Айца, Сына і Святога Духа –
Цяпер і заўжды і праз вякі.
Амінь.

# НАПАМІН АБ ЖЫЦЦІ КІРЫЛЫ, ЕПІСКАПА ТУРАЎСКАГА

“Напамін аб жыцці Кірылы, епіскапа тураўскага” напісаны ў XII ст. неўзабаве пасля адыходу Кірылы Тураўскага ў іншы свет. У цэнтры ўвагі аўтара твора – жыццё і дзейнасць славутага пісьменніка і рэлігійнага дзеяча старажытнай Беларусі.

На старонках “Напаміну...” падаюцца звесткі аб месцы нараджэння і сацыяльнай прыналежнасці Кірылы Тураўскага, адзначаецца яго схільнасць да навучання і спасціжэння Святога Пісання ўжо ў раннім веку.

Пісьменнік фіксуе першыя крокі дзейнасці Кірылы Тураўскага ў манастыры, яго адданае служэнне Богу, старанную працу з манахамі, а таксама ўзыходжанне на епіскапства.

У творы згадваецца факт палемікі і змагання Кірылы Тураўскага з епіскапам Феадорцам, які быў пераможаны тураўскім епіскапам і прakляты як “ерэтык”.

Асабліва падкрэсліваецца плённасць пісьменніцкай працы Кірылы Тураўскага: напісанне ім шматлікіх “пасланняў” да князя Андрэя Багалюбскага, павучальных урачыстых словаў і канонаў.

У заключнай частцы твора змешчаны гімн у гонар Кірылы Тураўскага, просьба да яго маліцца на нябёсах за тых, хто застаўся на зямлі.

Пераклад “Напаміна аб жыцці Кірылы, епіскапа тураўскага” ажыццёўлены паводле публікацыі М. К. Нікольскага (Материалы для истории древнерусской духовной письменности. СПб., 1907. С. 62–64).

## Напамін аб жыцці Кірылы, епіскапа тураўскага

Святы Кірыла, як яго назвалі пазней у рускай зямлі, быў народжаны і выхаваны ў горадзе Тураве. Сын заможных бацькоў, ён, аднак, не захапіўся багаццямі і хуткаплыннай славай гэтага свету. Падлетак найбольш цікавіўся Божым Пісаннем і ў выніку – добра авалодаў навукай, змешчанай у Святых кнігах.

Праз нейкі час юнак падаўся ў манастыр і пастрыгся ў манахі. Ён працаваў дзеля Бога больш за астатніх. Пастамі і службамі скарыў сваё цела, зрабіўся сапраўдным прытулкам для Святога Духа.

Шмат каму Кірыла прыносіў карысць. Уласным прыкладам навучаў і выхоўваў астатніх манахаў, каб яны былі пакорлівыя і паслухмяныя ігумену. Каб яны ва ўсім слухаліся ігумена, нібы Бога. Бо калі манах адмаўляецца падпарадкоўвацца волі ігумена, як абяцаў пры пастрыжэнні, дык ён не выратуецца.

Добрапрыстойны Кірыла, імкнучыся здзейсніць подзвіг, пайшоў у вежу. Ён зачыніўся ў ёй і знаходзіўся там працяглы час у самоце, дарэшты аддаючыся пасту і малітвам.

Найпадобны Кірыла шмат прапаведваў Божае Слова і здабыў славу ва ўсёй краіне.

Паводле просьбы князя і месцічаў горада Турава мітрапаліт прызначыў Кірылу на Тураўскую епіскопію. Кафедра месцілася ў горадзе Тураве, што ляжыць непадалёк ад Кіева.

Кірыла стаўся надзейным слугой Божай Царквы. З дапамогай Божага Пісання ён выкрыў епіскапа-ерэтыка Феадорца, а затым пракляў яго.

Дабрачынны Кірыла напісаў шмат пасланняў да князя Андрэя Багалюбскага. Яны заснаваны на евангелічных і прарочых пісаннях і чытаюцца на святы Гасподнія. Кірыла таксама стварыў і іншыя шматкарысныя словы: малітвы Госпаду і пахвалы святым.

Усё напісанае Кірыла пакінуў у спадчыну Хрыстовай Царкве.

Вялікі канон аб пакаянні да Госпада, напісаны Кірылам, уключае раздзелы, якія пачынаюцца з чарговай літары азбукі.

Кірыла добрасумленна жыў і старанна пасвіў даручаны яму статак. А затым ён пайшоў на вечны спачын.

Прыйдзіце цяпер, браты! Ухвалім свайго свяціцеля і прамовім да яго.

Радуйся, праўдзівы свяціцель і настаўнік наш – другі Златавусны, што заззяў на Русі ярчэй за ўсіх!

Радуйся, свяціцель! Сваім прасветлым вучэннем асвятліў усе куткі рускай зямлі!

Радуйся! Ты, нібы Сонца, прасвятліў змрок і цемру богаразуменнем!

Малюся табе, свяціцель! Мае сціплыя словы табе прыношу.

Маліся за нас перад Усявышнім. Прад ім цяпер з гонарам стаіш. Прасі, каб маглі мы пазбавіцца ад пакутаў і тлуму паганскага, ад бязбожных агаранаў, што здзекуюцца над намі.

Здабудзем міласціну праз твае малітвы.

Пазбавімся грахоў і знойдзем сапраўдную асалоду ў гэтым свеце!

# СЛОВА ПРА МАНАХА МАРТЫНА

"Слова пра манаха Мартына" – рарытэтны помнік беларускай літаратуры XII ст. з элементамі містыкі і легендарнасці.

У аснове твора – сюжэт пра цудадзейнае выздараўленне манаха Мартына пры дапамозе святых пакутнікаў Барыса і Глеба.

Галоўны персанаж твора – манах Мартын. Ён доўгі час служыў кухарам пры тураўскіх мітрапалітах. У сталым веку Мартын быў вызвалены епіскапам Георгіем ад абавязкаў, бо надта часта хварэў. Аднойчы ўначы да Мартына з'явіліся святыя пакутнікі Барыс і Глеб і дапамаглі яму пазбавіцца ад невылечнай хваробы.

Надзвычай каштоўны ў мастацкім плане дыялог паміж Мартынам і святымі пакутнікамі Барысам і Глебам.

"Слова пра манаха Мартына" друкуецца паводле публікацыі: Кніга жыцій і хаджэнняў. Мінск, 1994. С. 58–59. Выверана і выпраўлена паводле фотакопіі рукапісу Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу (ОЛДП. Ф. 474. Арк. 177–177 адв.)

## Слово о Мартине мнисе, иже бе Турове у церкве Святою мученику, един жив о Бозе

Некто старец именем Мартин, быв преже повар епископом Туровским – Семеону, Игнатию, Иакиму. Сего епископ Георгий свободи старости ради.

И быв мних, пребываше в епископли манастыри у святаго мученика на Болонии, един живый.

Часто же боляше старец лоном, чрева бо ему в лоно въхожаху. И егда се бывааше, и тогда лежаше старец, вопия, не моги въстати и послужити телеси своему.

И единою же, болящю ему тем недугом, и лежаша в келии, от жажи въдъныя изнемагая, и никому же посетившю его, зане бе вода велика околъ манастыря.

В третий же день вънидоста к нему святая мученики Борис и Глеб яве в своем подобии, якоже на иконе написаны беста, и глаголаше:

– Чим болиши, старче?

Он же поведа им недуг свой.

И реста:

– Хощеши воды, старец?

– О господине, уже я давно жадаю!

И възем един ручьку старчю и принесе ему воды. И воземши корец, напоиста старца.

И рече старец:

– Чия еста детески?

Глаголаста:

– Ярославли.

И мняше старец:

– Георгевича Ярослава слузе беста.

И рече:

– Бог да створит вам многаа лета, господина моя. Обаче въземши сами хлеба ядиста, аз бо не могу послужити вам.

Они же реста:

– Абы тобе был хлеб. Мы уже отидем, а ты не боли, упочини.

Ти яко невидимо беста, и старец же обретеся здрав. И въстав съ дра, прославиша Бога. И в святых мученик пребы до того же году съдрав.

И се сам сказа духовному отцю.

# ПАХВАЛА КНЯЗЮ РАСЦІСЛАВУ МСЦІСЛАВІЧУ

"Пахвала князю Расціславу Мсціславічу" – рарытэтны помнік літаратуры перыяду Готыкі, створаны ў Смаленску прыкладна ў другой палове XII ст. невядомым пісьменнікам.

У творы ўхваляецца плённая дзейнасць смаленскага валадара Расціслава (памёр у 1167) на княжацкай пасадзе, яго незалежны нораў, імкненне зрабіць Смаленск ключавым палітычным цэнтрам на ўсходнеславянскіх землях.

На старонках "Пахвалы..." асабліва адзначаюцца заслугі Расціслава перад Праваслаўнай царквой, у прыватнасці, – заснаванне ім епіскапіі ў Смаленску. Аўтар асвятліў важнейшыя акалічнасці гэтага ўчынку князя. Пісьменнік паведамляў, што Расціслаў пасля ўзыходжання на Смаленскі княжацкі пасад надта абурыўся ("негодова") знаходжаннем царквы пад уладай Пераяслаўскай епіскапіі. Ён параіўся з баярамі і ўсталяваў незалежную епіскапію ў Смаленску, перадаўшы царкве значную частку ўласных уладанняў.

Па словах аўтара, Расціслаў выяўляў незвычайны клопат пра людзей, дбаў пра іх асвету. У выніку ён быў шчодра ўзнагароджаны – пастаўлены валадаром над усімі праваслаўнымі землямі.

"Пахвала князю Расціславу Мсціславічу" друкуецца паводле публікацыі: *Я. Н. Щапов.* Похвала князю Ростиславу Мстиславичу как памятник литературы Смоленска XII в. // Труды отдела древнерусской литературы. Л., 1974. Т. 28. С. 59.

## О великом князе Ростиславе, сын Мстиславль

Сеи треблаженныи и святыи князь Ростислав, сын Мтиславль, внук Володимирь Божием повеленіем, и святые Богородици, и отца своего молитвою прииде первое в град в Смолинеск на княжение.

И виде смолинскую церков сущую под Пересловлем, и негодова.

И здума с бояры своими и с людми, и постави епископа к церуве святыя Богородици.

И уял часть от всея области своея, и дал святеи Богородици и епископу.

И боле люди сия и землю просвети.

И скончася заповедь Господня о Ростиславе, яже рече: "Благии рабе верне, в мале бысть верен, надо многими тя поставлю, вниди в радость господина своего".

Занеже дал Божия Богови часть, а Бог ему дасть за доброту его сторицею и царстовати всеи Рускои земли. А на оном свете – Царство Небесное.

И препровадив Бог дни живота его в славу, и в честь, и кончася месяца марта 14.

Аще кто поревнуеть того треблаженнаго и святого князя, от Бога прииметь спасение, а от святые Богородици заступление.

Паки ли – да сам си веда.

Ростиславу вечная память, а живым – на многа лета.

Аминь.

# КЛІМ СМАЛЯЦІЧ

Клім Смаляціч (XII ст.) – буйнейшы пісьменнік і хрысціянскі мысліцель XII ст. Ён паходзіў са смаленскіх крывічоў, атрымаў выдатную адукацыю. З 1147 да 1154 г. Клім Смаляціч займаў пасаду кіеўскага мітрапаліта. Ён выступаў з патрыятычных пазіцый, не падтрымліваў прызначэння на царкоўныя пасады на ўсходнеславянскіх землях духоўных асобаў з Візантыі.

Са спадчыны Кліма Смаляціча захаваліся: "Пасланне да прасвітара Фамы" і "Павучанне аб любові" – рарытэтныя помнікі нацыянальнага прыгожага пісьменства і філасофіі.

"Пасланне да прасвітара Фамы" дайшло да нашага часу ў шматлікіх рукапісных зборніках XVI і XVII стст. "Пасланне..." з'яўляецца сінкрэтычным творам, які ўтрымлівае элементы мастацкай публіцыстыкі, філасофіі і біблейнай экзэгетыкі.

Паводле формы "Пасланне да прасвітара Фамы" з'яўляецца разгорнутым адказам – "хартыяй" Кліма Смаляціча на папярэдні ліст Фамы, у якім той выказаў "дакоры" мітрапаліту. Фундаментальная дыскусія з прасвітарам Фамой, які, відавочна, прытрымліваўся артадаксальнай хрысціянскай схаластыкі, утварае структурна-кампазіцыйны і семантычна-зместавы стрыжань твора. Менавіта таму твор можна адносіць да разраду палемічных трактатаў.

Агульная структура "Паслання..." уключае: разгорнуты ўступ, дзве асноўныя часткі, якія ўключаюць разгляд асобных пытанняў, і заключэнне-падагульненне.

Ва ўступе да "Паслання..." Клім Смаляціч найперш адзначае, што азнаёміў шырокае кола слухачоў, у тым ліку і кіеўскага князя Ізяслава, з "абвінавачаннямі", якія выказаў у яго адрас Фама. Пісьменнік перад пачаткам прадметнай дыскусіі акрэслівае місію духоўных асобаў і інтэлектуалаў. Паводле яго слушнага меркавання, іх прызначэнне палягае ў пошуку ісціны. Менавіта ісціна, а не прага славы, улады ці папулярнасці, даводзіў Клім Смаляціч, з'ўлялася пуцяводнай зоркай для яго самога.

Вельмі каштоўнымі, на думку беларускага інтэлектуала, з'ўляліся веды антычных мысліцеляў – Гамера, Арыстоцеля, Платона.

супольнасці паслы прасілі Войшалка згадзіцца на панства, што належала яму паводле ўсіх правоў.

Пакліканы Богам да духоўнага стану, Войшалк доўга не згаджаўся з прапановай, прыводзіў мноства прычын сваёй адмовы.

Праз пэўны час да Войшалка накіравалі новых паслоў, якія ўльтыматыўна заявілі:

– Калі не пагодзішся ўласнай воляй, гвалтам узвядзём цябе на панства.

Урэшце, улагоджаны просьбамі падданых, Войшалк паехаў з Пінскага манастыра ў Наваградак. Адтуль з навагрудцамі, з княжацкім почтам (суправаджэннем), накіраваўся да Кернава. Там усе паны і баяры, уся супольнасць з радасным узрушаннем, з воклічамі "лада", "лада" ласкава прынялі Войшалка.

Затым, паводле ўстаноўленых цырымоніяў, з мячом, у каштоўных шатах і княжацкай шапцы Войшалка ўзвялі на трон Вялікага Княства Літоўскага, Жамойцкага, Наваградскага, Полацкага і Курляндскага. Усе зычылі вялікаму князю шчаслівага панавання на доўгія гады.

Так Войшалк стаў гаспадаром дзяржавы. Але ён не развітаўся даастатку з манаскім станам. Апранаючыся як вялікі князь у светлакаштоўныя сукні, ён заўсёды на галаве насіў чорную шапку.

## IV

Напачатку гаспадарання Войшалк жорстка закатаваў мноства літоўскіх, жамойцкіх і яцвяжскіх паноў. Так ён адпомсціў ім за смерць свайго бацькі Міндоўга.

Многія паўцякалі з панства Войшалка, баючыся яго, нібы Нерона. Вялікі князь раздаваў іх маёнткі сваім дваранам.

Войшалк доўга пераследаваў унутраных ворагаў. Ён пазбавіў іх скарбу, які потым скарыстаў на ўтрыманне войска, што бараніла паўднёвыя межы дзяржавы ад нападаў уладзімірскага князя Льва Данілавіча.

Вялікі князь Войшалк меў прыязныя дачыненні з друцкім князем Шварнам, пляменнікам Данілы. Супольна яны нападалі на Польскія землі і няшчадна рабавалі іх.

Пазней, ужо пасля смерці Данілы, Войшалк сабраў незлічонае войска з літвы, жамойтаў і яцвягаў і завалодаў некалькімі рускімі замкамі. Потым вялікі князь рушыў на Валынь, маючы на мэце выдзерці горад Уладзімір з рук Льва Данілавіча.

Аднак князь Леў вельмі мудра ўнікнуў вайны з Войшалкам. Дбаючы пра свае ўладанні, ён згадзіўся пайсці на кампраміс з Войшалкам, паабяцаўшы перагледзіць дзяржаўныя межы на яго карысць.

Войшалк загадаў распусціць войска, бо знайшоў паразуменне з Львом Данілавічам: яны дамовіліся пра асабістае спатканне, каб наперад не дапускаць вайны і канчаткова вырашыць пытанне пра дзяржаўныя межы.

## V

На лёсавызначальную сустрэчу ў горад Уладзімір прыехалі: галіцкі князь Васіль, родны брат рускага караля Данілы; друцкі князь Шварн ды іншыя рускія князі.

Войшалк прыехаў у прызначаны час да Вронска і спыніўся там у манастыры святога Данілы, дзе ён калісьці жыў, як быў манахам. Разам з атачэннем вялікі князь Войшалк цярпліва чакаў прыезду рускіх князёў, каб дамовіцца пра новыя дзяржаўныя межы.

Аднак Леў Данілавіч зрабіў хітры і каварны ход. Ён вырашыў зацягнуць Войшалка глыбей у свае ўладанні, каб там надзейна пакончыць яго. Леў папрасіў Васіля і Шварна, каб яны сустрэліся з Войшалкам і прапанавалі яму разам з усімі панамі прыехаць ва Уладзімір дзеля сяброўскіх перамоваў.

Войшалк і літоўскія паны асцерагаліся Льва, падазраючы яго ў падмане, бо між імі даўно ўзнікла непрыязнасць.

Аднак Шварн і Васіль гарантавалі Войшалку бяспеку, кляліся сваёй верай.

Атрымаўшы гарантыі бяспекі, Войшалк паехаў з імі ў горад Уладзімір. Там Леў з братам Раманам у нядзелю прынялі Войшалка, аказаўшы яму годнае ўшанаванне.

Войшалк з яго атачэннем спыніўся ў манастыры святога Міхаіла.

На наступны дзень, пасля перамоваў, немец Міршкальт, які служыў дарадцам у караля Данілы, запрасіў усіх князёў да сябе на ўрачысты абед.

Пасля вячэры князь Васіль на добрым падпітку паехаў да сваёй гасподы (месца пражывання). Войшалк са сваімі панамі, не адчуваючы аніякай пагрозы, таксама паехаў адпачываць у манастыр.

Праз нейкі час уладзімірскі князь Леў нечакана завітаў да Войшалка ў манастыр. Ён паклікаў Войшалка з пакояў і паводле сяброўскага звычаю прапанаваў:

– Пане куме, вып'ем яшчэ. – Яны пакуміліся акурат у таго пана Міршкальта.

Войшалк згадзіўся і, не адчуваючы небяспекі і здрады, выйшаў да Льва.

Леў адразу пачаў дакараць Войшалка. Ён прыгадаў крыўды, якія чыніў яго бацька Міндоўг рускім землям, успомніў заваяванне ім некалькіх замкаў.

Леў моцна распаліўся, затым гучна загадаў сваім слугам адскочыць, выхапіў шаблю і з размаху рассек Войшалку галаву, ажно мазгі пырскнулі на сценку.

Акрываўленае цела засталося ляжаць у манастыры.

Іншых паноў і дваранаў, што прыехалі з Войшалкам, таксама ўсіх знішчылі.

Такім неспадзяваным чынам Леў паклаў канец вайне з Літвой.

Галіцкі князь Васіль і друцкі князь Шварн неверагодна перажывалі і смуткавалі з-за такога здарэння, бо менавіта яны кляліся Войшалку, абяцалі яму поўную бяспеку.

Забойства Войшалка – вялікая ганьба і пляма на ўвесь рускі народ, бо быў зламаны прыняты ўсімі народамі звычай.

Войшалка пахавалі ганарова, як вялікага князя, у тым жа манастыры святога Міхаіла ва Уладзіміры.

# СКАЗАННЕ ПРА ДАЎМОНТА

"Сказанне пра Даўмонта" – помнік беларускай і рускай літаратуры XIII ст. Твор напісаны праваслаўным аўтарам, набліжаным да асобы Даўмонта. Верагодна, ён быў літвінам паводле паходжання і пераехаў у Пскоў разам з Даўмонтам у 1265 г., а затым суправаджаў яго ў шматлікіх вайсковых паходах.

Галоўны герой твора – князь Даўмонт. Пра яго вядома, што ён з'яўляўся нальшчанскім князем. Пасля заваявання Войшалкам у 1265 г. Нальшчанаў Даўмонт са сваімі прыхільнікамі збег ад пакарання ў Пскоў, дзе бы абраны князем. Ён мужна змагаўся з крыжакамі – у 1268, 1269, 1272, 1298 і 1299 гг., аб чым ёсць падрабязныя звесткі ў пскоўскіх летапісах. Асобныя моманты жыцця і дзейнасці гэтай унікальнай гістарычнай асобы акурат і адлюстраваны ў літаратурным "Сказанне пра Даўмонта".

*Сюжэтная* лінія "Сказання пра Даўмонта" надзвычай насычаная. Аўтар твора перадусім адзначае, што ў 1266 г. Даўмонт прыехаў у Пскоў разам са сваёй сям'ёй і з бліжэйшым атачэннем у колькасці 300 асобаў. Там ён прыняў праваслаўнае веравызнанне і хрысціянскае імя Цімафей. Пасля прыняцця хрышчэння жыхары Пскова ўрачыста ўзвялі Даўмонта на пасад пскоўскага князя.

Летапісец падрабязна распавядае пра паход Даўмонта на Полацкую зямлю, паланенне жонкі князя Гердзеня і яго дзяцей.

Асноўнае месца на старонках твора займае акурат батальная сцэна – бітва войска Даўмонта з дружынай князя Гердзеня на Дзвіне. Пісьменнік перадае шматлікія дэталі, асабліва падкрэслівае перамогу невялікай дружыны Даўмонта ў колькасці 90 чалавек над пагоняй князя Гердзеня, якая налічвала ад 600 да 800 чалавек.

Яркай адметнасцю твора з'яўляецца высокамастацкая малітва Даўмонта да Святой Тройцы і яго зварот да дружыны перад вырашальнай бітвай.

Атар "Сказання..." з радасцю паведамляе пра трыумф Даўмонта, ганебныя ўцёкі Гердзеня і радасную сустрэчу князя-пераможцы жыхарамі Пскова.

Летапіснае “Сказанне пра Даўмонта” паслужыла асновай для з'яўлення ў стараруской літаратуры корпуса твораў пра пскоўскага князя Даўмонта.

“Сказанне пра Даўмонта” друкуецца паводле публікацыі: *В. И. Охотникова.* Повесть о Довмонте. Л., 1985. С. 200–201.

## Сказанне пра Даўмонта

В лето 6774 (1266) князь литовский Домант остави отечество свое – Литовскую землю и идолскую прелесть, и прииде в град Псков съ всем домом своим, и крестился, и наречен бысть в святом крещении Тимофей. Тогда же прибегоша в Псков поганыя литвы триста семей съ женами и детми и крестишяся в православную христианскую веру. Псковичи же новопросвещеннаго князя Тимофея-Доманта с великою честию възведошя на стол и възрадовашяся о его просвещении.

Не по мнозе же благоверный князь Тимофей-Домант поиде Литовскыя земли воевати. Поим с собо избранных своих и псковичи тридевятьдесят, и внезаапну безвестно прииде в свое отечество – в Литовскую землю. И Божиею Помошию, поспешеством святыя живоначаллныя Троица поплени всю землю Литовскую и свое отечество. И княгиню Герденеву пленил и дети их съ многим богатством взял.

Взвратися къ Пскову съ многим пленом и прелез Двину-реку, отьехав пять поприщь, ста шатры на чистом бору, а стражи постави у реце Двины. И два девяноста отпусти съ пленом къ Пскову, а девяносто остави у себе, ожидаа по себе погони.

Князь же литовский Гердень, услышав, что князь Домант землю его повоевал и княгиню его и дети пленил, и абие ополчися съ братиею своею и сродники. И събрав вои осмьсот, и погнашяся за князем Домантом съ яростию великою, гордящеся и хотяще его злой смерти предати. И приспе к реце Двине и начашя реку прелазити. Стражие же

узревшие многих людей и абие пригнаша къ князю Доманту, поведающе ему рать литовскую, за ним женущу и реку Двину прелезошя.

Слышав же сие благоверный и храбрый князь Домант, прослезися, и помолися Господу Богу, и рече:

– О, пресвятая и живоначалнаа Троице, Бог наш превечный, помилуй нас грешных и помози нам в час сий, не предаждь нас вруце врагом нашим безбожным, да не рекуть, где есть Бог их.

И рече к дружине своей:

– Се нам, братие, предлежит живот и смерть, потягнем за Святую Троицю и за православную христианскую веру, да не будем въ расхищение поганым.

И нападе на них съ единым девяностом и Божиею милостию одоле и победил супротивных врагов поганой литвы шестьсот. Тогда же убиен бысть литовский князь Готорт. И инех многих князей избишя. А инии мнози в реце Двине истопшя. И изверже Двина мертвых 70 человек на остров Гаидов, а князь Герденъ вмале утече.

Благоверный же князь новопросвещенный Тимофей-Домант, благодарив Бога, съ своею дружиною прииде здрав с великою победою в град Псков. И изыдоша псковичи, игумени и священници и весь народ градский в сретение тому и прияшя его с великою честию и радостию, о победе веселящеся.

И от того времени литовскые первыя государи до конця оскудешя. По сих же начяша быти в Литве государи иншаго роду.

# АПОВЕСЦЬ ПРА ТРАЙДЗЕНЯ І ЯГО СЫНА ЛАЎРЭНЦІЯ

"Аповесць пра Трайдзеня і яго сына Лаўрэнція" – невялікі летапісны твор XIII ст., напісаны сведкам тагачасных падзей. Аўтарства твора, верагодна, належыць асобе, набліжанай да манаха Лаўрэнція – сына князя Трайдзеня.

Летапісец у першую чаргу асвятліў характар барацьбы за ўладу ў ВКЛ паміж Трайдзенем і Даўмонтам. Аўтар выступае на баку Трайдзеня і яго сына Лаўрэнція. Ён асуджае агрэсіўныя дзеянні Даўмонта, які на той час з'яўляўся валадаром Пскова. У творы паказана непамернае ўладалюбства Даўмонта, паводле загаду якога быў забіты яго родны брат Трайдзень.

Галоўны станоўчы вобраз "Аповесці..." – манах Лаўрэнцій. Пасля вераломнага забойства бацькі Лаўрэнцій пакідае манастыр, бярэ меч і ўзначальвае войска. У вырашальнай бітве ён разбівае харугвы Даўмонта і забівае крыўдзіцеля.

Пісьменнік паведамляе пра вайсковы паход Лаўрэнція на Полацк і падпарадкаванне яго ВКЛ. Веліч асобы Лаўрэнція, на думку пісьменніка, выявілася ў тым, што ён добраахвотна адрокся ад спадчыннага права на вышэйшую ўладу ў ВКЛ і вярнуўся ў манастыр, які ён заснаваў над Нёманам. У творы змешчана ўнікальная прамова Лаўрэнція на Кернаўскім сойме, з якой ён звярнуўся да ўсіх рыцараў Княства. У ёй ён акрэсліў свой палітычны ідэал – жыць у вольнай і непадлеглай Айчыне.

"Аповесць пра Трайдзеня і яго сына Лаўрэнція" рэканструявана і перакладзена паводле "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага" (ПСРЛ. М., 1975. Т. 32. С. 32–34) і "Хронікі Быхаўца".

## Аповесць пра Трайдзеня і яго сына Лаўрэнція

### I

Трайдзень узышоў на Вялікае Княства Літоўскае і Жамойцкае пасля смерці брата Нарымонта (каля 1270 г. – *І. С.*). Ён вельмі хутка навёў парадак у краіне, умацаваў дзяржаў-

ныя межы ад наездаў рускіх князёў і крыжакоў. Трайдзень цвёрда панаваў у сваёй зямлі і наводзіў жах на непрыяцеляў.

Калі Даўмонт даведаўся пра тое, што яго малодшы брат Трайдзень заняў трон, ён вырашыў адваяваць у яго сталіцу. Даўмонт на той момант, па просьбе пскавянаў, княжыў у Пскоўскім княстве. Ён склікаў войска з пскавянаў, наўгародцаў і русі і пайшоў вайной на малодшага брата.

Даўмонтавы войскі неўзабаве прыйшлі пад Полацк, акружылі горад і праз нейкі час авалодалі ім. Усё рыцарства Полацкага княства прынесла прысягу Даўмонту.

Затым Даўмонт, пануючы ў Пскове і Полацку, распусціў войска. Бо ён задумаў не сілай, а хітрасцю перамагчы брата Трайдзеня і захапіць сталіцу Вялікага Княства Літоўскага. Даўмонт накіраваў у стан Трайдзеня шэсць сваіх падданых з загадам забіць князя. Даўмонтавы слугі выканалі даручэнне гаспадара. Калі Трайдзень мыўся ў лазні, яны напалі на яго і забілі кіямі, а затым уцяклі.

## II

У той час памёр гальшанскі князь Голша. Ён пакінуў пасля сябе двух непаўналетніх сыноў – Алгімонта і Міндава. Неўзабаве з гэтым светам развітаўся і яго брат – гедройскі князь Гедрус. Яго княства гэтаксама засталося малалетняму сыну Гінвілу.

Усё складвалася на карысць Даўмонта. Лаўрэнцій – Трайдзенеў сын – прыняў манаскі стан і жыў у манастыры. Дзеці ж Голшы і Гедруса былі непаўналетнімі і не маглі прэтэндаваць на вялікае княжанне. Таму Даўмонт, не маючы перашкод, вырашыў захапіць трон Вялікага Княства Літоўскага. Ён склікаў рускія, пскоўскія, полацкія і віцебскія дружыны і пайшоў на Літву. Даўмонт запатрабаваў ад усіх паноў і баяраў добраахвотна перайсці пад яго ўладу.

## III

Лаўрэнцій – Сын Трайдзеня – пачуў пра наступ Даўмонта. Ён скінуў з сябе манаскае адзенне і ўзяў у рукі меч. Лаўрэнцій неўзабаве прыехаў у літоўскае войска. Сваімі словамі і справай ён умацаваў харугвы.

Лаўрэнцій-манах сабраў войска з літвы і наваградскай русі і выступіў супраць свайго дзядзькі Даўмонта. Ён прагнуў адпомсціць яму за забойства бацькі і вызваліць Айчыну.

Войскі сустрэліся над возерам. Там харугвы былі ўшыкаваны і падрыхтаваны да бітвы. Затым яны з вялікай распаленасцю кінуліся ў бойку. Страшэннае пабаявішча доўжылася ад ранку да вечара. Урэшце, Бог дапамог Лаўрэнцію. Ён даастатку разграміў пскоўскае і полацкае войскі, забіў галоўнага непрыяцеля – Даўмонта. Бітва скончылася ўначы.

Назаўтра, крыху спачыўшы, Лаўрэнцій рушыў з войскам на *Полацк*. Палачане вельмі непакоіліся, бо іх гаспадар Даўмонт быў забіты. Лаўрэнцій здабыў Полацк. Ён пасадзіў у замку свайго намесніка і прызначыў уласны вайсковы гарнізон. Гэтак Лаўрэнцій падпарадкаваў Полацкае княства. Затым ён ад'ехаў да Віцебска.

## IV

Потым Лаўрэнцій Трайдзенавіч склікаў літоўскіх і жамойцкіх паноў ды баяраў на сойм у Кернава. Там, на Кернаўскім полі, ён адрокся ад права на трон Вялікага Княства Літоўскага. Лаўрэнцій звярнуўся да рыцарства з наступнымі словамі:

– Госпад Бог дазволіў мне адпомсціць майму бязбожнаму дзядзьку за кроў і жорсткае забойства майго бацькі. Сваёй дзіўнай і невымернай моцай сам Бог ратаваў мяне, дапамог знішчыць Даўмонта з усім яго войскам, вызваліць усіх нас з вялікай няволі, пазбавіць ад цяжкога ярма, якое вісела над вашымі шыямі. Цяпер вы, з ласкі майго Бога, вольныя людзі ў вольнай Айчыне! Зараз вы жывеце ў бяспецы. Я ж яшчэ раней прысягнуў Богу і прыняў манаскі сан, адрокшыся

ад асалодаў і нетрывалых раскошаў гэтага свету. Сваім мячом і з Божай дапамогай я абараніў Айчыну. Цяпер яна непадлеглая і вольная! І ў дадатак – далучыў Полацк і ўсё Полацкае княства. Але цяпер я зноў вяртаюся ў манастыр, дзе хачу надалей жыць. А вы абярыце сабе гаспадара, які б мог бараніць вашу рэч паспалітую (дзяржаву. – *І. С.*) і ўмела вёў дзяржаўныя справы. З задавальненнем я б параіў вам абраць на княжанне каго-небудзь з маіх стрыечных братоў, але яны яшчэ не паўналетнія і таму не ў стане кіраваць такім вялікім панствам, якое патрабуе сапраўднага мужчыны, а не дзяцей.

Літоўскія паны, выслухаўшы прамову Лаўрэнція, – свайго спадчыннага гаспадара – узрушана плакалі. Яны прасілі Лаўрэнція з вялікім плачам, каб ён не пакідаў трону, а гаспадарыў над імі як сапраўдны дзедзіч (спадчыннік), прынамсі, да паўналецця сваіх стрыечных братоў.

Але Лаўрэнцій не пагадзіўся. Ён запрапанаваў абраць вялікім князем *Віценя*, які служыў маршалкам у яго бацькі, – годнага чалавека, вартага высокай пасады.

Паны выканалі волю Лаўрэнція і пагадзіліся абраць Віценя за гаспадара. Там жа, у Кернаве, Лаўрэнцій падаў Віценю аголены меч з уласных рук, настаўляючы яго, каб ён заставаўся чулым да падданых і ўмеў даць адпор усім непрыяцелям дзяржавы.

Гэтак Лаўрэнцій узвёў на вялікае княжанне Віценя – слаўнага рыцара. Сам жа ён ад'ехаў у Лаўрэнцьеўскі манастыр, які збудаваў над Нёманам. Там Лаўрэнцій жыў і дабрачынна завяршыў свой жыццёвы шлях.

# ЗАПІСЫ ПРА КНЯЖАННЕ ВІЦЕНЯ

"Запісы пра княжанне Віценя" – умоўная назва летапіснага твора пра асобу і дзейнасць Віценя, які княжыў у ВКЛ прыкладна два дзесяцігоддзі – ад 1293 да 1316 г. Сацыяльнае паходжанне і этнічная прыналежнасць князя Віценя дагэтуль, на жаль, застаюцца таямніцай. Адметная характарыстыка Віценя, а таксама звесткі пра яго гаспадаранне ў ВКЛ змешчаны акурат у летапісных "Запісах пра княжанне Віценя".

Летапісец найперш адзначыў, што Віцень не належаў да княжацкай дынастыі, а атрымаў трон ВКЛ выключна дзякуючы асабістым рыцарскім здольнасцям. У "Запісах..." пералічаны вайсковыя паходы Віценя на польскія землі, што былі здзейснены ім у 1296, 1297, 1306 і 1307 гг.

Твор паведамляе пра паспяховы рэйд Віценя на Прусію, у выніку якога войскі ВКЛ здабылі шматлікія трафеі і ўзялі шмат палонных.

Найбольш яркая сцэна "Запісаў..." – з'яўленне на небе, каля 1315 г., дзвюх камет і трох месяцаў, пасля чаго наступіў страшэнны голад, які працягваўся два гады.

Рэканструкцыя і пераклад "Запісаў пра княжанне Віценя" ажыццёўлены паводле "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага" (ПСРЛ. М., 1975. Т. 32. С. 34–35) і "Хронікі Быхаўца".

## Запісы пра княжанне Віценя

### I

У 1293 годзе Трайдзенеў сын Лаўрэнцій добраахвотна саступіў трон Вялікага Княства Літоўскага Віценю – колішняму маршалку яго бацькі.

Імкнучыся даказаць сваю адданасць дзяржаве, Віцень вёў шматлікія войны з палякамі. Але гэтым ён надта шкодзіў краіне, бо польскі кароль Лешка Чорны неаднаразова ўшчэнт разбіваў літоўскія войскі паміж Нарвай і Нёманам.

## II

У 1296 годзе літва, прусы і жамойты без абвяшчэння вайны ўварваліся ў *Добрынскую зямлю.* Галоўны горад зямлі – Добрын – акружылі і штурмавалі ў нядзельку, калі ўсе людзі чынілі набажэнствы ў касцёле. Горад узялі, шмат месцічаў пазабівалі, малых дзетак адрывалі ад грудзей матак. Усе мястэчкі, вёскі і фальваркі спустошылі, а людзей павялі ў палон.

Потым (каля 1297 г. – *І. С.*) літоўскае войска на чале з Віценем выправілася ў *Прускую зямлю.* Агнём і мячом спустошылі яе і з вялікай здабычай вярнуліся ў Літву.

## III

Затым (каля 1306 г. – *І. С.*) літоўскі князь Віцень напаў на *Куяўскую зямлю.* Спаліў мноства паселішчаў, захапіў шмат палонных і безліч трафеяў. А пасля вярнуўся дадому без аніякіх стратаў.

## IV

Праз нейкі час (каля 1307 г. – *І. С.*) Віцень з вайсковай харугвай у колькасці 1800 жаўнераў ціха, праз лясы, увайшоў у *Ленчыцкую зямлю.* Кляштары і касцёлы пабурыў, людзей духоўнага і свецкага станаў – простых і заможных – павёў у няволю. Потым абрабаваў вёскі і мястэчкі і, урэшце, павярнуў назад.

Ленчыцкі князь Казімір з войскам дагнаў Віценя непадалёк ад Сахачова. Бітва адбылася каля вёскі Траянава. Казімір мужна змагаўся, бароначы сваю зямлю ад непрыяцеля, але быў разбіты. Ён не хацеў жывым здавацца ў палон, каб пазбегнуць няславы. Казімір стаяў да апошняга, але быў забіты на пляцу рукой Віценя.

Пасля той бітвы кожны літвін, у выніку падзелу палонных, атрымаў ва ўласнасць па 20 палякаў.

## V

У дзень Хрыстовага Нараджэння (каля 1315 г. – *І. С.*) на небе з'явіліся дзве каметы і тры месяцы. Каметы палалі яркім святлом ажно да апошняга дня лютага. А потым у Польшчы, Літве, на Русі і ў прылеглых землях здарыўся вялікі голад. Людзям не ставала зерня, карняплодаў і іншай ежы.

Няшчасныя маткі і бацькі елі сваіх дзетак. Карміліся мярцвячынай, гніллю і ўсялякімі адкідамі, абы толькі суняць невыносны голад. Калі хтосьці ішоў вуліцай – мужчына ці жанчына, хлопец ці дзеўка – згаладалыя людзі выскоквалі з хат і двароў, хапалі іх, забівалі і адразу ж з'ядалі. Той голад трымаўся ажно два гады.

## VI

Вялікі князь літоўскі, жамойцкі і рускі Віцень гаспадарыў да глыбокай сівізны. Ён часта ваяваў з прускімі і інфлянцкімі крыжакамі, а потым памёр.

Віцень пакінуў пасля сябе на вялікім княжанні свайго сына Гедзіміна.

# АПОВЕСЦЬ ПРА ГЕДЗІМІНА

“Аповесць пра Гедзіміна” – каштоўны помнік нацыянальнай гераічнай прозы, у якім надзвычай ярка адлюстраваны грамадскія і палітычныя падзеі, што адбываліся ў ВКЛ у першай палове і ў сярэдзіне XIV ст. У творы шырока паказваецца дзяржаўная чыннасць вялікага князя Гедзіміна (каля 1275–1341 г.).

“Аповесць пра Гедзіміна” дайшла да нашага часу, прынамсі, у двух варыянтах. Аналіз семантыкі твора сведчыць аб тым, што яго літаратурную і гісторыка-фактаграфічную аснову склалі старадаўнія навелы і занатоўкі, напісаныя непасрэдна ў часы княжання Гедзіміна або адразу пасля яго смерці. На карысць таго, што рукапісны тэкст XVI ст. “Аповесці пра Гедзіміна”, які дайшоў да нашага часу, быў напісаны паводле старадаўняга арыгінала, выразна сведчыць наступнае выказванне ў ім: “Тое тут для того припомнелем, абы не было в подивеню *сведецтво летописца литовского о Лиздейку,* же ся с ним так деяло” (ПСРЛ. М., Т. 32. С. 40). Аўтар першакрыніцы, як вынікае з тэксту, браў непасрэдны ўдзел у вайсковых кампаніях Гедзіміна. Ён дакладна перадае паслядоўнасць манеўравання харугваў, указвае дэталі баявой тактыкі. Таму “Аповесць пра Гедзіміна” варта лічыць літаратурным помнікам менавіта XIV ст., які быў крыху дапрацаваны пазней, у эпоху Рэнесанса, а затым уключаны ў склад гістарычных хронік.

Летапісец у цэлым аб’ектыўна і гістарычна праўдзіва малюе тагачасныя гістарычныя падзеі, паказвае жорсткую канкурэнцыю паміж усходнеславянскімі князямі і княствамі за лідэрства.

У “Аповесці пра Гедзіміна” дамінуюць *батальныя* сцэны. Аўтар раскрывае прычыны войнаў, асвятляе шматлікія вайсковыя кампаніі – падрыхтоўку да бітваў, вайсковую стратэгію і тактыку. Значнае месца ў творы займае апісанне бітвы з крыжакамі над ракой Земілай, якая скончылася перамогай войскаў ВКЛ. Паводле меркавання пісьменніка, а ён напэўна ўдзельнічаў у гэтым пабаявішчы, вырашальны ўплыў на вынік бітвы аказаў раптоўны пераход жамойцкіх харугваў, якія стаялі ў цэнтры нямецкіх шыхтоў, на бок Гедзіміна.

Аўтар акцэнтаваў увагу на ўсенародным характары змагання з нямецкай агрэсіяй, паказваючы удзел простых сялян у знішчэнні крыжакоў.

Летапісец змясціў інфармацыю пра ўварванне харугваў Гедзіміна ў Дабранскую зямлю. Значнае месца ў "Аповесці..." займае сюжэт пра заваяванне войскамі ВКЛ украінскіх земляў – Уладзімірскага і Кіеўскага княстваў, Луцкай і Валынскай земляў. У творы надзвычай каларытна намалявана сцэна штурму Жытоміра, а таксама момант змушанай здачы Кіева яго абаронцамі і прысяга кіяўлян на вернасць Гедзіміну.

Ключавы персанаж "Аповесці..." – вялікі князь *Гедзімін*. У творы паказана, перадусім, цэнтралізацыйная палітыка вялікага князя. Сярод яго першых учынкаў называецца забойства палітычнага канкурэнта Пелюша, які, абапіраючыся на жамойцкіх феадалаў, абвясціў сябе гаспадаром ВКЛ і выступіў супраць Гедзіміна. Пісьменнік робіць акцэнт на заслугах Гедзіміна ў змаганні з нямецкай агрэсіяй, правядзенні актыўнай знешняй палітыкі і пашырэнні тэрыторыі ВКЛ за кошт далучэння ўкраінскіх земляў. У "Аповесці..." Гедзімін паўстае як дбайны гаспадар, заснавальнік гарадоў – Трокаў і Вільні. Ён намаляваны як адказны манарх і клапатлівы бацька. Яшчэ пры жыцці, паводле летапісу, Гедзімін падзяліў паміж сваімі сынамі ўладанні, каб не дапусціць у будучым сямейнага разладу і "братэрскай няміласці". Аўтар паказвае схільнасць вялікага князя да розных забаваў, яго асаблівую прагу да паляванняў і ловаў. Як і належыць гераічнаму персанажу, Гедзімін у канцы "Аповесці..." гіне на полі бітвы з адвечнымі заходнімі ворагамі – нямецкімі крыжакамі, а яго цела перавозяць у Вільню і хаваюць паводле паганскіх рытуалаў.

Яркім персанажам "Аповесці..." з'яўляецца галоўны паганскі жрэц, вяшчун, тлумачальнік сноў і "звяздар" (астролаг) *Ліздзейка*. Паводле летапісу, ён быў знойдзены ў арлінным гняздзе князем Віценем, а затым па загаду вялікага князя выхоўваўся пры яго двары. Ён нібыта паходзіў з нейкага знакамітага роду і стаў ахвярай змагання за ўладу. Ліздзейка ў юнацтве выявіў схільнасці да рыцарскіх спраў і навукі. Ён праўдзіва вытлумачыў прарочы сон Гедзіміна, за што атрымаў асаблівыя ўзнагароды і знайшоў пашану ў вялікага князя.

Рэканструкцыя і пераклад "Аповесці пра Гедзіміна" ажыццёўлены паводле "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага" (ПСРЛ. М., 1975. Т. 32. С. 35–42). Улічаны таксама гістарычныя звесткі, якія падаюцца ў навелах пра Гедзіміна, змешчаных у "Хроніцы Быхаўца".

## Аповесць пра Гедзіміна

### I

Гедзімін – сын вялікага князя Віценя. Пасля смерці бацькі ён у 1316 годзе сеў на Княстве Літоўскім, Жамойцкім і Рускім.

Неўзабаве пасля ўзыходу на пасад ён забіў Пелюша – сына Траняты, бо той пачаў тытулавацца вялікім князем літоўскім, паколькі быў дзедзічам (спадчыннікам).

У той жа год супраць Гедзіміна выступілі немцы, прусы і інфлянты. У вялікай колькасці яны ўварваліся ў Жамойцкую зямлю, прагнучы авалодаць ёю.

Для абароны ад непрыяцеляў Гедзімін накіраваў у Коўна гетмана Гаштаўта з невялікай колькасцю людзей.

Прускі магістр Карл Дэтрыл і інфлянцкі магістр Генрых раздзялілі велізарнае нямецкае войска на тры гуфы (арміі), а затым агнём і мячом спустошылі Жамойцкую зямлю, без адпору ўзялі замак Юрборк.

Потым крыжакі аблажылі галоўны замак Коўна. Удзень і ўначы яны штурмавалі горад, падкопвалі вежы. Гаштаўт з літвою і жамойтамі мужна бараніў горад, але немцы ўпарта штурмавалі сцены, лезлі на іх па драбінах і праз дзіры, выбітыя таранамі. Урэшце, крыжакі адужылі літву і ўзялі Коўна. Усё, што было ў горадзе, яны забралі, збудаванні спалілі, рыцарскі люд пасеклі, жанок і дзяцей павялі ў палон. Гетман Гаштаўт таксама трапіў у палон.

Затым крыжакі заваявалі ўсю Жамойцкую зямлю і адарвалі яе ад Вялікага Княства Літоўскага.

Паразы і страта Жамойці вельмі засмуцілі Гедзіміна. Але ён не апусціў рук.

Гедзімін выкупіў у немцаў свайго гетмана Гаштаўта за 30 тысяч залатых.

Прускі магістр Карл, абнадзеены першай удачай, прыходзіў рабаваць Літву і другі, і трэці раз. Ён заваяваў і зруйнаваў шмат літоўскіх паветаў, якіх да яго ніхто не кранаў.

Крыжакам шчасціла. Яны ўсклалі цяжкае ярмо на Жамойцкую зямлю.

Вялікі князь Гедзімін у гэты час ляжаў з войскам паміж Юрборкам і Коўна. Ён не ўступаў у бітву, бо нямецкае войска і колькасцю, і ўзбраеннем шматкроць пераўзыходзіла яго харугвы, згуртаваныя з літвы, русі і татараў. Крыжакам дапамагалі ўсе нямецкія землі.

Гедзімін чакаў, калі да яго падцягнуцца наваградскія злучэнні, а таксама палачане. Пад ціскам крыжакоў літоўскія войскі пакрысе адыходзілі глыбей у Жамойцкую зямлю.

Войскі Гедзіміна спыніліся над ракой *Земілай*, з другога боку ад Земаў, за дзве мілі ад іх. Жамойты, што прыходзілі ў стан Гедзіміна з навакольных воласцяў і з нямецкага стану, давалі звесткі пра крыжацкае войска і паведамлялі пра перамяшчэнні ворагаў.

Нямецкі магістр Генрых актыўна наступаў.

Войскі сустрэліся над ракой Земілай. Калі адлегласць між імі скарацілася да двух лучных стрэлаў, яны са страшэнным крыкам і распаленасцю рынуліся адзін на аднаго. Немцы спачатку стралялі з некалькіх гарматаў, а потым з дзідамі пачалі ціснуць на татараў. Татары звыклымі манеўрамі, закрыўленым шыкам, расстрэльвалі нямецкую ўцечку. Затым татары пачалі падманнае адступленне, падобнае на ўцёкі, каб выклікаць ворага і пабурыць яго баявыя шыхты. Немцы не зразумелі падману і сапраўды кінуліся ў пагоню за татарамі. Але татары хутка развярнуліся і з лукаў расстралялі немцаў.

Гедзімін з літвою атакаваў асноўны нямецкі полк. Крыжакі мелі перавагу ў зброі, а літва – у манеўранасці. Біліся дзідамі і мячамі. Далёка разносіліся крыкі ваяроў, звон зброі, іржанне коняў, гукі труб і бубнаў.

Бітва працягвалася ўвесь дзень. Сілы былі роўныя. Але потым жамойты, якіх налічвалася ў нямецкай арміі некалькі тысячаў, успомнілі пра свае колішнія вольнасці і вырашылі скарыстаць зручны выпадак, каб скінуць нямецкае ярмо. У самы разгар бітвы яны павярнулі зброю супраць кры-

жакоў. Жамойцкія харугвы стаялі ў цэнтры нямецкага войска, таму іх раптоўная атака на немцаў мела выключны поспех. Крыжацкія харугвы змяшаліся, калі ўбачылі нечаканую здраду. Яны мусілі адступаць назад. Літва, жамойты і русь атакавалі. Лёгкая татарская конніца даганяла немцаў і расстрэльвала з лукаў – з бакоў і спераду. Яны заганялі немцаў, нібы ў сетку, да літвы.

Немцаў больш палегла, калі яны ўцякалі, чымсьці на полі бою. Літва гнала немцаў ажно да рэчкі Ашлані. Паўсюль білі іх, сціналі галовы, калолі, стралялі, тапілі. На вялікай тэрыторыі, па палях і дарогах валяліся нямецкія трупы.

Нават мужыкі выбягалі з лясоў, лавілі немцаў, сцягвалі іх з коней і забівалі з воклічамі: “Мушк немца!”

Многіх немцаў, што пахаваліся ў лясах, тыя ж мужыкі з сабакамі вылоўлівалі і забівалі. Іншых абдзіралі і вешалі на дрэвах.

Такім парадкам, Гедзімін з літвою, жамойцю, руссю і татарамі ўшчэнт разбіў немцаў. Было знішчана 120 тысяч ваяроў, а разам з імі забіты магістр і многія гетманы.

## II

У той жа год Гедзімін заваяваў *Добранскую зямлю*, уварваўшыся ў яе неспадзявана.

Потым, не складаючы зброі, Гедзімін рушыў на *Валынскае княства*, найперш супраць уладзімірскага князя Уладзіміра. Але русь вельмі моцна баранілася, гарматнымі стрэламі і атакамі адкідвала літву.

Потым уладзімірскі князь з войскам і татарамі падцягнуўся. Варагуючыя бакі сустрэліся пад замкам і моцна біліся стрэльбамі, шаблямі, дзідамі. Татары грамілі літву сваімі звыклымі наскокамі. Але Гедзімін перашыхтаваў харугвы і атакаваў татараў, зблытаўшы іх конніцу. У паніцы татары кінуліся наўцёкі. Літва гнала іх, секла, біла, калола і паланіла.

Князь Уладзімір, які мужна змагаўся, быў забіты на полі бітвы. Калі валыняне ўбачылі свайго князя забітым, яны з жаласлівымі крыкамі пачалі разбягацца хто куды мог.

Абаронцы горада, даведаўшыся пра смерць Уладзіміра, здаліся на міласць Гедзіміна, перадалі яму замак і горад Уладзімір. Яны прынеслі прысягу вялікаму князю, урачыста пакляліся яму ў вернасці. За імі – і ўсё Уладзімірскае княства, усвядоміўшы бессэнсоўнасць супраціўлення, падпарадкавалася Гедзіміну.

Гедзімін прызначыў ва Уладзіміры і ва ўсім княстве сваіх намеснікаў і старастаў. Ён пакінуў у замку вайсковы аддзел з літвы, а сам пайшоў на *Луцк*, супраць Льва.

Гедзімін хацеў адпомсціць луцкаму князю Льву за тое, што падчас крыжацкай вайны той вераломна адарваў ад Княства гарады Драгічын і Берасце.

Леў, калі пачуў пра пагібель Уладзіміра і наступ Гедзіміна, не чакаючы яго прыбыцця пад Луцк, уцёк ажно ў Бранск, да свайго зяця князя Рамана.

Гедзімін прыйшоў пад Луцк і акружыў горад. Шляхта і месцічы даведаліся пра тое, што іх князь збег ад страху, а іх пакінуў на расправу ворагам. Таму, не маючы выйсця, яны ўсе гуртам здаліся на міласць Гедзіміна. Усё Луцкае княства прынесла прысягу вялікаму князю і перайшло пад яго ўладу. Гедзімін ласкава прыняў Луцкі замак і ўсю Луцкую зямлю. Паўсюль ён пасадзіў сваіх старастаў і ўсталяваў уласныя парадкі.

На зіму Гедзімін паехаў да Берасця і там зазімаваў. Усё сваё войска ён распусціў на спачын.

## III

Неўзабаве пасля Вялікадня Гедзімін зноў пачаў збіраць войска з літвы, жамойтаў і русі. Ён выступіў з Берасця супраць кіеўскага князя Станіслава, які паводле спадчыннага права з'яўляўся гаспадаром Кіеўскага княства.

Гедзімін спакойна прайшоў праз Луцкую і Валынскую землі. Затым ён падцягнуў войскі пад *Аўручаў* – замак князя

Станіслава. Гедзімін здабыў Аўручаў і паставіў там свайго намесніка.

Потым Гедзімін пайшоў на *Жытомір*, у якім знаходзілася шмат кіеўскіх паноў. Некалькі разоў харугвы Гедзіміна штурмавалі замак. Русіны, якія баранілі горад, урэшце змардаваліся і мусілі здацца. Гедзімін пасадзіў у Жытоміры свайго старасту і пакінуў там аддзел літоўскіх жаўнераў.

Пасля гэтага Гедзімін пайшоў на *Кіеўскую воласць*, рабуючы і палячы ўсё на сваім шляху.

Кіеўскі князь Станіслаў, убачыўшы гэтакі гвалт, прыняў рашэнне аказаць супраціўленне літве. Ён не стаў чакаць, калі войска Гедзіміна з'явіцца ў Кіеве. Станіслаў сабраў вялікае войска. На дапамогу яму прыйшлі: пераяслаўскі князь Алег, луцкі князь Леў, выгнаны калісь з Луцка літвой, бранскі князь Раман. З рыцарствам і з войскам яны сцягнуліся да Станіслава, які з абозам ляжаў над ракой Ірпенем, у трох мілях ад Кіева. Яны аб'ядналіся ў адно велічэзнае войска і пачалі рыхтавацца да бітвы. На дапамогу кіеўскаму князю з'явіліся татары.

Неўзабаве наблізілася войска літвы і жамойтаў. Распачалася бітва. Надзею на перамогу мелі абодва бакі.

Урэшце Гедзімін занепакоіўся і прыняў рашучыя дзеянні. На чале вялізнай харугвы ён атакаваў і змяшаў войскі праціўніка. Яны мусілі адступіць. Літва і жамойты ўвесь час націскалі на русь. Князь Станіслаў не змог вытрымаць ціску і пачаў адыходзіць назад.

Пераяслаўскі князь Алег, бранскі князь Раман і луцкі князь Леў таксама не здолелі доўга стаяць на полі бітвы. Адступленне кіяўлян разам з іх князем пасеяла сярод ваяроў паніку. Але луцкі князь Леў, нядаўна выгнаны з Луцкага княства літвой, марыў вярнуць страчанае. Таму ён вырашаў змагацца да канца, смела атакаваў літву і адважна біўся. Поруч з ім біўся пераяслаўскі князь Алег. Абодва яны палеглі ў бітве.

Харугвы кіеўскага князя Станіслава і бранскага князя Рамана ўрэшце былі зламаныя і пачалі ў паніцы разбягацца

па навакольных палях. Літва ажно да ночы ганяла, біла, секла і паланіла русакоў.

Пасля трыумфальнай перамогі Гедзімін з войскам адпачываў адзін дзень і адну ноч, а затым рушыў на Кіеў.

Войскі Гедзіміна акружылі Кіеў і пачалі здабываць яго бесперапыннымі штурмамі. Вялікі князь пагражаў абаронцам горада рознымі карамі, загадваў дабравольна скласці зброю і здацца. Але кіяўляне мужна бараніліся. У горадзе разам з жаўнерамі знаходзіліся іх сем'і, жонкі і дзеці. Доўгі час стрымліваць штурмы Кіева абаронцы былі не ў стане. Чакаць дапамогі не было адкуль, бо князь Станіслаў, пасля прайгранай бітвы, збег ажно ў Разань. З ім уцёк і бранскі князь Раман. Пакінутыя князямі, у вялікай роспачы кіяўляне прынялі рашэнне здацца і перадаць замак і горад на міласць Гедзіміна.

З акружанага горада з паклонамі і крыжамі насустрач Гедзіміну выйшлі спачатку духоўныя асобы – мітрапаліт, епіскапы і архімандрыты. За імі – паны, баяры і ўсе кіеўскія месцічы. Яны здаліся на ласку вялікага князя і пакляліся яму ў вернасці.

Неўзабаве Гедзімін пакінуў Кіеў і заваяваў іншыя гарады: Белгарад, Слепаўрон, Канеў, Чаркасы, Бранск-Северскі і Пераяслаўль – сталічны горад рускіх князёў.

Такім парадкам, за адну вайсковую кампанію Гедзімін заваяваў Кіеўскае, Валынскае і Северскае княствы, а таксама землі да Пуціўля і далей. Ён далучыў іх да Літоўскай дзяржавы. Над Кіевам і іншымі гарадамі Гедзімін прызначыў свайго намесніка, гальшанскага князя Міндоўга Алігімонтавіча, свайго кроўнага.

Кіеўскі князь Станіслаў, які вёў свой род ад варажскіх князёў Рурыка, Трувора і Сінявуса, а таксама ад Ігара і Алега, выгнаны Гедзімінам з Кіеўскага княства, уцёк да разанскага князя. Той аддаў за Станіслава сваю адзіную дачку Вольгу, а неўзабаве перадаў яму і ўсё Разанскае княства, бо меў надта паважны век.

Вялікі князь Гедзімін паўсюль у Кіеўскім княстве пасадзіў сваіх намеснікаў і старастаў, а затым, як пераможца, вярнуўся ў Літву. Паўсюдна яго сустракалі з паклонамі, працяглым гучаннем труб і спевамі: "Лада, лада!"

У сталіцы Вялікага Княства Літоўскага – Кернаве – Гедзімін шчодра ўзнагародзіў выдатных рыцараў, а затым адпусціў усё войска на спачын.

## IV

Пасля вялікай працы і цяжкіх вайсковых дзеянняў вялікі князь літоўскі Гедзімін бавіў час у Кернаве, аддаючыся паляванням і ловам дзікіх звяроў. Ён зазвычай браў увесь свой двор і слугаў, ехаў у глыбокія чашчобы, дзе цешыўся паляваннем.

Перад выездам на ловы Гедзімін дзеля ўдачы на паляванні чыніў розныя магічныя абрады (варожкі), без якіх літва ў тыя часы не пачынала аніводнай справы.

Атрымаўшы асалоду ад палявання на дзікіх звяроў, Гедзімін любіў пачаставаць пад намётамі ў полі сваіх паноў і дваранаў. Асабліва падабалася вялікаму князю месца, што за пяць міль ад Кернава, паміж рэкамі Вільняй і Віліяй. Акурат там ён і збудаваў новы замак, акружыў яго валам і перакопам (рвом). Новы замак Гедзімін назваў *Трокі*. Найменне горада пайшло ад тарокаў, на якіх яго слугі – дваране, асочнікі, дарадцы, кухцікі і халопы – вазілі здабытых на паляванні звяроў – зайцаў, лісіц, куніц, а таксама ласёў, аленяў і сарн. Неўзабаве Гедзімін перанёс сваю сталіцу з Кернава ў Трокі.

## V

Гедзімін працягваў бавіць час на паляваннях. Вельмі часта ён спыняўся на начлегі і адпачынкі на берагах Віліі. З аднаго месца ён пераязджаў на іншае.

Аднаго разу вялікі князь паляваў у пойме, дзе рэчка Вільня ўпадае ў Вілію, за чатыры мілі ад Старых Трокаў.

Там, на высокай гары, ён з куша ўласнаручна забіў велізнага тура. Стомлены паляваннем, Гедзімін там жа і заначаваў. Калі вялікі князь моцна заснуў, яму прысніўся дзіўны сон, нібыта на той гары, дзе ён забіў тура, стаяў вялізны воўк, праўдападобна з жалеза. А з таго ваўка, як быццам бы сто ваўкоў вылі. І голас іх далёка па баках разлягаўся. Калі Гедзімін прачнуўся, ён доўга думаў, што б мог значыць яго сон.

Вялікі князь склікаў паноў і дваранаў і расказаў ім свой сон, пытаючыся іх меркавання і парады. Але ніхто са слугаў, хоць многія з іх займаліся варожкамі, не змог вытлумачыць сэнсу княжацкага снабачання.

Потым паклікалі на дапамогу паганскага жраца *Ліздзейку*. Той Ліздзейка за часамі княжання Віценя, бацькі Гедзіміна, быў знойдзены ў пушчы ў арліным гняздзе. Віцень асабіста знайшоў яго і загадаў аберагаць як уласнага сына. Калі Ліздзейка вырас, ён выявіў схільнасці да рыцарскіх справаў. Выхоўваючыся пры двары вялікага князя, юнак навучыўся астралогіі (звяздарству), спасціг перамяшчэнне нябесных свяцілаў, а таксама здабыў здольнасць вытлумачваць сны. Падчас княжання Гедзіміна Ліздзейка стаў галоўным паганскім жрацом. Усё паказвае на тое, што той Ліздзейка паходзіў з нейкага знатнага роду. Пэўна, з-за зайздрасці або чыіхсьці ўладных памкненняў ён быў занесены ў арлінае гняздо – ці то айчымам, ці то мачыхай.

Вось той Ліздзейка, што быў ускормлены пры княжацкім двары, ведаў астралогію, паганскія рытуалы, меў здольнасці тлумачыць сны, быў пакліканы да вялікага князя Гедзіміна.

Вялікі князь Гедзімін паведаміў Ліздзейку свой сон. Ліздзейка ўважліва выслухаў і даў вельмі дакладны адказ:

– Вялікі князь і пан мой, Гедзімін! Той воўк на гары, які выглядаў, нібыта з каванага жалеза, азначае, што на тым месцы будзе ўзведзены галоўны замак і там паўстане галоўны горад дзяржавы. А тыя сто ваўкоў унутры яго, голас якіх шырока разносіўся наўкол, азначаюць, што слава таго

месца і вялікія справы літоўскіх князёў будуць разносіцца далёка ва ўсе канцы свету.

Гедзімін падзякаваў Ліздзейку за праўдзівы выклад таго мудрагелістага сну і прынёс ахвяру багам.

Вялікі князь неадкладна загадаў прысылаць да яго з розных земляў Княства адмысловых рамеснікаў і майстроў – цесляроў, муляроў, кавалёў, капаннікаў. Гедзімін сказаў нарыхтаваць патрэбныя матэрыялы, каб пачаць узводзіць горад.

Найперш будавалі верхні замак на Туравай гары. Ніжні замак узводзілі на Святарогавай гары. Горад будаваўся ў месцы, якое мела найменне Крывая нізіна, там, дзе рэчка Вільня ў Вілію ўпадае. Пабудовы і абарончыя сцены рабілі з дрэва. Горад меў вельмі высокія вежы.

Калі ўзвядзенне замкаў было завершана, Гедзімін назваў горад Вільняй, ад рэчкі Вільні.

Вакол замкаў пачалі будавацца дамы месцічаў.

Неўзабаве Гедзімін перанёс у Вільню сталіцу Вялікага Княства Літоўскага. У яе, нібы арлы на страву, пацягнулася вялікае мноства народу. Знакамітыя паны ўзводзілі ў Вільні палацы, каб стала жыць у сталіцы побач з вялікім князем.

Першым ваяводам Вільні Гедзімін прызначыў Гаштаўта, якога немцы калісьці паланілі падчас Ковенскай вайны.

Затым Гедзімін усталяваў у Вільні Перуна, выробленага з крэмневага каменю. З яго паганскія жрацы высякалі агонь. Каля Перуна заўсёды гарэла вогнішча, яно палала ўдзень і ўначы.

## VI

Князь Гедзімін шчасліва панаваў у Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім шмат гадоў. Ён выйграў мноства войнаў. Нарадзіў семярых сыноў і адну дачку Ганну, якую выдаў замуж за Уладзіслава Лакетку – сына польскага караля Казіміра.

Яшчэ пры жыцці Гедзімін надзяліў кожнага з сыноў уладаннямі, каб у будучым пазбегнуць сямейных сварак.

Ён хацеў, каб пасля яго смерці сыны не варагавалі, а жылі ў братэрскай міласці. Каб кожны з іх гаспадарыў на сваёй зямлі.

А надзяліў Гедзімін іх такім парадкам: старэйшаму сыну Мантвілу даў Кернава і Слонім з навакольнымі землямі; Нарымонту даў Пінск з усім наваколлем і землямі над ракой Прыпяццю, ажно да Дняпра; Альгерду даў замак Крэва і землі на ўсход да ракі Барчы; Кейстуту даў Старыя Трокі з усім Жамойцім княствам, а таксама Гародню, Коўна, Упіту і Ліду, усе землі да Падляшша; Карыяту даў Наваградскае княства з Ваўкавыскам і Мсцібогавым, усе землі да рэчкі Случы; Любарт, які ажаніўся з дачкой уладзімірскага князя, атрымаў ва ўладанне Уладзімірскае, Луцкае і Валынскае княствы; малодшаму сыну Яўнуту, якога Гедзімін найбольш мілаваў, ён перадаў Вільню, Ашмянскі, Валкамірскі і Браслаўскі паветы, а таксама адпісаў яму ўладу над усім Вялікім Княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім.

Такім парадкам Гедзімін надзяліў усіх сваіх сыноў уладаннямі.

## VII

У 1341 годзе вялікі князь Гедзімін быў забіты немцамі з ручніцы ў Прусіі. Там яго душа адляцела ад цела. Сыны перавезлі цела вялікага князя ў Вільню. Усё рыцарства суправаджала яго. У Вільні Гедзіміна пахавалі паводле паганскага звычаю. Быў складзены зруб са смалянога дрэва, сасны. Усе сем сыноў апранулі Гедзіміна ў княжацкую вопратку, якую ён асабліва шанаваў, паклалі разам з ім шаблю, рагаціну, сагайдак, пару сокалаў, пару хартоў, каня з сядлом, яго слугу, усю яго зброю, трох узброеных і жывых немцаў-вязняў і разам з вялікім князем спалілі.

Калі вогнішча ўжо палала, усе рыцары з вялікім шкадаваннем плакалі. Яны, паводле старадаўняга звычаю, кідалі ў агонь пазногці рысяў і мядзведзяў.

Потым, калі ўсё згарэла, попел князя сабралі ў труну, моцна зашпунтавалі і там жа пахавалі ў зямлю.

# ЗАПІСЫ ПРА КНЯЖАННЕ АЛЬГЕРДА

Летапісныя "Запісы пра княжанне Альгерда" – унікальны помнік нацыянальнай літаратуры і гістарыяграфіі. Твор захаваўся ў складзе Нікіфараўскага і Супрасльскага летапісаў. У "Запісах..." знайшлі адлюстраванне гістарычныя падзеі сярэдзіны XIV ст.

"Запісы..." складаюцца з васьмі навел і паведамленняў. У творы раскрываюцца асноўныя вайсковыя і грамадска-палітычныя справы вялікага князя Альгерда (1296 – 1377), а таксама працэсы станаўлення ВКЛ як моцнай цэнтральнаеўрапейскай дзяржавы, што праводзіла актыўную знешнюю палітыку.

На старонках твора Альгерд пададзены як выдатны военачальнік, таленавіты кіраўнік дзяржавы, які няспынна дбаў пра ўмацаванне і пашырэнне тэрытарыяльных межаў краіны.

Як вынікае з "Запісаў...", князь Альгерд для дасягнення ўласных палітычных мэтаў шырока выкарыстоўваў дыпламатычныя манеўры, дынастычныя шлюбы, ствараў міждзяржаўныя альянсы, а таксама наўпрост ужываў вайсковую сілу. Сярод найважнейшых дзяржаўных і вайсковых учынкаў Альгерда пісьменнік вылучае тры яго паспяховыя паходы на Маскву – у 1368, 1370 і 1373 гг.

Узнаўленне і пераклад "Запісаў пра княжанне Альгерда" ажыццёўлены паводле Нікіфараўскага летапісу (ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 28) і Супрасльскага летапісу (тамсама. С. 46–49).

## Запісы пра княжанне Альгерда

### I

У 1342 годзе войскі Вялікага Княства Літоўскага прыйшлі пад Мажайск. Пасады спалілі, але горада не ўзялі.

### II

У 1350 годзе прыйшлі паслы ад літоўскага князя Альгерда да вялікага князя Сямёна Іванавіча. Яны прынеслі

каштоўныя падарункі, прасілі падпісаць мір і вызваліць сваіх суайчыннікаў з палону.

Князь падпісаў замірэнне з Альгердам на шмат гадоў і адпусціў з палону Карыятавых дзяцей.

III

У 1352 годзе вялікі князь Сямён Іванавіч пайшоў з войскам на Смаленск. Калі ён ужо быў у Вышгарадзе, яго спаткалі паслы князя Альгерда.

Паслы прасілі падпісаць мірнае пагадненне і не штурмаваць Смаленска.

Князь Сямён не адхіліў Альгердавай просьбы. Ён уганараваў паслоў, падпісаў замірэнне з Альгердам, а сам пайшоў на Угру.

IV

Увосень 1368 года, у лістападзе, князь літоўскі Альгерд, яго брат Кейстут і Міхал Цвярскі прыйшлі з войскамі пад Маскву. Яны зламалі маскоўскія заставы на Страшыне, разграмілі войскі князя Сямёна, Акінфа і іншых.

Стаялі войскі пад Масквой тры дні. А затым вярнуліся назад. Шмат людзей пасеклі, безліч павялі ў палон.

V

Увосень 1370 года, у лістападзе, літоўскія войскі на чале з Альгердам хадзілі на Волак.

У дзень святога Мікалая войскі Альгерда прыйшлі пад Маскву. Восем дзён яны трымалі горад у аблозе. Затым падпісалі пагадненне аб міры і вярнуліся ў сваю зямлю.

VI

У 1371 годзе адбыліся заручыны князя Уладзіміра з Альгердавай дачкой Аленай.

## VII

У 1373 годзе літоўскі князь Альгерд пайшоў з войскам на Маскву.

Калі князь Дзмітрый Іванавіч даведаўся пра наступ, ён тэрмінова склікаў войска і выступіў насустрач Альгерду.

Войскі сустрэліся каля Любецка і сталі адно насупраць другога. Паміж імі быў глыбокі роў, які не дазваляў харугвам атакаваць.

І падпісалі князі вечны мір.

## VIII

У 1377 годзе вялікі князь Альгерд памёр.

Пасля Альгерда на вялікае княжанне ўзышоў яго малодшы сын Ягайла.

# АПОВЕСЦЬ ПРА ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ АЛЬГЕРДА

"Аповесць пра вялікага князя Альгерда" – каштоўны помнік нацыянальнага прыгожага пісьменства XIV ст. Твор прысвечаны дзяржаўнай і вайсковай дзейнасці князя Альгерда (1296–1377) – аднаго з найбуйнейшых манархаў ВКЛ.

"Аповесць пра вялікага князя Альгерда" захавалася ў дзвюх асноўных рэдакцыях. Гісторыка-літаратурнае ядро "Аповесці..." і яе фактаграфічная аснова створаны, верагодна, яшчэ пры жыцці Альгерда або адразу пасля яго смерці летапісцам, набліжаным да асобы вялікага князя. Другая рэдакцыя твора была зроблена ў XVI ст.

Пісьменнік намаляваў яркі вобраз вялікага князя Альгерда. На старонках "Аповесці..." дэталёва асвятляецца жыццёвы шлях Альгерда ад пачатку яго палітычнай кар'еры да апошніх дзён жыцця. Аўтар паказвае, як узмацнялася ўлада Альгерда, павялічваўся яго ўплыў і тэрытарыяльныя ўладанні, асабліва пасля жаніцьбы з віцебскай князёўнай Ульянай.

Шмат увагі ў творы надаецца абставінам узыходжання Альгерда на пасад вялікага князя, што сталася вынікам яго таемнай змовы з братам Кейстутам супраць малодшага брата Яўнуты.

Аўтар "Аповесці..." падаў кароткія звесткі пра пераможныя вайсковыя кампаніі ВКЛ на чале з Альгердам супраць крыжакоў. Асаблівы акцэнт пісьменнік зрабіў на паходзе войска Альгерда ў Прускую зямлю ў 1361 г., падчас якога было захоплена мноства замкаў і ўзята шмат палонных.

Найбольш яркай старонкай твора з'яўляецца навела пра бітву 1362 г. войскаў ВКЛ з татарамі на Сіняй Вадзе. Пісьменнік дэталёва раскрыў вайсковую тактыку Альгерда і адмысловыя манеўры татарскіх загонаў падчас бітвы, паказаў яе характар і вынікі.

Узнаўленне і пераклад "Аповесці пра вялікага князя Альгерда" ажыццёўлены паводле "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага" (ПСРЛ. М., 1975. Т. 32. С. 41, 42–43). Улічаны таксама гістарычныя звесткі, якія падаюцца ў навелах пра Альгерда, змешчаных у "Хроніцы Быхаўца".

## Аповесць пра вялікага князя Альгерда

I

Альгерд атрымаў у спадчыну ад бацькі – вялікага князя Гедзіміна – Крэўскі замак. Уладанні Альгерда сягалі на усход ажно да рэчкі Барчы і межавалі з Віцебскім княствам.

Пасля шлюбу Альгерда з Ульянай, адзінай дачкой віцебскага князя, ён атрымаў у якасці пасагу ўсё Віцебскае княства. Альгердавы ўладанні цяпер расцягнуліся да ракі Бярэзіны і да ракі Угры.

II

Альгерд і яго брат Кейстут вельмі ганарыліся сваім паходжаннем і высокім статусам. Яны мелі значныя рыцарскія заслугі і таму не маглі змірыцца з тым, што ўлада ў Вялікім Княстве Літоўскім перайшла да іх малодшага брата Яўнуты.

Альгерд і Кейстут таемна змовіліся скінуць Яўнуту з вялікага княжання. Яны прысягнулі нікому іншаму не выдаваць таямніцы і дагаварыліся з'явіцца ў Вільні ў пэўны дзень і час, каб разам здзейсніць задуманае – паланіць Яўнуту.

Прастак Яўнута, нічога не падазраючы, бяспечна бавіў час. Кейстут рыхтаваўся да захопу Вільні, прадумваў план авалодання віленскімі замкамі.

Альгерд, аднак, не з'явіўся ў Вільні ў агавораны час з-за далёкай адлегласці. Таму Кейстут дзейнічаў адзін. Ён ушыхтаваў сваё рыцарства – жамойцкае і трокскае – і незаўважна, уначы, падышоў пад Вільню.

На світанні дружыны Кейстута з дапамогай драбінаў узабраліся на сцены і знянацку напалі на гарнізон. Верхні і ніжні замкі былі ўзятыя.

Яўнута, калі пачуў крыкі, усхапіўся і ў адным кажушку праз пралом у сцяне ўцёк з горада і схаваўся ў гарах. Праз

нейкі час Кейстутавы жаўнеры злавілі Яўнуту ў лесе, дзе ён адмарозіў сабе ногі. Палоннага Яўнуту прывезлі ў Вільню і трымалі пад узмоцненай вартай.

Пасля захопу віленскіх замкаў і паланення Яўнуты Кейстут адправіў ганца да Альгерда, каб паведаміць яму пра здзейсненае і запрасіць яго як найхутчэй прыязджаць у Вільню.

Калі Альгерд прыбыў у Вільню, Кейстут уганараваў яго, выказаў яму сваё шанаванне. Ён перадаў Альгерду, як старэйшаму брату, замкі і Вільню з усімі скарбамі і ўладай.

Альгерд, аднак, не жадаў пераймаць улады ў Вялікім Княстве Літоўскім. Ён усяляк адмаўляўся, называючы розныя прычыны, спасылаўся на тое, што ён шчаслівы і задаволены ўжо тым, чым валодае.

Альгерд і Кейстут спрачаліся працяглы час, частавалі адзін аднаго. Нарэшце дзеля ўзаемнай павагі і згоды пастанавілі раздзяліць Яўнутавы скарбы пароўну. Альгерд узышоў на пасад вялікага князя і стаў гаспадаром Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Кейстут, паводле ўласнага жадання, атрымаў уладу над Троцкім княствам. Яўнуту, які зміраўся з лёсам, браты далі Жамойцкае княства і ўладанні на Русі.

Альгерд дамовіўся з братамі ў выпадку патрэбы, перадусім, у час вайны, аб'ядноўваць намаганні і дзейнічаць супольна супраць непрыяцеля.

Прынятыя пастановы браты змацавалі ўзаемнай прысягай.

## III

Пасля ўзыходжання на пасад вялікага князя Альгерд вёў безупынныя войны з інфлянцкімі і прускімі крыжакамі, заўжды перамагаючы іх. Так, у 1361 годзе Альгерд згуртаваў рускае і літоўскае войскі і ўварваўся ў Прусію. Ён абрабаваў Прускую зямлю, захапіў мноства замкаў, шчодра паліў

палеткі нямецкай крывёй і ўзяў шмат палонных, помсцячы гэтак за смерць свайго бацькі Гедзіміна.

Войскі Альгерда не панеслі стратаў. Усе вярнуліся ў Літву з вялікімі набыткамі.

## IV

У 1362 годзе Альгерд падпісаў замірэнне з прускімі і інфлянцкімі крыжакамі. Пасля гэтага ён выправіўся на татараў у Дзікае Поле.

Разам з вялікім князем на вайну пайшлі яго пляменнікі, сыны ноўгарадскага князя Карыята – Аляксандр, Канстанцін, Юрый і Фёдар.

Войскі Вялікага Княства Літоўскага мінулі Канеў і Чаркасы і прыйшлі да *Сіняй Вады*. Там, на полі, яны сустрэлі вялікую татарскую арду. На чале арды стаялі тры царкі – Катлубай, Кацібей, Бекер. З імі таксама быў Дзімітр-султан.

Альгерд пільна агледзеў варожыя загоны, падрыхтаваныя да бітвы, і загадаў расшыхтаваць усё сваё войска на шэсць харугваў. Войскі ўсталявалі абарону на флангах, каб татары не здолелі абкружыць іх сваімі звыклымі манеўрамі і не мелі магчымасці растрэльваць іх з лукаў.

Сапраўды, татары спачатку выпусцілі ў бок літвы жалезны град лучных стрэлаў. Але стрэлы не прычынялі шкоды войску з-за правільнай расстаноўкі харугваў і іх здольнасці манеўраваць на полі бітвы.

Літвіны і русіны з дзідамі і шаблямі перастрэлі татараў і не дазволілі ім ужыць звыклую тактыку – манеўраваць на конях вакол войска і расстрэльваць яго з лукаў.

Карыятавічы з наўгародцамі наступалі з бакоў, валілі татараў з коней, і тыя падалі на зямлю, нібы снапы ад моцнага ветру.

Татарскія войскі ўрэшце змяшаліся. Яны не маглі больш стрываць ціску літвы і ў паніцы кінуліся наўцёкі.

Тры татарскія цары – Катлубей, Кацібей і Бекер – былі забітыя. Загінуў таксама і Дзімітр-султан. У Дзікім Полі,

калі ісці да Ачакава, засталося возера, якое названа Кацібейскім.

Палегла мноства татарскіх мурзаў і ўланаў.

Усе рэкі запрудзілі трупы забітых татараў. Паўсюль у полі блукалі вярблюды і валяліся раскіданыя павозкі, на якіх татары прызвычаіліся вазіць сваю маёмасць.

Пасля той бітвы літва і русь бесперашкодна забралі Таргавіцу, Белую Царкву, Звенігарад і ўсё Поле, ажно за Ачакаў.

Ад татараў былі вызвалены землі ад Кіева і Пуціўля да вусця Дону і да Волгі.

Іншых татараў прагналі да Кофы, Азова і Крыма.

Войскі Вялікага Княства Літоўскага з трыумфам вярнуліся назад.

Затым Альгерд ушчэнт разграміў, расцярушыў і выгнаў татараў з Падольскіх краёў. Толькі рэшта іх уцякла праз Дняпро на Чорнае мора і да Перакопу.

Такім парадкам Альгерд здабыў слаўную перамогу над татарамі.

Усе землі, што здаўна належалі Кіеву, Альгерд вызваліў ад татарскай напасці.

Затым вялікі князь з часткай войска вярнуўся ў Літву. Другую частку войска Альгерд пакінуў на Падоллі. Гетманам над імі ён прызначыў сваіх пляменнікаў, наўгародскіх князёў Карыятавічаў – Аляксандра, Канстанціна, Юрыя і Фёдара. Усю Рускую зямлю і Падолле Альгерд аддаў ім у вечнае валоданне.

# НАПАМІН ПРА СВЯТЫХ ПАКУТНІКАЎ АНТОНІЯ, ІААНА, ЯЎСТАФІЯ

"Напамін пра святых пакутнікаў – Антонія, Іаана і Яўстафія" – каштоўны помнік прыгожага пісьменства другой паловы XIV ст. Твор быў напісаны спачатку на грэчаскай мове, напэўна, падчас кананізацыі святых пакутнікаў у 1374 г.

Аўтар унікальнага "Напаміну пра святых пакутнікаў Антонія, Іаана і Яўстафія", верагодна, быў выхадцам з Вялікага Княства Літоўскага, бо менавіта ўраджэнец ВКЛ мог дакладна ведаць трагічную гісторыю Кругляца, Няжылы і Кумца, якія зазналі пакутніцкую смерць у 1346–1347 гг. падчас княжання Альгерда.

У творы намаляваны сцэны жахлівых пакутаў хрысціянскіх вернікаў, якія пайшлі на смерць, але не адмовіліся ад хрысціянскіх прынцыпаў.

"Напамін пра святых пакутнікаў Антонія, Іаана і Яўстафія" друкуецца паводле публікацыі: Кніга жыццій і хаджэнняў. Мінск, 1994. С. 135–139.

## Память святых новоявленных мученик Антония, Иоанна, Еустафия

*Стих же:*

Умерших три други Литвы родом,
ныне мысленыя умершвяют тристатыи.

Тии бяху от места Литовьскаго, огню и тии служаще, подобно другым съплеменным своим, ибо Антоний и Иоан братия беаху, от душа християньству, еже о нас благочестие възлюбльше. И пришедше к священнику некоему достоинством, именем Нестору, от негоже Божественому сподобляются крещением. Иоан убо възрастом старей, а иже по нем Антоний именуется. И подобляющеся християном, показующе житие, пребывающе, служаще князю Литовьскому,

обаче крыюще, яко беху християне. И понеже не мощно бе утаити неизменнаго устава и прочаго всего пребывания, иже не иным подобитися, главы же стригомым и брадам. Въспрошени быша от князя, християне собе споведаша с дрътзновением. И нудими благочестия отврещися и предлежащих мяс трапезе вкусити. Ибо случися день постный, понеже не восхотеша, в темнице мрачной Иродове затворяются глубоце, радующеся и веселящеся, яко о Христове имени таковым сподобишася страдати, мняху бо ся, паче на царствие, а не во темницю отводими.

Лету же мимоходящю, малодушьствовав Иоанн, и усумневъся мук, посылает к князю, от темница изяту быти моляся, готов быти всяусердно повеленая исполнити, еже убо и бысть явьствено убо, яко единславен тем бе и вероподобен, в себе же християньство имяше, страхом же мук не хотя собе объявити. Тогда же и Антоний изят от темници бывает. И пребываху свободно обои, ни единой нужи тем наносимой, не убо иже то Иоанну христианьство крыяше, но являше благочестие и брату запрещаше.

И некогда велику имяше силу, и сего ждаше, предстояше князю обычно. Иоанн убо предлежащих мяса вкушаше. Антонию же повелено бысть вкусити, и не восхоте, явлено христианина собе исповедаше. Темже во темницю пакы влагается, еже есть глубокый ров. Иоанн же от христианьства отвращаем и от нечестивых досаждаем, яко праведную веру съблюд, иже последе изволив и съхранив. Приступль прежереченому прозвитеру Нестеру, моляше его ходатая быти к братнему пременению, яко прощену быти от него. Да якоже слыша от него, не хотяше сия брат никакоже, и иже бо не едино имети общение с ним, аще не исповест явленно благочестие. Вся абие преложена бывают, и время подобно искаше, яко обьявити. И некогда князю предстояше обычно, тому в бани служа, дерзновенно християна собе исповеда. И абие же биен от обретшихся руками и палицами и влачим, и в темницю отводится с радостью неизреченною. И благодушья исполнив брата. Пребываху убо оба

в темници и благодаряше Бога, оних же пострада Его ради. По прехождению же реченных дней причащающеся животворящим Христовым тайнам от речена иерея.

Лету же некоему минувшу, Антоний убо осужается смерти. И сказану бывшю тому, ответ бодръствуя всю нощь преиде с братом купно, укрепляя его и ко страданию подвижа и перваго падениа въспоминая, предглаголя, яко не по его множех днех и той подобную подимет смерть. Та же и Божественным таинам причащаются оба. Дни же бывшю, удавлением представляет душу Богови в 14 день имущю априлю месяцю. Таже Иоан по проходжению прежереченных дней от Антония подобной тъи осужается удавлению в 24 апреля месяца. Честныя же их мощи неции от верных вземше, честно погребоша.

Еустафий же юн беаше възрастом, еще възраст цветущ имея, мужествен и красен и доблествен якоже душею, такоже и телом. Душею же християньство възлюбив, крещается от прежереченнаго иерея Нестера, и пребываше оттоле, яко християн, подобающее житие добре и к Богови любовию приходя, постяся до конца. И ину всяку добродетель делая начальством же и властию князя. Некогда тому последуя о ловитвах пребыванию творящу, и виден бысть от него и возрастающа брады его и власы носяй уже на главе, ниже мало что от сих вредив. Сим огнь обычай служитель есть, отцу их доброненавистному и лукавому бесу узаконоположившему постризати убо яже на главе в долготу яже протяженыя власы, браду же аки бритвою отрезати. Он же яко нечювьствие телу сице злочестная и безумная всякого обычая плотная отложив и сия целы сохранив.

Сице убо князь имуща видев, аще христианин есть, въпрашаше. Тому же с дрьзновением християна собе исповедавшю, на ярость велику и бесование подвиже князя. И преложити сего честные веры в тщание положи и прежде убо нудит того ясти мяса. Понеже пяток беаше и пост преже Рожества Христова, и не всхоте оттуду сего скусити, якоже видя убо его князь, яже очима сие видети хотяше,

ярость въспалив, первие убо жезлы немилостивно сего повеле бити. Ему же стоящю и слугам немилостивно биющим мученик не токмо слезу или стенание показа, но благодаряше паче человека, явльшагося и сподоблышаго обещнику святым Его быти, яже паче на ярость и больший гнев князя подвиже. Повелевает пакы воду студенейшю принести и в того вливати уста, да якоже сему бывшю, и плотью от лютыя студени посиневыши, и не въсхоте отнюдь мясу коснутися. И муку на того тяжьчайшю уготова, и кости ногу его скрушиша и строша от глезне до самых колен. По сем же главы того власы купно с кожею повеле отрезати, такоже нос и уши повеле отрезати. Сими убо казньми три дни терпя, они же ощющати мняше и глаголаше любимым тому християном, таковыя раны и болезни плачющим о нем и рыдающим, сице умирающю.

И повесити сего мучитель обеща. Он же такожде и скрушены же отнюдь естественныя обнося бедры и лыста, яко ничтоже пострада печально, водящим не возбрани, но паче предваряше течаше. Иже дуб обретьше, тако того повешають, ужа на выю възложивше. И тако душу Богови предаде в 13 имущю декаврию месяцю. И тамо вися три дни, неприступен зверю, съблюден бысть; от благочестивых же неции оттуду веемше и погрести сподобиша, благодаряще Бога.

Бывает же некое чюдо Богови мученику представляющуся: по тех бо смерти и не един от осуженник на оном месте осужден бысть умрети.

Но събравшеся християне и просиша у князя преклонитися к прошению тех и дати тем место, яко да воздвигнут церковь священну. Он же реченое место тем даде, тамо же церковь въдрузивше, Богови славословие въссылаюць, и принесоша же ся части некыя от священных мощий, и тех в святейшую великую вселеньскую церковь, и приятны быша честно в славу и хвалу великого самого Бога и Спаса нашего Иисус Христа. Ему же слава, честь, покланяние с Отцем и Святым Духом в векы веком.

Аминь.

# АПОВЕСЦЬ ПРА ЯГАЙЛУ

Асоба вялікага князя Ягайлы (каля 1354–1434 г.) – найбольш супярэчлівая ў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі. У 1377 г. ён узышоў на трон ВКЛ. Падчас вырашальнай вайны славянскіх войскаў з татарскімі ордамі хана Мамая ў 1380 г. Ягайла “не паспеў” на Кулікоўскае поле. Пры ім была падпісана Крэўская унія 1385 г. На прапанову палякаў вялікі князь у 1386 г. стаў каралём Польшчы. Удзельнічаў у Грунвальдскай бітве 1410 г. Ягайла шанаваў мастацтвы і размаўляў па-беларуску.

Дзейнасць вялікага князя і караля Ягайлы знайшла шырокае адлюстраванне ў старажытнай беларускай літаратуры. Захаваліся два летапісны творы, якія непасрэдна прысвечаны асобе Ягайлы – “Запісы пра княжанне Ягайлы” і “Аповесць пра Ягайлу”.

“Аповесць пра Ягайлу” – мастацкі твор з разгорнутым сюжэтам. Яго галоўны персанаж – князь Ягайла. Старажытны пісьменнік, перадусім, засведчыў, што пасаду вялікага князя Ягайла атрымаў у спадчыну ад бацькі, з чым пагадзіўся яго дзядзька князь Кейстут – найбольш аўтарытэтны на той час палітык.

Ягайла ў “Аповесці...” паўстае як самаўладны манарх, які дзеля ўтрымання трона здатны пераступіць клятву і крыжацалаванне. Паводле летапісу, Ягайла нават загадаў задушыць у Варшаўскай вязніцы роднага дзядзьку Кейстута і хацеў чыніць фізічную расправу над стрыечным братам Вітаўтам, але той своечасова збег з Крэўскага замка.

На старонках “Аповесці...” Ягайла паказаны вельмі помслівым манархам, які не забывае нанесеных яму абразаў і крыўдаў. Так, мазавецкі князь Януш, што напаў на Драгічын і Мельнік, быў у зручны момант жорстка пакараны Ягайлам. Вялікі князь у адказ агнём і мячом спустошыў Мазовію.

Разам з тым Ягайла праяўляў палітычную сталасць і мудрасць, ён быў здатны на вялікадушнасць і “братэрскую міласць”. Напрыклад, каб спыніць грамадзянскую вайну, Ягайла надзяліў Вітаўта велізарнымі ўладаннямі і некалькімі буйнымі гарадамі – Гародняй, Берасцем, Драгічынам, Мельнікам, Белзам, Суражам, Камянцом і Ваўкавыскам, а затым наогул аддаў яму ўсю Валынь і Падолле.

Здольнасць Ягайлы да палітычных кампрамісаў, паводле "Аповесці...", была шчодра ўзнагароджана: у 1386 г. польскія князі і магнаты абралі яго каралём Польшчы. Ягайла прыняў каталіцкае веравызнанне, ажаніўся з каралеўнай Ядзвігай, шчасліва ўзышоў на трон і заставаўся каралём Польшчы да апошніх дзён жыцця.

Вельмі цікавы ў "Аповесці пра Ягайлу" вобраз *Вайдылы*. Колішні пекар князя Альгерда, ён заслужыў асаблівы давер манарха. Князь Ягайла таксама шанаваў Вайдылу, нават аддаў за яго замуж сваю сястру. Вайдыла, аднак, выявіў сябе як адмысловы інтрыган і зламыснік. Праз хлуслівыя даносы і паклёпы ён пасварыў Ягайлу з Кейстутам і Вітаўтам. Паводле летапісу, Вайдыла ўсё ж такі быў заслужана пакараны. Кейстут узяў яго ў палон і загадаў павесіць на плошчы ў Вільні.

Рэканструкцыя і пераклад "Аповесці пра Ягайлу" ажыццёўлены паводле "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага" (ПСРЛ. М., 1975. Т. 32. С. 63–65; 84). Улічаны таксама адпаведныя навелы пра дзейнасць Ягайлы, змешчаныя ў "Хроніцы Быхаўца".

## Аповесць пра Ягайлу

### I

Вялікі князь Альгерд з усіх сваіх сыноў найбольш шанаваў Ягайлу. Паразумеўшыся з братам Кейстутам, Альгерд адпісаў Ягайлу пасля сваёй смерці трон Вялікага Княства Літоўскага.

У 1377 годзе князь жамойцкі, трокскі, гарадзенскі і падляшскі Кейстут пасля пахавання брата Альгерда, як і абяцаў яму, узвёў на пасад Вялікага Княства Літоўскага Альгердавага сына і свайго пляменніка Ягайлу.

Каранацыя адбывалася паводле даўніх цырымоній, у прысутнасці князёў, паноў і баяраў – літоўскіх і рускіх. Апрануты ў княжацкія шаты і з княжацкай шапкай на галаве, Ягайла сеў на трон Вялікага Княства Літоўскага.

На вернасць Ягайлу, як вялікаму князю, спачатку прысягнулі Кейстут і яго сыны. За імі – астатнія князі і баяры прынеслі яму прысягу. Кейстут прысягаў ад чыстага сэрца і быў шчыры ў сваіх думках і ўчынках.

Пасля ўзыходжання на трон Ягайла ваяваў з руссю і палякамі, а таксама з інфлянцкімі і прускімі крыжакамі.

## II

Служыў у Ягайлы нейкі Вайдыла, асоба нізкага паходжання. Яшчэ раней, у князя Альгерда, ён выконваў абавязкі пекара. Цудоўны пекар надта падабаўся Альгерду і ён зрабіў яго сваім пасцельнічым, а потым і падчашым. Да смерці князя Вайдыла быў яго надзейным сакратаром. Ягайла таксама высока цаніў бацькавага памочніка і нават выдаў за яго замуж уласную сястру, што надта абразіла Кейстута.

Вайдыла не дараваў Кейстуту абразы і знявагі яго гонару. Ён пачаў нагаворваць Ягайлу на Кейстута. Агіднымі і зласлівымі даносамі ён змусіў Ягайлу памірыцца з прускімі крыжакамі і патаемна змовіцца з імі аб вайне супраць уласнага дзядзькі Кейстута.

Князь Кейстут даведаўся пра планы Ягайлы ад Гастардэня – крыжацкага каменданта, дачку якога ён трымаў падчас хрышчэння і быў яму кумам. Кейстут не падаў выгляду, клапоцячыся пра лёс сына Вітаўта.

Калі ж Ягайла распачаў вайну з Полацкім княствам, дзе галоўным яго гетманам быў Андрэй Гарбаты, Кейстут з войскам пайшоў на Вільню. У Вільні ён здабыў пісьмовае пагадненне Ягайлы з крыжакамі і паказаў яго сыну Вітаўту.

Праўда, Кейстут, па просьбе Вітаўта, не стаў аб'яўляць Ягайлу вайны. Ён толькі падпарадкаваў сваёй уладзе Вільню, а Крэва і Віцебск пакінуў Ягайлу.

Вайдылу, які справакаваў канфлікт, пасеяў варажнечу і непрыязнасць, злавілі ў Вільні. Кейстут загадаў павесіць яго на шыбеніцы.

Затым Кейстут захапіў Наваградак і Северскае княства, скарыў свайго другога пляменніка – Дзімітра – вельмі свавольнага і непаслухмянага.

Тым часам Ягайла вярнуўся з Полацка. Ён адабраў у Кейстута не толькі Вільню, але і Трокі – замак Кейстута – захапіў штурмам.

Кейстут пачаў рыхтаваць войска з жамойтаў і русінаў. Ягайла наймаў прускіх і інфлянцкіх крыжакоў.

Калі войскі сышліся для вырашальнай бітвы, Ягайла праз Скіргайлу, брата Кейстута і яго сына Вітаўта, запрасіў Кейстута для шчырай прыяцельскай гаворкі, каб мірна вырашыць спрэчку і паразумецца. Кейстут згадзіўся. Калі ён з сынам Вітаўтам прыехаў да Ягайлы, той загадаў схапіць іх.

Ягайла выслаў Кейстута пад вартай у Варшаву, а затым распарадзіўся задушыць яго там у вязніцы. Вітаўта па загаду Ягайлы пасадзілі ў Вільні. Знатныя літоўскія паны і крыжацкія магістры хадайнічалі перад Ягайлам, каб ён вызваліў Вітаўта, але той не выканаў іх просьбы. Ягайла прыгаварыў Вітаўта да смерці і пад канвоем адаслаў у Крэва.

Аднак з дапамогай жонкі, якой было дазволена бесперашкодна наведваць Вітаўта, ён адмысловым чынам збег з крэпасці. Аднаго вечара жонка з паненкамі наведала Вітаўта. Адна з паненак аддала яму сваё адзенне і Вітаўт у жаноцкім убранні, паколькі ён не насіў барады, шчасліва ўцёк з вязніцы. Вітаўт спачатку накіраваўся да мазавецкага князя Яна, а адтуль – да прускіх крыжакоў. Крыху ачуняўшы, Вітаўт згуртаваў вакол сябе крыжакоў і жамойтаў, якія спрыялі яму, і пайшоў вайной на Ягайлу. Неўзабаве Вітаўт адваяваў Трокі.

Потым Ягайла праз сваіх паслоў прапанаваў Вітаўту вярнуцца на радзіму і даў яму ў валоданне Гародню разам з воласцю, а таксама іншыя землі – Берасцейскую, Драгічынскую, Мельніцкую, Белзскую, Суражскую, Камянецкую і Ваўкавыскую. Гэтак Ягайла даў веру і надзею Вітаўту, а сабе вярнуў гонар і пашану.

Ягайла паабяцаў Вітаўту не накіроўваць пасольствы ў чужыя землі без узгаднення з ім. Потым Ягайла аддаў Вітаўту ў валоданне ўсю Валынь і Падолле.

## III

У 1383 годзе вялікі князь літоўскі Ягайла Альгердавіч, супакоіўшы сваю краіну з усіх бакоў і ўмацаваўшы памежныя замкі з прусамі і інфлянтамі ахоўнымі харугвамі,

накіраваўся да *Мазовіі.* Агнём і мячом Ягайла разбурыў Мазавецкае княства.

Затым Ягайла пайшоў у Сандамірскую зямлю. Ён помсціў ляхам за тое, што яны дапамагалі мазавецкаму князю здабываць Драгічын і Мельнік. Ягайла распусціў загоны па ўсёй Сандамірскай зямлі. Яго войска няміласціва рабавала ляхаў.

Калі загоны з нарабаваным дабром і палоннымі сцягнуліся назад да коша, Ягайла пайшоў пад горад *Завіхвост.* Там, у замку, зачынілася шмат палякаў з жонкамі і дзецьмі.

Ягайла з войскам наблізіўся да Віслы і пачаў раіцца са сваімі панамі і баярамі, як перапраўляцца праз раку пад горад.

Тое места было названа Завіхвостам здаўна. Аднойчы пан Радзівіл, едучы на кані, прыехаў да Віслы і не маючы на чым перабрацца на другі бераг, абвіў адну руку конскім хвастом, а другой пагнаў каня ўплаў. Астатнія яго жаўнеры скочылі за ім і гэтак пераплылі Віслу. Таму і названа места Завіхвост.

Паводле даўняга прыкладу, гэтаксама Радзівіл, які знаходзіўся ў войску Ягайлы, скочыў на кані ў Віслу, а за ім і ўсё войска пераплыло раку. Адны перапраўляліся на спінах коней, іншыя сядзелі на пуках сена і саломы, трымаючыся за конскія хвасты.

Ягайлу перавезлі на другі бераг у чоўне.

Войска выбралася з ракі, абтрэслася ад вады. Тады Радзівіл загадаў жаўнерам браць бярвенні з хат і забудоў, якія жыхары пакінулі, схаваўшыся ў замку. Жаўнеры закідалі роў вакол замка бярвёнамі, зраўнялі яго з зямлёй і падышлі пад замак. Затым абклалі сухім дрэвам замак і запалілі. Замак і вежы, пабудаваныя з дрэва, гэтаксама ўспыхнулі. У тым вогнішчы згарэла шмат польскіх паноў з жонкамі і дзецьмі. А тых, што спрабавалі ўцякчы з замка, літва брала ў палон.

Потым Ягайла распусціў загоны ажно да Вісліцы, што ў дзевяці мілях ад Кракава.

З незлічонымі трафеямі вярнуўся Ягайла з Польшчы ў сваю зямлю.

## IV

У 1386 годзе знатныя польскія князі і паны прыехалі да вялікага князя Ягайлы і папрасілі яго, каб ён прыняў карону Польскага Каралеўства. Гэта здарылася пасля смерці караля Уладзіслава, які не меў сыноў, а пакінуў пасля сябе толькі адну дачку – Ядзвігу.

У Польшчы з-за выбараў караля ўспыхнулі канфлікты і забурэнні. Таму польскія паны міласціва прасілі Ягайлу прыехаць у Кракаў, прыняць каталіцкую веру, узяць шлюб з Ядзвігай і стаць валадаром Польскага Каралеўства.

Ягайла параіўся з літоўскімі князямі і панамі, а затым паехаў у Кракаў. Разам з ім накіравалася шмат літоўскіх паноў, што належалі да каталіцкага веравызнання.

У дзень пасля прыняцця новай веры і святых тайнаў Ягайла быў абвянчаны з каралеўнай Ядзвігай. Затым гнезнінскі арцыбіскуп і кракаўскі біскуп Баболя каранаваў Ягайлу і Ядзвігу.

Праз гэта на Літве пашырылася рымская вера. З Польшчы ў Вільню прыехаў біскуп і пачаў хрысціць людзей у сваю веру.

## V

У 1434 годзе кароль Ягайла, які меў 80 год веку, памёр. З вялікім плачам усіх станаў яго пахавалі ў Кракаве ў мармуровай труне ў замкавым касцёле.

# ГРЫГОРЫЙ ЦАМБЛАК
## (1364–1419)

Грыгорый Цамлак – яркі пісьменнік і славуты царкоўны дзеяч славянскага свету. Балгарын паводле паходжання, ён на запрашэнне Вітаўта пераехаў у ВКЛ і заняў у 1415 г. пасаду Кіеўскага мітрапаліта. Пры ім Праваслаўная царква ВКЛ набыла статус аўтакефальнай, незалежнай ад Масквы.

У беларускі перыяд творчасці Грыгорый Цамблак плённа працягваў літаратурную творчасць. Дакладна вядома, што ў гэты час ён напісаў выдатнае ў мастацкім плане "Ухвальнае слова айцам Канстанцкага сабору", якое затым агучыў на гістарычным Канстанцкім саборы 1418 г.

На старонках твора пісьменнік узняў пытанне аб злучэнні заходняй і ўсходняй цэркваў. Ён заклікаў да спынення ўзаемных дакораў і прэтэнзій, даказваў неабходнасць шчыльнага згуртавання вакол вучэння Хрыста. Грыгорый Цамблак даводзіў, што ў Царквы ёсць адзіны пастыр – Хрыстос, таму яна мусіць быць адзінай і непадзельнай, як гэта было адпачатку і на працягу доўгага часу.

"Ухвальнае слова айцам Канстанцкага сабору" вельмі адметнае ў стылёвым сэнсе. Яно напісана паводле традыцый высокага красамоўства і рыторыкі. У ім адчуваецца ўздзеянне беларускай літаратурнай школы, уплыў аратарскага майстэрства Кірылы Тураўскага і Кліма Смаляціча.

Твор Грыгорыя Цамблака "Ухвальнае слова айцам Канстанцкага сабору" перакладзены паводле публікацыі: *Н. К. Никольский.* Материалы для истории древнерусской духовной письменности. СПб., 1907. С. 148–152.

### Ухвальнае слова айцам Канстанцкага сабору

Як вас узвялічым, о, сябры, уладыкі, айцы і браты? Як вас назавём? Да каго прыраўнаем вас? Як вас ухвалім за добрую пакорлівасць, якую ваш сход царкве дэманструе?

Якую невымоўную асалоду атрымаем ад вашай дабрадзейнасці? Якімі словамі належна дагадзім вам?

Мне, які хоча слова стварыць пра вас, належыць быць вартым вашых словаў і справаў. Бо толькі блізкі па ўзроўню, здолее ўхваліць вас як след.

Вас, сябры і ўладыкі, Хрыстос на шмат часу раней прадказаў і ўхваліў, калі сказаў да вучняў сваіх: "Вы ёсць святло свету" (Мф 5:14).

Такім жа чынам Хрыстос дабраславіў вас, стварыў братоў для сябе, калі мовіў: "Дабрадзейныя міратворцы, і яны назавуцца Сынамі Божымі" (Мф 5:9).

Цяпер кажу, вы – сапраўды ёсць дабрадзеі і настаўнікі евангельскага шляху!

Вы – ёсць добрыя рабы, добрыя і верныя! Вы свае таленты павялічваеце і пашыраеце! З'яўляецеся там, дзе вера губляецца, клапоціцеся пра шмат каго. Не шукаеце спакою, але аддана працуеце, здабываеце радасць ад клопатаў дзеля ўзвелічэння Госпада.

Вы – ёсць умелыя кормчыя! Царкоўны карабель вядзеце да ціхае прыстані, аберагаеце ад вятроў пераменлівых!

Вы – ёсць соль свету! Словы царкоўнага ўпарадкавання! Клапоціцеся пра ісціну і не стамляецеся стрымліваць пашырэнне ерэтычных вучэнняў. Халоднае астуджаеце дзейсным цяплом.

Вы – ёсць лекары наймудрэйшыя і найтанчэйшыя! Царкоўнае цела аберагаеце нясмачнымі лекамі ад усякіх хваробаў зламудрасці. Вядзеце яго заўжды на здаровы шлях, клопатам і згодаю чатырох евангелляў, – чатырох складнікаў гэтага свету!

Вы – зоркі царкоўныя, святлейшыя і больш дзейсныя, чымся шматнябёсныя зоркі! Не караблям ў морах і падарожнікам на сушы паказваеце шлях да гарадоў і местаў, а душы вядзеце на нябёсы, у вышні Ерусалім, у Айчыну нашу спрадвечную.

Вы – зара, за Сонца ярчэйшыя! Дзейсным святлом макроты бязвер'я асушаеце. Бо і Выратавальніка багасловы Сонцам называлі.

Вы – добрыя будаўнікі. Гасподзь калі прыйдзе, убачыць вас нагатове.

Вы – добрыя пастары, кладзеце душы дзеля сваіх авечак. І там і тут вы падобныя на першапастыра Хрыста!

Дабротлівыя цэрквы, дзе служыце вы!

Дабротлівыя авечкі Хрыстовы, якіх пасеце вы!

Дабротлівыя ягняткі, якіх узгадоўваеце вы!

Ведаю, якія дабрародныя і шматродныя будуць статкі вашыя, шматмалочныя, шматхвалёвыя і дабраквeтныя! Бо на травяністых лугах прароцкіх вучэнняў вы іх пасеце і з чыстых крынічных водаў апостальскіх кніг наталяеце!

І што магу я сказаць вялікім і нябесным мужам! Захапляюся вашым пастырствам і настаўленнямі, кіраўніцтвам і ваяводствам!

І людзі вашы падобныя на людзей Яго. Ён правёў іх моцай крыжа праз глыбіні невымерныя, нібы па сушы, – непакорлівых і разбэшчаных людзей. За іх змагаўся з фараонам. Вы ж не адзін раз, а ўвесь час змагаецеся з Д'яблам за людзей. Іх вам даверыў Хрыстос, калі прамаўляў да Пятра: "Калі шануеш Мяне, пасі авечак Маіх" (Ін 16:17). І не з Егіпту выводзіце і не зямлю Палесцінскую імкнецеся ўпарадкаваць, але ад спакусаў адводзіце, каб змаглі годна паўстаць перад абліччам Божым. Багатыя людзі не абураюцца свяшчэнным словам, не спяць відушчыя, не ўпадабняюцца свінскаму мясу, але ўдзячныя вам, углядаюцца ў неба і спяваюць: "Уздыму вочы мае ўгору, адтуль прыйдзе дапамога мне, дапамога ад Госпада, які стварыў неба і зямлю" (Псал 120:1). Не лямантуюць дзікім голасам да Аўрама, якому Бог даў закон на гары. Не просяць стварыць багоў, якія прадстануць перад імі. Але на ўзор Давыда пакланяюцца і ўхваляюць: "Хто вышэй, чымся Ты – наш Бог. Ты, які чыніць цуды" (Псал 76:14).

Дабраславенныя ўсе вашы мовы! Яны, нібы трубы тых святароў, ад якіх пабурыліся сцены іерыхонскія. Там пабурыліся матэрыяльныя і разбураемыя сцены, вы ж разбураеце сцены мысленныя! Вы бурыце надзейныя Д'яблавы замкі, збудаваныя са спакуслівых рэчаў.

Дабраславенная ваша адданасць Богу! Шаную цёплую вашу стараннасць! Вы – паслядоўнікі, што паўсталі пасля Майсея, Іллі, Хрысціцеля і апосталаў!

Не можа зраўнацца адданасць Фінееса з вашай адданасцю і справы яго з вашымі справамі! Вы нішчыце ворага дзідай богупрыемнай пакорлівасці. Вы ўскладаеце на галаву Царкве найпрыгажэйшы вянок!

Дзякуючы вашай мудрасці здзейсніцца і гэтая годная справа. Вы ўсё ўладкуеце дзеля духа, які жыве ўнутры вас.

Пакладаюся на вас і малюся за вас, каб вы старанна пры спрыянні жыватворнага* духа дамагліся *злучэння*, сабралі ў адзінае тое, што адпачатку было непарыўным. І ў вучэнні святых айцоў захавана тое адзінства. Але праз шматвяковую Д'яблаву зайздрасць адзінае цела царкоўнае было разарванае.

Дакуль, найшаноўнейшыя айцы, будзем назіраць расчляненне і падзеленасць цела Хрыстовага!

Дакуль Хрыстос – галава Царквы, за якім мы ідзём, не зможа весяліцца і цешыцца!

Пакуль жа мы прагнем спрэчак, практыкуемся ва ўзаемных нагаворах і абвінавачаннях, адзін бок імкнецца адужаць другі.

Мы ж мусім усе з'явіцца да адзінага пастыра, якім ёсць Хрыстос. І наймудрэйшы Павел называе Хрыста галавой Царквы. І ў целе чалавека ўсе жылы і артэрыі, усе органы злучаны вакол адзінага – галаўнога мозга, які арганізуе ўсяго чалавека і жывіць яго, і дазваляе сябе спасцігаць. Усе ў ім належна арганізавана, падпарадкавана адзінай волі, а не знаходзіцца ў беспарадку.

Дакуль слава адзінай Хрысціянскай царквы будзе падзяляцца на дзве? Як жа яна можа называцца Хрысціянскай царквой, калі не злучаная вакол Хрыста? Хрыстос аб'яднаў нас хрышчэннем і Евангеллем. Ідучы добраахвотна на пакуту, Ён маліўся да Айца і прамаўляў: "Ойча, зрабі так, каб яны былі адзіным, як і мы адзінае ёсць" (Ін 17:11). Цяпер Царква не адзіная, але імя адзінае – Хрыстос. Слава і ву-

чэнні – розныя, вера ў Тройцу – агульная, споведзь – адрозніваецца.

Дакуль усходнія будуць дакараць заходніх, а заходнія – ўсходніх! Гэтак некалі было сярод іудзеяў і самарыцянаў. Іх прымірыў Аляксандр Македонскі, які там знаходзіўся і даведаўся пра іхнія звадкі. Ён быў элін, а не апостал ці прарок. Аднак жа, кіруючыся прыроднай мудрасцю і разважлівасцю, ён прымірыў варагуючыя бакі, прывёў іх да згоды і паразумення.

Хто ж нам пакажа шлях да ісціны – іудзей, варвар, язычнік?

Асмелюся нагадаць вам, пакладаючыся на вашую міласць, не з мэтай выкрыць, а з жаданнем зрабіць лепш. Скажу не толькі вам, але і грэкам, што “мудрыя не выхваляюцца мудрасцю сваёй”. І вялікі прарок навучаў: “Не выхваляюцца багатыя багаццем сваім” (Ієрам 9:23). Калі ўжо хваліцца, дык тым, што буду адстойваць ісціну. Аб гэтым наш настаўнік Павел гаварыў: “І пахвалюся, не буду неразумным, ісціну скажу” (2 Кар 12:6).

Ісціна вынікае не аднекуль, не ад вонкавай мудрасці гэтага свету, не ад філосафаў, што ганарацца ўласным мысленнем, але ад духоўных айцоў. Ісціна агучваецца іхнімі вуснамі і сцвярджаецца імі з вялікім дараваннем.

Сыдземся, гаспадары и айцы, і паспаборнічаем у добрым спаборніцтве. І запытаемся з добрымі запытаннямі, учынім усё па-братэрску, а не па злосці, богапрыемна, а не дзеля ўласнай карысці, праўдзіва, а не хлусліва, пакорліва, а не ганарліва, мудра, а не хітра, па-апостальску, а не па-фарысейску.

Успрымем вучэнне вялікага богабачніка Майсея, які гаварыў: “Спытай бацьку твайго і ён адкажа табе, спытай старэйшых і яны скажуць табе” (Другазак 32:7).

Звернемся да айцоў, якія прамаўляюць да нас мовай сваіх кніг. Дзеля іх пакінем уласныя разважанні пра Бога і пачнём кіравацца дабрадзейнымі павучаннямі святых айцоў, як караблі, што кіруюцца зоркай нябеснай, не зважаючы на бурлівыя ветры, дасягаюць надзейнай прыстані.

Святыя айцы прамаўляюць не проста, але голас іх чуцен па ўсім свеце. Паводле прарока: “Па ўсёй зямлі праходзіць іхны гук, і па край свету словы іхнія” (Псал 18:5).

Пакорлівы Бог крыжом пакутаў пабурыў варажнечу, злучыў нябеснае з зямным. Няхай ён падштурхне абодва бакі да злучэння! Няхай пашле Святога Духа ў вашыя сэрцы! Няхай дасць словы ў вашыя вусны!

Паводле паданняў святых айцоў, абнавіце дабрадзейную споведзь веры, але не зламайце дагматаў, усталяваных боганатхнёнымі айцамі.

Злучыце Царкву, якую добры Пастыр уласнай крывёй з'яднаў!

Няхай праслаўіцца святая Тройца! Слава ёй навекі!

Амінь.

# ЛЕТАПІС КНЯЖАННЯ ВІТАЎТА

"Летапіс княжанне Вітаўта" – умоўная назва комплексу гістарычных навел пра чыннасць вялікага князя Вітаўта. Твор напісаны невядомым аўтарам у першай палове XV ст., верагодней за ўсё, у Смаленску.

Аўтар "Летапісу..." з'яўляўся сведкам падзей, пра якія распавядае ў творы, аб чым сведчыць семантыка тэксту і шэраг наўпроставых паведамленняў. Так, пісьменнік падкрэслівае, што ён разам з іншымі людзьмі на ўласныя вочы бачыў з'яўленне каметы ў 1402 г.: "Идяше та же звезда пред Слнцем, *вси ми* видихом ея идуще".

"Летапіс княжанне Вітаўта" захаваўся ў складзе Супрасльскага і іншых беларускіх летапісаў. Складаецца з 15 навел і ахоплівае перыяд ад 1390 да 1430 г.

Твор адметны тым, што ў ім шырока паказана змаганне ўсходнеславянскіх народаў з крыжацкай агрэсіяй. Навела пра бітву 1410 г. пад Дуброўнай (Грунвальдам), змешчаная ў творы, – гэта найбольш значная праява нацыянальнай гераічнай прозы.

Аўтар "Летапісу..." аб'ектыўна абмаляваў палітычныя працэсы на ўсходнеславянскіх землях у канцы XIV – пачатку XV ст., паказаў складаныя дачыненні Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскім, Смаленскім, Пскоўскім, Бранскім, Разанскім і Наўгародскім княствамі.

Пісьменнік праўдзіва раскрыў працэсы ўмацавання і цэнтралізацыі ВКЛ, якія адбываліся не толькі мірным шляхам праз ужыванне разнастайных дыпламатычных інструментаў, дынастычных шлюбаў, але і нярэдка з дапамогай вайсковай сілы, прымусу, падману і гвалту.

У творы падаюцца дэталёвыя звесткі пра скліканне ў ВКЛ царкоўнага сабору 1415 г., які скончыўся абраннем на Кіеўскую мітраполію балгарына Грыгорыя Цамблака.

Асабліва каларытна ў "Летапісе..." намалявана велічная сцэна падрыхтоўкі да каранацыі князя Вітаўта, на якую з'ехаліся шматлікія госці, валадары суседніх дзяржаў і княстваў, вялікія пасольствы. Пісьменнік акцэнтуе ўвагу на памерах спажытай гасцямі медавухі і колькасці з'едзеных ялавіц, бараноў і вепрукоў. Аднак каранацыя

не адбылася, бо нядобразычліўцы, паводле словаў аўтара, выкралі карону на шляху з Рыма.

Цэнтральны герой твора – вялікі князь Вітаўт. Ён падаецца пісьменнікам як аўтарытэтны палітычны лідэр, энергічны стваральнік моцнай дзяржавы, што нязменна прагнуў пашырэння уладанняў. Вітаўт дамагаецца сваіх мэтаў, не шкадуючы сродкаў і высілкаў. Вялікі князь вайсковай сілай і зброяй далучае да ВКЛ новыя ўсходнеславянскія княствы, усталёўвае сваю ўладу ў многіх гарадах. Ён пастаянна трымае сваіх ворагаў у страху, прымушае падначаленых безагаворачна выконваць яго загады.

Пісьменнік намаляваў трагічную сцэну смерці магутнага Вітаўта. Князь знаходзіцца ў чаканні кароны, але яе перахапілі ворагі на шляху з Рыма. Вітаўт пачынае хварэць, развітваецца з гасцямі, ушаноўвае іх каштоўнымі падарункамі. Затым ён памірае на руках у польскага караля Уладзіслава.

Узнаўленне і пераклад "Летапісу княжання Вітаўта" выкананы паводле Супрасльскага летапісу: ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 51–57.

## Летапіс княжання Вітаўта

### I

У 1390 годзе вялікі князь маскоўскі Васіль Дзімітрыевіч ажаніўся з дачкой князя Вітаўта – Соф'яй.

### II

У 1395 годзе Вітаўт прыйшоў з войскам пад Смаленск. Перад паходам, паводле яго загаду, былі распаўсюджаны чуткі, нібыта ён ідзе на Цемір-Ціклуя.

Насустрач Вітаўту выехаў князь Глеб Святаславіч з нешматлікай дружынай.

Вітаўт ласкава прыняў князя і ўшанаваў яго.

Вітаўт сказаў князю Глебу:

– Няхай усе князі прыязджаюць да мяне без усялякіх засцярогаў. Бо чуў, што няма паміж вамі згоды і паразумення. Калі разгарыцца спрэчка ў вас, я буду трэці, хто справядліва рассудзіць вас.

Гэтак Вітаўт увёў у зман братоў Святаславічаў.

Князі выехалі да Вітаўта з горада з надзеяй, што ён справядліва раздзеліць паміж імі бацькаўшчыну (вотчыну). Яны паверылі абяцанням Вітаўта, прыехалі да яго з падарункамі. З'явіліся літаральна ўсе браты Святаславічы, усе смаленскія князі разам з іхнімі баярамі. Аніводзін не застаўся ў горадзе.

Вітаўт узяў у палон смаленскіх князёў і адаслаў іх у Вялікае Княства Літоўскае.

Пазней ён паланіў шмат іншых людзей, забраў пад сваю ўладу ўсё Смаленскае княства.

Вітаўт прызначыў у Смаленску сваіх намеснікаў – Ямонта і Васіля Барэйкава.

Гэтак адбыўся першы захоп Смаленска – 28 верасня 1395 года, у аўторак.

## III

У тую ж зіму 1395 года вялікі князь Вітаўт паслаў харугвы на Разанскую зямлю. Літва заваявала Разанскае княства і вярнулася назад.

## IV

У 1401 годзе князь Юрый Святаславіч і разанскі князь Алег прыйшлі да Смаленска.

У горадзе Смаленску ўспыхнула паўстанне і пачалося безладдзе. Адны хацелі Вітаўта, а іншыя – спадчынніка, князя Юрыя.

Князь Юрый правёў перамовы са смалянамі і з гараджанамі. Смаляне не пажадалі далей цярпець здзекі з боку іншаверных ляхаў. Яны прынялі ўладу князя Юрыя і адчынілі яму горад.

Там быў і бранскі князь Раман, пастаўлены Вітаўтам раней у якасці намесніка. Смаляне жорстка расправіліся з ім. Раманавы дзеці і княгіня былі адпушчаны.

Смаляне злавілі намеснікаў Вітаўта, а таксама баяраў – бранскіх і смаленскіх, – якія не хацелі спадчынніка – князя Юрыя. Усіх іх пасеклі.

Тае ж восені князь Вітаўт хадзіў вайной на Смаленск, на князя Юрыя. Шмат дзён Вітаўт трымаў горад у аблозе. Але не ўзяў Смаленска. Падпісаў замірэнне і вярнуўся ў сваю зямлю.

У Смаленску зноў пачаліся забурэнні. Шмат людзей загінула. Затым на людзей напаў страшэнны паморак.

## V

У 1402 годзе, у сакавіку, падчас вялікага гавення, назіралася незвычайнае дзіва на нябёсах. На вячэрняй зорцы на захадзе з'явілася велізарная планета. Уверх ад яе зыходзіў яркі промень.

Планета ўзыходзіла на ўсходзе і асабліва разгаралася на летнім захадзе.

Назіралі яе на працягу ўсяго вялікага гавення і ў вялікую пятніцу.

Праходзіла тая зорка ўвесь гарызонт перад Сонцам і ўсе мы бачылі яе рух.

Акурат у той год разанскі князь Радзіслаў Альгердавіч хадзіў з войскам на Бранск.

Сустрэлі яго літоўскія князі – Лыгвен і Аляксандр Патрыкеевіч, старадубскі ваявода. Бітва адбылася каля Любеча. Бог дапамог літоўскім князям. Яны разбілі разанскія палкі. Там яны ўзялі ў палон князя Радзіслава і прымусова прывезлі яго да вялікага князя Вітаўта.

Радзіслава закавалі і пасадзілі ў вязніцу. І там ён пакутаваў тры гады. Затым за Радзіслава атрымалі выкуп у памеры 2000 рублёў. І з тым яго адпусцілі.

## VI

У 1403 годзе князь Лыгвен, выконваючы загад Вітаўта, накіраваўся з харугвамі пад Смаленск і Вязьму.

Лыгвен узяў Вязьму. Ён паланіў князя Іаана Святаславіча і прывёў яго да Вітаўта.

У той жа год Вітаўт паслаў войскі пад Кашын, на свайго брата, князя Васіля.

Васіль уцёк у Маскву.

Маскоўскі князь Васіль Дзімітрыевіч памірыў іх.

## VII

У 1404 годзе вялікі князь Вітаўт разам з Альгердавічамі – Карыбутам, Лыгвенам і Свідрыгайлам, – з усім сваім войскам, прыйшоў пад Смаленск.

Князь Юрый закрыўся са смалянамі ў горадзе.

Вітаўт прастаяў усю вясну, сем тыдняў. Шмат разоў яго войскі штурмавалі горад, білі па ім з гарматаў. Але Смаленск застаўся непрыступным.

Пасля Вялікадня Вітаўт адступіў.

Шмат зла ён учыніў Смаленскай зямлі.

Князь жа Юрый з маскоўскім князем Васілём выехалі з горада з невялікім атачэннем. Сваю княгіню і баяраў князь Юрый пакінуў у Смаленску. Загадаў ім чакаць, пакуль не вернецца – і год, і два, і тры.

Смаленскі князь Юрый прыехаў у Маскву і схіліў калені перад вялікім князем маскоўскім Васілём Дзімітрыевічам, выказваючы жаданне перайсці пад яго ўладу з усім княствам і верна служыць яму.

Аднак маскоўскі князь не прыняў Смаленскага княства ад Юрыя, бо не хацеў пераступаць дамоўленасцяў з Вітаўтам.

Калі Юрый знаходзіўся ў Маскве, князь Вітаўт узброіў мноства харугваў і прыйшоў пад Смаленск.

Гараджане не маглі стрываць голаду ў крэпасці і знямо жаныя былі вымушаны здаць горад Вітаўту.

Гэта было апошняе завяванне Смаленска князем Вітаўтам. Адбылося яно 26 чэрвеня, у чацвер.

Гэтак Вітаўт падпарадкаваў сваёй уладзе Смаленск і ўсё Смаленскае княства.

Вітаўт паланіў княгіню, жонку Юрыя, і выслаў яе ў Літоўскую зямлю.

Шмат якіх баяраў, што былі на баку Юрыя, Вітаўт пасадзіў у вязніцы, іншых – закатаваў.

Вітаўт прызначыў у Смаленск сваіх намеснікаў.

Ён таксама загадаў ляхам знайсці і схапіць князя Юрыя.

Князь Юрый, калі дачуўся пра загад Вітаўта, вельмі спалохаўся. Разам з сынам Фёдарам ён збег з Масквы ў Вялікі Ноўгарад.

Наўгародцы прынялі ўцекачоў з мірам і далі ім прытулак.

## VIII

У 1405 годзе вялікі князь Вітаўт узяў пскоўскі горад *Каложу* ў якасці ўзнагароды за падпісанне міру з Псковам.

## IX

У 1406 годзе вялікі князь Васіль Дзімітрыевіч разарваў мір з Вітаўтам з-за Пскова. Ён хадзіў вайной на Вітаўта.

І ваявалі яны паміж сабой.

## X

У 1407 годзе наўгародцы папрасілі ў вялікага князя Вітаўта Лыгвеня ў якасці ваяводы. І ён паслаў яго да іх. Наўгародцы далі Лыгвеню тры гарады.

А вялікі князь Васіль Дзімітрыевіч ваяваў з вялікім князем Вітаўтам.

Літва заняла Адоеў.

А пад Вязьмай стаялі маскоўскія войскі і не ўзялі горада.

Затым маскоўскі князь памірыўся з Вітаўтам.

## XI

Увосень 1410 года адбылася бітва Ягайлы (Уладзіслава) і Вітаўта Кейстутавіча з немцамі і з пруссю ў Прускай зямлі, паміж гарадамі Дуброўнай і Астрэдай.

Нямецкія магістры, маршалы і контуры былі ўшчэнт разбітыя. Усе іх вайсковыя аддзелы – раструшчаныя.

Шмат нямецкіх гарадоў было ўзята і абрабавана.

Толькі тры гарады Вітаўт не здолеў узяць.

Наогул у тую восень адбыліся тры бітвы ляхаў і літвы з немцамі. Вельмі шмат вояў – крыжакоў, літвы і ляхаў – загінула ў тых бітвах.

Пад Мар'іным горадам (Марыенбургам) стаялі восем тыдняў. Два ўзроўні гарадской абароны пераадолелі, а трэці – не здужалі.

Рабавалі Нямецкую зямлю цягам 10 тыдняў.

XII

Узімку 1415 года мітрапаліт ездзіў у Літву.

У Смаленску ён пакінуў сваё атачэнне, а сам накіраваўся ў Гародню да вялікага князя Вітаўта.

Вялікі князь Вітаўт не прыняў мітрапаліта.

XIII

У 1415 годзе вялікі князь Вітаўт, паводле Божай волі і ўласнага жадання, склікаў сабор праваслаўных епіскапаў, якія служылі на абшарах, дзе ён валадарыў. Прыехалі на сабор: полацкі епіскап Феадосій, чарнігаўскі – Ісакій, луцкі – Дзіянісій, уладзімірскі – Харытон, тураўскі – Яўхімій.

З тымі епіскапамі Вітаўт паставіў на Кіеўскую мітраполію балгарына Грыгорыя Цамблака.

XIV

У 1420 годзе, 1 чэрвеня, мітрапаліт Фоцій паехаў у Літву, а з ім епіскап Амбросій.

І сустрэўся ён з Вітаўтам у Наваградку.

XV

У 1430 годзе Вітаўт паклікаў да сябе польскага караля Уладзіслава, вялікага князя Васіля Васільевіча, цвярскога

князя Барыса Аляксандравіча, магістра нямецкага і прускага, магістра інфлянцкага.

Прыехалі многія паслы: ад царградскага імператара Іаана, ад імператара Святой Рымскай Імперыі, ад дацкага караля, ад вялікага князя разанскага Іаана і ад валашскага ваяводы.

Адоеўскія князі прысутнічалі самі.

Прыйшлі паслы з вялікага Ноўгарада, з Пскова, ад ардынскага цара і ад шмат якіх іншых земляў.

Тыя каралі і вялікія князі жылі ў Вітаўта 7 тыдняў на поўным яго ўтрыманні.

Кожны дзень яны выпівалі трыста бочак мёду, з'ядалі трыста ялавіц, трыста бараноў і трыста вепрукоў.

Вялікі князь Вітаўт хацеў каранавацца вельмі ўрачыста.

Але непрыяцелі не прапусцілі кароны. Таму Вітаўт не здолеў ускласці яе на сябе.

Князь Вітаўт тады вельмі моцна захварэў. Ён ушанаваў і ўзнагародзіў гасцей, а затым развітаўся з імі.

Каля Вітаўта застаўся толькі польскі кароль Уладзіслаў.

На яго руках і памёр вялікі князь Вітаўт 23 кастрычніка, у дзень святога Якава.

# СКАЗАННЕ ПРА БІТВУ НА ВОРСКЛЕ

"Сказанне пра бітву на Ворскле" – надзвычай каштоўны помнік беларускай рыцарскай літаратуры, які быў напісаны невядомым аўтарам у канцы XIV ст. або ў самым пачатку XV ст. Твор захаваўся ў складзе Супрасльскага летапісу.

У цэнтры аповеду – трагічныя падзеі войсковага паходу харугваў Вялікага Княства Літоўскага ў 1398 г. пад кіраўніцтвам князя Вітаўта на Залатую Арду, які скончыўся страшэннай паразай і нечуваным спусташэннем праціўнікам усходнеславянскіх земляў.

Найбольш адметная рыса "Сказання..." – выключная дакладнасць гістарычных дэталяў. Так, аўтар вельмі падрабязна піша пра склад войскаў Вітаўта, у які ўваходзілі хан Тахтамыш з яго атачэннем, а таксама шматлікія дружыны з прадстаўнікоў іншых народаў – немцаў, жамойтаў, валашцаў. Пісьменнік дакладна паведамляе аб часе і месцы гістарычнай бітвы – 12 жніўня 1398 г., у аўторак, на рацэ Ворскле.

Як вынікае з аналізу тэкста, аўтар разглядаў гэтую вайсковую кампанію Вітаўта як авантуру, зусім непрадуманы крок вялікага князя. Пісьменнік відавочна асуджае імперскую, вайскова-мілітарысцкую стратэгію Вітаўта, які планаваў з дапамогай войска, уключна з наёмнікамі, пасадзіць у Залатой Ардзе свайго саюзніка хана Тахтамыша, а затым пры яго садзеянні падпарадкаваць усе славянскія землі і "астатні свет". Менавіта празмерныя ўладныя памкненні і асабістыя палітычныя амбіцыі князя Вітаўта, як паказвае семантыка твора, прывялі да трагедыі – поўнага разгрому харугваў ВКЛ, велізарных людскіх і матэрыяльных стратаў.

У выніку, паводле "Сказання...", войскам ВКЛ не толькі не ўдалося падпарадкаваць татараў, як паспешліва і самаўпэўнена выхваляўся Вітаўт напярэдадні кампаніі, а наадварот, Кіеў, які на той час уваходзіў у склад ВКЛ, мусіў заплаціць астранамічны выкуп хану Цемір-Ціклую. Астатнія ж тэрыторыі гаспадарства – гарады і паселішчы, пакінутыя без абароны, сталіся аб'ектам няшчаднага рабавання ардынскімі загонамі. Татары, як пішацца ў творы, дайшлі ажно да Вялікіх Лукаў – тагачаснай паўночна-ўсходняй мяжы ВКЛ.

Аўтар “Сказання...”, такім чынам, не ідэалізуе Вітаўта і не ўхваляе яго агрэсіўнай знешняй палітыкі. Ён стварае даволі аб'ектыўны малюнак тагачасных палітычных і вайсковых падзей. Пісьменнік пры гэтым балюча перажывае за лёс суайчыннікаў, выказвае глыбокую занепакоенасць будучыняй краіны і дзяржавы.

“Сказанне пра бітву на Ворскле” перакладзена паводле Супрасльскага летапісу (Арк. 35–37 адв.) Гл.: ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 73.

## Сказанне пра бітву на Ворскле

У 1398 годзе адбылася бітва вялікага князя Вітаўта з Цемір-Ціклуем.

Вялікі князь Вітаўт Кейстутавіч сабраў велізарнае войска. У яго склад уваходзілі: хан Тахтамыш з атачэннем, літва, немцы, ляхі, жамойты, татары, малдаване, паляне. Шмат князёў узначальвалі вайсковыя аддзелы. І была гэта магутная ратная сіла.

Шматлікія ўзброеныя харугвы наважыліся ісці супраць Цемір-Ціклуя.

І выхваляўся Вітаўт сваімі планамі, прамаўляючы:

– Пойдзем і захопім татарскую зямлю. Пераможам хана Цемір-Ціклуя і возьмем яго гаспадарства. Паставім на яго месца хана Тахтамыша, а ён дапаможа нам валадарыць над усімі славянскімі землямі і астатнім светам.

І рушыла войска вайной на татараў.

Хан Цемір-Ціклуй таксама сабраў велічэзнае войска на чале з ардынскімі князямі.

Сустрэліся Вітаўт з Цемір-Ціклуем у полі, на рацэ Ворскле. 12 жніўня, у аўторак, адбылася страшэнная бітва.

І папусціў (паспрыяў) Бог татарам. Пасля працяглага змагання яны перамаглі.

Вялікі князь Вітаўт з рэшткамі дружыны мусіў уцякаць.

А вось імёны разгромленых літоўскіх князёў: князь полацкі Андрэй Альгердавіч і яго брат бранскі князь Дзімітрый; князь Іаан Дзмітравіч Кындыр; князь Андрэй,

пасынак Дзімітрыя; князь Іаан Еўлашковіч; князь кіеўскі Іаан Барысавіч; князь смаленскі Глеб Святаславіч; князь Леў Карыятовіч і яго брат князь Сямён; князь Міхайла Падбярэзскі і яго брат князь Аляксандр; князь Міхайла Даніловіч і яго брат князь Дзімітрый; князь валынскі Фёдар Патрыкеевіч; князь Ямантовіч; князь бельскі Іаан Юрэвіч; князь кракаўскі Выспытка.

Пасля перамогі хан Цемір-Ціклуй без перашкодаў прыйшоў да Кіева. Ён узяў з горада выкуп у памеры 3000 літоўскіх рублёў.

Потым хан дазволіў усім сваім татарскім загонам заваёўваць і рабаваць землі Вялікага Княства Літоўскага. І рабавалі татары няшчадна, дайшлі ажно да Вялікіх Лукаў.

Шмат зла ўчынілі татары на абшарах Вялікага Княства Літоўскага, а затым адхлынулі ў сваю зямлю.

# АПОВЕСЦЬ ПРА РЫЦАРСКІЯ СПРАВЫ І ЎЧЫНКІ ВІТАЎТА ВЯЛІКАГА

Вялікі князь Вітаўт (1350–1430) – культавая постаць беларускай нацыянальнай гісторыі. Вынікі яго дзяржаўнай і вайскова-палітычнай дзейнасці надзвычай маштабныя. Ён завяршыў цэнтралізацыю ўлады ў Вялікім Княстве Літоўскім, сакрушыў крыжакоў падчас Грунвальдскай бітвы 1410 г., спыніў татарскія набегі, адцясніў на перыферыю Маскоўскае княства, значна пашырыў тэрыторыю краіны,ператварыў ВКЛ у наймагутнейшую ў тагачаснай Еўропе дзяржаву.

Шматбаковая дзейнасць князя Вітаўта знайшла панарамнае адлюстраванне ў старадаўніх беларускіх летапісах, хроніках і аповесцях. Адным з найбольш каштоўных помнікаў, у якім даволі поўна раскрываецца ўзыходжанне на трон і чыннасць вялікага князя, з'яўляецца "Аповесць пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага". Арыгінал твора, на жаль, не захаваўся. "Аповесць..." чытаецца паводле "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага" і "Хронікі Быхаўца".

Як паказвае аналіз, усе мікранавелы і сцэны "Аповесці пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага" сэнсава змітаваны з асобай вялікага князя, з розных бакоў асвятляюць яго дзяржаўна-палітычную дзейнасць. Твор мае выразнае кампазіцыйна-стылёвае адзінства. "Аповесць..." з'яўляецца асобнай мастацка-эстэтычнай адзінкай, нягледзячы на некаторыя малазначныя праўкі, зробленыя пазнейшымі перапісчыкамі.

Падзеі ў творы падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці, за выключэннем сюжэта пра выданне дачкі Вітаўта Соф'і замуж за маскоўскага князя Васіля, які змешчаны значна пазней і аформлены пісьменнікам як успамін пра колішнія падзеі. Гэтаксама пра паходы Вітаўта на Пскоў і Вялікі Ноўгарад распавядаецца крыху раней, хаця яны адбываліся ў 1427 і 1428 гг. У творы часта адсутнічаюць дакладныя даты важнейшых падзей, аўтар зрэдку адзначае, што некаторыя сюжэты ён падасць ніжэй. Эксперыменты пісьменніка з мастацкім часам сведчаць на карысць таго, што ён імкнуўся стварыць менавіта аповесць, мастацкі твор пра дзейнасць Вітаўта, а не традыцыйны летапіс ці хроніку.

У "Аповесці..." распавядаецца пра важнейшыя вайсковыя кампаніі, у якіх удзельнічаў Вітаўт, раскрываюцца іх вынікі, паказваецца ўнутрыпалітычнае і міжнароднае значэнне. Аўтар, як правіла, выступае на баку Вітаўта. Ён стала праводзіць думку, што Вітаўт ніколі не выступаў ініцыятарам вайсковых канфліктаў, яго дзейнасць з'яўлялася толькі адэкватным адказам на агрэсію або вайсковыя авантуры палітычных апанентаў. Летапісец відавочна сімпатызуе вялікаму князю. Так, ён зусім не асуджае Вітаўта, калі той у 1389 г. звярнуўся за дапамогай да крыжакоў. У "Аповесці..." таксама прапушчаны непрыглядныя факты з біяграфіі Вітаўта, як, напрыклад, яго ўцёкі каля 1382 г. з Крэўскай крэпасці ў жаноцкім адзенні. Затое ў творы сустракаюцца наўпроставыя абразы на адрас Скіргайлы Альгердавіча – палітычнага канкурэнта Вітаўта. Пра яго пісьменнік кажа, што ён "быў гнюсным п'яніцам". Акурат гэтыя факты сведчаць, што аўтар "Аповесці..." быў асобай, набліжанай да Вітаўта.

Галоўны станоўчы герой "Аповесці..." – князь *Вітаўт*. Паводле летапісца, ён быў народжаны ад шлюбу князя Кейстута і прыгажуні Біруты. Ужо юнаком ён выявіў схільнасці да вайсковых спраў, бо меў "адважнае сэрца, ахвочае да вайны". Першы вайсковы паход Вітаўт здзейсніў разам з бацькам, князем Кейстутам, і Ягайлам супраць Польшчы ў 1376 г. Значны вайсковы поспех, па словах летапісца, яго герой меў у 1377 г. падчас паходу на прускіх крыжакоў. Да заслуг Вітаўта пісьменнік адносіў разгром войскаў полацкага князя Андрэя Альгердавіча, які прагнуў вярнуць колішнюю веліч Полацкага княства і таму распачаў у 1376 г. шырокамаштабную грамадзянскую вайну.

Вітаўт паказаны настойлівым у дасягненні сваіх мэтаў і вельмі жорсткім у адносінах да сваіх палітычных апанентаў. Асабліва яго неміласэрнасць выявілася падчас расправы над стрыечнымі братамі Казімірам і Нарымонтам, якія былі захоплены ў палон падчас баталіі за Вільню ў 1390 г.

Пісьменнік аб'ектыўна асвятліў дзейнасць Вітаўта Вялікага па ўмацаванні ВКЛ. Ён яскрава паказаў, як вялікі князь крок за крокам пазбаўляў самастойнасці асобныя ўдзелы і княствы, у прыватнасці – Кіеўскае, Разанскае і Ноўгарад-Северскае, мэтанакіравана ўмацоўваў цэнтральную ўладу, далучаў да ВКЛ новыя гарады і землі – Оршу, Друцк, Віцебск, Бранск, Смаленск, Пскоў і Ноўгарад Вялікі.

Вельмі ўзнёсла, з непрыхаваным задавальненнем летапісец паведамляў пра замірэнне Вітаўта з Ягайлам у Востраве ў 1392 г., якое прынесла значныя выгоды ВКЛ.

Асаблівыя сімпатыі пісьменніка да Вітаўта выявіліся пры апісанні яго ўзыходжання на трон ВКЛ у Вільні ў 1392 г. Сцэна

атрымання Вітаўтам найвышэйшай улады ў дзяржаве пададзена ў "Аповесці..." вельмі велічна і маляўніча, з апісаннем усяго ўрачыстага рытуалу, фіксаваннем розных дэталяў цырымоніі.

У "Аповесці..." згадваецца гістарычная сустрэча Вітаўта і Ягайлы ў Гародлі ў 1413 г., дзе магнаты і шляхта ВКЛ атрымалі родавыя гербы і дадатковыя вольнасці.

Летапісец паказаў маштабы геапалітычных уплываў Вітаўта. Паводле "Аповесці...", вялікі князь ВКЛ прызначаў валадароў на Заволжскае ханства, а славуты перакопскі хан Едыгей лічыў за шчасце падпісаць з ім замірэнне, каб толькі пачувацца ў бяспецы.

Даволі дэталёва ў творы асветлены падзеі з'езду ў Луцку ў 1429 г., на якім было пастаўлена пытанне аб каранацыі Вітаўта. Як вынікае з твора, уплывовы ў Еўропе імператар Святой Рымскай імперыі Жыгімонт з'яўляўся палітычным саюзнікам Вітаўта і спрыяў яму ў набыцці кароны. Пісьменнік аб'ектыўна раскрыў супярэчнасці, якія існавалі паміж Вітаўтам і амбітнымі польскімі магнатамі па пытанні каранавання вялікага князя.

Сярод адмоўных персанажаў у "Аповесці..." выступаюць полацкі князь *Андрэй Альгердавіч* і смаленскі князь *Святаслаў*. Пісьменнік паказвае іх нечуваную жорсткасць і крыважэрнасць. У сваёй лютасці яны, па словах аўтара, "пераўзыходзілі паганых і ўсіх рымскіх імператараў-тыранаў". Аўтар з гневам пералічвае нялюдскія ўчынкі і здзекі, якія чынілі гэтыя князі над мірнымі жыхарамі Беларусі.

"Аповесць..." насычана мноствам *батальных* сцэнаў. Пісьменнік вельмі ярка малюе паход у 1390 г. князя Вітаўта пад Гародню і яго спробы дапамагчы абаронцам, акружаным войскам Ягайлы. Даволі дэталёва летапісец асвяціў штурм войскамі Вітаўта Віцебскага замка ў 1395 г. На старонках твора паказаны разгром Вітаўтам татарскіх ордаў пад Азовам каля 1398 г.

Найбольш панарамная батальная сцэна "Аповесці..." – бітва на Ворскле ў 1399 г., якая скончылася трагедыяй: войскі ВКЛ пацярпелі сакрушальнае паражэнне, а Вітаўт ледзьве ўцёк з невялікай дружынай. Пісьменнік паказаў размах і хаду гэтай грандыёзнай гістарычнай бітвы, яе несуцяшальныя вынікі для князя Вітаўта і ўсяго Вялікага Княства Літоўскага.

Шмат увагі летапісец надаў апісанню бітвы пад Грунвальдам у 1410 г., дзе сустрэліся два велізарныя войскі: з аднаго боку – нямецкія крыжакі, а з другога – аб'яднаныя войскі ВКЛ і Польскага Каралеўства. Аўтар называе колькасць удзельнікаў, апісвае вайсковыя манеўры, працягласць бітвы, яе вынікі і асабліва акцэнтуе ўвагу на велізарных людскіх стратах з боку крыжакоў. Летапісец з зада-

вальненнем расказвае пра Торуньскае пагадненне 1411 г., паводле якога крыжакам вярталіся іх замкі і вызваляліся палонныя, а ВКЛ навечна атрымлівала Жамойцкую зямлю. Польшчы, паводле "Аповесці...", дастаўся горад Добрын з навакольнымі тэрыторыямі.

Рэканструкцыя і пераклад "Аповесці пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага" ажыццёўлены паводле "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага" (ПСРЛ. М., 1975. Т. 32. С. 62–63; 66–81). Улічаны таксама адпаведныя навелы пра дзейнасць Вітаўта, змешчаныя ў Супрасльскім летапісе (ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 61–66) і ў "Хроніцы Быхаўца".

## Аповесць пра рыцарскія справы і ўчынкі Вітаўта Вялікага

### I

Князь трокскі і жамойцкі Кейстут вяртаўся з нямецкай вайны. І даведаўся ён ад сваіх слуг, што ў горадзе Паланзе, што стаіць над Жамойцкім морам, жыве паненка Бірута, невымоўнай прыгажосці.

Біруга паклялася сваіх багам ніколі не выходзіць замуж, захоўваць чысціню праз усё жыццё. Простыя людзі лічылі яе багіняй.

Князь Кейстут, вяртаючыся з Прускай зямлі, вырашыў наведацца да Біруты. Мудрасць дзяўчыны і яе незвычайная прыгажосць зачаравалі князя. Кейстут прасіў яе выйсці за яго замуж. Біруга адмаўлялася. Яна тлумачыла сваё нежаданне выходзіць замуж за князя тым, што ўжо ўзяла шлюб са сваімі багамі ажно да самай смерці.

Кейстут гвалтам узяў Біруту, прывёз яе ў Трокі, сваю сталіцу. Там, паклікаўшы братоў, ён справіў вяселле і ўзяў Біруту сабе ў жонкі. Ад гэтага шлюбу ў іх нарадзіўся сын Вітаўт і іншыя дзеці.

### II

У 1376 годзе Кейстут, Ягайла і Вітаўт сабралі вялікае войска з русі, жамойтаў і літвінаў і ўварваліся ў Польшчу.

Валынскія князі Любарт і Фёдар з Луцка і Уладзіміра, а таксама Юрый Нарымонтавіч з Белза прыйшлі з валынянамі і руссю праз лясы і пушчы ў Любельскую зямлю. Там войскі аб'ядналіся.

Князі Вялікага Княства Літоўскага распусцілі загоны па ўсёй польскай зямлі, паміж рэкамі Сан і Віслай. Аддзелы даходзілі ажно да Тарнава і Сандаміра. Вельмі шмат шляхты ў маёнтках паланілі. Іншых, што ўцякалі ў лясы, таксама лавілі і бралі ў палон. З-пад Кракава і з загонаў рыцары літоўскага войска вярнуліся з вялікай здабычай.

III

У 1377 годзе Вітаўт, сын Кейстута, здзейсніў першы ўласны вайсковы паход на Прусію. Юнак меў адважнае сэрца, ахвочае да вайны.

Вітаўт авалодаў Эўстэрборкам і абрабаваў навакольныя землі. Затым ён распусціў загоны, агнём і мячом спустошыў абшары ажно да Тарнава. З незлічонымі трафеямі, без людскіх стратаў Вітаўт пераможцам вярнуўся да свайго бацькі.

IV

У тую зіму (1386 г. – *І. С.*), калі ўсе літоўскія князі і баяры былі ў Кракаве з Ягайлам, полацкі князь *Андрэй Альгердавіч* напаў на Літву. Разам з нямецкімі і інфлянцкімі наёмнікамі ён спаліў шмат местаў, замкаў і вёсак, а затым вярнуўся ў сваю зямлю з вялікай здабычай.

На наступны год смаленскі князь Святаслаў і полацкі князь Андрэй заключылі пагадненне аб сумесным паходзе на Літву.

Князь Андрэй з войскам зноў пайшоў у Літву. Князь Святаслаў рушыў да Оршы. Яны вельмі шмат зла ўчынілі хрысціянам, нават паганскія войскі такога не выраблялі. Яны запіралі людзей у хатах і палілі. Вылівалі гарачую смалу на галовы захопленых у палон. Іншых, падважыўшы хаты, клалі шыямі пад сцены, потым вагі адымалі і людзей

давілі сценамі. Мужчын, жанчын і дзяцей саджалі на палі. Сваёй жорсткасцю пераўзыходзілі ўсіх рымскіх цэзараў-тыранаў. Але замкаў не здолелі ўзяць і адышлі ў сваю зямлю.

У той жа год, калі наступіла вясна, смаленскі князь Святаслаў згуртаваў сваё рускае войска і пайшоў на Мсціслаўль. Ён акружыў замак і пачаў штурмаваць яго: падкопваў сцены, а таксама тоўк таранамі абарончыя збудаванні і бланкі.

Войскі Святаслава спустошылі і выпалілі ўсю Мсціслаўскую воласць. Шмат хрысціянскай крыві пралілося ад мяча Святаслава.

Князі Вітаўт і Скіргайла вярнуліся з Польшчы ад брата Ягайлы пасля Паста. Калі яны дачуліся, што князь Святаслаў з войскам стаіць пад Мсціслаўлем, яны сфармавалі войска з літвінаў і жамойтаў і пайшлі на русь, пакладаючыся на Бога і справядлівасць.

Святаслаў перастрэў войскі Вітаўта і Скіргайлы ў полі і ўдарыў на літву з гучнымі выкрыкамі. Вітаўт і Скіргайла стрымалі атаку і адбілі ворага.

У момант, калі Святаслаў перашыхтоўваў разарваныя харугвы, адзін смелы літвін прабіў яго дзідай навылёт. Святаслаў зваліўся з каня. Гэта была яму адплата за лютасць.

Смаленскае войска, застаўшыся без князя, кінулася ўцякаць у бліжэйшыя лясы. Харугвы Скіргайлы гналі іх, секлі і забівалі.

Князь Юрый, сын Святаслава, мужна біўся, але быў паранены і ўзяты ў палон. Ён пазней пакляўся Скіргайлу ў вернасці і быў адпушчаны ў Смаленск.

Потым Скіргайла і Вітаўт рушылі на Полацк. Яны ўзялі горад, паланілі зачыншчыкаў вайны і адсеклі ім галовы.

Вітаўт і Скіргайла пакінулі ўзброеныя аддзелы ў Полацку, а таксама ў Лукомльскай, Віцебскай, Аршанскай, Смаленскай і Мсціслаўскай землях. Яны выкаранілі там свавольствы і прывялі ўсіх жыхароў да паслушэнства Вялікаму Княству Літоўскаму.

Андрэя Альгердавіча, роднага брата Скіргайлы, які распачаў канфлікт, узялі ў палон. Тры гады трымалі яго ў вязніцы, а затым выпусцілі на волю.

Пасля гэтай перамогі князі Вітаўт і Скіргайла распусцілі войскі, а самі паехалі ў свае замкі. Скіргайла – у Трокі, а Вітаўт – у Гародню. Свідрыгайла застаўся ў Полацку.

## V

У 1387 годзе Скіргайла Альгердавіч прыехаў у Вільню і ўзышоў на трон Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага.

Мужны і заслужаны князь Вітаўт быў зняважаны і абураны тым, што Скіргайла захапіў найвышэйшую пасаду ў дзяржаве.

Калі Скіргайла ўзімку 1388 года паехаў у Полацк, Вітаўт з гарадзенцамі і падляшцамі ціха падцягнуўся пад Вільню і хацеў захапіць абодва віленскія замкі. Але палякі, што служылі ў Скіргайлы і абаранялі Верхні замак, разам з віленскімі месцічамі засталіся вернымі свайму гаспадару. Яны адбілі дзве атакі Вітаўта.

Вітаўт мусіў адступіць. Ён убачыў, што яго план авалодаць Вільняй праваліўся. Таму ён падаўся назад у Гародню.

Затым Вітаўт з дапамогай немцаў, нанятых у Прусіі за грошы, а таксама сваіх баяраў умацаваў Гарадзенскія замкі, забяспечыў іх належнай зброяй. Вітаўт накіраваў дадатковыя вайсковыя аддзелы і ва ўдзельныя замкі – Берасце, Сураж і Камянец.

Пасля Вітаўт з жонкай *Ганнай* і ўсёй сям'ёй, узяўшы ўвесь свой скарб, выехаў у Мазовію да мазавецкага князя Януша, свайго швагра. Адтуль ён разам з усім сваім дваром накіраваўся ў Прусію, у Мальбарк (Марыенбург), да магістра Конрада.

Конрад ласкава прыняў Вітаўта.

Вітаўт звярнуўся да магістра з просьбай аказаць вайсковую дапамогу ў барацьбе са Скіргайлам. Конрад і ўсе крыжакі ахвотна пагадзіліся ісці на Літву.

Прускі магістр пачаў наступ на Вялікае Княства Літоўскае з боку Жамойці і Нёмана. Інфлянцкія немцы наступалі з боку Дзвіны. Крыжакі разбуралі на сваім шляху гарады і паселішчы.

Сярод паноў Вялікага Княства Літоўскага ўзніклі разыходжанні. Адна частка падтрымлівала Вітаўта, іншыя сталі за Скіргайлу.

Скіргайла надта асцерагаўся, каб Вітаўт не захапіў Вільню. Ён накіраваў на абарону сталіцы корпус Лянскаронскага, кароннага падканцлера. Скіргайла даручыў паляку бараніць Вільню, бо сам быў гнюсным п'яніцам.

У той жа год (1390 г. – *І. С.*) восенню Вітаўт зноўку прыйшоў з прускімі і інфлянцкімі крыжакамі ў Літву. Ён акружыў Трокі, здзейсніў два штурмы, але замак не ўзяў.

Затым Вітаўт з войскам рушыў на Вільню. Штурм горада рыхтавалі з боку Лысай гары. Немцы абстрэльвалі горад з гарматаў, а затым штурмавалі. Віленчукі і палякі мужна абаранялі Вільню. Вітаўт адступіў. Ён узяў вялікую здабычу і вярнуўся да прускіх немцаў, вельмі шкадуючы пра вайсковую няўдачу.

Крыжакі, ваюючы з літвой, дбалі найперш пра свае інтарэсы, а не пра Вітаўтавы. У Вітаўта былі важкія прычыны для суму. Мінула два гады, як ён спрабаваў адолець Скіргайлу, абапіраючыся на прускіх і інфлянцкіх крыжакоў. Таксама казакі і жаўнеры, нанятыя Вітаўтам для абароны Гародні, Берасця і Камянца, сваімі частымі набегамі спусташалі навакольныя землі, паўсюль прыцяснялі жыхароў Княства.

## VI

У 1390 годзе Уладзіслаў-Ягайла сабраў войска і пайшоў у Літву. Ён меў на мэце спыніць унутраныя канфлікты ды прымірыць літоўскіх і рускіх паноў. Уладзіслаў-Ягайла хацеў гэтаксама скарыць Вітаўта і выгнаць з Княства прускіх і інфлянцкіх крыжакоў.

Кароль Ягайла ў першую чаргу планаваў захапіць замкі Вітаўта, што ахоўваліся нанятымі ім немцамі, бо яны чынілі частыя напады на Польшчу, Мазовію і Літву.

Праз дзесяць дзён Ягайла штурмам авалодаў Берасцем.

Затым харугва Ягайлы ў колькасці 900 коннікаў акружыла Камянец-Падляшскі, або Літоўскі. Адолеўшы шмат перашкодаў, Ягайла захапіў замак.

Потым Ягайла пераправіўся праз Нёман і акружыў Гародню. Але адразу ўзяць замак штурмам не здолеў. Тады ён вырашыў вымарыць немцаў, што баранілі горад, голадам.

На дапамогу Ягайлу з вялікім войскам прыйшлі Скіргайла і кіеўскі князь Уладзімір – нашчадак слуцкіх князёў. Падцягнуліся таксама Карыбут і Дзімітрый з Ноўгарад-Северска. Да караля і брата прыбыў з некалькімі рускімі палкамі нашчадак князёў Збаражскіх і Вішнявецкіх. З усім тым велізарным войскам кароль Ягайла шчытна акружыў Гародню з трох бакоў.

Калі Вітаўт дазнаўся пра напад Ягайлы на Гародню і аблогу горада, ён пільна сфармаваў харугвы з прускіх крыжакоў і пайшоў на дапамогу абаронцам Гародні. Вітаўт спыніўся над Нёманам, насупраць замка. На высокім капцы ён пачаў узводзіць новы замак, каб адтуль дапамагчы абаронцам. Але Вітаўт не паспяваў. Жаўнеры Ягайлы захапілі Ніжні замак, што Вітаўт з жалем у сэрцыназіраў на ўласныя вочы.

Вітаўт спыніў узвядзенне новага замку. Ён загадаў працягнуць доўгі жалезны ланцуг цераз Нёман да Верхняга замку і прывязаць яго да брамы. Да ланцуга былі прымацаваны ладдзі і віціны. У выніку быў зроблены мост, каб дастаўляць абаронцам падмогу і харчаванне. Вітаўт хацеў спачатку забраць з акружанага горада параненых і хворых, а ў замак накіраваць свежых жаўнераў. Але каралеўскія жаўнеры ўбачылі ўзведзены Вітаўтам мост. Яны высеклі тоўстыя сасновыя калоды ў вярхоўі Нёмана, звязалі іх у плыт і пусцілі па вадзе ўніз па цячэнні. Калоды ўдарыліся ў мост і разарвалі ланцуг. Лодкі і віціны перакуліліся,

а людзі, што знаходзіліся ў іх, – патапіліся. Выратаваўся толькі адзін немец, і той выбраўся на бераг там, дзе стаялі каралеўскія войскі.

Вітаўт страціў усялякую надзею выратаваць Гарадзенскі замак і ноччу пайшоў назад у Прусію.

Праз 50 дзён мужнай абароны знядужаны горад здаўся на міласць Ягайлы.

## VII

У той жа год (1390 г. – *І. С.*) князь Вітаўт з трыма велізарнымі войскамі зноўку рушыў на Літву. Адным войскам кіраваў сам Вітаўт. Другім – прускі магістр Конрад, трэцім – інфлянцкі магістр разам з ангельскім каралевічам Ланкастрам. Войскі падышлі да Коўна, дзе Вілія ўпадае ў Нёман, а адтуль рушылі да Трокаў. Некалькі разоў штурмавалі Трокскі замак, захапілі яго, а потым разбурылі і спалілі.

Затым войскі пайшлі на Вільню. Іх перастрэў Скіргайла з войскам. На рацэ Віліі непадалёк ад Вільні адбылася вялікая бітва. Літва і русь пераўзыходзілі ў смеласці, а немцы мелі перавагу ў зброі. Бітва доўжылася ад раніцы да поўдня. Поле было выслана трупамі забітых і параненых жаўнераў з абодвух бакоў. Урэшце Вітаўт з немцамі і ангельцамі перамог Скіргайлу. Харугвы Скіргайлы адступілі ў кірунку да Вільні.

Падчас той бітвы загінула шмат славутых рыцараў, што змагаліся на баку Скіргайлы: смаленскі князь Глеб Святаславіч; князь Сямён Яўнутавіч Жаслоўскі; князь Глеб Канстанцінавіч Чартарыйскі; князь Іван Львовіч і шмат іншых паноў. Вайсковага люду з боку Скіргайлы загінула 46 000, а немцаў палегла паўтары тысячы. З рэшткамі войска Скіргайла збег да Старых Трокаў. Потым ён, папоўніўшы харугвы свежымі жаўнерамі, бесперапынна атакаваў нямецкія абозы, што стаялі пад Вільняй.

Войскі Вітаўта падступілі да Вільні з боку Ніжняга замка, які яшчэ называюць Крывым. Вітаўтавы прыхільнікі

ў Вільні запалілі дзве вежы і пралёты абарончых сценаў. Казімір-Карыгайла – родны брат караля Ягайлы – паспрабаваў уцячы з таго пажару, але немцы захапілі яго ў палон. Калі Казіміра прывялі да Вітаўта, той загадаў сцяць яму галаву і начапіць яе на дзіду. Так Вітаўт паквітаўся са стрыечным братам.

У Віленскім Ніжнім замку загінула 14 000 абаронцаў, русінаў і літвінаў, – хто ад агню, а хто быў забіты немцамі.

Верхні замак мужна баранілі палякі на чале з віленскім старастам Масракоўскім. Немцы бесперапынна абстрэльвалі Верхні замак з гарматаў. Яны разбілі значную частку замкавага муру, але абаронцы выстаялі і не паддаліся ім.

Пінскі князь Нарымонт – родны брат Ягайлы – мужна бараніў Віленскія замкі разам з літвінамі, палякамі і русінамі. Ён пераязджаў ад аднаго замку да другога, аказваючы дапамогу там, дзе яна была найбольш патрэбная. Адзін нямецкі рыцар выклікаў Нарымонта на двубой. У полі перад замкам яны біліся на дзідах. Нарымонт быў зрынуты з каня і ўзяты ў палон. Яго прывялі да Вітаўта. Раз'юшаны Вітаўт неміласэрна загадаў падвесіць Нарымонта на вязе і ўласнаручна забіў яго стрэламі з лука. Нарымонт быў добрым рыцарам і стрыечным братам Вітаўта.

Цягам трох месяцаў князь Вітаўт здабываў Віленскія замкі. Але мэты не дасягнуў і мусіў адступіць. Яго войскі няшчадна рабавалі навакольныя мястэчкі, вёскі, фальваркі і касцёлы, а ксяндзоў забівалі. Шмат узялі палонных і з захопленай здабычай адхлынулі ў Прусію і Інфлянты.

## VIII

Польскаму каралю і вялікаму князю Ягайлу надта абрыдла тая вайна з Вітаўтам. Абарона Літвы вымагала значных грашовых выдаткаў і шматлікіх вайсковых адздзелаў. Вайна прывяла да таго, што даводзілася ратаваць ад голаду шляхту і простых людзей Вялікага Княства Літоўскага, дапамагаць ім збожжам, ярыной і іншымі

харчамі, каб яны ад нястачы не здаліся ворагу, не дапусцілі заваявання Княства чужаземцамі.

Ягайла накіраваў да Вітаўта ленчыцкага пробашча Генрыха, каб ён таемна дамовіўся з ім пра замірэнне на любых умовах, якія Вітаўт запатрабуе.

Вітаўт паразумеўся з Ягайлам.

Неўзабаве Вітаўт таемна, без шырокай агалоскі, адправіў сваю жонку Ганну з Прусіі з усім скарбам у Жамойць, у абумоўленае месца. Князь параіўся са сваімі літоўскімі прыяцелямі і баярамі. Ён абвясціў ім свой намер стаць вялікім князем. Затым Вітаўт пакінуў Мальбарк і накіраваўся ў Катэрвердэр – свой замак пад Коўна. Там ён неспадзявана напаў на нямецкіх купцоў, няшчадна пасек і пазабіваў іх, а целы загадаў скінуць у Нёман. Найбольш знатных немцаў Вітаўт загадаў звязаць, Катэрвердэр падпаліць, потым узяў палонных і адправіўся ў Вільню.

Віленскі староста і месцічы прынялі Вітаўта з вялікай пашанай, бо Літва надта прагнула спакою.

Калі Ягайлу паведамілі пра вяртанне Вітаўта з Прусіі ў Вільню, ён з вялікай радасцю як найхутчэй накіраваўся ў Літву, узяўшы з сабой каралеву Ядзвігу.

Вітаўт таксама з жонкай і ўсім дваром прымаў Ягайлу ў *Востраве*. Ён прывітаў караля паклонам. Ягайла таксама ласкава ўшанаваў Вітаўта.

Кароль паабяцаў Вітаўту заўжды быць зычлівым да яго. Ён прымірыў князя са сваім родным братам Скіргайлам, зрабіў іх прыяцелямі.

Вітаўт са свайго боку таксама пакляўся каралю, што заўсёды будзе прыязна ставіцца да Польскага Каралеўства, ні пры якіх абставінах не будзе выступаць супраць яго і ніколі не будзе ваяваць з палякамі.

Так Ягайла згадзіўся перадаць Вітаўту ўладу ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім. У залежнасць ад Вітаўта трапілі родныя браты караля: кіеўскі князь Уладзімір, северскі князь Дзімітрый-Карыбут, полацкі і віцебскі князь

Свідрыгайла і, галоўнае, – Скіргайла, які быў пазбаўлены тытула вялікага князя.

Вітаўт узышоў на пасад вялікага князя ў Вільні ў прысутнасці караля Ягайлы з каралевай Ядзвігай і ўсяго польскага Сената. Урачыстасць адбывалася ў Віленскім замку ў касцёле святога Станіслава. Віленскі біскуп Андрэй Васілок усклаў на галаву Вітаўта княжацкую шапку і адзеў на яго шаты вялікага князя. Вялікі літоўскі маршалак, паводле заведзенага звычаю, даў у рукі Вітаўта аголены меч, жэзл вялікага князя і пячатку Вялікага Княства Літоўскага. Жонку Вітаўта Ганну там жа абвесцілі княгіняй. Літоўскія паны прынеслі прысягу вялікаму князю, выканалі неабходныя абрады. Усе радаваліся і спадзяваліся, што пры Вітаўце наступіць доўгачаканы мір. Але іх надзеі і мары не спраўдзіліся.

## IX

Ягайла з каралевай Ядзвігай неўзабаве пакінулі Вільню і ад'ехалі ў Польшчу. Яго браты Скіргайла і Свідрыгайла не пажадалі прызнаваць над сабой Вітаўтавай улады. Яны распачалі ўнутраную вайну.

Скіргайла быў адчайным і смелым. Ён меў значную маёмасць і мноства прыхільнікаў на Русі. Скіргайла сфармаваў войска, каб ваяваць з Вітаўтам і выгнаць яго з Вільні і Вялікага Княства.

Другі стрыечны брат Вітаўта – Свідрыгайла – быў больш асцярожны, не такі адважны і не надта заможны. Ён ад'ехаў да прускіх крыжакоў. Тыя з ахвотай прынялі Свідрыгайлу, бо затаілі вялікую крыўду на Вітаўта, які падмануў іх, спаліў тры замкі і забіў шмат знакамітых немцаў.

Крыжакі неадкладна сфармавалі харугвы і пад кіраўніцтвам Скіргайлы ўварваліся ў Літву. Яны агнём і мячом заваявалі шмат земляў і з вялікімі трафеямі вярнуліся ў Прусію.

Ягайла пачуў сумныя навіны і адразу прыехаў у Літву. Ён паклікаў да сябе брата Скіргайлу і ўпрасіў яго памірыцца з Вітаўтам. Каб супакоіць неўтаймаванае і абражанае сэрца Скіргайлы, Ягайла, са згоды Вітаўта, аддаў яму гарады: Старадуб-Северскі, Крамянец-Валынскі і Старыя Трокі з навакольнымі землямі.

Потым Ягайла выпусціў з вязніцы роднага брата – Андрэя Альгердавіча, які знаходзіўся ў палоне на працягу трох год за тое, што разам з крыжакамі рабаваў Літву і захапіў Лукомль і Полацк.

## X

У 1393 годзе Свідрыгайла з прускімі крыжакамі і французамі пайшоў на Літву. Войскі наступалі ўздоўж Нёмана, па рацэ і сушай. Агнём і мячом яны рабавалі землі на сваім шляху. Свідрыгайла захапіў некалькі замкаў у Літве і ў Жамойці. Яго войскі падцягнуліся пад Вільню. На працягу двух месяцаў ён без перапынку абстрэльваў і штурмаваў Віленскія замкі, але не здолеў узяць іх і адступіў.

Вітаўт не затрымаўся з адказам і як след паквітаўся з ворагам. Калі прускія крыжакі пайшлі ў Літву, ён са сваімі харугвамі ўварваўся ў Прусію. Агнём і мячом Вітаўт знішчаў ворагаў, руйнаваў крыжацкія мястэчкі і вёскі. З незлічонымі трафеямі вялікі князь вярнуўся ў Літву, не маючы аніякіх вайсковых стратаў.

## XI

Вітаўт моцна задумаўся пра тое, як папоўніць казну Вялікага Княства Літоўскага, бо яна была дарэшты скарыстаная на вайсковыя кампаніі ды на абарону ад варожай агрэсіі. Вялікі князь знайшоў простае рашэнне, як папоўніць дзяржаўны скарб.

Вітаўт накіраваў пасла да роднага каралеўскага брата Дзімітрыя Карыбута – нашчадка князёў Збаражскіх і Вішнявецкіх, які трымаў Ноўгарад-Северскі ўдзел, з загадам

прынесці яму, як вялікаму князю, прысягу на вернасць, пацвердзіць вяршэнства яго ўлады над сабой, а таксама плаціць падаткі ў казну Вялікага Княства Літоўскага. Вітаўт накіраваў гэткія ж пасольствы да кіеўскага князя Уладзіміра і да Фёдара Карыятавіча, які валодаў Падоллем.

Северскі князь Дзімітрый-Карыбут, які з'яўляўся Альгердавічам і родным братам караля Ягайлы, не жадаў прыносіць Вітаўту прысягі і прызнаваць над сабой яго ўлады. Ён адказаў Вітаўту:

– Я з'яўляюся дзедзічам (спадчыннікам) і маю большыя правы на валоданне Вільняй і тронам Вялікага Княства Літоўскага, чымсьці ты. Не дачакаешся, каб я плаціў табе даніну і прыносіў прысягу на вернасць, як ты таго прагнеш.

Абураны высакамернай адмовай, вялікі князь Вітаўт выправіўся з войскам супраць Северскай зямлі.

Карыбут Альгердавіч, калі пачуў пра наступ Вітаўта, не стаў чакаць непрыяцеля ў сваёй зямлі, а выступіў з войскам насустрач яму.

Два войскі сустрэліся каля *Недакудава*. Там, на шырокіх палях, пачалася грозная бітва. Яна доўжылася некалькі гадзін з пераменным поспехам. Потым харугвы Карыбута пачалі змешвацца і збівацца. Тым часам Вітаўт з літвой усё мацней націскаў. Урэшце ён разарваў і разграміў войскі Карыбута. Той у адчаі хлістануў свайго каня плёткай і ўцёк з невялікай дружынай да Ноўгарад-Северска – свайго галоўнага замка. Карыбут планаваў пазней сфармаваць свежае войска для новай бітвы, а пакуль зачыніўся ў замку з жонкай і дзецьмі, умацаваўшы належным чынам абарончыя сцены жаўнерамі і зброяй.

Вітаўт пахаваў забітых воінаў. З палеглых у бітве ворагаў яго жаўнеры паздзіралі каштоўнасці і зброю.

Крыху спачыўшы, Вітаўт з войскам рушыў на *Ноўгарад-Северскі* і акружыў замак з усіх бакоў. Пачаліся безупынныя штурмы горада. Пад гарадскія сцены рабіліся падкопы, падкладваўся агонь. На працягу доўгага часу Вітаўт здабываў Ноўгарад-Северскі і, урэшце, узяў яго.

Князь Карыбут з жонкай і дзецьмі трапіў у палон. Вітаўт забраў усю маёмасць Карыбута, яго скарбы і вайсковы рыштунак. Для аховы замка вялікі князь прызначыў сваіх рыцараў, а ва ўсе землі Ноўгарад-Северскага княства паслаў старастаў.

Карыбута з жонкай і дзецьмі Вітаўт адаслаў у Вільню, у вязніцу. Там Карыбут сядзеў вельмі працяглы час, аж пакуль яго цесць – разанскі князь Аляксандр – не ўпрасіў Вітаўта выпусціць зяця на волю. Карыбут пры гэтым пакляўся аніякім чынам не помсціць Вітаўту, не прычыняць яму шкоды, ніколі не ваяваць супраць яго. Пад гэтым яны і падпісаліся.

Такім чынам, вялікі князь Вітаўт падпарадкаваў сваёй уладзе Ноўгарад-Северскае княства і забраў два буйныя гарады – Ноўгарад-Северскі і *Бранск*.

Карыбуту князь Вітаўт даў уладанні на Валыні – Браслаў, Вінніцу, Сокал і Крамянец. Пазней Дзімітрый-Карыбут збудаваў яшчэ два гарады – Збараж і Вішнявец. Там, жывучы працяглы час у спакоі, Карыбут вельмі забагацеў.

## XII

Затым Вітаўт, працягваючы ўмацоўваць сваю ўладу ў Літве і Русі, накіраваў пасольства да кіеўскага князя *Уладзіміра Альгердавіча*. Вялікі князь ультыматыўна запатрабаваў прынесці яму прысягу, прызнаць яго ўладу над сабой і пастаянна плаціць даніну.

Князь Уладзімір, які атрымаў надзел у спадчыну ад бацькі – князя Альгерда, пачуваўся вольным уладаром Кіеўскага княства. Ён адмовіўся прысягаць на вернасць Вітаўту, не пажадаў прызнаваць над сабой улады вялікага князя і не захацеў плаціць яму даніну. Уладзімір вырашыў сілай бараніцца ад ціску Вітаўта і адбівацца ад яго беспадстаўных прэтэнзій.

У пачатку вясны (1395 г. – *І. С.*) Вітаўт са Скіргайлам сілай узялі замкі *Аўручаў і Жытомір*, а таксама акупавалі

прыгарады Кіева. Захопленыя тэрыторыі Вітаўт адразу аддаў Скіргайлу.

Затым Вітаўт з войскам пайшоў на *Кіеў*. Князь Уладзімір падрыхтаваў баявыя шыхты для бітвы з Вітаўтам, праўда, неўзабаве адумаўся і пайшоў на паклон да вялікага князя. Вітаўт прыняў Уладзіміра, але адразу забраў у яго Кіеў і прызначыў кіеўскім князем Скіргайлу – роднага брата князя Уладзіміра. Наўзамен Кіева Вітаўт даў Уладзіміру Копыль з велізарнымі навакольнымі абшарамі.

Скіргайла, які атрымаў з рук Вітаўта тытул кіеўскага князя, пайшоў з войскам на Канеў, Чаркасы і Звенігарад, якія Уладзімір не жадаў аддаваць Вітаўту дабравольна. Скіргайла забраў іх з дапамогай вайсковай сілы.

Такім чынам, Скіргайла ўзяў верх над братам Уладзімірам, здабыў Кіеўскае княства, а таксама гарады Жытомір, Аўручаў, Канеў, Чаркасы і Звенігарад з усімі прылеглымі землямі. Але не доўга Скіргайла цешыўся на новых панствах, забраных у старэйшага брата.

У Кіеве жыў тады манах Фама, што прыехаў з Афонскай гары і з'яўляўся мітрапалітавым намеснікам пры святой Сафіі. Ён запрасіў Скіргайлу на ўрачысты абед у двор мітрапаліта. Падчас трапезы той Фама паднёс Скіргайлу напой з атрутай. Князь, нічога не падазраючы, выпіў віно. Ён пакінуў банкет і ад'ехаў у свой палац, а затым, ні пра што не здагадваючыся, адправіўся на паляванне за Дняпро, пад Міславічы. Там, у чацвер, ён моцна расхварэўся, ледзьве вярнуўся ў Кіеў і на сёмы дзень, у сераду, памёр.

Кіяўляне з жалем успрынялі вестку пра смерць Скіргайлы, не зважаючы на тое, што ён супраць іх волі нядаўна здабыў горад. Цела князя з вялікай працэсіяй неслі ад Кіеўскага замку ажно да Пячорскага манастыра. Усе баяры і духоўныя асобы плакалі. Пахавалі Скіргайлу ў царкве Успення Прасвятой Багародзіцы Пячорскай, побач са святым Феадосіем.

Той манах Фама ўцёк з Кіева. У Васількове ён раптоўна захварэў і памёр без споведзі. Вітаўт загадаў выстра-

ліць у яго цела з гарматы ў бок Дняпра. Гэтак той манах і згінуў.

Скіргайла пры святым хрышчэнні атрымаў імя Канстанцін. Ён быў праваслаўным, а не каталіком.

Пасля смерці Скіргайлы Вітаўт прызначыў сваім намеснікам у Кіеве *Івана Альгімонтавіча Гальшанскага*, да якога ён меў асаблівую ласку. Разам з ім вялікі князь знаходзіўся ў Прусіі, прайшоў усе войны і давяраў яму асабліва важныя справы. Так, калі Вітаўт яшчэ быў у Прусіі, прышлі да яго (у 1391 г. – *І. С.*) паслы ад вялікага князя маскоўскага Васіля Дзімітравіча. Яны ласкава прасілі Вітаўта, каб ён аддаў сваю дачку Соф'ю замуж за іхняга гаспадара. Вітаўт пагадзіўся. Соф'я адправілася з Мальбарка ў Маскоўскае княства акурат у суправаджэнні Альгімонтавіча. Шлях быў надта небяспечным, бо яны плылі морам, ажно да Пскова.

Маскоўскі князь Васіль Дзімітравіч накіраваў сваіх князёў і баяраў насустрач, каб яны ўшанавалі дарагіх гасцей і суправаджалі іх у дарозе. Непадалёк ад Масквы князёўну Соф'ю і Альгімонтавіча ўрачыста сустракалі духоўныя асобы – мітрапаліт, епіскапы, архімандрыты і шматлікія святары. У сталіцы маскоўскі князь Васіль Дзімітравіч асабіста праводзіў нявесту з Альгімонтавічам у адмысловы палац, падрыхтаваны да яе прыезду. Затым у маскоўскага князя адбыўся ўрачысты абед.

Праз тры дні маскоўскі мітрапаліт абвянчаў Васіля Дзімітравіча і Соф'ю. Вяселле доўжылася шэсць тыдняў. Вясялілася ўся Маскоўская зямля.

Князь Іван Альгімонтавіч Гальшанскі вярнуўся да Вітаўта з каштоўнымі падарункамі ад Васіля Дзімітравіча. Але вернемся да падзей, пра якія раней ішла гаворка.

## XIII

Потым (у 1395 г. – *І. С.*) Вітаўт з вялікім войскам пайшоў вайной на падольскага князя *Фёдара Карыятавіча*, які не жадаў прызнаваць над сабой улады вялікага князя і не хацеў плаціць яму даніну.

Вітаўт падцягнуўся пад *Браслаў Падольскі*. Фёдар з войскам хацеў адкінуць Вітаўта ад горада, але пацярпеў паражэнне і ледзьве ўцёк да Камянца Падольскага. Вітаўт трыумфальна забраў галоўныя замкі на Падоллі: Браслаў, Заслаў, Смотрыч, Чырвоны Гарадок, Бякоту, Скалу.

Затым Вітаўт акружыў Камянец Падольскі, дзе зачыніўся Карыятавіч пад аховай валашцаў, сваіх суседзяў. Абаронцы горада, аднак, убачылі бессэнсоўнасць супраціўлення і здаліся на міласць Вітаўта. Князь Фёдар Карыятавіч трапіў у палон. Вітаўт адаслаў яго ў Вільню, у вязніцу, а сам застаўся ў Камянцы, пакуль не далучыў усё Падолле да Вялікага Княства Літоўскага.

## XIV

Польскі кароль Уладзіслаў-Ягайла даведаўся пра тое, што Вітаўт забраў усё Падолле. Ён звярнуўся да вялікага князя з прапановай прадаць яму Падолле за круглую суму, каб пашырыць межы Польскага Каралеўства. Вітаўт пагадзіўся і прадаў Ягайлу за дваццаць тысяч коп грошаў Камянец, Смотрыч, Скалу, Чырвоны Гарадок і іншыя Падольскія замкі, што належылі яму і дзе ім былі пастаўлены намеснікі.

Кароль Ягайла адразу ж перапрадаў набытыя ў Вітаўта ўладанні пану *Спытку*. Пазней, калі Вітаўт ваяваў з татарамі (аб чым будзе ніжэй), той пан Спытка загінуў падчас бітвы. Яго маладая жонка, вельмі добрая пані, якая засталася з малымі дзеткамі, напісала Вітаўту, каб ён зноў забраў Падольскія гарады пад сваю ўладу, бо яна была не ў стане бараніць іх ад татараў, а ёй назад вярнуў грошы. Вітаўт неадкладна паслаў Ягайлу неабходную суму грошаў праз паноў Няміру і Дзімітрыя Базылевіча. Гэтак Вітаўт канчаткова прыдбаў Падолле. Ён прызначыў туды сваім намеснікам Градоўскага. Потым аддаў Падолле пану Пятру Мантагордавічу, а пазней – віленскаму ваяводзе пану Даўгерду.

## XV

Князь Свідрыгайла – родны брат караля Ягайлы, баючыся гневу Вітаўта, некалькі год жыў у выгнанні ў Прусіі. Разам з магістрам Конрадам ён пайшоў вайной на Вітаўта. Свідрыгайла з нямецкім войскам прыйшоў у Літву, абрабаваў шмат земляў і вярнуўся назад з добрай здабычай.

Потым памерла *Ульяна* – уладальніца Віцебска, жонка нябожчыка Альгерда, маці Ягайлы і Свідрыгайлы. Кароль Ягайла неадкладна накіраваў у Віцебск у якасці намесніка свайго лоўчага Фёдара Вясну.

Свідрыгайла быў неверагодна пакрыўджаны. Спачатку Вітаўт пазбавіў яго бацькаўшчыны, а цяпер Ягайла забраў матчыны ўладанні. Свідрыгайла ўзяў у прускага магістра войска, а таксама схіліў на свой бок асобных рускіх баяраў і казакаў. Ён рушыў на Віцебск і захапіў горад. Віцебскага старасту Фёдара Вясну Свідрыгайла загадаў скінуць з гарадской сцяны, і той адразу памёр. Затым Свідрыгайла ўзяў Оршу і іншыя рускія замачкі.

Кароль Ягайла быў надта абураны выбрыкам няўдзячнага брата. Ён напісаў Вітаўту, каб той ужыў сілу, спыніў разбой і пакараў Свідрыгайлу.

Вітаўт склікаў войска і пайшоў пад *Оршу*. Праз некалькі дзён ён узяў горад і ўсталяваў там сваю ўладу.

Затым Вітаўт акружыў *Друцк*. Друцкія князі і баяры не сталі супраціўляцца. Яны здаліся вялікаму князю, прынеслі прысягу і пацвердзілі гатоўнасць плаціць падаткі ў дзяржаўную скарбонку.

Потым Вітаўт з друцкімі князямі і аршанскімі панамі, што перайшлі на яго бок, пайшоў на *Віцебск*. Яго войскі акружылі горад. На дапамогу Вітаўту туды прыйшоў смаленскі князь Юрый Святаславіч. Ён урачыста даў клятву на вернасць Вітаўту, за што той быў удзячны смаленскаму князю.

Войскі Вітаўта бесперапынна штурмавалі сцены Віцебска з абодвух бакоў. Свідрыгайла з немцамі ўпарта

абараняўся. Толькі праз чатыры тыдні Вітаўт здолеў узяць Ніжні замак. Затым ён усталяваў гарматы ў Ніжнім замку, адкуль разбіваў муры Верхняга замку. Нарэшце з-за недахопу правіянту абаронцы здаліся. Так Вітаўт ўзяў і Верхні замак. Свідрыгайлу злавілі жывым.

Вітаўт паставіў у Віцебску гарнізон са сваіх жаўнераў. Стрыечнага брата Свідрыгайлу адаслаў пад аховай у Польшчу – да караля Ягайлы.

Пазней, па просьбе Ягайлы, Вітаўт узяў Свідрыгайлу пад сваю ўладу, даў яму Бранск і Ноўгарад-Северскі. Але неўтаймаваны князь у трэці раз збег да крыжакоў, а потым ад'ехаў да маскоўскага князя.

## XVI

Пасля ўзяцця Віцебска і Оршы ды паланення Свідрыгайлы новыя падставы для вайны даў смаленскі князь *Юрый Святаславіч*, той, які прыйшоў на дапамогу Вітаўту пад Віцебск. Але смаленскі князь неўзабаве заканфліктаваў з Вітаўтам. Ён захапіў некалькі аршанскіх мястэчак, якія належылі да дзяржавы вялікага князя, і аддаў іх у валоданне сваім баярам.

Юрыя Святаславіча падбухторваў разанскі князь *Голша*, падзуджваў яго выступаць супраць Вітаўта. Смаленскі князь так узганарыўся, што пачаў заваёўваць новыя ўладанні Вітаўта ды чыніць розныя разбурэнні.

Вітаўт не жадаў ваяваць з Юрыем Святаславічам, каб не наносіць большай шкоды дзяржаве. З войскам Вітаўт ішоў з-пад Віцебска да Вільні. Але смаленскі князь не спыняўся. Тады Вітаўт павярнуў назад і пайшоў проста на Смаленск. Юрый Святаславіч, як толькі пачуў пра наступ Вітаўта, адразу ж уцёк да разанскага князя Голшы. Вітаўт прыйшоў пад Смаленск, узяў горад і замак без аніякага супраціўлення. У Смаленску вялікі князь пакінуў уласны гарнізон і прызначыў сваім намеснікам Васіля Барысовіча.

## XVII

Паколькі разанскі князь Алег, або Голша, з'яўляўся прычынай таго забурэння, Вітаўт накіраваў частку сваіх харугваў на *Разанскую зямлю.* Гетманам над войскам вялікі князь прызначыў мсціслаўскага ваяводу Сямёна Лыгвенавіча. Войскі Вітаўта неўзабаве заваявалі ўвесь Разанскі край, які ляжаў паміж рэкамі Акой і Донам, за 36 міль ад Масквы.

## XVIII

Другую частку літоўскага і рускага войска Вітаўт выправіў у Дзікае Поле на заволжскіх і задонскіх татараў. Вітаўт хацеў паспытаць татарскай моцы і высветліць іх становішча.

Вітаўтаў гетман па імені Даўгерд пайшоў на раку Дон. Супраць яго выступілі тры татарскія царкі – крымскі, чаркескі і мантыкопскі. Царкі пачуваліся ўпэўнена на сваёй зямлі і таму першымі ўдарылі на літву з гучнымі крыкамі. Літва гэтаксама, дбаючы пра добрую славу і перамогу, зайшоўшы далёка ад Айчыны, двойчы атакавала з незвычайнай смеласцю. Татары, якія бачылі перад сабой новых гасцей, мужных і спрактыкаваных у бітвах жаўнераў, урэшце не вытрывалі трэцяй атакі літвы і пачалі разбягацца па шырокіх палях. Яны ўцякалі, хто куды мог, ратуючы ўласныя жыцці.

З Божай дапамогай мужныя рыцары Вітаўта ўшчэнт разграмілі тры татарскія арды. Іх царкі палеглі на полі бітвы. Усіх татараў знішчылі 56 тысяч.

Гетман Даўгерд з літоўскім войскам шчасліва вярнуўся да Вітаўта. Вялікі князь на той момант стаяў у Смаленску. Ён з удзячнасцю прыняў Даўгерда, падзякаваў рыцарам за мужнасць, шчодра заплаціў усяму войску. Вітаўт даў жаўнерам поўнае ўтрыманне на Смаленскай зямлі на працягу ўсёй зімы за іх вайсковыя заслугі.

11 Зак. 2682

## XIX

У той год Вітаўтаў зяць – вялікі маскоўскі князь Васіль, даведаўшыся пра бліскучую перамогу Даўгерда над татарамі і шчаслівае ўзвышэнне Вітаўта, узнамерыўся прыехаць да яго ў Смаленск. Вялікі князь накіраваў 10 тысяч упрыгожаных літоўскіх жаўнераў і паноў, каб яны за дзесяць міль урачыста сустрэлі шаноўнага госця.

Потым Вітаўт выехаў насустрач і асабіста спаткаў зяця за мілю ад Смаленска. Вітаўт і Васіль абняліся. Яны плакалі ад радасці. Затым разам паехалі ў Смаленск. Калі яны ўязджалі ў замкавую браму, грымнуў прывітальны салют з гарматаў і картанаў. Стралялі больш за дзве гадзіны бесперапынна.

Вітаўт прымаў Васіля з вялікай радасцю і помпай, некалькі тыдняў шыкоўна частаваў і абходжваў госця. Манархі падпісалі паміж сабой і дзяржавамі замірэнне. Гэтаксама пастанавілі супольна ваяваць з татарскім царом Цемір-Ціклуем. На развітанне Вітаўт ушанаваў маскоўскага князя Васіля каштоўнымі падарункамі. Ён праводзіў зяця ў дарогу за дзесяць міль за Смаленск. Яны кранальна развіталіся і раз'ехаліся. Васіль паехаў у Маскву, а Вітаўт вярнуўся назад у Смаленск.

## XX

У 1398 годзе Вітаўт згуртаваў вялікае войска, каб ісці на татараў. Ён хацеў пасадзіць на Заволжскае ханства Тахтамыша, які перад тым уцёк у Літву ад пераследу Цемір-Ціклуя і з усімі сваімі ўланамі ды мурзамі жыў у Лідзе.

Вітаўт з войскам выступіў з Кіева і пайшоў праз стэп да ракі Танаіс, або Дон. Ён наблізіўся да Азоўскага замку. Татары выступілі насустрач і сталі кошам. Вітаўт атакаваў іх звыклым спосабам і на трэці раз ушчэнт разбіў нагайскіх і заволжскіх татараў. Ён забраў іх маёмасць, статкі вярблюдаў і іншай скаціны. Больш за сто тысяч татараў палегла. Дон, Ворскла, Сіняя Вада і Волга плылі крывёй.

Пасля гэтай бліскучай перамогі Літва і Русь праславіліся шырока ў свеце. Усе пачалі іх асцерагацца.

Адну татарскую арду Вітаўт адправіў у Літву і пасадзіў над ракой Вакай, другую – паслаў да Ягайлы, у Польшчу.

## XXI

Разгарачаны перамогай над татарамі, Вітаўт на працягу года рыхтаваў новае войска. Князі і паны гуртаваліся вакол вялікага князя, не раўнуючы як пчаліны рой вакол маткі.

На той час у Азіі гаспадарыў Цемір-Ціклуй – хан над усімі ордамі. Масква называла яго Цемір-Аксак з-за яго кульгавасці. Цемір-Ціклуй разграміў нават турэцкага султана Баязета, калі вёў з ім вайну ў Персіі, раструшчыў яго велізарнае войска, якое валодала вогненнай зброяй. Самога Баязета Цемір-Ціклуй узяў у палон, закаваў яго ў залатыя ланцугі і з вялікім трыумфам вазіў у клетцы, нібы дзівоснага птаха. Ён пасек на полі бітвы 200 тысяч турак. Цемір-Ціклуй заваяваў Персію, Сірыю, Арменію, Медскае царства і Егіпет.

Паколькі заволжскі хан Тахтамыш уцёк ад Цемір-Ціклуя ў Літву, апошняму дасталіся таксама і ўсе землі на ўсходзе сонца.

Князь Вітаўт адчуў невымоўную асалоду ад першай перамогі над татарамі. У 1399 годзе ён з велізарным войскам пачаў перадыслакацыю ў Кіеў. Разам з ім быў і Тахтамыш са сваімі харугвамі заволжскіх татараў. Вітаўт паабяцаў Тахтамышу паставіць яго над усімі ордамі замест Цемір-Ціклуя.

Пад Кіевам Вітаўт ушыхтаваў войскі, належным чынам падрыхтаваў іх да бітвы з непрыяцелем. Затым вялікі князь выступіў супраць татараў, маючы на мэце ўшчэнт разграміць іх. Войскі мінулі рэкі Сулу і Псёл, наблізіліся да ракі *Ворсклы*. Там, на палях, сценамі стаялі татарскія войскі. Кіраваў Цемір-Ціклуевымі ордамі Едыгей. Гуфы Вітаўта працяў сапраўдны страх, ажно да касцей.

Вітаўт паслаў да татараў кракаўскага ваяводу Спытку, каб дамовіцца пра замірэнне. Татары не пагадзіліся і з нахабствам выклікалі маладых славянскіх рыцараў на двубой. Яны зневажалі старэйшых, аблайвалі іх, выкрыкваючы:

– Мы хочам біцца, а не мірыцца! Вы ж прыйшлі сюды біцца!

Літвіны таксама разгарачыліся. З аголенымі шаблямі і мячамі яны крычалі:

– Біцца!

Вітаўт перад вырашальнай бітвай звярнуўся да жаўнераў з узнёслай прамовай:

– Бачу вашу рыцарскую адвагу, смеласць і рашучасць ісці ў бой! Няхай вашы мужныя сэрцы выявяць адвагу, а я буду з вамі!

І яшчэ Вітаўт гаварыў сваім жаўнерам словы падтрымкі.

Затым войскі з гучнымі воклічамі рынуліся ў бітву. Паўсюль разносіліся хрыплыя гукі трубаў, бубны падавалі галасы, іржалі коні. Татары крычалі: "Алла! Алла!" А нашы хрысціяне і літва прамаўлялі: "Госпадзі, дапамажы!" – і білі непрыяцеля шаблямі, стрэльбамі і ручніцамі.

Татары безупынна стралялі з лукаў.

Дзімітрый-Карыбут са сваімі прабіўся ў сярэдзіну татарскага войска і адчайна секся з ворагам, скідваючы татараў з коней, ажно пакуль яго не акружыў конны гмін.

Адусюль разносіліся крыкі, стаяў невымоўны грукат, нібы марскія хвалі абрушваліся пад ураганным ветрам. Кулі свісцелі, нібы дождж. Стрэлы ляцелі з абодвух бакоў, быццам узняўся незлічоны пчаліны рой. Шаблі і мячы лязгалі, шчыты пад ударамі дзідаў трашчалі. Татары ўрэшце заціснулі нашых. Паступова нашы пачалі слабець, бо татараў было безліч.

Вітаўт убачыў небяспеку і, скарыстаўшы адмысловы манеўр, уцёк са Свідрыгайлам і малой дружынай.

Татары няшчадна білі і seклі нашых, праўда, і татараў загінула некалькі дзесяткаў тысяч. Татары разграмілі да-

астатку ўсё наша распарушанае і зламанае войска. Мала хто змог уцячы, і тое пешкі, а не на кані, калі здолеў схавацца ў траве.

Падчас той бітвы палегла шмат князёў: два Альгердавічы – полацкі князь Андрэй і Дзімітрый; князь Іван Дзімітравіч; князь Іван Барысовіч; князь Глеб Станіславіч; смаленскі князь Васіль; Глеб Карыятавіч з братам Сімяонам; Іван Скіндэр; князь Міхаіл Падбярэзскі; княжычы Дзімітрый і Фёдар Патрыкеевічы; кракаўскі ваявода Спытка, які купіў Падолле.

Вітаўт са Свідрыгайлам, мяняючы па дарозе коней, з невялікай дружынай ледзьве ўцяклі да Літвы.

Здабыўшы перамогу над Вітаўтам, татарскае войска без перашкодаў абрынулася на Русь. Татарскія загоны рабавалі і спусташалі рускія і літоўскія землі. Неўзабаве яны падышлі пад Кіеў і сталі вакол горада кошам. Каб пазбегнуць бяды, кіяўляне адкупіліся ад татараў трыма тысячамі сярэбраных рублёў. Татарскія войскі дайшлі ажно да Луцка і абрабавалі ўсю Валынь.

Неўзабаве пасля перамогі на Ворскле татарскі хан Цемір-Ціклуй, знакаміты сярод турак і іншых народаў, памёр.

## XXII

У 1401 годзе кароль Ягайла наведаў Літву і падпісаў з Вітаўтам і літоўскімі панамі першае замірэнне. Пастановай прадугледжвалася наступнае: калі Вітаўт не будзе мець дзяцей, а Ягайла будзе, то ягоныя дзеці стануць гаспадарамі не толькі Польскай Кароны, але і Вялікага Княства Літоўскага. І наадварот – калі ў Вітаўта будуць дзеці, а ў Ягайлы не будзе, дык у такім разе Вітаўтавы нашчадкі будуць гаспадарыць як у Вялікім Княстве Літоўскім, гэтак і ў Польскім Каралеўстве.

Так Вітаўт і Ягайла падпісалі пагадненне. Літоўскія і польскія паны гэтаксама ўрачыста прысягнулі адзін аднаму

ў тым, што не будуць абіраць сабе іншых гаспадароў, апрача нашчадкаў Вітаўта ці Ягайлы.

Падчас той сустрэчы Вітаўта і Ягайлы, на службе ў касцёле, адбылося адно здарэнне. Калі казнадзей прамаўляў казанне пра сатварэнне свету і Адамава саграшэнне, адзін літвін выгукнуў да караля Ягайлы:

– Міласцівы каролю! Хлусіць каплан, нібыта свет быў створаны. Мы сталыя людзі, а таго не памятаем. А ён чалавек малады, вярзе штосьці, чаго і сам не разумее.

Кароль усміхнуўся і адказаў таму літвіну:

– Каплан не сказаў, што сатварэнне адбылося на яго памяці. Ён толькі даводзіў, што Госпад стварыў увесь свет шмат тысячагоддзяў таму. Пра сатварэнне напісана ў Святым Пісанні, адкуль пра гэта мы можам даведацца. Гэтаксама, як усё, што робіцца на тваёй памяці, будзе занатавана. А твае дзеці, унукі, праўнукі і ўсе нашчадкі будуць чытаць пра нас. Той літвін сцішыўся і больш не крычаў.

## XXIII

У 1401 годзе князь Юрый Святаславіч і разанскі князь Алег прыйшлі з войскам пад Смаленск. У той час у Смаленскім замку паўстала вялікая нязгода паміж баярамі і месцічамі. Адны хацелі бачыць сваім гаспадаром Вітаўта, а іншыя – князя Юрыя Святаславіча – спадчыннага валадара Смаленскага княства.

Вітаўт яшчэ раней паставіў у Смаленску свайго намесніка – бранскага князя Рамана. Але смаляне забілі яго, толькі жонку і дзяцей адпусцілі на волю. Яны гэтаксама пазабівалі ўсіх баяраў, якія не хацелі князя Юрыя.

Калі Вітаўт дазнаўся пра забурэнні ў Смаленску, у яго сэрцы ўспылаў гнеў. Каб адпомсціць за несправядліва пакрыўджаных, Вітаўт неадкладна накіраваўся з войскам пад Смаленск. Ён акружыў горад, разграміў войскі князя Юрыя Святаславіча і разанскага князя Алега і выгнаў іх прэч, у Разань.

У захопленым Смаленску Вітаўт знішчыў каля трох тысяч баяраў, вінаватых у злачынствах, забойстве яго намесніка – бранскага князя Рамана і баяраў, што выступалі на яго баку як вялікага князя.

Каб знішчыць падставы для паўстанняў і забурэнняў у наступныя часы, Вітаўт ператварыў Смаленскае княства ў ваяводства, прыналежнае Вялікаму Княству Літоўскаму. Вялікі князь рэквізаваў каштоўнасці і скарбы, якія знаходзіліся ў Смаленскім замку, і раздаў іх жаўнерам.

Князь Юрый збег у Венгрыю. Там у час бітвы пад нейкім замкам ён быў паранены і неўзабаве памёр.

## XXIV

Вітаўт жыў у шчырай прыязнасці са сваім зяцем – маскоўскім князем Васілём. Яны абменьваліся каштоўнымі падарункамі, старанна захоўвалі мір з абодвух бакоў. Літвіны і масквіцяне шанавалі адзін аднаго, паны бралі дочак суседзей сабе ў жонкі.

Але раптам усё змянілася. Нейкія маскоўскія людзі пабілі літоўскіх сеўрукоў пад Пуціўлем, забралі ў іх двух баброў, кадку мёду, дзве сякеры ды здзёрлі з іх тры сярмягі. Тыя паскардзіліся ў Вільні Вітаўту.

Абураны Вітаўт неадкладна запатрабаваў ад свайго зяця – маскоўскага князя Васіля, каб той знайшоў вінаватых і жорстка пакараў іх. Васіль адпісаў Вітаўту, што не ведае, хто ўчыніў разбой і не ўяўляе, дзе шукаць тых злачынцаў. Васіль прасіў Вітаўта не зважаць на крыўду, учыненую літоўскім халопам на яго зямлі.

Вітаўт успрыняў гэтакі адказ як здзек над сваёй асобай. Ён склікаў войска і пайшоў вайной на Маскву. Па дарозе на Маскву войскі Вітаўта палілі паселішчы і секлі людзей.

Маскоўскі князь Васіль, убачыўшы велізарныя разбурэнні, учыненыя літвой у яго зямлі, накіраваў да Вітаўта паслоў з просьбай аб замірэнні. Вітаўт пагадзіўся, але з умовай, што тыя маскоўскія разбойнікі, якія прычынілі шкоду

літвінам, будуць знойдзены і павешаны. Вітаўт гэтаксама запатрабаваў ад Васіля кампенсаваць выдаткі, панесеныя ім падчас вайсковай кампаніі, інакш ён пагражаў новымі разбурэннямі.

Вітаўт сустрэўся з Васілём дзеля перамоваў на рацэ Угры. Падчас тае сустрэчы двух гаспадароў (у 1408 г. – *I. C.*) літвін Андрэй крыкнуў Вітаўту:

– Не мірыся, Вітаўце! Не мірыся! Як можна мірыцца, калі мы яшчэ не біліся з масквой?

З таго часу Андрэя называюць Няміраю. Ад яго пайшоў славуты род Няміраў.

Маскоўскі князь Васіль распарадзіўся шчодра заплаціць тым пакрыўджаным літвінам, а разбойнікаў – павесілі.

Так Вітаўт дараваў свайму зяцю – маскоўскаму князю Васілю – і зноў памірыўся з ім. Яны абняліся, ушанавалі адзін аднаго і з мірам раз'ехаліся. Праўда, маскоўскі князь усё ж такі аплаціў выдаткі Вітаўтаваму войску.

## XXV

У 1410 годзе прускія крыжакі згуртаваліся з намерам знішчыць палякаў і літву, а затым сесці на іх землях. Кароль Ягайла і вялікі князь Вітаўт дазналіся пра агрэсіўныя і амбіцыйныя планы прускага магістра. Яны неадкладна разаслалі лісты па ўсіх землях з заклікам збіраць паспалітае рушанне.

У войска караля Ягайлы, паводле перапісу, прыйшлі 500 тысяч жаўнераў і 100 тысяч дапаможных людзей. Ягайла пераправіўся цераз Віслу з войскам і абозам, перавёз усе гарматы, стрэльбы, порах і кулі.

Князь Вітаўт сабраў войска з літвы і русі. У Вітаўта да таго ж былі дзве арды з заволжскімі татарамі, якіх ён увесь год утрымліваў за ўласны кошт. Усяго ў войску Вітаўта налічвалася 157 тысяч жаўнераў, не лічачы люзных (дапаможных) людзей.

Польскае войска, раздзяліўшыся на тры часткі, рухалася ў Прусію праз Мазовію. Літва з татарамі пайшлі напраcткі

ў Прускія землі. Па дарозе яны няшчадна секлі людзей і палілі паселішчы. Абодва войскі сустрэліся да купы, разбілі намёты, паставілі абоз, або табар, як звычайна.

Нямецкі магістр з прускімі і інфлянцкімі крыжакамі, маючы на ўзбраенні 300 гармат, таксама падцягнуўся. Неўзабаве магістр прыслаў паслоў у вайсковы стан Польскага Каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага. Паслы прыбылі на куцых, касманогіх фрызах, якія ледзь гойдаліся пад цяжарам дашчатых узбраенняў.

Нямецкія паслы звярнуліся да Вітаўта і Ягайлы:

– Кароль і вялікі князь! Наш магістр дасылае вам цераз нас два мячы і зброю, выклікаючы вас на бітву, бо ў вас, напэўна, няма чым біцца. Калі для вас поле малое, наш магістр саступіць вам, каб вы паказалі сваё ўмельства ў бітве.

Ягайла адказаў паслам:

– У нас дастаткова мячоў і зброі. Але за падарунак мы з маім братам выказваем магістру падзяку. Дасць Бог, гэтыя мячы будзем загартоўваць на вашых карках.

Ягайла забраў мячы і загадаў даць залп са ста гарматаў, ды так, ажно зямля задрыжэла. У Вітаўта і Ягайлы разам налічвалася 700 гарматаў.

Потым ударылі ў котлы (бубны), зайгралі сурмы. Літва з татарамі кінуліся на крыжакоў. Разгарэлася бітва, ажно коні цэрліся бакамі. Вітаўт сам кіраваў харугвамі, выпраўляў шыхты. Палякі са сваім каралём узялі немцаў на палашы, а потым павялі іх на гарматы. Перад замаскіраванымі гарматамі расступіліся па баках, і немцы трапілі пад прыцэльны гарматны абстрэл. Іх там адразу палегла некалькі дзесяткаў тысяч. Крыжакі, аднак, не зважалі на страты і ішлі на палякаў і літву, нібы асляплыя. Бітва доўжылася гадзіны з тры. Пераменлівая Фартуна лётала з аднаго боку на другі.

Нарэшце немцы ўбачылі безліч сваіх трупаў, што валяліся на полі, і пачалі ў паніцы ўцякаць. Палякі, літва і татары гналі крыжакоў некалькі міль – білі іх, секлі, стралялі

і калолі. Найбольш знакамітых рыцараў вязалі і бралі ў палон. Прускага магістра Ульрыха забіў просты драб ударам ашчэпа.

У той бітве не ўсе нашы біліся, іншыя і шаблі не дасталі, бо на полі было надта цесна.

Вітаўт распусціў татарскія і літоўскія загоны па ўсёй Прускай зямлі. Агнём і мячом яны чынілі велізарную шкоду і зло немцам.

Падчас той бітвы былі захоплены ўсе нямецкія штандары і ўсе іх гарматы. Пераможцы авалодалі таксама ўсім багатым крыжацкім абозам, забралі ўвесь іхні скарб.

Потым з Мальбарку прыехалі крыжакі і прасілі ў караля і ў вялікага князя дазволу пахаваць сваіх забітых, найперш магістра Ульрыха. Вітаўт і Ягайла далі згоду. У той бітве загінула 140 тысяч нямецкіх рыцараў, не лічачы вазніц і кухараў.

Пасля той славутай перамогі нашы тры дні адпачывалі. Калі б яны адразу акружылі Мальбарк, дык вельмі хутка змаглі б яго здабыць, бо там засталася слабая абарона, захапілі б усю Прускую зямлю, бо на той момант крыжакі не мелі аніякага войска, а іх магістр быў забіты. Аднак праз тры дні шведскі кантар Генрых Сплаўна прыбыў з некалькімі ротамі немцаў у Мальбарк і ўмацаваў замак.

Падчас вайны літва, русь і татары заваявалі і зруйнавалі амаль усю Прускую зямлю. Разбурылі 70 крыжацкіх замкаў, толькі восем гарадоў засталося ў руках крыжакоў.

На наступны год (1411 г. – *І. С.*) Вітаўт і Ягайла падпісалі з прускімі крыжакамі замірэнне. Князь Вітаўт і кароль Ягайла абяцалі вярнуць немцам заваяваныя замкі і выпусціць вязняў. Крыжакі пагадзіліся аддаць Вялікаму Княству Літоўскаму ўсю Жамойць, а Польшчы – Добрын. Так Вітаўт і Ягайла паразумеліся з крыжакамі, у чым навечна падпісаліся.

## XXVI

Потым (у 1413 г. – *І. С.*) кароль Ягайла прыехаў у Літву. З вялікім князем Вітаўтам яны сустрэліся ў *Гародлі*. На з'езд

прыбылі таксама Паны-Рада Вялікага Княства Літоўскага, кіеўскія і валынскія князі, паны Гедройцы, Збаражскія, Вішнявецкія і Заслаўскія.

У Гародлі кароль Ягайла і вялікі князь Вітаўт падпісалі замірэнне і пагадзіліся на задзіночанне двух народаў – польскага і літоўскага. Манархі надалі літоўскай і рускай праваслаўнай шляхце вольнасці, свабоды і гербы на ўзор польскай шляхты. Наўзамен паны і шляхта прынялі на сябе абавязкі: на заклік вялікага князя яны згаджаліся ісці на вайну, узводзіць замкі, правіць гасцінцы, плаціць звыклыя падаткі ў казну Вялікага Княства Літоўскага.

## XXVII

У 1417 годзе вялікі князь Вітаўт і кароль Ягайла адправіліся ў Жамойць. Яны пад прымусам прывялі жамойцкі народ да Рымскага Касцёла, бо той народ да той пары яшчэ пакланяўся драўляным выявам паганскіх багоў. Вітаўт з Ягайлам павысякалі іх свяцілішчы, патрушчылі і спалілі выявы паганскіх багоў, усю бязбожнасць дарэшты зліквідавалі. Гэтак Вітаўт з Ягайлам здзейснілі хрост жамойтаў. Затым яны ўсталявалі ў Медніках Жамойцкае біскупства.

## XXVIII

У 1420 годзе татарскія войскі на чале з Едыгеем уварваліся ў Кіеўскае княства. Яны захапілі горад Кіеў, абрабавалі і спалілі яго. Толькі Кіеўскі замак не здолелі ўзяць, хоць некалькі разоў штурмавалі яго. Пячорскі манастыр таксама спалілі.

Вялікі князь Вітаўт да гэтага часу быў вядомы ўсяму свету сваімі рыцарскімі справамі і ўчынкамі. Татарскія цары слухаліся яго. Без згоды вялікага князя яны не ардынавалі (не ўсталёўвалі) новых ордаў. Калі памёр заволжскі хан Зелядзін, з якім Вітаўт меў братэрскія дачыненні, хадзіў з яго ордамі на Прусію, яго сын Керымбердэк заняў бацькоўскі трон. Керымбердэк паспрабаваў з дапамогай

шаблі выйсці з-пад улады Вітаўта, але вялікі князь не сцярпеў яго свавольства і пачаў рыхтаваць войска. Замест Керымбердэка Вітаўт загадаў каранаваць на Заволжскае ханства Тахтамыша. Каранацыя адбылася ў Вільні ў адпаведнасці з рытуалам заволжскіх татараў: Бедзбула ўсклаў на Тахтамыша залатаглаў і шлык, аздоблены жэмчугам.

Пасля абвяшчэння Тахтамыша новым ханам орды заволжскіх татараў раздзяліліся: адны стаялі за Тахтамыша, іншыя – за Керымбердэка. Тыя два царкі распачалі між сабой крываваую разню з-за ханства. Доўгі час яны гартавалі шаблі ў крыві супляменнікаў. Урэшце, Керымбердэк пераног Тахтамыша. Тады Вітаўт загадаў каранаваць на Заволжскае ханства роднага брата Тахтамыша – Ерэмфердэка, які жывым уцёк з поля бітвы. На яго адзелі залатаглаў, шапку з каштоўным жэмчугам і далі ў рукі шаблю.

У дапамогу новаму хану Вітаўт выдзеліў харугвы маршалка Радзівіла. Ерэмфердэк са сваімі мурзамі і ўланамі, абапіраючыся на літоўскія вайсковыя аддзелы, накіраваўся адваёўваць трон. Радзівіл пасадзіў яго на Заволжскае царства. Паміж Ерэмфердэкам і Керымбердэкам распачалася крывавая вайна на Волзе. У адной з бітваў літоўскія казакі, што схаваліся ў засадзе, знянацку атакавалі орды Керымбердэка з тылу і ўшчэнт разграмілі іх. У выніку Ерэмфердэк выйграў вайну і ўзышоў на Заволжскае ханства. Ён злавіў Керымбердэка і жорстка закатаваў яго.

Пасля перамогі Ерэмфердэк праз Радзівіла прысягнуў Вітаўту на вернасць, пакляўся заўсёды з усімі татарамі служыць яму і паслаў вялікаму князю каштоўныя падарункі.

У тым жа годзе знакаміты перакопскі хан Едыгей прысягнуў Вітаўту, пакляўся заўжды дапамагаць Вялікаму Княству Літоўскаму з адзінай мэтай – каб яго царства пачувалася ў бяспецы ад Літвы.

## XXIX

Вялікі князь літоўскі Вітаўт, пасля хрышчэння з Ягайлам жамойтаў, склікаў (каля 1427 г. – *І. С.*) паспалітае ру-

шанне з літвы і русі. З войскам ён пераправіўся праз Дзвіну каля Друшы і акружыў спачатку замак *Себеж*, а затым *Пскоў*. У той час пскавічы не мелі над сабой аніякага князя, жылі вольна, як паны, самі сябе судзілі. Пскоўская зямля межавала з Маскоўскім княствам і Інфлянтамі. Дзеля гандлёвых інтарэсаў пскавяне заўсёды былі больш прыхільнымі да суседзяў і часта дапамагалі ім у змаганні з Літвой.

Вітаўт пастанавіў падбіць пскавічоў пад сваё ярмо. Спачатку ён захапіў замак Себеж. Затым войскі Вітаўта акружылі *Порхаў*, пад якім стаялі шэсць месяцаў. Пскавяне адчулі моцны ціск Вітаўта і зразумелі, што не ў стане перамагчы літоўскае войска. Яны дабравольна здаліся Вітаўту і перайшлі пад яго ўладу з местам Псковам і з усім княствам. Пскоўская зямля пагадзілася плаціць Вітаўту штогадовы голд (даніну) буйных памераў: пяць тысяч чырвоных залатых; некалькі дзесяткаў нямецкіх фрызаў, якіх пскавяне набывалі ў Нарве, сваёй прыстані ў Інфлянтах; 50 футраў; па сорак скур розных звяроў – ваўкоў, мядзведзяў, рысяў, ліс, сабалёў, кунаў, белак і гарнастаеў. Так Вітаўт змусіў Пскоўскую зямлю плаціць яму даніну і паставіў над імі свайго старасту – князя Юрыя Носа.

Затым (каля 1428 г. – *І. С.*) князь Вітаўт з гатовым войскам рушыў на *Вялікі Ноўгарад*. Наўгародцы ведалі пра падзенне Пскова і таксама пастанавілі не супраціўляцца Вітаўту. Яны выехалі насустрач вялікаму князю і дабравольна прынялі яго ўладу. На вернасць Вітаўту прысягнулі ўсе гарады, землі і княствы, што належалі Вялікаму Ноўгараду. А Вялікі Ноўгарад здаўна вылучаўся сваёй мажнасцю і значнасцю, меў пад сабой пяць княстваў. Тут дзейнічала купецкая гільдыя Русі, гораду належылі землі на 150 міль на ўсход сонца, ажно да Ледавітага мора.

Князь Вітаўт скарыў Вялікі Ноўгарад і змусіў горад плаціць яму штогадовую даніну: 10 тысяч чырвоных залатых, сто нямецкіх фрызаў, сорак штук розных футраў – сабалёў, кунаў, рысяў, гарнастаеў і белак. Старастам у Вялікі

Ноўгарад Вітаўт прызначыў свайго швагра – князя Сямёна Алгімонта Гальшанскага.

Ва ўсе прыгарады Пскова і Вялікага Ноўгарада князь Вітаўт гэтаксама паслаў сваіх намеснікаў, а затым вярнуўся ў Вільню.

## XXX

Вітаўта надзвычай трывожыла, каб Вялікае Княства Літоўскае не перайшло, у адпаведнасці з папярэднімі дамоўленасцямі, ва ўладу сыноў Ягайлы – каралевічаў Уладзіслава і Казіміра. Вялікі князь настойліва шукаў рашэння, каб не дапусціць перадачы Вялікага Княства Літоўскага Ягайлавічам.

Вітаўт звярнуўся за дапамогай да Жыгімонта – імператара Святой Рымскай імперыі, які варагаваў з Ягайлам, бо польскі кароль падчас войнаў заўжды выступаў на баку Жыгімонтавых непрыяцеляў. Жыгімонт паабяцаў Вітаўту паспрыяць здабыць каралеўскую карону і ператварыць Вялікае Княства Літоўскае ў каралеўства.

Па прапанове Жыгімонта ў Луцку (у 1429 г. – *І. С.*) быў скліканы з'езд манархаў і магнатаў Польшчы, Вялікага Княства Літоўскага і Венгрыі нібыта для ўтварэння лігі супраць турак. Ягайла гэтаксама прыехаў на той з'езд у Луцк, нічога не падазраючы.

Жыгімонт пачаў сваю прамову здалёк. Ён прамовіў:

– Для ўсіх нас было б карысным прагнаць валашскага (малдаўскага) гаспадара, або ваяводу, разам з яго людзьмі прэч, а яго землі засяліць палякамі, руссю або венграмі. Валашцы ніколі не трымалі свайго слова і няспынна займаюцца разбоямі.

Польскі кароль Ягайла запярэчыў:

– Гэтага аніяк нельга рабіць! Жыхары Валашскага княства з'яўляюцца падданымі Польскага Каралеўства. Калі сярод іх ёсць адзін або некалькі злачынцаў, іх варта знайсці і пакараць, а не выганяць увесь народ.

Потым Жыгімонт звярнуўся да Ягайлы, каб ён пагадзіўся на каранацыю свайго брата Вітаўта – славутага га-

спадара, які вядзе свой род ад старажытных князёў. Жыгімонт даводзіў, што каранаванне Вітаўта значна паспрыяе змаганню хрысціянскіх гаспадароў з непрыяцелямі.

Вітаўту надзвычай спадабаліся тыя словы Жыгімонта, а Ягайлу і палякам – не надта. Польскія паны прапанавалі Ягайлу назаўтра пакінуць той з'езд, што кароль і зрабіў.

Жыгімонт і Вітаўт засталіся ў Луцку і пастанавілі міжсобку – звярнуцца да Папы Рымскага па дабраславенне на Літоўскае каралеўства. Кароль Ягайла таксама накіраваў сваіх паслоў да Папы з просьбай не пагаджацца на каранацыю Вітаўта, не дабраслаўляць яго на гэты ўчынак, паколькі, маўляў, Вялікае Княства Літоўскае задзіночана з Польскім Каралеўствам на вызначаных умовах.

Але Жыгімонт чаго хацеў, таго дамогся ад Папы Рымскага для Вітаўта.

Тады кароль Ягайла загадаў пазнанскаму пакаморыю Яну Чарнкоўскаму паставіць паўсюль на дарогах варту і не прапускаць Жыгімонтавых паслоў да Вітаўта, якія павінны былі прывезці таму карону. Праз нейкі час палякі перанялі доктара Баптысту Цыгаля, які вёз лісты да Вітаўта, дзе акурат паведамлялася пра тое, што ў Літву неўзабаве прывязуць дзве кароны: адну для Вітаўта, а другую – для яго жонкі *Ульяны*. Такім чынам, палякі канчаткова пераканаліся, што Вітаўт і Жыгімонт змовіліся. Яны цалкам зразумелі планы Вітаўта.

Польскія паны паставілі абозы паміж лясамі ў месцы, якое называецца Тучая гара, каб пераняць Жыгімонтавых паслоў з каронамі. Паслы, аднак, даведаліся пра небяспеку. Яны не сталі рызыкаваць і вярнуліся назад да імператара Жыгімонта ў Венгрыю.

Вітаўт хутка даведаўся пра перашкоды, учыненыя палякамі. Ён захварэў і памёр у Троках у 1430 годзе, маючы больш як 80 год веку.

Пахавалі вялікага князя Вітаўта ў Вільні з вялікім шанаваннем і плачам усіх літоўскіх паноў і паспалітых людзей. Быў Вітаўт надта чуллівы гаспадар, меў вялікі розум і невымерныя заслугі. Ён ведаў меру ў ежы і ў пітве, нічога моцнага не піў, толькі ваду.

# ПАХВАЛА ВЯЛІКАМУ КНЯЗЮ ВІТАЎТУ

"Пахвала вялікаму князю Вітаўту" – унікальны помнік беларускага прыгожага пісьменства, створаны прыкладна каля 1430 г. напярэдадні каранацыі вялікага князя Вітаўта (1350–1430).

Пісьменнік бліскуча адлюстраваў цэнтралізацыйную палітыку Вітаўта, накіраваную на аб'яднанне усходнеславянскіх земляў вакол адзінага цэнтра. Аўтар ухваляе геапалітычныя планы вялікага князя, вітае далучэнне да ВКЛ новых гарадоў, тэрыторыяў і земляў.

На старонках твора Вітаўт Вялікі паўстае як абаронца Айчыны, мужны змагар з ворагамі, тонкі дыпламат і мудры палітык, які карыстаецца павагай і аўтарытэтам.

Паводле "Пахвалы...", аўтарытэт Вітаўта быў настолькі значным, што да яго ў Луцк з каштоўнымі падарункамі прыязджаў імператар Святой Рымскай Імперыі, з ім імкнуліся мець прыязныя адносіны многія манархі – турэцкі султан і вялікі маскоўскі князь. Нямецкія магістры, разам з іх гарадамі і землямі, стараліся ва ўсім дагадзіць вялікаму князю. Летапісец называе імёны ханаў, якіх Вітаўт прызначыў у Залатую Арду.

"Пахвала вялікаму князю Вітаўту" захавалася ў дзвюх рэдакцыях шасці летапісных спісаў. Друкуецца паводле Супрасльскага летапісу (ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 58–59). Асобныя мясціны твора ўзноўлены паводле Слуцкага летапісу (ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 75–76).

## Похвала о великом князи Витовте

Тайну таити цареву добро есть, а дела велика господаря поведати добро же есть.

Хочю вам поведати о великом князи Александри, зовемем Витовъти – литовском и русском, иных многих земль господарь. Но по неи же писаному есть: «Братие, Бога бойтеся, а князя чтите».

Такоже и вам хощю азь поведати о славном томь господари, но не мощьно исповедати, ни писанию предати дела великого князя. Яко же бы мощно кому испытати высота небесная и глубина морская, тоже бы исповедати мощьно сила и храбрость того славного господаря.

Сии князь велики Витовт, бяше ему держащи великое княжение Литовское и Руское, иныя многия земли, сопроста реку – вся Руская земля. Не токмо же Руская земля вся, но и еще жь господарь Угорьскои земли, зовемый цесарь римьски и велицеи любви живяще с ним. Таково ми ся увирило.

Неколи будущи тому славному господарю, бывъши ему во своем граде, зовемый Луческ Велики. И посла послы своя королю угоръскому, зовемому цесару римьскому, и повели ему быти к собе. Он же безь всякого ослушания въскоре приеха к нему и своею королицею, и честь велику и дары многи подаваше ему. И оттоле в них утвердися велика любов.

Како не почюдимься чести великого господаря! Еже которыи земли на восьтоце или на западе приходяще поклоняются славному. Еже есть царь над всею землю и той пришед покьлонися славному господарю великому князю Александру, зовему Витовту. Еже и турецький царь честь велику и многи дары и подавши. Славному господарю, благоверному же и христолюбивому царю царигородьскому, и тому с нимь во велицеи любви живущи. Такожь и Ческое королевъство великому честь держащи над славьнымь господарем. И еще же и донскый король велику честь и дары многи подавши славному господарю, великому князю Витовту.

В та же лета брату его Ягаилу держащи стол Краковского кролевъства, по лядцькому языку тому зовему Владиславу, и тому с ним во велици любви живущи. Коли сълавныи господарь Витовът на котору землю гневень биваше и котору землю хотяше казнити, королу же Владиславу всегда дающи помощь.

Еще же ины цари усточни служахуть ему.

Также великий князь московскый во велицей любви живяще с ним.

И еще же иныи князи велици немецькыи служахуть ему со всими городы своими и со землями. Ти же велици князи немецки, по немецькому языку зовемому мистрове.

Еще же господарь земли Мольдавскои и Босарабъския, по власкому языку зовемем воеводы.

Также осподар тои земли Болгарскои, по болгарскому языку зовемыя деиспоты.

И еще жь иныи велици князи: велики князь Тферьский и великий князь Резанскый, и великий Одоевъский, и Велики Новгород, и великий Псков. Спроста реку, иже не обретеся во всем Помори ни град, ни место, иже бы не приходили к славному господарю Витоъту. Тии же велици господари, велици земли, велици князи.

И еще же писахом зде, иные во велици любви живущи с ним, а ини крипко служахоть ему, славному господарю. И честь велику и дары великы, и дани многи приносяхуть ему, не токмо по вся лета, но и по вся дни.

Коли славныи господарь великый князь Александро, зовемый Витовт, на которую землю бываше гневень и которую землю хотяше сам казнити или пакы силнех вои своих воевод посадити, послати где восхощеть, и котрому от тех великых земль повеливаше к собе быти, и они безь всякого ослушания воськоре прихожаху к нему и со своея земли.

И коему господарю за которую нужу немощьно быти, и он всю свою рать и силу посылаше на помощь и на его службу.

Сии же великый князь Александро, зовемый Витовт, во великой чести и славе пребываше.

Бяше ему неколко от своих городов во велицем граде Киеве нарицаемом. И прислашеся к нему велици ординьскыи князи, полецаяся ему под великую служьбу, и просящее у него царя на царьство. Много бяше бо ординьскых великых царей служаху во дворе его; он же дал им цара,

именем Салтана. Оному же царю, иже бе на Орде, слышав яко славны господар отпусти своего слугу на царьство, никако же не есми сопротивитися со славным господарем, остави царьство и побеже. Сему же Солтану дошедши орды и сяде на царьство повелением великого осподаря, зовемого Витовта, и служаше с великою боязнию славному господарю.

Не по мнози времени согна за живот, иным же старейшинам ординскым послаша послы своя с великими дарми ко славному господарю и просися у него иного царя. Он же дал им иного царя, именем малого Солтана. Сему же малому Солтану шедшю на царьство некако же не сми ослушатися господаря: где коли ему повелить, и он ту тогда кочуеть.

И по мале времени тому минувъши, велици же цари ординьски никако же не сьмеяше разьгневати славного осподара великого Витовта, дабы не от его руки поставити им царя, и послаша с великою честию и просися у него царя. Он же дал им иного цари, именем Давлад-Бердия.

Яко же река пресходящи всю землю человеческыи скоты поямощи, а сама не вмалящися, такожь и славный господарь и множество царей отпущаеть на Орду, а в него болшало царей навчено.

И мы же на первореченое возвратимься. Царю сему Давлад-Бердию немного время побывши и тому мимо шедшю. Сим же старейшинам ординским слышавшим, яко славный господарь близь есть, во прежьдереченом граде Киеви, и придоша сами, и поклонишася ему – славному оспадару великому князю Витовту, и дары многи принесоша, и просять у него царя. Он же дал им царя именем Магмета.

Яко жь бо от моря множество вод исходящи, тако и от сего мудрость великого господаря князя великаго Витовта.

# ЦУДЫ СВЯТОГА МІКОЛЫ Ў ЛУКОМЛІ

"Цуды Святога Міколы ў Лукомлі" – помнік беларускага пісьменства пачатку XV ст. Тэкст твора захаваўся ў складзе зборніка "Жыццяў святых", што зберагаецца ў зборы М. М. Ціхамірава (№ 309. Арк.171 адв. – 172 адв.), які ў 1960-х гадах быў перададзены Сібірскаму аддзяленню Расійскай акадэміі навук. Зборнік перапісаны ў першай палове XVI ст.

Паводле зместу "Цуды Святога Міколы ў Лукомлі" належаць да містычнай літаратуры. У ім распавядаецца пра з'яўленне каля 1408 г. цудатворца Міколы да жыхара Лукомля Парфена. Святы Мікола размаўляе з Парфенам, паведамляе яму пра місію свайго з'яўлення ў Лукомлі.

У другой частцы твора даецца пералік канкрэтных людзей, якія пры спрыянні Міколы цудадзейным чынам вылечыліся ад дотыку да святых астанкаў.

"Цуды Святога Міколы ў Лукомлі" друкуюцца паводле выдання: *М. Н. Тихомиров.* Описание Тихомировского собрания рукописей. М., 1968. С. 191–192. Асобныя праўкі зроблены паводле публікацыі: *Н. К. Никольский.* Материалы для истории древнерусской духовной письменности. СПб., 1907. С. 145–146.

## Чюдо 11 святого отца Николы

А се чюдеса новая створилася святого Николы в Литовьской земле при князе Витовте Кестутьевиче в лето 6000 и девятьсотное (каля 1408 г. – *І. С.*)

Явися святыи Николае Парфенью в Лукомвле, вестуа ему тако:

– Маловер, спиши ли.

Он же рече:

– Нет, господине, не сплю.

И рече ему святыи Николае:

– Знаеше ли мене?

Он же рече:

– Не знаю.

И рече:

– Аз святыи Никола Жидиченскии, и пришел есмь семо в Лукомль, тамо не могу жити погани деля, зане умножися безаконие. И ты повестуй игуменом и попом и всем христианом лукомляном, чтобы поставили церковь в имя мое на том месте у ледника на горке, и хощу зде быти, а то им скажи. А еще иду в Полтеско, умножилась безакониа, целуют крест и изменяють, хощу показнити того.

Парфенеи не сказал неделю да почал болети и не ясти, сказал людем, и бысть здрав.

И они церковь поставили в том месте да в том часе знамение учинилося.

## Чюдо 12 святого отца Николы

А се чюдо святого Николы Лукомльскаго, иже сътвори чюдеса на принесение честных мощей.

Тимофеа простил Бог и святый Николае, боляща ногою 7 лет, из Дорогобужа пришедша.

Дементия прости Бог и святыи Николае, от рождества рукою не владеюща.

И с Серпьска пришедша Кондрата черньца простил Бог и святыи Николае, болевша очима 6 лет, с Москвы пришедша.

Исака простил Бог и святыи Николае, болевша очима и ногама, ис Чавникова пришедша.

Озарью простил Бог и святыи Николае, болевша очима 4 лета, из Борисова пришедша.

Дементиа Бог простил и святыи Николае, болевше рукою и ногою от рождества своего, пришедша от Смоленска.

Феодора простил Бог и святыи Николае, болевше всем телом 8 лет, пришедша из Гливна.

Греча простил Бог и святыи Николае, болевша очима 7 лет, пришедша с Лвягза [так у публікацыі. – *І. С.*].

Матфеи простил Бог и святыи Николае, из Словенска пришедша.

Стефана прости Бог и святый Николае, болевша очима 30 лет, из Менска.

Ермолу пришедша прости Бог и святыи Николае, болевша очима 3 лета, пришедша ис Когана.

Федора простил [Бог] и святый Николае, мучима от беса 17 лет, пришедша из Маркова.

Ивана простил Бог и святый Николае, рукою и ногою не владеюща 8 лет, пришедша из Дрючска.

Сидора простил Бог и святый Николае, болевша очима, пришедша из Орши.

Ульяну простил Бог и святый Нико[ла]е, болевша очима 10 лет.

Многа ж і ина бесчисленная чюдеса творит Господь Бог угодником своим святым Николою Марликійским чюдотворцем по всей вселенней.

Ныне і присно и во веки веков аминь.

# ХРОНІКА ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ

Пасля смерці вялікага князя Вітаўта ў 1430 г., які пры жыцці жорстка кантраляваў становішча ў ВКЛ, на абшарах краіны пачалася непрымірымая барацьба палітычных груповак за вышэйшую ўладу і тытул вялікага князя. За лідэрства змагаліся Свідрыгайла Альгердавіч (1370–1452) і Жыгімонт Кейстутавіч (1365–1440). Звадкі і забурэнні доўжыліся дзесяць год і неверагодна паслабілі дзяржаўны арганізм – прывялі да шматлікіх людскіх і матэрыяльных стратаў, страшэннага голаду 1438 г.

Змрочны перыяд нацыянальнай гісторыі знайшоў адлюстраванне на старонках старадаўніх беларускіх летапісаў і хронік. Адным з важнейшых гісторыка-літаратурных твораў, прысвечаных унутраным канфліктам у ВКЛ, з'яўляецца "Хроніка грамадзянскай вайны", у якой дэталёва асвятляюцца падзеі 1430–1440 гг. Твор захаваўся, прынамсі, у трох рэдакцыях.

"Хроніка..." пісалася падчас вайны або адразу пасля яе. Як вынікае з семантыкі тэкста, яе аўтарам быў непасрэдны ўдзельнік і відавочца тагачасных падзей. Ён выступае як патрыёт ВКЛ, рэзка асуджае прэтэнзіі палякаў на Падольскую зямлю. Аўтар "Хронікі..." з'яўляўся асобай, набліжанай да Жыгімонта Кейстутавіча. Аб гэтым сведчыць выказаная ім радасць з нагоды абвяшчэння ў 1432 г. вялікім князем менавіта Жыгімонта замест Свідрыгайлы. На працягу ўсяго твора пісьменнік рэгулярна ўжываў тытул вялікага князя літоўскага выключна ў адносінах да Жыгімонта, хаця Свідрыгайла ніколі не адмаўляўся ад пасады вялікага князя. Пісьменнік таксама неаднаразова выкарыстоўваў абразлівыя выказванні ў адрас Свідрыгайлы – галоўнага палітычнага апанента князя Жыгімонта.

Аўтар "Хронікі..." гістарычна праўдзіва раскрыў характар палітычнага і вайсковага супрацьстаяння паміж Свідрыгайлам Альгердавічам і Жыгімонтам Кейстутавічам. Пісьменнік асвятліў асноўныя бітвы паміж імі: дзве сутычкі пад Ашмянамі ў 1432 і 1433 гг., бітву на рацэ Мурахве ў 1432 г., пабаявішча пад Вількамірам першага верасня 1435 г., а таксама змаганне за замкі на Валыні і Падоллі.

У творы аб'ектыўна паказана роля караля Ягайлы і польскіх магнатаў падчас канфлікту. Паводле аўтара "Хронікі...", яны прагнулі дасягнуць толькі ўласных інтарэсаў – саслабіць ВКЛ і далучыць да Польскага Каралеўства яго тэрыторыі.

Князь Свідрыгайла прадстаўлены ў "Хроніцы..." як адмоўны персанаж. Аўтар падкрэслівае яго чалавечую непрывабнасць, неверагодную жорсткасць, называе "ненажэрным п'яніцам". Пісьменнік прыгадвае расправу Свідрыгайлы над князем Гальшанскім і праваслаўным мітрапалітам Герасімам у Віцебску ў 1433 г.

Пісьменнік намаляваў рэалістычную сцэну страшэннага голаду 1438 г., які стаўся прамым вынікам грамадзянскай вайны і ахапіў беларускія землі. Аўтар паказаў, як у трагічную часіну чалавечае жыццё страчвае каштоўнасць, а давёдзеныя да адчаю людзі дэградуюць, ператвараюцца ў звяроў.

Мова "Хронікі..." вельмі лаканічная, але надзвычай яскравая. Пісьменнік выдатна валодае ўсім арсеналам мастацкіх сродкаў, умела распавядае пра складныя палітычныя перыпетыі і вайсковае змаганне.

Рэканструкцыя і пераклад "Хронікі грамадзянскай вайны" ажыццёўлены паводле "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага" (ПСРЛ. Т. 32. С. 81–85). Улічаны таксама варыянты твора, змешчаныя ў Летапісе Рачынскага (ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 164), Супрасльскім летапісе (ПСРЛ. Т. 35. С. 57–58) і ў "Хроніцы Быхаўца".

## Хроніка грамадзянскай вайны

### I

Пасля пахавання Вітаўта ў Віленскім замке і належнага ўшанавання яго памяці кароль Ягайла ўзвёў на пасад вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага Свідрыгайлу – свайго роднага брата і стрыечнага брата Вітаўта. Той Свідрыгайла быў пыхлівым і непрыстойным чалавекам і да таго ж ненажэрным п'яніцам.

Шмат якія ўплывовыя польскія паны вырашылі скарыстацца зручным момантам. У прыватнасці – Грыцка Кердзіевіч, Феадаровіч, Міхайла Мужыла, браты з Бучачы ды іншыя, клапоцячыся пра карысць Айчыны, імкліва вы-

ступілі з харугвамі пад Камянец. Яны паслалі ганца да Доўгірда – віленскага ваяводы, якому тады належала Падолле паводле прывілея Вітаўта. Паны прасілі Доўгірда, каб ён выйшаў да іх з замка на сустрэчу. Яны гаварылі пра пільныя патрэбы дзяржавы, пра якія нібыта дбаў Вітаўт, бо Доўгірд яшчэ не ведаў пра яго скананне. Калі Доўгірд прыехаў да іх, яны паланілі яго, звязалі і захапілі Камянец. Затым яны падпарадкавалі Смотрыч, Скалу і Чырвоны Горад.

Захопленыя гарады польскія паны хацелі назаўсёды перадаць пад уладу Ягайлы, каб яны больш ніколі не належалі Вялікаму Княству Літоўскаму.

Калі Свідрыгайла – легкадумны і пыхлівы чалавек, даведаўся пра рэйд палякаў на Падолле, ён забыўся на дабрадзействы свайго брата караля Ягайлы, адразу напаў на яго, лаяўся, сарамаціў і пагражаў расправай. Так, Свідрыгайла крычаў яму:

– Ты, каролю, разам з Вітаўтам трымаў мяне дзевяць год у вязніцы. Калі зараз жа не вернеш назад Падолле і Камянец, я гэтак жа пасаджу цябе ў вязніцу і ніколі не выпушчу адтуль!

Іншых польскіх магнатаў Свідрыгайла таксама запалохваў турмой, шыбеніцай і забойствам. Тыя небаракі-палякі не маглі спаць, дзённа і ночна аберагалі сябе і свайго караля. Свідрыгайлавы старажавыя аддзелы шчытна акружылі Ягайлу з палякамі і нікуды іх не выпускалі.

Апынуўшыся ў руках Свідрыгайлы, кароль Ягайла быў змушаны накіраваць свайго дваараніна Тарла Тапорчыка са Шчэкаровіч да Міхаіла Бучацкага з загадам, каб той неадкладна передаў Камянец і Падолле пад уладу літвіна Міхаіла Бабы, прызначанага Свідрыгайлам сваім намеснікам над тымі землямі. Міхаіл Баба паехаў на Падолле разам з тым паслом Тарлам Тапорчыкам.

Перад адпраўкай пасольства два палякі – Андрэй з Тучына і Мікалай Дравецкі, у якіх знаходзілася каралеўская пячатка, дбаючы пра інтарэсы Польшчы, напісалі ад сябе іншыя лісты і замацавалі іх каралеўскай пячаткай.

Яны схавалі лісты ў васковыя пласціны, аддалі іх паслу Тарлу з загадам, каб ён перадаў той воск камянецкаму старасту Бучацкаму. На словах Тарла павінен быў сказаць Бучацкаму адмысловы выраз: “Калі не хочаш блукаць у цемры, шукай святла ў воску”.

А ў тых лістах, запячатаных у воску, паведамлялася, што першыя лісты былі выдадзены Ягайлам пад прымусам і загадвалася ўзяць у палон Тарлу і Міхаіла Бабу.

Пасол Тарла, нічога не падазраючы, зрабіў усё, як яму было загадана. Ён перадаў Бучыцкаму каралеўскія лісты і той воск з адпаведнымі словамі. Бучыцкі ўзяў воск, разламаў яго, а там – лісты. Ён, як і загадвалася ў таемных лістах, паланіў Тарлу і Міхаіла Бабу, пасадзіў іх у вязніцу, блізка не пусціўшы ў замак.

Ягайла ж тым часам паспеў з'ехаць з Літвы.

Як толькі кароль пакінуў Вільню, Свідрыгайла склікаў войска і рушыў на Падолле. Неўзабаве ён захапіў Вінніцу, Скалу, Браслаў і Чырвоны Гарадок. Свідрыгайлавы войскі абрабавалі Львоўскую і Трэмбовельскую воласці і вярнуліся назад ў Літву з вялікімі трафеямі.

## II

У 1431 годзе кароль Ягайла, падбухтораны каронымі панамі, склікаў войска і пайшоў да *Бечы.* Адтуль ён накіраваў свайго пасла Яна Бярэзінскага да Свідрыгайлы, спрабуючы адвесці яго ад ганарлівых задумаў. Але Свідрыгайла зняважыў пасла ды ўзяў яго ў палон.

Кароль Ягайла страшэнна абурыўся ўчынкам Свідрыгайлы. З вялікім войскам ён рушыў на места *Гародлу,* якое ляжыць над Бугам. Потым кароль пераправіўся цераз Буг, няшчадна рабаваў Уладзімірскія воласці і, урэшце, спаліў горад Уладзімір.

Затым Ягайла з вялікімі цяжкасцямі пераправіўся цераз раку *Стыр,* якая цячэ каля Луцка. Падчас тае пераправы ён страціў шмат польскіх жаўнераў, бо Свідрыгайла раскідаў мост.

Потым Ягайла акружыў *Луцкі замак*. Але Луцка ён не здолеў узяць, таму мусіў падпісаць замірэнне са Свідрыгайлам.

III

Паколькі Свідрыгайла выяўляў настырнасць і незгаворлівасць, кароль Ягайла ў 1432 г., параіўшыся з кароннымі панамі, звярнуўся да Жыгімонта Кейстутавіча – роднага брата Вітаўта, які тады кіраваў Старадубам, каб ён пагадзіўся прыняць трон Вялікага Княства Літоўскага. Ягайла абяцаў Жыгімонту Кейстутавічу дапамогу, абы толькі той прагнаў Свідрыгайлу.

Ягайла тады ж накіраваў свайго пасла – сірадскага кашталяна Лаўрэнція Зарубу – да Свідрыгайлы, нібыта, каб яшчэ раз прапанаваць яму замірэнне. На самай справе пасол меў даручэнне схіліць літоўскіх паноў на бок Жыгімонта, бо ім Свідрыгайла гэтаксама надта апрацівеў і надакучыў сваёй неабгрунтаванай лютасцю ды п'янствам. Але галоўнае – ён больш спрыяў русі і маскве, раздаючы ім пасады і ўладанні.

IV

Літоўскія паны зразумелі волю Ягайлы. Яны неўзабаве накіравалі пасольства да Жыгімонта Кейстутавіча, які ў хуткім часе сапраўды прыехаў у Літву. Літоўскія паны выехалі насустрач яму.

Жыгімонт са сваім войскам адразу ўдарыў на Свідрыгайлу, які на той момант ляжаў у *Ашмянах*. Але Свідрыгайлу своечасова папярэдзіў Манівід, і ён похапкам збег на Русь, пакінуўшы ў Ашмянах жонку. На Русі Свідрыгайлу ласкава сустрэлі яго прыхільнікі.

Жыгімонт Кейстутавіч злавіў у Ашмянах Свідрыгайлаву жонку, якая была дачкой цвярскога князя. Ён захапіў усю Літву – Вільню, Трокі і іншыя замкі, а таксама ўсю

Жамойцкую зямлю. Ад таго часу Жыгімонт Кейстутавіч узышоў на трон Вялікага Княства Літоўскага.

Ва ўладзе Свідрыгайлы засталіся Полацк, Смаленск, Кіеў і ўся Русь.

## V

У 1432 годзе астрожскі князь *Фёдар* – мужны і валявы чалавек, які выступаў на баку Свідрыгайлы, адабраў у палякаў назад замкі Смотрыч, Браслаў, Скалу і ўсё Падолле.

Кароль Ягайла з польскім войскам прыйшоў у Львоў і адтуль паслаў аддзелы на Падолле. Фёдар Астрожскі нападаў на тыя вайсковыя аддзелы, наносячы ім значны ўрон.

Перад наступленнем зімы палякі пачалі вяртацца назад. Князь Фёдар таемна ішоў следам за імі, падшукваючы зручнае месца для нападу. Ён спыніў свой выбар на рацэ *Мурахве*, якая ўпадае ў Днестр. Яна вельмі шырокая, з забалочанымі берагамі, цячэ праз лясы. Да таго часу Мурахва крыху падмерзла. Князь Фёдар у зручным месцы перабраўся на другі бераг і зрабіў засаду ў лесе. Адтуль ён знянацку атакаваў палякаў. Захопленыя непадрыхтаванымі да бітвы, ляхі, аднак, ламаючы лёд і кідаючы свае вазы ў гаці, змаглі арганізаваць супраціўленне. Але князь Фёдар з руссю моцна націскаў на палякаў, якія ледзь выбіраліся з ракі.

Русь біла, тапіла і паланіла палякаў. Тады былі забіты два польскіх гетманы – вялікі і польны. Толькі чацвёртая частка польскага войска змагла ўцячы.

Фёдар забраў вялікія скарбы палякаў і вярнуўся дадому.

## VI

У тым жа годзе (1432 г. – *І. С.*) Свідрыгайла, маючы дапамогу ад свайго цесця – цвярскога князя Барыса, склікаў войска ў колькасці 50 тысяч чалавек з палачанаў, смалянаў, кіяўлян і валынцаў. Ён рушыў у Літву, разбураючы і палячы

ўсё на сваім шляху. У Ашмянах Свідрыгайла стаў абозам і разбіў там свой лагер.

У гэты час вялікі князь літоўскі Жыгімонт сабраў войска з літвы, валынцаў і жамойтаў. Ён ударыў на Свідрыгайлу, які ляжаў з войскам у Ашмянах. Там (8 студзеня 1433 г. – *І. С.*) адбылася крывавая бітва, бо на кану стаялі трон і сталіца Вялікага Княства Літоўскага. Жыгімонтавы харугвы паканалі войска Свідрыгайлы. Воіны ў паніцы пачалі ўцякаць, а іх даганялі, білі і секлі. Свідрыгайла, мяняючы коней, ледзве ўцёк з малой дружынай да Кіева. Свідрыгайла страціў 32 тысячы жаўнераў на полі бітвы, чатыры тысячы жаўнераў трапілі ў палон. Сярод іх было многа знакамітых паноў і князёў.

У палон трапілі: князь Дадыконт; князь Юрый Семяновіч; Фёдар Адзінцэвіч; маршалак літоўскі Разбоўд; трокскі ваявода Манівід.

На Русі і на Валыні адважны і знакаміты пан Кірдзей узяў у палон князя Носа – гетмана Свідрыгайлы, які перад тым захапіў Слуцкі замак і перадаў яго ва ўладу Свідрыгайлы. Такім чынам, Луцк і ўся Валынь дзякуючы Кірдзею былі вернутыя Літве.

## VII

У 1433 годзе Свідрыгайла, маючы ў сваім войску шмат жаўнераў з Інфлянтаў і з Маскоўскай русі, уварваўся ў Літву. Ён паўсюль бурыў, паліў і сцінаў люд.

Свідрыгайлавы хаўруснікі – князь Фёдар Дзімітравіч, Карыбут Збаражскі і князь Нос – ваявалі на Валыні і Падоллі за тыя тэрыторыі, якія яшчэ падпарадкоўваліся Польшчы.

Свідрыгайла жорстка адваяваў Вільню, Старыя і Новыя Трокі, Крэва, Маладзечна, Ліду і Ешышку. Ён выпаліў гэтыя месцы разам з навакольнымі воласцямі.

Потым Свідрыгайла разграміў войскі Жыгімонта, на чале якіх стаяў Пётра Манскірдовіч.

Князь Жыгімонт, не маючы вайсковай сілы для прадаўжэння вайны, быў змушаны хавацца ў лясах з жонкай і дзецьмі.

Затым (увосень 1433 г. – *І. С.*) Свідрыгайла з велічэзным войскам, якое ўсё больш павялічвалася, рушыў на *Віцебск*. Ён захапіў горад, злавіў князя Гальшанскага і распарадзіўся патапіць яго ў Дзвіне. Там жа Свідрыгайла паланіў мітрапаліта Герасіма, якога загадаў спаліць жывым.

VIII

У 1434 годзе Свідрыгайла з руссю, а таксама з інфлянцкімі крыжакамі пайшоў на *Браслаў*, знішчаючы на сваім шляху ўсе воласці агнём і мячом. Над сваім уласным народам ён чыніў страшэнныя здзекі.

Паколькі ў той год ад вялікіх дажджоў усё забалоцілася, паўсюль стаяла вада, Свідрыгайла спыніў свае паходы.

IX

У 1435 годзе Жыгімонт сфармаваў новае войска з літвы і палякаў. Кароль Ягайла вельмі дапамог яму. Харугвы ўзначаліў Жыгімонтаў сын *Міхаіл*.

Войскі сустрэліся першага верасня (1435 г. – *І. С.*) на рацэ Швянтоі, пад *Вількамірам*. Бог паспрыяў князю Міхаілу Жыгімонтавічу і ён разбіў усе Свідрыгайлавы харугвы. Шмат жаўнераў і рыцараў ўзяў жыўцом. У палон трапілі: кіеўскі князь Іван Уладзіміравіч і яго брат князь Фёдар, а таксама мноства рускіх і нямецкіх паноў.

X

Палачане і віцябляне, не маючы ніадкуль помачы (улетку 1436 г. – *І. С.*), здаліся князю Жыгімонту.

І пачаў Жыгімонт Кейстутавіч панаваць у Вялікім Княстве Літоўскім і Рускім.

## XI

У 1438 годзе надарыўся вялікі голад. У вёсках і ў гарадах звяры кідаліся на людзей.

У Смаленску сабакі заядалі месцічаў. Ашалелыя псы цягалі па вуліцах чалавечыя галовы, рукі і ногі. Людзі елі людзей. Маткі ад вялікага голаду елі сваіх дзетак. Ніхто не зважаў на вялікі пост. З'ядалі ўсё, што траплялася.

Чацвярціна збожжа ў той час каштавала тры капы грошаў. Шмат бедаў здарылася ва ўсёй зямлі Літоўскай і Рускай. Пралілося мора крыві. Брат забіваў адзінароднага брата.

Вялікі мор напаў на людзей.

Гэтакіх жахаў нават і старыя людзі не маглі прыпомніць.

## XII

Жыгімонт Кейстутавіч – вялікі князь літоўскі і рускі – поўнасцю перамог Свідрыгайлу і прагнаў яго з краіны. Яго ўладзе цяпер падпарадкоўваліся многія землі – Літоўскае, Смаленскае, Полацкае, Кіеўскае, Падольскае, Віцебскае і Мсціслаўскае княствы.

Але пачаў Жыгімонт дбаць толькі пра павелічэнне ўласных скарбаў, якіх і так меў незлічона. Запалены паходняй скнарасці, вялікі князь усё больш ператвараўся ў жорсткага тырана, таму князі і дваране забілі яго ў Троках, калі ён адпачываў.

Свідрыгайла, як толькі дазнаўся пра забойства Жыгімонта, адразу выехаў у Літву з Валахіі, дзе ён знаходзіўся.

Праз нейкі час Свідрыгайла захапіў Луцк і вызваліў з вязніцаў усіх рускіх князёў, якія былі пасаджаны туды князем Жыгімонтам.

# АПОВЕСЦЬ ПРА ПАЎСТАННЕ Ў СМАЛЕНСКУ

Выдатны помнік прыгожага пісьменства Беларусі першай паловы XV ст. – летапісная “Аповесць пра паўстанне ў Смаленску”. Твор напісаны шыкоўнай старабеларускай мовай, на высокім мастацкім узроўні і ў рэчышчы нацыянальных эстэтычных традыцый, дзякуючы чаму ён з’яўляецца арганічнай складовай беларускай літаратуры даўняга перыяду.

“Аповесць пра паўстанне ў Смаленску”, верагодней за ўсё, была створана ў Смаленску, які на той час уваходзіў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Яна захавалася ў складзе Супрасльскага, Слуцкага і іншых беларускіх летапісаў. Імя аўтара літаратурнага шэдэўра, на жаль, невядомае. Шматлікія дэталі “Аповесці...” сведчаць аб тым, што яе стваральнік жыў у Смаленску, выдатна арыентаваўся ў гарадскім жыцці і ў палітычных рэаліях таго часу.

Унікальнае ідэйна-эстэтычнае значэнне “Аповесці пра паўстанне ў Смаленску” ў тым, што ў ёй упершыню ў нацыянальнай мастацкай прозе знайшоў панарамнае адлюстраванне сацыяльны канфлікт, глыбокае непаразуменне і антаганізм паміж шэраговымі месцічамі і ўладнай групоўкай горада Смаленска, якія выліліся ў грамадзянскае непадпарадкаванне і маштабнае ўзброенае паўстанне. У мастацкай форме пісьменнік умела раскрыў ідэйныя і палітычныя разыходжанні паміж двума сацыяльнымі станамі, асвятліў матывацыю іх учынкаў і паводзінаў падчас непрымірымага змагання.

Аўтар “Аповесці...” выступіў як пісьменнік-наватар, заснавальнік рэалістычнага напрамку ў беларускай мастацкай літаратуры. Ён аб’ектыўна, усебакова і праўдзіва раскрывае логіку гістарычных падзей, паказвае палітычныя перадумовы, канкрэтныя прычыны і абставіны, што прывялі да ўзброенага паўстання ў Смаленску.

Пісьменнік не ідэалізуе варагуючыя бакі. Ён застаецца рэалістам пры абмалёўцы ўсіх удзельнікаў канфлікту – паўстанцаў, смаленскага ваяводы Андрэя Саковіча з яго атачэннем, а таксама ўрадавых войскаў ВКЛ. Так, аўтар аб’ектыўна піша пра жорсткую расправу вайсковых аддзелаў ваяводы Андрэя Саковіча над паўстанцамі, у выніку якой мноства гараджан было заколата дзідамі, шэраг – смяротна

параненыя. Затым у творы намалявана каларытная сцэна жахлівай смерці смаленскага маршалка Петрыка, які быў затоплены ў Дняпры раз'юшанымі гараджанамі. Пісьменнік не шкадуе цёмных фарбаў, расказваючы пра падаўленне ўзброенага паўстання ў Смаленску ўрадавымі войскамі ВКЛ, якія спалілі мноства гарадскіх пасадаў, цэркваў і манастыроў, бязлітасна пасеклі безліч няскораных людзей, шмат каго ўзялі ў палон.

Аўтар, відавочна, імкнуўся быць дакладным у гістарычных дэталях. Так, ён падрабязна пералічвае ўдзельнікаў паўстання, "чорных людзей", сярод якіх былі прадстаўнікі розных рамесніцкіх цэхаў – кавалі, кажамякі, шаўцы, мяснікі, кацельнікі. Ён карэктна піша пра вайсковы рыштунак і ўзбраенне паўстанцаў – кальчугі, лукі са стрэламі, косы, сякеры.

"Аповесць пра паўстанне ў Смаленску" адметная тым, што ў ёй даволі поўна адбілася шматаспектная барацьба гараджан за ўласныя палітычныя і грамадзянскія правы, перадусім, – за захаванне гарадскога самакіравання.

Твор надзвычай цікавы і тым, што ў ім знайшлі адлюстраванне першыя, яшчэ ледзь заўважныя праявы палітычнай пераарыентацыі Смаленска ўжо ў першай палове XV ст. з Вільні на Маскву, аб чым сведчыць запрашэнне смалянамі ў якасці новага ваяводы князя Андрэя Дзмітрыевіча Дарагабужскага, а затым прызнанне сваім гаспадаром князя Юрыя Лынгвеневіча, які паходзіў з Ноўгарада Вялікага. Прывядзенне да прысягі смалянаў ваяводам Андрэем Саковічам у перыяд безуладдзя ў ВКЛ, пра што падрабязна пішацца ў творы, таксама дыктавалася імкненнем перашкодзіць росту сепаратных настрояў у горадзе.

Пераклад "Аповесці пра паўстанне ў Смаленску" ажыццёўлены паводле Супрасльскага летапісу. Гл.: ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 60.

## Аповесць пра паўстанне ў Смаленску

У 1440 годзе было ўчынена вялікае злачынства ў Вялікім Княстве Літоўскім. На вербную нядзелю, перад абедам, у Троках забілі вялікага князя Жыгімонта.

Паўсюдна ў краіне ўспыхнулі беспарадкі.

У той час ў Смаленску ўладу трымаў Жыгімонтаў стаўленік – Андрэй Саковіч. Ён пачаў прыводзіць смалянаў да прысягі. Ваявода патрабаваў ад гараджанаў:

– Вы павінны пакорліва чакаць, пакуль князі і паны будуць абіраць гаспадара на вялікае княжанне. Вам нельга пакідаць Вялікага Княства Літоўскага і выходзіць з-пад улады вялікага князя, а тым болей – далучацца да іншых земляў. Вы мусіце цалаваць крыж мне, як вашаму ваяводзе, і падпарадкоўвацца маёй уладзе, пакуль у Вільні на вялікае княжанне не ўзыдзе новы манарх.

Смаленскі епіскап Сімяон, усе князі, баяры, месцічы і чорныя людзі цалавалі крыж на вернасць ваяводзе Андрэю Саковічу, падпарадкоўваючыся яго ўладзе.

Але праз пэўны час, на святым тыдні, у сераду, чорныя людзі – кавалі, кажамякі, шаўцы, мяснікі, кацельнікі – пераступілі крыжацалаванне і пастанавілі прагнаць ваяводу Андрэя Саковіча з горада. Яны адзелі кальчугі, узялі ў рукі суліцы, лукі са стрэламі, косы, сякеры і ўдарылі ў звон.

Пан Андрэй Саковіч пачаў радзіцца са смаленскімі баярамі.

Баяры параілі ваяводу:

– Загадай, пане, сваім дваранам узбройвацца. А мы з табою. Не трапляць жа нам у іх рукі жывымі!

І выступілі вайсковыя аддзелы ваяводы Андрэя Саковіча на конях, узброеныя дзідамі, супраць чорных людзей.

Сутычка адбылася каля гарадка Барыса і Глеба. Шмат паўстанцаў было заколата дзідамі, паўсюль стагналі параненыя. Астатнія збеглі пад націскам вайсковых аддзелаў Андрэя Саковіча.

Праўда, у тую ж ноч ваявода Андрэй Саковіч пакінуў Смаленск, забраўшы з сабой сваю сям'ю. Разам з ім ад'ехалі і яго баяры.

Пасля ад'езду ваяводы ў Смаленску зноў выбухнула грандыёзнае паўстанне. Чорныя людзі злавілі смаленскага маршалка Петрыка і затапілі яго ў Дняпры. Затым смаляне абралі сабе ваяводу – князя Андрэя Дзмітрыевіча Дарагабужскага.

У гэты час Паны-Рада Вялікага Княства Літоўскага, князі і паны ўсяго гаспадарства пасля працяглых узгад-

ненняў абралі вялікім князем каралевіча Казіміра. Урачыста і з ушанаваннем ён быў узведзены ў Вільні на вялікае княжанне і абвешчаны гаспадаром усёй Рускай зямлі.

Каля таго часу князь Юрый Лынгвеневіч прыйшоў у Літву з Ноўгарада. Вялікі князь Казімір даў яму ў гаспадаранне вотчыну – горад Мсціслаўль.

Неўзабаве смаленскія баяры, што пакінулі горад з ваяводам Саковічам, захацелі вярнуцца ў Смаленск. Але чорныя людзі не пусцілі іх у горад. Баяры раз'ехаліся па сваіх вёсках.

Праз пэўны час баяры і чорныя людзі зноўку сышліся ў крывавай бойцы.

Тады смаляне паклікалі да сябе гаспадаром акурат князя Юрыя Лынгвеневіча. Князь Юрый узяў у палон смаленскіх баяраў, закаваў іх у ланцугі, а іх маёнткі раздаў сваім баярам.

Увосень таго ж года, на Піліпавы запусты, пад Смаленск былі падцягнуты ўрадавыя войскі Вялікага Княства Літоўскага. Паўтары тыдні яны трымалі горад у аблозе, спалілі мноства пасадаў, цэркваў і манастыроў, пасеклі безліч народу, шмат людзей узялі ў палон.

Вялікае зло ўчынілі ўрадавыя войскі, а затым адышлі прэч.

# ЛЕТАПІС КНЯЖАННЯ КАЗІМІРА ЯГАЙЛАВІЧА

"Летапіс княжання Казіміра Ягайлавіча" – умоўная назва гістарычных навел, у якіх распавядаецца пра асобу і чыннасць вялікага князя Казіміра Ягайлавіча (1427–1492). Гэты манарх займаў пасаду гаспадара ВКЛ вельмі працяглы час, з 1440 да 1492 г. З асобай вялікага князя Казіміра звязаны канчатковы разгром адвечнага заходняга ворага ВКЛ – Тэўтонскага ордэна, а таксама прыняцце "Судзебніка" 1468 г. – першага агульнадзяржаўнага Крымінальнага кодэкса.

"Летапіс княжання Казіміра Ягайлавіча" захаваўся ў складзе Супрасльскага летапісу, Летапісу Рачынскага, а таксама ў Слуцкім і Акадэмічным летапісах. Структурна твор складаецца з сямі навел.

У "Летапісе княжання Казіміра Ягайлавіча" акцэнт зроблены на ўскладненні міждзяржаўных адносінаў паміж ВКЛ і Маскоўскім княствам пачынаючы з сярэдзіны XV ст. Пісьменнік падае дакладныя звесткі пра вайсковыя кампаніі, пералічвае асноўныя бітвы паміж варагуючымі бакамі, прыгадвае падпісанне мірных пагадненняў. У цэлым твор яскрава і аб'ектыўна паказвае тагачаснае суперніцтва паміж Вільняй і Масквой за палітычнае лідэрства на ўсходнеславянскіх абшарах.

Аўтар "Летапісу..." відавочна асуджае канфлікты і вайсковыя сутычкі паміж славянскімі народамі. Не выпадкова ён з сімпатыяй паведамляе пра ўзаемную прысягу манархаў заўсёды жыць у згодзе і асабліва вітае падпісанне ў 1447 г. "вечнага міру" паміж дзяржавамі. Летапісец, відаць, падтрымліваў ідэю далучэння Наўгародскай Рэспублікі да Вялікага Княства Літоўскага, якую вылучылі і спрабавалі рэалізаваць на практыцы вольналюбівыя жыхары Вялікага Ноўгарада.

Пры характарыстыцы галоўнага персанажа твора – Казіміра Ягайлавіча – пісьменнік аддае перавагу сціслым даведкам і кароткай інфармацыі. Так, ён распавядае пра час і гістарычныя акалічнасці ўзыходжання Казіміра на трон ВКЛ у 1440 г., а таксама пра яго каранацыю ў Польшчы ў 1447 г. Сярод важнейшых справаў манарха ў "Летапісе..." адзначана вайсковая кампанія 1445 г., накіраваная

на абарону ВКЛ. У заключнай навеле аўтар паведамляе дату і месца смерці Казіміра, змяшчае падрабязныя звесткі аб яго спадчынніках – шасці сынах, а таксама дае агульную ацэнку княжання Казіміра, адзначыўшы, што ён доўга і "шчасліва гаспадарыў", зрабіў безліч карысных спраў для краіны, застаўшыся ў памяці народа ўзорным манархам.

Узнаўленне і пераклад "Летапісу княжання Казіміра Ягайлавіча" выкананы паводле Супрасльскага летапісу (ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 60) і Летапісу Рачынскага (ПСРЛ. М., 1980. Т. 35. С. 165–166).

## Летапіс княжання Казіміра Ягайлавіча

### I

У 1440 годзе ад Божага нараджэння князі, паны і ўсе землі Вялікага Княства Літоўскага параіліся і ўзялі сабе вялікім князем Казіміра Ягайлавіча, каралеўскага сына.

З вялікім ушанаваннем Казімір быў узведзены на трон у сталічных гарадах – Вільні і Троках. Яго ўрачыста абвясцілі гаспадаром усяго Вялікага Княства Літоўскага і Рускага.

У той час з Ноўгарада ў Літву прыйшоў князь Юрый Лынгвеневіч. Вялікі князь Казімір даў яму яго бацькаўшчыну – горад Мсціслаўль.

### II

У 1445 годзе вялікі князь Казімір уступіў у вайну з вялікім князем маскоўскім.

Маскоўскія войскі і татарскія загоны заваявалі ўсю Вяземскую зямлю.

Узімку таго ж года Казімір накіраваў сваіх ваяводаў, князёў і паноў, каб яны захапілі Маскоўскае княства. Войскі Казіміра ўзялі і падпарадкавалі Казельск, Вярэю, Калугу і Мажайск. Шмат шкоды яны прычынілі Маскоўскай зямлі, павялі ў палон мноства людзей.

Масквічы склікалі вялікае войска, звыш 50 000, і пагналіся ў пагоню за літвою. Дагналі літоўскія харугвы і моцна з імі біліся.

Бог паспрыяў літве. Маскоўскае войска было ўшчэнт разгромлена. Шмат маскоўскіх ваяроў трапіла жывымі ў палон. Іх прывялі ў Смаленск да вялікага князя Казіміра.

Так учынілі вялікаму князю гонар, а сабе здабылі славу!

III

У 1447 годзе, праз тры гады пасля смерці польскага караля Уладзіслава, забітага пад Варнаю, палякі запрасілі Казіміра Ягайлавіча на пасад польскага караля.

Каранавалі Казіміра ў Кракаве на свята Яна Хрысціцеля. Гэтак Казімір Ягайлавіч стаў каралём польскім, вялікім князем літоўскім, рускім і жамойцкім.

IV

У тую ж восень 1447 года, на Піліпавы запусты, войскі Вялікага Княства Літоўскага прыйшлі пад Смаленск. І стаялі пад Смаленскам паўтары тыдні. Спалілі шмат цэркваў і горад. Вялікае мноства людзей пасеклі. Манастыры таксама спалілі. Шмат шкоды прычынілі Смаленскай зямлі.

А князь Юрый, яшчэ перад іх прыходам да Смаленска, спалохаўшыся, збег у Маскву.

V

У тым жа 1447 годзе вялікі князь Казімір і маскоўскі князь падпісалі замірэнне. Яны прысягнулі адзін другому, каб паміж іх землямі быў спакой.

VI

Казімір Ягайлавіч – кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі, – шчасліва панаваў на сваіх землях. Ён меў шэсць сыноў – Уладзіслава, Казіміра, Альбрэхта,

Аляксандра, Жыгімонта і Фрыдэрыка. Старэйшы сын Уладзіслаў спачатку стаў каралём чэшскім, а затым каралём венгерскім.

## VII

У 1492 годзе кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір Ягайлавіч памёр у Гародні.

Ён шчасліва гаспадарыў на Польскім Каралеўстве 45 гадоў, а на вялікім княжанні літоўскім знаходзіўся 52 гады, бо спачатку ён заняў трон у Вялікім Княстве Літоўскім, а толькі праз сем гадоў – у Польскім Каралеўстве.

# ХРОНІКА ПАДЗЕЙ І ЗДАРЭННЯЎ ЗА ЧАСАМІ КНЯЖАННЯ КАЗІМІРА ЯГАЙЛАВІЧА

Казімір Ягайлавіч (1427–1492) – надзвычай яркая постаць у гісторыі Беларусі эпохі Сярэднявечча. Пры ім адбылося значнае ўмацаванне ВКЛ, паглыбіліся працэсы цэнтралізацыі краіны.

У часы княжання Казіміра Ягайлавіча былі дасягнуты істотныя поспехі ў сферы ўрэгулявання міжнародных адносінаў. Перыяд яго гаспадарання адзначаны развіццём шматвектарнай знешняй палітыкі ВКЛ і выключнай дыпламатычнай актыўнасцю. Плённыя міжнародныя дачыненні садзейнічалі росту знешняга гандлю ВКЛ з суседнімі краінамі. Казімір зрабіў вельмі шмат, каб спыніць разбоі на межах, якія перашкаджалі гандлю і ўзаемакарысным гаспадарчым дачыненням з замежнымі краінамі.

Вялікі князь спрыяў развіццю і ўмацаванню шляхецкай дэмакратыі, пры ім істотна ўзрасла роля з'ездаў і соймаў. Казімір Ягайлавіч прыклаў шмат намаганняў для ператварэння ВКЛ у прававую дзяржаву, ён выдаў першы агульназемскі "Судзебнік" (1468), які ўтрымліваў важныя нормы крымінальнага і грамадзянскага права.

Казімір актыўна спрычыніўся да абароны славянскіх земляў ад турэцкай агрэсіі, паводле яго загаду 30-тысячны вайсковы корпус ВКЛ браў удзел у бітве з туркамі пад Сучавай.

Дзейнасць Казіміра Ягайлавіча знайшла шырокае адлюстраванне на старонках беларускіх летапісаў і хронік. Найбольш яркім творам, у цэнтры якога знаходзіцца асоба Казіміра, з'яўляецца "Хроніка падзей і здарэнняў за часамі княжання Казіміра Ягайлавіча" – унікальны помнік беларускага пісьменства і гістарыяграфіі, які ахоплівае перыяд ад 1440 да 1492 г.

Як паказвае семантыка "Хронікі...", яе асноўныя мікранавелы ствараліся пры жыцці вялікага князя яго сучаснікам і ўдзельнікам тагачасных падзей. На старонках твора аўтар паўстае як гарачы патрыёт Вялікага Княства Літоўскага. Ён нязменна абураецца беспадстаўнымі тэрытарыяльнымі прэтэнзіямі палякаў, адстойвае інтарэсы грамадзянаў ВКЛ.

Стваральнік "Хронікі...", відаць, браў удзел у вайсковай кампаніі 1481 г. супраць турак, аб чым сведчыць змест твора. Пісьменнік,

напэўна, быў асобай, набліжанай да князя Сямёна Алелькавіча – праўнука Альгерда, бо ён піша пра яго з асаблівай сімпатыяй, падкрэслівае мецэнацкую шчодрасць князя, ухваляе спробу магнатаў ВКЛ узвесці Сямёна Алелькавіча на трон вялікага князя ВКЛ.

Галоўны герой "Хронікі..." – вялікі князь *Казімір*. Пісьменнік асвятляе абставіны ўзыходжання яго на трон ВКЛ у 1440 г., а таксама ролю манарха ў ажыццяўленні ўнутранай і знешняй палітыкі краіны. Храніст паказвае ўдзел Казіміра ў важнейшых падзеях дзяржаўнага жыцця. У "Хроніцы..." адзначаецца ўдзел Казіміра ў падаўленні паўстання ў Смаленску ў 1443 г., некалькіх войнах з Маскоўскім княствам.

Вялікі князь Казімір на старонках "Хронікі..." паўстае як надзвычай спагадлівы манарх, які няспынна дбаў пра грамадскае замірэнне і палітычную кансалідацыю ў дзяржаве. Так, ён вярнуў Алельку Уладзіміравічу, унуку Альгерда, бацькоўскі ўдзел – Кіеўскае княства. Казімір выявіў чуллівасць і спачуванне да Свідрыгайлы, прагнанага Жыгімонтам з краіны. Ён не толькі дазволіў Свідрыгайлу вярнуцца на радзіму, але і перадаў яму ў пажыццёвае карыстанне Луцкую зямлю. Нарэшце, Казімір вярнуў у ВКЛ з Мазовіі князя Міхаіла Жыгімонтавіча і таксама перадаў яму бацькаўшчыну – Северскую зямлю, Бранскае і Старадубскае княствы.

Але на старонках "Хронікі..." пісьменнік рэзка асуджае бяздзейнасць і нядбальства Казіміра, які дазволіў маскоўскім войскам у 1471 г. захапіць Вялікі Ноўгарад, які тады належаў ВКЛ.

У вельмі прывабным святле на старонках твора малюецца князь *Сямён Алелькавіч*. Пісьменнік распавядае пра яго дабрачынную дзейнасць, накіраваную на аднаўленне праваслаўных храмаў.

Вобраз шляхціча *Вола* – вельмі яркі і запамінальны. Пісьменнік адзначыў яго мужнасць і самаахвярнасць у бітве з крыжакамі, вернасць каралю і вялікаму князю.

Храніст шмат увагі надаваў асвятленню *ўнутрыпалітычнага жыцця* ВКЛ і Польшчы. У творы найперш раскрываюцца падзеі некалькіх буйных соймаў: 1450 г. ў Пётркаве, 1452 г. ў Парчове, 1454 г. у Пётркаве. Храніст акцэнтаваў увагу пераважна на характары і ўмовах склікання і правядзення соймаў, пералічыў пытанні, вакол якіх адбываліся дыскусіі, згадаў асноўных удзельнікаў соймаў.

На старонках "Хронікі..." змешчаны ўнікальны сюжэт аб неардынарным палітычным праекце ўзвядзення магнатамі ВКЛ на вялікае княжанне Сямёна Алелькавіча замест Казіміра Ягайлавіча. Як вынікае з твора, ядро ўплывовай магнацкай групоўкі ўтваралі віленскі ваявода Ян Гаштаўт, астрожскі князь Юрый, полацкі намеснік Аляксандр Судзімонтавіч.

“Хроніка...” адлюстравала складаныя ўнутрыпалітычныя працэсы цэнтралізацыі ўлады ў ВКЛ пры Казіміры. Так, пісьменнік распавёў пра акалічнасці пераўтварэння каля 1475 г. амаль аўтаномнага Кіеўскага княства ў ваяводства з прызначэннем туды адданага манарху ваяводы Марціна Гаштаўта.

У “Хроніцы...” асвятляюцца *міжнародныя адносіны ВКЛ.* Сярод важнейшых падзей адзначаецца добраахвотны пераход Прускай зямлі пад уладу караля і вялікага князя Казіміра. Прычынай таму, як вынікае з твора, паслужыў моцны ціск з боку нямецкіх крыжакоў на жыхароў Прусіі, невыносна цяжкія падаткі і павіннасці, ускладзеныя на іх.

“Хроніка...” утрымлівае шматлікія звесткі пра *вайсковыя кампаніі і войны.* Вельмі дэталёва распавядаецца пра вайсковую паразу ВКЛ ад крыжакоў адразу пасля далучэння Прусіі. Пісьменнік акцэнтуе ўвагу на паводзінах Казіміра падчас баталіі, паведамляе пра выратаванне вялікага князя ад немінучай гібелі беларускім жаўнерам Волам.

Значнае месца ў творы займае батальная сцэна аблогі войскамі ВКЛ каля 1465 г. крыжацкага замку Гойніцы. Пісьменнік дэталёва паказаў, як разгортваліся баявыя дзеянні за горад, які ўрэшце перайшоў пад уладу Казіміра. Пасля страты Гойніцы немцы папрасілі “вечнага міру”, які неўзабаве і быў падпісаны.

Пісьменнік адлюстраваў падзеі *нападу заволжскіх татараў* на землі ВКЛ каля 1467 г. на чале з іх царом Маняком. Ён адзначыў вялікія разбурэнні, учыненыя татарамі, і ўказаў пра іх разгром валашскім ваяводам Стафанам.

Палітычныя працэсы ў суседнім Маскоўскім княстве з'яўляліся прадметам пільнай увагі беларускага храніста. Ён намаляваў жахлівае паняволенае становішча маскоўскіх князёў, якія залежылі ад татараў.

У “Хроніцы...” знайшлі адлюстраванне *тэрытарыяльныя канфлікты* ВКЛ з Маскоўскім княствам. Аўтар распавядае пра разгром харугвамі ВКЛ маскоўскіх войскаў каля 1445 г. і падпісанне замірэння паміж Казімірам і Васілём Цёмным. На старонках твора храніст з абурэннем паведамляў пра захоп маскоўскімі войскамі Вялікага Ноўгарада, які на той момант знаходзіўся пад пратэктаратам ВКЛ.

З вялікім шкадаваннем і горыччу пісьменнік пісаў пра пераход северскіх князёў, разам з іх княствамі, пад уладу маскоўскага князя Івана Васільевіча. Паводле яго слоў, прычынай паслужылі недарэчныя паводзіны ахоўнікаў Казіміра, якія не прапусцілі северскіх князёў да манарха.

Значнае месца ў "Хроніцы..." займае сюжэт пра пераможную вайсковую кампанію аб'яднаных сіл ВКЛ, Польшчы і Валашскага княства супраць *турэцкай агрэсіі* каля 1481 г. Паводле твора, Валашская зямля пасля перамогі над туркамі, у адпаведнасці з дамовай, перайшла пад пратэкцыю Казіміра.

Пісьменнік скупымі радкамі распавёў пра трагедыю Кіева, спаленага татарамі ў 1482 г. Багаты горад, па словах аўтара, застаўся пустым. Татары няшчадна пасеклі безліч людзей, шмат каго павялі ў няволю. Ваявода Іван Хадкевіч з сям'ёй таксама трапіў у палон.

Храніст раскрыў надзвычай складаныя і супярэчлівыя дачыненні паміж беларускімі і польскімі панамі. Так, ён з абурэннем распавядаў пра спробу палякаў узяць у палон найбольш уплывовых магнатаў ВКЛ на Парчоўскім сойме ў 1450 г. з тым, каб потым далучыць абшары ВКЛ да Польскага Каралеўства.

У "Хроніцы..." ў цэлым гістарычна праўдзіва адлюстраваны змены адміністрацыйна-тэрытарыяльных межаў ВКЛ, страты і набыткі земляў, гарадоў, замкаў.

У асвятленні важных гістарычных падзей аўтар "Хронікі..." выступіў як пісьменнік-наватар. У творы паказана ўзрастанне ролі магнатаў, урадаўцаў і шляхты ў палітычным і грамадскім жыцці краіны. Пісьменнік не толькі распавядаў пра ўчынкі вялікага князя, але даволі часта акцэнтаваў увагу акурат на дзейнасці ўплывовых асобаў ВКЛ – магнатаў, гетманаў, ваяводаў.

Узнаўленне і пераклад твора выкананы паводле "Хронікі Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага" (ПСРЛ. М., 1975. Т. 32. С. 85–95).

## Хроніка падзей і здарэнняў за часамі княжання Казіміра Ягайлавіча

### I

Пасля забойства вялікага князя Жыгімонта ў Вялікім Княстве Літоўскім пачаліся страшэнныя забурэнні.

Адны прапаноўвалі на вялікае княжанне Жыгімонтава сына – Міхаіла, другія – Свідрыгайлу, трэція – кіеўскага і капыльскага князя Алельку Уладзіміравіча, чацвёртыя – Казіміра Ягайлавіча, які на той час знаходзіўся ў Сандаміры.

Баляслаў разам са шматлікімі польскімі панамі, узяўшы грошы з кароннага скарбу, павёў Казіміра ў Вялікае Княства Літоўскае на каранацыю. Жаўнеры колькасцю дзве тысячы чалавек увайшлі ў Вільню і каранавалі Казіміра біскупскай мітрай.

Казіміра ўзвялі на княжанне, калі ён меў 13 год веку.

Міхайла – сын Жыгімонта, калі дазнаўся, што Літва ўзяла з Польшчы Казіміра за гаспадара, – збег з Троцкага замку ў Мазовію да сваёй цёткі княгіні Мазавецкай.

II

У 1443 годзе смаляне захапілі замак і выгналі літву. Яны ўзялі сабе за пана Юрыя Мсціслаўскага.

Казімір даведаўся пра паўстанне ў Смаленску і накіраваў туды вайсковыя аддзелы [увосень 1443 г. – *І. С.*]. Урадавыя войскі ўзялі горад і спалілі яго. А неўзабаве яны авалодалі і Смаленскім замкам.

Потым Казімір пайшоў на мазавецкага князя Баляслава. Ён захапіў Бельск, Мельнік і Драгічын.

III

У 1445 годзе вялікі князь маскоўскі, не губляючы часу і зручнага моманту, склікаў агромністае войска, запрасіў да хаўрусу казанскага цара і пайшоў на Вязьму, якая тады належала Вялікаму Княству Літоўскаму. Маскоўскія войскі руйнавалі і палілі навакольныя воласці.

Вялікі князь літоўскі Казімір у адказ сфармаваў войска, наняўшы за грошы літоўскіх, жамойцкіх і польскіх жаўнераў. Гетманам над войскам Казімір прызначыў *Станіслава Кішку*, які накіраваў харугвы супраць маскоўскага войска. Сам Казімір заставаўся ў Смаленску.

Харугвы Станіслава Кішкі не змаглі, аднак, дагнаць маскоўскага войска, бо іх гетманы імкліва адвялі жаўнераў з тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага.

Затым Кішка ўварваўся ў Маскоўскую зямлю. Ён разбураў, паліў і няшчадна сцінаў людзей. Замкі Мажайск, Казельск, Вярэю і Калугу спаліў і спустошыў.

Неўзабаве маскоўскае войска ў колькасці 15 тысяч жаўнераў выступіла насустрач Кішку. Гетман вырашыў біцца з імі. Ён схаваў у адмысловых засадах харугвы Зяновіча і двух Радзівілаў. Масква, спадзеючыся на колькасную перавагу свайго войска, смела ўдарыла на літву. Кішка загадаў харугвам адступаць і павёў ворага ў пастку – на засады Зяновіча і Радзівілаў. У адпаведным месцы Кішка разввярнуў сваё войска і атакаваў маскву. Адначасна харугвы Зяновіча і Радзівілаў атакавалі з бакоў. Маскоўскае войска не вытрывала ціску і пачало ў паніцы разбягацца па лясах і палях. Літва гнала іх дзве мілі – секла, калола, забівала, брала ў палон.

Войска Кішкі захапіла вельмі шмат вязняў і з трыумфам вярнулася ў Смаленск да князя Казіміра.

Тая бліскучая перамога над Маскоўскім княствам адбылася ў адсутнасць маскоўскага цара, які з асноўнымі сваімі сіламі пайшоў на татарскага хана Махмета. А сын яго быў пад Мурамам.

Пад Суздалем, непадалёк ад манастыра, татары ўшчэнт разгрмілі маскву. Цар з невялікай дружынай ледзьве ўцёк.

Пацярпеўшы дзве паразы запар, Васіль мусіў прасіць замірэння ў вялікага князя Казіміра. Яны ўчынілі ўзаемныя прысягі, пакляліся захоўваць мір і не ваяваць адзін супраць другога.

## IV

У той жа год [1445 г. – *І. С.*] Алелька Уладзіміравіч разам з сынамі Сямёнам і Міхаілам урачыста прыехаў у Вільню да вялікага князя Казіміра. Алелька з'яўляўся ўнукам Альгерда. У ягонага бацькі – Уладзіміра Альгердавіча – Вітаўт беспадстаўна адабраў удзельнае Кіеўскае княства. Алелька Уладзіміравіч выступіў у сенатарскім коле, дбаючы

пра вяртанне сваёй спадчыны – горада Кіева. Казімір палічыў довады Алелькі слушнымі і, паводле парады сваіх паноў, вярнуў яму Кіеў з усімі прыгарадамі як яго бацькаўшчыну.

У той жа час Свідрыгайла – колішні князь літоўскі, выгнаны Жыгімонтам, – жыў у вялікай нястачы ў Валахіі. Ён усё страціў і прасіў Казіміра дазволу вярнуцца ў Літву, каб той выявіў да яго ласку і даў месца для пражывання. Казімір перадаў яму, як свайму стрыю, у пажыццёвае валоданне места Луцк з усёй воласцю.

Вялікі князь Казімір накіраваў ганца да князя Міхаіла Жыгімонтавіча ў Мазовію з прапановай, каб той смела вяртаўся дадому ў Вялікае Княства Літоўскае. Міхаіл Жыгімонтавіч паверыў слову і абяцанням манарха і вярнуўся ў Літву. Казімір паразумеўся з ім і аддаў яму ўладанні яго бацькі – Северскую зямлю, Бранскае і Старадубскае княствы.

## V

У 1444 годзе кароль польскі і венгерскі Уладзіслаў Ягайлавіч быў забіты туркамі пад Варнай. Палякі абралі на Польскае Каралеўства ягонага брата – вялікага князя літоўскага Казіміра.

Каранаванне Казіміра адбылося ў 1447 годзе ў Кракаўскім замку.

Палякі не шмат атрымалі ад Казіміра. Дзеля ўласнай пыхлівасці і надзьмутасці яны, аднак, доўга сеймавалі з-за Валыні і Падолля. Але літоўскія паны лічылі валынскія і падольскія землі ўласнай спадчынай, таму абаранілі іх ад прэтэнзій палякаў.

Казімір быў больш прыхільны да Літвы, чымсьці да палякаў. Па прычыне ляшскай фанабэрлівасці вялікі князь і кароль часцей знаходзіўся ў Літве, а не ў Польшчы, бавячы час на ловах.

## VI

У 1450 годзе надта занядужаў князь Свідрыгайла Альгердавіч, брат Ягайлы. Ён памёр у Луцку. Перад смерцю князь Свідрыгайла распарадзіўся перадаць Луцкі замак пад уладу Вялікага Княства Літоўскага. Літва неўзабаве прыехала ў Луцк і з вялікай радасцю забрала горад.

У той жа час памёр князь Міхаіл Жыгімонтавіч.

## VII

У 1450 годзе кароль польскі і вялікі князь літоўскі Казімір склікаў *сойм у Пётркаве*. Каронныя паслы падчас гэтага сойму звярнуліся да манарха з просьбай склікаць наступны сойм у Парчове і запрасіць на яго польскіх паноў. Палякі задумалі таемна ад Казіміра захапіць літвінаў у палон і пасадзіць іх у вязніцы, а затым далучыць усё Вялікае Княства Літоўскае да Польскага Каралеўства. Перад гэтым палякі падобнае ж ўчынілі з рускімі і перамышльскімі панамі, а затым далучылі Перамышль да Кароны.

Калі літоўскія паны прыехалі на сойм да Парчова, яны разбілі асобны лагер і акапаліся. Два дні запар яны ездзілі на нарады з палякамі. На трэці дзень адзін паляк, Андрэй Гаратынскі, дазнаўся сярод сваіх пра тое, што яны хочуць паланіць літоўскіх паноў. Ён засцярог літвінаў праз віленскага ваяводу Яна Гаштаўта. Літоўскія паны пакінулі сойм і ўцяклі да Берасця.

З таго часу паміж літоўскімі і польскімі панамі паўстала вялікая непрыязнасць.

Літоўскія паслы вярнуліся ў Літву і адаслалі палякам назад усе гербы, якія ўзялі ад іх за часамі княжання Ягайлы. А самі пачалі ўжываць свае ранейшыя гербы і пячаткі.

Неўзабаве пасля Парчоўскага сойму вялікі князь і кароль Казімір гэтаксама прыехаў у Літву на ловы.

## VIII

У 1453 годзе кароль Казімір склікаў супольны сойм для палякаў і літвы ў *Парчове.* Але літоўскія паны не паехалі туды, асцерагаючыся здрадлівых выбрыкаў з боку палякаў.

На тым сойме польскія паны надта ціснулі на Казіміра, патрабуючы, каб ён пацвердзіў іх правы і вольнасці. Казімір пачуваўся вельмі залежным ад палякаў, але ён адмовіўся выконваць іх просьбы, спаслаўшыся на пагрозы яго жыццю і небяспеку адарвання Літвы ад Кароны.

Кароль і вялікі князь Казімір угаварыў польскіх паноў адкласці выкананне іх просьбаў на год, паабяцаўшы пазней перадаць ім Луцк і некаторыя іншыя замкі, а таксама перанесці ў Польшчу скарб Вялікага Княства Літоўскага.

Польскія паны і біскупы прымусілі Казіміра пацвердзіць яго абяцанне пісьмова і замацаваць уласнай пячаткай і ўласнаручным подпісам. Да таго ліста палякі гэтаксама прыклалі свае пячаткі і перадалі дакумент гнезненскаму арцыбіскупу на захаванне. А затым яны ад'ехалі з сойму.

## IX

У 1454 годзе Казімір зноўку склікаў сойм для палякаў і літвы ў *Пётркаве.* Літва не з'явілася туды. Гнезнінскі арцыбіскуп агучыў папярэднія абяцанні Казіміра, у якіх той абяцаў перадаць Польшчы некаторыя замкі, што належалі Вялікаму Княству Літоўскаму. Каронныя паны запатрабавалі ад караля, каб ён неадкладна выканаў дадзенае слова.

Кароль папрасіў адзін дзень для роздуму, а затым адказаў ім:

– Мне не выпадае цяпер прыносіць прысягі, што супярэчыла б маёй ранейшай клятве, якую я даў літве, калі мяне абіралі на Вялікае Княства Літоўскае. Таму тут кажу вам не як кароль, а як вялікі князь.

Польскім панам словы вялікага князя падаліся непераканальнымі, падазронымі і падманнымі. Яны з новай сілай пачалі налягаць на Казіміра, падключыўшы ягоную матку

Соф'ю. Яна патрабавалі суняць калатнечу, пакінуць камуколвек Вялікае Княства Літоўскае, засяродзіцца выключна на справах Кароны, а літвякоў ад сябе аддаліць і адмовіцца ад клятвы, дадзенай ім раней.

Паны не толькі настойліва прасілі Казіміра, але нават пагражалі яму. Абураны настырнасцю палякаў, іх здзеклівымі пагрозамі, Казімір пакінуў Пётркаўскі сойм. Ён крыху пажыў у Кракаве, а затым ад'ехаў на Літву.

## X

У той жа год [1454 г. – *І. С.*] *Пруская зямля* перайшла пад уладу Казіміра. Жыхары Прусіі не жадалі далей падпарадкоўвацца крыжакам і нямецкім кантарам, якія чынілі вялікія крыўды шляхце і месцічам, невыносна прыцясняючы іх.

Кароль і вялікі князь Казімір з Ленчыцы паехаў у Прусію з вялікім і аздобленым початам каронных паноў. У Toруню, Вельбіёнгу і Гданьску ён прымаў прысягі на вернасць ад урадаўцаў, шляхты і гарадоў паводле заведзенага абраду.

Манарх вызваліў новых падданых ад усіх падаткаў на воды і землі. Гданчанам, якія прынялі яго вельмі ўрачыста, Казімір дараваў семсот грывень з мескіх прыбыткаў. Раней яны штогод плацілі іх крыжакам. Вялікі князь і кароль перадаў гданчанам усе гарадскія млыны і Малую Зулаву, а таксама землі ўздоўж Віслы, каля мора і гораў. За сабой ён пакінуў толькі 13 вёсак і два фальваркі.

На ўсю маёмасць, перададзеную гданчанам, Казімір устанавіў невялікі падатак памерам 2 000 залатых чырвоных, хаця раней яны плацілі за гэта 6 000 залатых чырвоных. У абавязкі гданчанаў было запісана ўтрымліваць уласным коштам караля з яго дваром цягам трох дзён у выпадку, калі ён наведае горад. Гданчаны павінны былі аднавіць заняпалы замак, узвесці для караля раскошны палац, пабудаваць стайню і амбар для захавання збожжа.

## XI

Як толькі Казімір узяў пад сваю абарону Прускую зямлю, ён адразу распачаў *вайну з крыжакамі*. Казімір заваяваў Бродніцу і Мальбарк, а Каралевец акружыў. Літва выставіла ў дапамогу палякам 5 тысяч конных рыцараў.

Крыжацкі магістр Людвіг сабраў вялікае войска і ўдарыў на палякаў і літву. Палякі і літва гэтаксама ўдарылі з двух флангаў. Але атака палякаў захлынулася, бо большасць польскіх жаўнераў не мела вопыту ўдзелу ў пабаявішчах. Калі яны ўбачылі ўзброеныя шыхты крыжакоў, дык адразу павярнулі назад. Кароль Казімір гучна крычаў, каб жаўнеры пачыналі біцца, а не давалі волі нястрыманым нагам. Але палякі не слухаліся і ў паніцы разбягаліся. Казімір нічога не мог зрабіць і таксама мусіў уцякаць са сваім атачэннем.

Падчас уцёкаў Казімір заблудзіўся. Да яго прыбіўся нейкі літоўскі шляхціч *Вол*. Немцы даганялі ўцекачоў і ледзь не ўзялі іх у палон разам з каралём і вялікім князем. Казімір схаваўся на балоце. Літоўскі шляхціч Вол расклаў перад сабой стрэлы, браў іх і трапна біў па немцах. Некалькі крыжакоў Вол параніў, у выніку чаго нямецкая пагоня спынілася, не асмельваючыся далей налягаць. Крыжакі зразумелі, што не змогуць малымі сіламі паланіць Казіміра, таму павярнулі назад.

Казімір тым часам выбраўся з балота пехатой. Як толькі ён ачуняў ад страху, Вол даў вялікаму князю і каралю свайго каня-валаха. Каралеўскі дрыгант быў надта ж спрацаваны. Гэтак шляхціч Вол з каралём Казімірам уцяклі ад нямецкай пагоні і выратаваліся ад смерці.

Немцы прывязвалі трупы забітых палякаў за ногі, валаклі іх канямі да ракі і кідалі ў ваду, што супярэчыла вайсковаму звычаю.

Крыжакі захапілі ўвесь абоз, у якім налічвалася 4 000 вазоў рознага скарбу.

## XII

У тым годзе [1454 г. – *І. С.*] памёр Алелька Уладзіміравіч – кіеўскі і капыльскі князь, вельмі мудры чалавек, надта ўвішны ва ўсіх справах. Ён пакінуў пасля сябе двух сыноў – Міхаіла і Сямёна. Яны захацелі падзяліць бацькаву спадчыну на дзве часткі – Капыльскае і Кіеўскае княствы. Кароль і вялікі князь Казімір разледзеў гэтую справу ў Вільні. Ён не пагадзіўся з братамі і прыняў адмоўнае рашэнне. Казімір прызначыў у Кіеў Сямёна сваім намеснікам. Пазней таго Сямёна літоўскія паны хацелі ўзвесці на Вялікае Княства Літоўскае.

Той дабрачынны князь Сямён Алелькавіч, або Аляксандравіч, унук Уладзіміраў, праўнук Альгерда, нашчадак князёў Слуцкіх быў кіеўскім князем за часамі княжання Казіміра Ягайлавіча. Ледзьве не ад самога фундаменту ён аднавіў на ўласныя сродкі царкву Успення Прачыстай Багародзіцы, што ў Кіеве ў Пячорскім манастыры. Тая царква была пабурана яшчэ Батыем у 1240 годзе і адноўлена менавіта дабрачынным князем Сямёнам Алелькавічам толькі праз 226 год. Князь Сямён загадаў размаляваць яе ад верху да нізу, аздобіў цудоўнымі абразамі, а дах накрыў олавам.

Дзеялася тое пры архімандрыце Іаане. Асвяціў выдатна аздобленую царкву кіеўскі мітрапаліт Сімяон. Ён змураваў у ёй шырокі склеп, дзе і быў пахаваны разам са сваімі нашчадкамі. Няхай ім будзе вечны спакой са святымі!

## XIII

Кароль і вялікі князь Казімір склікаў *сойм у Пётркаве* [1460 г. – *І. С.*], на якім з ра́днымі каронными панамі абмяркоўваў пытанне аб аплаце войску, што ваявала ў Прускай зямлі, бо сабраных падаткаў не хапала.

Сойм пастанавіў: кароль, а таксама ўсе станы духоўныя і рыцарскія ўнясуць у дзяржаўную скарбонку дадаткова палову ад сваіх гадавых падаткаў. Месцічы выплацяць па два

грошы. Сяляне ўнясуць па аднаму грошу з мужчыны і жанчыны. Шляхта, якая не мела падданых, – па 24 грошы.

На сойме былі абраны зборшчыкі, якія мусілі сабраныя грошы накіраваць на дзяржаўныя патрэбы і агульную карысць.

## XIV

У 1462 годзе каронныя паны накіравалі з Пётркаўскага сойму паслоў на Падолле, каб яны адабралі ў Літвы ўсе замкі з жаўнерамі і зброяй, а тамашніх старастаў змусілі прынесці прысягу на вернасць Кароне.

Літоўскія паны са свайго боку накіравалі паслоў да караля Казіміра, нагадваючы яму пра прысягу, якую ён даваў перад ад'ездам з Вялікага Княства Літоўскага на Польскае Каралеўства, – не перадаваць Падольскай зямлі палякам. Літвіны папярэджвалі караля Казіміра, калі ён не стрымае дадзенага ім раней слова, яны не змогуць сцярпець гэтакай крыўды.

У тым жа годзе [1462 г. – *І. С.*] князі, паны і шляхта Вялікага Княства Літоўскага ў вялікай колькасці, абураныя і распаленыя прагай палякаў да Падолля, пастанавілі ўзвесці на Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча замест караля Казіміра.

За Сямёна Алелькавіча выступалі: яго цесць віленскі ваявода Ян Гаштаўт, астрожскі князь Юрый, полацкі намеснік Аляксандр Судзімонтавіч.

На баку караля Казіміра знаходзіліся: троцкі ваявода Мантвід з родзічамі ды іншыя паны і шляхта.

Казімір даведаўся пра забурэнні ў Літве, таму адразу па завяршэнні Пётркаўскага сойму пачаў гатавацца да ад'езду туды. Каронныя паны настойліва ўгаворвалі караля не ехаць у Літву, а застацца з імі і завяршыць прускую справу. Казімір, аднак, не прыслухаўся да іх просьбаў і ад'ехаў у Літву.

У Літве вялікі князь і кароль словамі і абяцаннямі схіляў паноў на свой бок, кляўся вярнуць ім Падолле і астатнія замкі. Казімір шчодра раздаваў маёмасць і пасады. Так ён здолеў адтэрмінаваць час узвядзення Сямёна Алелькавіча на Вялікае Княства Літоўскае. Затым Казімір зноў ад'ехаў у Польшчу, каб закончыць вайну у Прускай зямлі.

## XV

Год 1464. Прускі магістр не меў чым заплаціць сваім жаўнерам, таму ўтрымліваў іх абяцаннямі. Ён мусіў аддаць ім у карыстанне Мальбарк да часу, пакуль не здолее разлічыцца з імі.

Аднак жаўнеры не сталі чакаць. Яны паслалі дэлегацыю да Казіміра, прапануючы яму Мальбарк за адпаведную суму грошаў, якую яны заслужылі ў магістра. Казімір не меў гэтак шмат грошаў. Ён абклаў сваіх падданых данінай, а потым купіў Мальбарк за грошы.

Кароль і вялікі князь прыехаў у горад у атачэнні палякаў. Крыжакі надта шкадавалі аб страце сталіцы, што гэтак няўдала для іх усё сталася.

## XVI

Польскае і літоўскае войска доўгі час ляжала пад *Гойніцай* – крыжацкім местам. 11 верасня [1465 г. – *І. С.*] немцы змаглі вырвацца з места. Нашы пабілі іх, і немцы пачалі ўцякаць. Крыжакі, што засталіся ў горадзе, зачынілі перад імі браму, баючыся, каб нашы не ўварваліся ў горад разам з уцекачамі. Шмат немцаў трапіла ў пастку. Частка іх была забіта, іншых узялі ў палон. Вялікая колькасць узброеных немцаў, што скочылі ў вал, патапілася там.

Літва з руссю стралялі па горадзе запаленымі стрэламі. Амбары са збожжам і чацвёртая частка горада згарэлі.

Убачыўшы памеры разбурэнняў, крыжакі пачалі прасіць літасці ў караля і вялікага князя. Яны здалі Казіміру горад

разам з вайсковым рыштункам і зброяй, абы толькі застацца жывымі.

Крыжацкія ўладары спалохаліся, што ўсе іх падданыя пяройдуць пад уладу Казіміра. Таму яны падпісалі з ім вечны мір.

Да Польскай Кароны адышлі Паморская, Хелмінская і Міхайлаўская землі, за якія цягам 180 год доўжылася вайна.

## XVII

У 1467 годзе на паўночным захадзе на працягу 15 дзён узнікала велічэзная камета. Гэта азначала хуткае з'яўленне татараў. І сапраўды, неўзабаве з-за Волгі прыйшлі заволжскія татары на чале з іх царом Манякам. Татары раздзяліліся на тры загоны: адны накіраваліся ў Літву, другія – на Падолле, трэція – на Луцк і Валынь.

Татары страшэнна спустошылі ўвесь край каля Камянца, Житоміра, Кузміна, Жыватова і Уладзіміра. Яны, аднак, пацярпелі сакрушальную паразу ад валашскага ваяводы Стафана. Толькі невялікая колькасць татараў здолела збегчы разам з іх царом. Старэйшага татарскага царэвіча валахі злавілі і пасеклі на кавалкі.

## XVIII

Пасля смерці князя Сямёна Алелькавіча кароль і вялікі князь Казімір ператварыў Кіеўскае княства ў ваяводства. Ён паслаў у Кіеў сваім ваяводам Марціна Гаштаўта. Аднак кіяўляне не пагадзіліся, палічыўшы за абразу прызначэнне ваяводам асобы не княжацкага паходжання, да таго ж – з літвінаў, якія іх гвалтавалі. Двойчы кіяўляне адмаўляліся прымаць Марціна Гаштаўта, які прыязджаў да іх.

Кіяўляне прасілі манарха, каб ён прызначыў да іх ваяводам князя Міхаіла – Сямёнавага брата, які на той момант з'яўляўся намеснікам у Вялікім Ноўгарадзе. Кіяне пагаджаліся гэтаксама на аднаго з сыноў Казіміра.

Але кароль і вялікі князь настаяў на сваім і даў ім Гаштаўта, загадаўшы прыняць і слухацца яго. Гэткім чынам Кіеўскае княства было ператворана ў ваяводства.

У той жа год Уладзіслава – сына Казіміра – пасля смерці Ірыка каранавалі на Чэшскае каралеўства.

XIX

У 1469 г. туркі спустошылі Валахію. Яны ўварваліся на абшары ажно да Хоценя і на Падолле. Там туркі спалілі колькі паселішчаў.

Казімір, даведаўшыся пра ўварванне турак, адразу ўзняў войскі – польскую і рускую шляхту. Харугвы доўгі час стаялі абозам каля Камянца. Войскі не хацелі рушыць за мяжу ў адсутнасць караля і вялікага князя, але і дадому не асмельваліся вярнуцца. Падоллю яны ўчынілі не меншую шкоду, чымся непрыяцелі.

XX

Год 1471. Вялікі маскоўскі князь Іван Васільевіч, ваяўнічы манарх, згуртаваў агромністае войска і рушыў на Вялікі Ноўгарад, які на той момант належыў Вялікаму Княству Літоўскаму.

Наўгародцы не чакалі аблогі горада, ушыкавалі войскі і далі маскве бой каля рэчкі *Шэлоні*. Але былі ўшчэнт разгромленыя і ледзве ўцяклі назад за сцены горада.

Маскоўскія войскі акружылі Вялікі Ноўгарад і, з-за нядбальства літвінаў і караля Казіміра, у хуткім часе авалодалі горадам.

Іван Васільевіч загадаў жорстка пакараць наўгародцаў, сцяў галовы 300 месцічам. Ён забраў іх багатую маёмасць. А астатнім наўгародцам пакінуў толькі траціну ад іх дабра.

Маскоўскія войскі захапілі скарбонку наўгародскага мітрапаліта, забралі золата, серабро, жэмчуг, каштоўныя камяні. Усяго з Вялікага Ноўгарада ў Маскву вывезлі 300 вазоў скарбу, а таксама каштоўную вопратку і пагналі шмат жывёлы.

## XXI

Той вялікі князь Іван Васільевіч узышоў на сваё вялікае гаспадарства пасля сваіх продкаў. Але ён знаходзіўся ў цяжкай татарскай няволі, моцна залежыў ад тых татараў, якія жылі за Волгай.

Кожны маскоўскі князь цярпеў ад татараў. Калі татарскі пасол або ганец прыязджаў у Маскву за данінай ці па якой іншай справе, дык маскоўскі князь мусіў асабіста выходзіць пешшу насустрач яму, несці кубак з малаком кабылы (татары лічаць яго смачным напоем) і падаваць татарыну, які сядзіць на кані, з нізкімі паклонамі.

Талмачу, які павінен быў чытаць лісты ад татарскага цара, князь падсцілаў на лаўку сабалёў, а сам з раднымі панамі стаяў. Калі талмач пачынаў чытаць, маскоўскі князь з атачэннем мусілі станавіцца на калені і моўчкі ўсё выслухоўваць, нічым не пярэчыць, нават калі татарын загадваў ісці вайной на блізкага прыяцеля ці хрысціяніна.

Іван Васільевіч – адважны рыцар, чалавек мужнага сэрца, не жадаў зносіць цяжкай татарскай няволі і здзекаў. Ён скінуў татарскае ярмо.

Затым маскоўскі князь падпарадкаваў сваёй уладзе прыгранічных і прылеглых рускіх князёў: больш хітрасцю, чымсьці сілай. Іван Васільевіч забраў шмат замкаў, што здавён служылі Літве.

Урэшце, маскоўскі князь апанаваў найбагацейшым і славутым панствам – Вялікім Ноўгарадам, – вельмі людным і шырокім, дзе сяліліся купцы і рамеснікі.

Пасля заваявання Вялікага Ноўгарада маскоўскі князь Іван Васільевіч накіраваў свой погляд на авалоданне ўсімі рускімі і літоўскімі землямі.

Кароль і вялікі князь Казімір не мог з дапамогай вайсковай сілы абараніцца ад акрутнага маскоўскага князя, таму ён загадаў сваім падданым абыходзіцца з ім асцярожна і папрасіў князя Івана аб замірэнні.

Князі Казімір і Іван падпісалі мірнае пагадненне на некалькі гадоў. Вялікі Ноўгарад і княствы, адарваныя ад Літвы, прапалі.

## XXII

[Год 1481]. Турэцкі султан Баязет, калі ўзышоў на трон пасля свайго бацькі, адразу рушыў на Валахію. Ён прагнуў адпомсціць ваяводу Стафану за крыўды і паразу яго бацькі.

Баязет авалодаў Кілеяй і Белгарадам, хаця панёс значныя людскія страты. Затым ён разбурыў усю Валашскую зямлю, але не авалодаў ёю, бо Стафан схаваўся ў лясах і гарах, адкуль раптоўна нападаў і нішчыў шмат турак.

Тым часам ваявода Стафан накіраваў пасла да Казіміра, просячы яго дапамогі ў вайне з туркамі. Наўзамен ён абяцаў Казіміру прынесці прысягу на вечную вернасць і падпарадкаванне разам са сваімі нашчадкамі.

Казімір не хацеў выпускаць такой ўдачы. Ён загарэўся жаданнем падпарадкаваць сваёй уладзе славутага ваяводу, які здабыў шмат перамог над татарамі, туркамі і венграмі.

Увосень войскі Казіміра рушылі ў кірунку Львова. Паводле загаду караля і вялікага князя, руская і літоўская шляхта, а таксама шмат польскіх і літоўскіх паноў падцягнуліся да *Каламыі*.

Ваявода Стафан у прызначаны дзень у атачэнні некалькіх тысяч паноў і баяраў прыехаў да караля Казіміра і ўрачыста пакляўся яму ў вернасці і паслушэнстве. Валашскі ваявода абяцаў заўжды быць разам са сваімі валахамі на баку Казіміра супраць усялякіх яго непрыяцеляў.

Затым кароль Казімір накіраваў свае войскі на дапамогу ваяводзе Стафану – 50 000 палякаў і 30 000 літвінаў. Стафан меў 20 000 сваіх валашцаў. Над палякамі Казімір прызначыў гетманам Баболю – сандамірскага кашталяна. Літвінскае войска вялікі князь перадаў у непасрэднае падпарадкаванне ваяводзе Стафану, каб ён кіраваў ім паводле ўласнага вайсковага досведу і ў адпаведнасці з сітуацыяй.

Турэцкі імператар, дачуўшыся пра выступленне супраць яго польскіх і літвінскіх войскаў, палічыў за абразу далёка адступаць і спыніўся з войскам каля *Сучавы* – месца Валашскай мітраполіі. Туркі акапаліся невысокім валам, спадзеючыся на лёгкую перамогу.

Ваявода Стафан са сваімі валашцамі і літва на чале з гетманам Радзівілам сталі адным абозам, а палякі – асобна.

Спачатку татары пачалі нападаць на нашых, ужываючы сваю адметную вайсковую тактыку. Аднак валашцы паспяхова праганялі іх з поля бітвы. Нарэшце, нашы ўзялі аднаго турчына ў палон. Ён быў надта перапужаны, да таго ж турэцкае войска хварэла на дызентэрыю.

Прамінула першая ноч. За начны час нашы добра акапаліся. Уранні войскі пачалі належным чынам шыхтавацца да бітвы. Палякі размясціліся на правым крыле, а Стафан з літвой – на левым.

Аднак туркі прыслалі са свайго стану ганца з просьбай адкласці бітву ў той дзень. Туркі прапаноўвалі абодвум войскам вольна, без боязі ездзіць па дровы і за травой, бо яны акурат у тыя дні святкавалі вялікі байрам.

На трэці дзень, у нядзелю, на зорцы, туркі выстралілі з вялікай гарматы, заклікаўшы войскі да пачатку бітвы.

Нашы загадалі трубіць у мунштукі, каб войска пачало рыхтавацца да бітвы. Ваявода Стафан вельмі ўважліва ўшыхтаваў харугвы. У лясах ён паставіў па 5 000 валашцаў, палякаў, літвіноў і русі. Усёй русі ў войску налічвалася 25 000.

Турэцкі гарцоўнік вельмі часта выязджаў, паводле звычаю, на поле перад войскам, прапануючы адзінаборства, але з нашых ніхто не адважваўся. Тады сам валашскі ваявода Стафан, трымаючы ў руках наджак і дзіду, выехаў для двубою. Насустрач яму памчаўся баша Ібраім Сілістрыйскі. Ібраім меў у сэрцы нейкую крыўду на Стафана, таму з разгону кінуўся на яго і ўдарыў дзідай. Аднак Стафан з канём увярнуўся ад удару і ўвагнаў ворагу ў горла сваю дзіду і гэтак пацягнуў яго да валашскага стану.

Зараз жа турэцкае войска і ўся арда ўдарылі па нашых з гучнымі крыкамі. Грознае пабаявішча доўжылася з тры гадзіны. Затым палякі пачалі падманнае адступленне і павялі турэцкае войска на засаду. А там ваявода Стафан крыкнуў сваім па-валашску, і ўсе коннікі рынуліся з лесу на ворага.

Ваявода Стафан асабіста падхапіў каронную харугву, якая выпала з рук параненага паляка, і даручыў несці яе аднаму з валашцаў. Затым ваявода Стафан прарваўся паміж турэцкіх гарматаў, авалодаў імі і з тылу ўдарыў на турак і татар. Стафан нагалаву разграміў турэцкае войска. На полі бітвы палеглі 85 000 турак і 35 000 татараў.

Падстрэлены турэцкі валадар ледзве ўцёк са сваёй ардой праз лясы і балоты. Нашы згубілі яго след, таму не змаглі арганізаваць пагоні. Гэтак з Божай дапамогай турэцкі султан не толькі не адпомсціў за знявагу свайго бацькі, але і сам трохі не загінуў.

Пераможцы захапілі турэцкі абоз з усімі незлічонымі скарбамі. Стафан разлічыўся з жаўнерамі залатымі турэцкімі чырвонцамі. Польскія, валашскія, літоўскія і рускія палкоўнікі, ратмістры і паручнікі атрымалі каштоўныя падарункі і належныя ўзнагароды.

Ваявода Стафан, польскі гетман Баболя, а таксама літоўскі і рускі гетман Гаштаўт пакінулі для сябе па 150 000 чырвоных залатых.

Пасля падзелу скарбу засталося яшчэ два вазы прастакутных чэшскіх талераў і безліч вайсковай амуніцыі: 500 гарматаў і незлічона янчарак, якія даставілі да Хоценя. Там кароль Казімір загадаў аддаць тыя талеры, штук 200 гарматаў і значную колькасць амуніцыі ваяводзе Стафану – на адбудову пабураных ворагам замкаў у Валашскай зямлі.

Затым Казімір накіраваўся ў Польшчу. Ваявода Стафан праводзіў яго ажно да Каламыі, а потым, перахрысціўшы на дарогу, вярнуўся ў Валахію.

Неўзабаве турэцкі султан прыслаў да Стафана паслоў, якія ад імя гаспадара прабачаліся за ўсе нанесеныя крыўды

і прасілі замірэння. З дазволу Казіміра паміж імі быў падпісаны мір тэрмінам на шэсць год. За тыя шэсць год Валашская зямля добра адбудавалася, узвяла новыя замкі, яшчэ лепшыя, чымсьці мела раней.

## XXIII

1 верасня 1482 года татары прыйшлі пад Кіеў і захапілі горад. Кіеўскага ваяводу Івана Хадкевіча з жонкай і сынам Аляксандрам узялі ў палон.

Замак спалілі. Мноства людзей пасеклі, шмат каго забралі ў палон.

Татары пайшлі з вялікім здабыткам, а Кіеў пакінулі пустым.

## XXIV

Неўзабаве пасля заваёвы Вялікага Ноўгарада князі Северскай зямлі перайшлі пад уладу вялікага князя маскоўскага Івана Васільевіча.

Прычына іх адарвання ад Вялікага Княства Літоўскага была зусім нязначнай. Аднаго разу северскія князі прыехалі ў Вільню, каб сустрэцца з каралём і вялікім князем Казімірам. Адзверныя, аднак, не прапусцілі іх у пакоі да гаспадара. Адзін з северскіх князёў паспрабаваў сілай адштурхнуць ахоўніка і прайсці да Казіміра, але адзверны, не пускаючы князя, прышчаміў яму нагу і зламаў палец на назе.

Хаця таго ахоўніка пазней моцна пакаралі – сцялі яму галаву, але гневу северскіх князёў ужо не сунялі.

Адразу з Вільні яны паехалі да маскоўскага князя і прынеслі яму клятву разам з іх княствамі.

## XXV

Год 1492. Неўзабаве пасля Вялікадня кароль і вялікі князь Казімір прыехаў з Вільні ў Трокі на адзін дзень і надта моцна захварэў. Гаспадара перавезлі ў Гародню, дзе на яго

напала чырвоная немач. Чым далей, тым горш станавілася Казіміру. Ён пачаў рыхтаваць тэстамент.

Казімір меў у таемным месцы 300 000 залатых чырвонцаў. 200 000 чырвонцаў ён аддаў сынам; 50 000 чырвонцаў адпісаў да скарбу Польскай Кароны; 10 000 чырвонцаў – уласнай маці; 30 000 чырвонцаў – жонцы; 10 000 чырвонцаў ахвяраваў на касцёлы, цэрквы і шпіталі.

Казімір з плачам прасіў літоўскіх паноў абраць на Вялікае Княства Літоўскае яго сына Аляксандра. Літоўскія паны пагадзіліся, бо памяталі пра асаблівую міласць да іх Казіміра, добра ведалі пра яго сумленныя справы і служэнне Айчыне.

Каронных паноў Казімір угаворваў каранаваць на Польскае Каралеўства ягонага другога сына – Яна Альбрэхта. Венграм і чэхам Казімір даў каралём Уладзіслава.

Тром старэйшым сынам Казімір наказаў не крыўдзіць малодшага брата Жыгімонта, даць яму ўдзелы ў іхніх панствах.

Потым Казімір прычасціўся святымі сакраментамі і памёр у Гарадзенскім замку.

Каронныя і літоўскія паны перавезлі цела памерлага манарха ў Кракаў і там пахавалі ў мармуровай труне, якую Казімір пры жыцці збудаваў для сябе ў касцёле святога Станіслава.

Пахавалі караля і вялікага князя Казіміра з вялікай пашанай.

# ПАКУТЫ ХРЫСТА

"Пакуты Хрыста" – каштоўны помнік мастацкай літаратуры, які належыць да сярэднявечных пасіянарных аповесцяў, апакрыфічных паводле зместу. Твор быў пераствораны на Беларусі ў XV ст.

Да нашага часу захавалася чатыры асноўныя спісы беларускага варыянта "Пакутаў Хрыста", напісаныя выдатнай старабеларускай літаратурнай мовай.

"Пакуты Хрыста" створаны на падставе ананімнай аповесці пра ўкрыжаванне і смерць Ісуса Хрыста, кароткай рэдакцыі "Евангелля" Нікадзіма ("Акты Пілата"), "Залатой легенды" Якава Варагінскага і "Сашэсця Хрыста ў пекла". Стваральнік "Пакутаў Хрыста" абапіраўся таксама на кананічныя Евангеллі, разнастайныя апокрыфы, творы сярэднявечных містыкаў і схаластаў.

Беларускі аўтар-перакладчык выявіў надзвычайны талент, ён прыўнёс шмат новага і арыгінальнага ў традыцыйны тэкст, дадаў уласнай творчай фантазіі, істотна ўдасканаліў вобразную сістэму і мастацкую тканку твора.

Для паэтыкі беларускага варыянта "Пакутаў Хрыста" характэрны займальнасць аповеду і псіхалагічная дэталізацыя ў сцэнах жахаў. Твор насычаны каларытнымі маналогамі і дыялогамі, узрушанымі малітвамі і адчайнымі лямантамі.

У тэксце помніка шмат павучальных цытат з твораў Арыгена, Бярнарда Клервоскага, Бэды Высокашаноўнага, Ансэльма Кентэрберыйскага.

Найбольш характэрная рыса апокрыфа – наяўнасць містычных сцэн, апісанняў цудаў, здзейсненых Збавіцелем у прысутнасці вялікай колькасці людзей. Сцэна цуду са сцягамі рымскіх жаўнераў, якія схіліліся перад Хрыстом, сімвалізавала сапраўдную веліч новага вучэння.

Пры абмалёўцы персанажаў твора – Ісуса Хрыста, Маці Божай, Іуды, Марыі Магдалены, жорсткага і крывавага Понція Пілата – беларускі аўтар-перакладчык "Пакутаў Хрыста" значна адступае ад кананічнай евангельскай вобразатворчасці і паказвае набліжаны да рэальнасці душэўны стан герояў, іх чалавечыя перажыванні, адчай

і пакуты. Вельмі яркія героі апокрыфа – Нікадзім, які выступіў на судзе ў абарону Збавіцеля, а таксама Іосіф Арымафейскі, пасаджаны фарысеямі ў вязніцу, якога дзіўным чынам вызваліў Ісус Хрыстос. У творы фігуруюць рымскія імператары Ціберый, Клаўдзій, Нерон, а таксама іудзейскі цар Ірад.

У творы шмат меца адведзена эсхаталагічнай тэматыцы, яскрава створаны вобразы пекла і раю, што было характэрна для ўсёй хрысціянскай літаратуры.

Наватарства беларускага аўтара-перакладчыка асабліва заўважнае на мікраўзроўні – моўных характарыстыках, мастацкай распрацоўцы дэталяў, псіхалагізацыі характараў і стварэнні каларытных сцэнаў.

У "Пакутах Хрыста" вельмі адчувальнае ўздзеянне вусна-паэтычнай традыцыі. Так, ляманты паны Марыі – Маці Божай, відавочна, створаны паводле ўзораў народных галашэнняў па памерлых. Марыя галосіць па сваім раскрыжаваным Сыне, моліць нябесныя сілы як найхутчэй паслаць ёй смерць.

"Пакуты Хрыста" друкуюцца паводле публікацыі: *Н. М. Тупиков.* Страсти Христовы в западнорусском списке XV века. СПБ, 1901. – 84 с. (Памятники древней письменности и искусства. Вып. 140).

## Пакуты Хрыста

### *О умученіи Пана нашего Есус Криста*

Мука Господа нашого Исуса Христа от преворотных жидов таким обычаем сталасе есть.

Колижь немилостивые а окрутные жидова гадали о смерти Господа, како бы его льстиве зымали да убили. Але коли были велми таемное рады, Июдаш убачил тое да на тых месть притекл до них смеле без всякое боязни и рекл:

– Я ведаю горазд вы чините а которые суть рады ваше, о Ісусе говорите а радите, какъ бы могли зымати и убити его. Протож, што ми хочете дати, я без всякое праци вашее выдам его в руки ваше.

Тогды княжата капланьская, услышавше тую реч од Юдаша, радовалисе велми. И уставили ему тридцать пенязей серебреных.

И рекл Юдаш:

– Хочу од вас велми рад приняти.

И ждал тамо, докуль пенязи принесены. Которые пенязи колко тисеции лет у скарбех их лежали замкнутые. Зане тые пенязи от братов Эзопа черес отцев Старого Закону, исходяче от одного до другаго дивно, неразлучено прешли до Соломона, коли Церковь Божую будовал. Да черес того ж Соломона у скарб былы уложоны и схованы, такъ долго, ажъ до преклятого Июды пришли, коли милостивого Бога за них продал.

А тако за которые пенязи продан Хрыстос был, тогды Июда, взявши пенязи од жидов, рекл:

– Я вам обецал есми того человека выдати, а хочу тое рад учинити. Прото ж, коли будете хотели имати Ісуса, штобы есте не изымали Якова, занюж подобни суть собе у виденьи. Протожь поиду я перед слугами вашими, да то им за знамя даваю: которого нь коли поцелую, того нехай зымають, да безпечне поведут. Але то собе вымовляю, хотя бы такъ ушол албо убегл слугам вашим, што бы однаково у мене жь пенязи зостали, штобы ми есте их не отнимали.

И полюбили тую реч вси жидове. На то говорить выклад о преганебный Июда. Такъ за малое мыто продал еси Творца всего створения. Его ж одное кропли крови весь свет не могл бы заплатити. Да ты беднику за тридцать пенязей продал еси.

Прото ж молвить святый *Бернат*: "О преневерный выдавца! Такъ а за малые а за марные пенязи продал мистра своего, который тебе выбрал апостолом одным зе двунадцеті. Которыи жь и сам себе тобе подал и полецал".

О, Маріа Матухно милостивая! Штобы ты была ведала, иже Сын твой – скарб небесный, за такъ марные и такъ малые пенязи мел продан быти, верно бы была бежала дом од дому просячи и жебрючи, а тую тридцать пенязий збираючи, Июде преганебному дала бы еси была. А твоего милостивого Сына выкупила бы еси была од его мошны.

О, ты проклятый розделца Матки ис Сином! О, преневерный злодею, ач еси не хотел смиловатисе над Сином, смиловатисе было хотя надъ Маткою! О, прелихий Юдашу, чи учинил тобе нешто лихого тотъ милостивый Бог! Николи чим есть тобе виноват был, иже участьником своего царства тебе учинити хотел, да зо двунадцети апостол тебе выбрал. Аза тобе убогая Матка у чом коли виновата альбо мерзана была. Не ведал еси несчатнику, иж тая кров невинна была. О, прелихий человече, не толко Сына, але теж и Матку тым делом продал еси и забил еси! А всего света створеніа пожалуй того иже Створитель за такъ марные пенязи есть продан. А вельможность Божья есть такъ легко важена, а моць небесная есть такъ ганебна посмевана. Да цность какъ бы одно неразумное скоту есть прировнана.

Тогды Юда сторговавши и пенязи от жидов узявши, присягнувши, иже то што обецал, пополнити мел.

Пришол вечере до Бетании, альбо до Вифаніи. И съ апостолми своими там будущим.

Да Маріа, матухна милостивая, тое льстивости Июдашовы не ведаючи, поздравила его велми ласкове. Привитала его, рекучи:

– О, милый приятелу, што еси там въ Ерусолиме о моем Сыну милом чувал, альбо слышал.

Июда отповедал:

– Все добро деется, наймилша госпоже.

Не боися ничого прото ж Маріа, матухна милостивая, иже ведала, ижь онъ был знаем бискупом и всим жидом въ Ерузалеме. Была ему велми ласкова и рекла до него:

– Июда, приятелю мои надо всех наимилейшій. В руце твои полецаю Сына моего, милого Сына. Буди сторож его, штобы не загублен.

Да на знамя милости, которою его миловала Матка милостивая, посадила его вечеряючи межи себе да межи сына своего.

На то говорить *Аньсельмус*, велебный доктор: “А наимилейша панно Маріа, которая еси овечка не посромочоная.

Всеа льстивости ты не ведаючи не ведаеш, иже преокрутному волку своего боранка полецаеш. Заню ж твой сторож ужо твоего Сына продал за тридцеть пенезей. Его ж обличье преославное, на коротъком часе незбедные жидова уплюють, руки и ноги ростягнуть. А все святое тело пред обличьим твоим ото всее вилкости кровное выпорожнят".

То есть, што мовить святый *Бернат*: "О, Маріа, наимилостившая матухно. Какъ еси того претихого боранка тому преокрутному волкови полецила. Не ведаеш, иже твое полеценье обернетсе тобе у велікій смутек. Заню ж твой преневерный полеценнік, альбо сторож, ужо твое наимилейшое дятко продал жидом. О, ты пренесчастный седением слутьца и серединник Матки и Сына! О, наимилостивша панно Маріа, который есть нине твой серединник, албо злутьца, укоротце учинитьсе тяжкий розлуцца. Заню ж через его зраженье – будеш терпети укоротце Сына твоего милого от тебе розлученіе".

Да доконавшитое вечери, почал милостивый Бог явно перед всими и перед своею Маткою приходящеи и приближающеи смерти проповедати. И предолъжил тую реч долго у ноч, потешаючи Матку свою о смерти. Ученики свои потвержаючи, штобы были у вере потвержены а стали.

Потом далъсе на молитву и почал Бога Отца взывати. Але коли уже светати почало, то есть у четверг по рану, радился на тую дорогу пойти до Ерузалема. Да везъвавши Петра, Іоана, рекл им:

– Поидете до места, уделайте нам пасху а любо великую вечерю, штобы есмо ели.

Да выправивши оных двух учьнов до Ерусолима, возвавши свою милостивую Матку ись семидесятью учеников меншими. Приказал им, штобы не шли до Ерусалима, але штобы у Ветании, албо у Вифии поживали баранка великоденного.

И приступила к нему Маріа Макделена, молячисе ему, пилне рекучи:

– Боже найласкавший, любо буди святости твоей, штобы тут с нами у Бетании баранка великоденного поживал. Заню ж держу уставичне послы, которые приходять ись Ерузалема, поведаючи мне, иже жидове мыслять забити тебе, да тут с нами лепшей премешкаеш.

И отповедел милостивый Бог, рекл ей:

– Вь Ерузалеме мушу я быти. Да тамо вечеря и с ученики своими чинити. Да старого закону доконати, а новый уставити. Заню ж на то народлъсе есми, а на то на свет пришол есми. Што бых волю Отца моего учинил. Да Отец мой того хочеть, штобы черес смерть Сына, тые которые верити будуть вечный бы живот осегнули и удержали.

Коли тое смутливая Матка его Марiа услышалавельми се злякнула, а с прегоркими слезами приступивши до Сына своего одвела его от всего люду. И почала окрутне и горко плакати. Такъ иже изь ее тяжкого материнского плаканiа, ку силное смутливости милостiвый Бог был ся порушил. Да доконавши того плачу, воротившися сама к собе милостiвая панна Марiя, рекла ку Сыну своему:

– Сыну наимилейшiй мои! Возри на тую зраненую душу мою аж до смерти! Возри на мое роскрываненое сердце и мое прегоркiе слёзы! Возри, Сыну мой наймилейшiй, какъ мое нужное тело, сердце и душа моя дрыжит во мне пред обличьем твоим. Для преокрутного смутку и трухливости смилуйсе наде мною а выслухай последнее просбы моее. Не ходи до Ерусолима, але ежь тут с нами баранка великоденного.

Тогды милостивый Бог Матухне своей пресмутным сердцем отповедал:

– О, наймилейша Матухно, как жо бы се наполнили писма, которие суть о мне писаны.

И она опять рекла:

– О, Сыну мой наймилейшiй, коли ужо до Ерузалемъ пойти хочеш на смерть, учинь такъ, быхъ я перво умерла. Штобы око мое твоее прегоркое смерти не видило. Занюж коли ж беззаконные и немилостивые жидова забиють тебе –

